але патом хочацца, дык закажа ўліць крупніку альбо куцьці; таго, што бяз хлеба ядуць.

Маці падыйдзе к печы. Выцягне гаршчок на ўсю сям'ю вараны. Проста з гаршка й наліе ў міску, чаго было папрошана, толькі попел з бакоў абадзьме.

Першая—панская яда ня гэтак даецца. Там робіцца з цырымонямі. Калі старшыні пара есьці, дык ён сьпярша зірне, ці дома маці. Калі дома, дык падыходзіць к лыжачніку, вымае сваю лыжку. Маці вядома заўважыць яго турбацыю: гэта-ж яе павіннасьць, можна сказаць. Выме з печы гарнушак, абатрэ анучкаю й паставіць на стале, гнушку пад дно падлажыўшы. Калі трэба старшыні сьнедаць, дык пакуль ён знайдзе свой відэлец у століку, ужо яго чакае на гнушчы скаварада з яечняю. Бывае, што мацяры ў хаце няма, а старшыні есьці трэба, тады ён пытае:

— Дзе гэта мамка?

Нехта выйдзе з хаты і нізаводня пакліча:

— Мамка, ідзеце ў хату. Петру есьці даць.

Маці прыдзе. Зробіць усё па. ад леташняга уведзенаму, трафарэту.

Корабач, толькі заявіўся к Закапіцкім, адразу папаў у панскі стан. Тут прызвычаіліся бачыць людзей пралятарскага паходжэньня й на дзіравыя локці апранахі ці скалазубыя чаравікі ня бралі жаднай увагі. Першы дзень Закапіцкі - старшыня падзяліўся сваею „панскаю" вячэраю з Корабачам. Вячэры вышла мала—далілі простай яды. Назаўтрае-ж маці паставіла ў печ яды на двух.

На другі дзень, пакуль ісьці ў савет, Закапіцкі завёў Корабача к сакратару ячэйкі. Дома сакратара ні засталі. Павёў ён на рэчку маніцы мачыць.

Дома быў сакратароў бацька - надзьмуты, ня людзкі чалавек. Ня мог ён цярпець у сваёй хаце лішніх не пазываных людзей. Хто зойдзе выпадкам, дык стараўся знайці які-колечы прыклеп, каб уцячы барзьдзей, чужога ў хаце пакінуўшы. Сам ніккому ні хадзіў. Так страшан быў гаспадар сваею маўклівасьцю, калі сам-на-сам з кім у сваей хаце аставаўся, што чужы чалавек стараўся зрабіць сам тое, чаго ні удалося гаспадару: уцячы з хаты. Дык ня дзіва, што Закапіцкі толькі хату паказаў, а сам мацней прыціснуў партфэль пад пахаю ды прыбавіў кроку ў савет сьпяшаючыся.

Сам-на-сам астаўся Корабач з пакрыўджаным дзедам (так выглядаў сакратароў бацька). Колькі ні пяуся Корабач каб што сказаць яму, каб пачаць пра што гаворку й ні знаходзіў такоўскай тэмы. Пра пагоду стаць што плявузгаць—лічыў, што дрэнна ўжываць самы танны спосаб пачатку гутаркі. Па яго: альбо гаварыць, альбо часу ня траціць. Сялянскія інтарэсы былі даўно чужыя Корабачу. Сама-б што рабіць работу хлопцу пара была, у гады ўходзіў—аддалі ў навуку да Менска. На ваканцыі прыехаўшы брацца ні за што ні хацеў. Можа хто падумаў, што рук сваіх белых Яська парабіць баяўся? Не. Ня гэтакая была ў яго прычына. Яно добра-б было й работу рабіць, каб

адразачку ўзяўся за яе ўмеючы, нічога на людзкі сьмех ня зглуміўшы. А што, як ня ўдасца? Дык сораму цярпець Яська не хацеў. Гэта-ж сьмех: хлопец сам у сябе, а работу горш за малога робіць. Так што з гэтай часьці ў яго тэмаў не знаходзілася, дзе-б можна было што-небудзь да толку сказаць. А абы што размандыкаваць Корабач ня любіў.

Сядзіць ён сабе, локцем на стол узапёршыся. Чакае покуль стары што-небудзь пачне. Дзіва Корабачу. Чалавек першы раз яго бачыць ды 'шчэ ў сваей хаце, мае часу даволі й не папытаецца, хто ён такі.

Скруціў сакратароў бацька папяросу. Паставіў на падаконьніку манерку з тытуном. Бляшаною лыжкаю дастаў з ямкі агню. Прыкурыў. Вугольчык ізноў у ямку кінуў. Жар попелам загроб, каб было назаўтрае, чым у печы падпаліць, запалкі ня глумячы. Сеў на ложку—курыць. А ўсё гэта так памаленьку, так старанна, як-бы хочучы больш мець асалоды ад курэньня.

... Курыць і маўчыць.

Добра што ня доўга забавіўся сакратар каля рэчкі.

— Прыехаў ужо,—паведаміў Корабача пакрыўджаны дзед, толькі той на двор узьехаў.

— Сакратар прыехаў?

Зірнуў Корабач на двор—праўда! Зарадаваўся гэткаму шчасьліваму здарэньню.

— Гэта сакратар?

— Ён, — праз вусы прапусьціў толькі адно слова пакрыўджаны дзед.

Не па бацьку пашоў сакратар — хлопец жвавы, да гаворкі ахвотнік.

Корабач пра ячэйку распытуецца. Ён адказы дае. Думае, што інструктар прыехаў. Паказуе свае асадкі.

Корабач перакідае, перачытуе... Дастаў з кішэні блёкнот. Што паграбнейшае там запамячае. Ня спомніш жа ўсяго, што згадзіцца можа. У блёк-ноце лісты ніваліч кія, сьпісваюцца борзда... Гісторыя Хатніцкай ячэйкі складаецца на іх.

Сакратар-жа думае:

„Равізія“.

Таго дня была якраз серада. Пасяджэньне бюро на гэты дзень прыпадала. Сакратар і гэта Корабачу сказаў. А таму й нàруку.

— Прыду,—кажа.—Пад вечар па цябе зайду ды разам і пойдзем.

Распытаўся, дзе будуць яны зьбірацца, у яком месцы.

— У школе, — кажа сакратар. — Мне настаўнік да самых Пакроў яе прыпаручыў,—хваліцца.

Гаварыць яны многа ўдвух гаварылі. А пра тое, хто ён такі, адкуль прысланы, у каго цяпер жыве й забыўся сакратар у Корабача папытацца. Сышло й таму гэта з памяці. Трэ' было-б самому прызнацца перад сакратаром, што ў Хатнікі за ізбача быць прыслалі. Успомніў сакратар пра гэткае ўпушчэньне, а ге дагэтуль чаму было не паглядзець яму хаця ў каторы бок, да каго пойдзе „інструктар“,

вышаўшы ад іх. Як апомніўся, было ўжо позна, тропу шукаць. Толькі й засталося чакаць на вечар.

Сваё слова Корабач спраўдзіў: прышоў да сакратара, толькі пашарэла на дварэ. Усьлед за ім пачалі зьбірацца да сактатара й хатніцкія камсамольцы, каторым iсьці на бюро трэ' было. Ціханька пытаюцца яны ў сакратара:

— Хто гэта ў вас?

— Інструктар з акруткома прыехаў.

Тым і досьць такога адказу.

Сакратар павячэраў. Тады, гамонячы, пашлі ў школу.

— Які гэта вы мост думалі паправіць?—дапытуецца Корабач у хлапцоў, што сам у пратаколах вычытаў.

— А вот зараз пакажам.

Дайшлі да таго мосьціка цераз невялічкую канаўку (ён каля самай школы), кажуць:

— Во гэты.

Кенскі мосьцік. Скіданы з паўзьдзіранага пакату абы як, да часу. Жэрдкі ні напрыбіваны—качаюцца пад колмі падарожнікаў.

У школе запалілі газьніцу. Хваляцца хлопцы чым маюць. Кніжкі свае паказуюць. Не ўпарадку іх бібліатэка. За каторую хто лаўкаю сядзеў ды чытау, там і кніжку пасьля сябе кінуў. Каб сабраць іх у вадно месца, трэба ўсе лаўкі перагрэсьці.

Корабач перагледзеў загалоўкі й прозьвішчы аўтараў.

— Трэба іх будзе ў чытальню забраць,—парашыў.

Зірнуў кандыдат на сакратара. Сакратар—на кандыдата. У вабудвых думка адна:

„Забярэ. Трэ' было хваліцца. Падшахнуў-жа чорт".

Што-б сабе ня думалі, але маўчаць—„ён з цэнтру, яму сказана гэтак рабіць".

Андрэй сядзіць па задзе ўсіх. Маўчыць, як палена. Толькі, каб ніхто ня бачыў, пасьмейваецца ў нос. Жартаваць цяпер ня месца тут, перад прыежджым таварышам. Сам сабе толькі гэтым нашкодзіш. Каб к толку гаварыць, таксама ня варта: актыўным тады палічаць. Можа выкруціцца куды трэба будзе з хатнікаў, дык ні спадзявауся тады, каб памог камсамол. Пакінуць у вёсцы папрацаваць, раз ты актыўны работнік. Былі такія здарэньні ў Каранёве. Расказавалі знаёмыя хлопцы адтуль.

„Будзьце вы ўпраўнейшыя" зычыць у думках ён сакратару з кандыдатам.

Прыходзіць зараз і Бладзік. Разгледзеўся, хто ёсьць у клясе. Новых усяго два чалавекі: Корабач і яшчэ адзін хлопец з Хатнікаў, што толькі што заяву падаў у ячэйку, каб прынялі.

— Алевіч, хадзі сюды!—Бладзік адазваў к сабе сакратара.

Сакратар паслухаў. Падыходзіць.

— Што за ён?—сьцяляпнуў галавою ў Корабачаў бок.

Толькі цяпер і ўспомніў сакратар, што йзноў забыўся папытаць

— Інструктар здэцца. А урэшце, чорт яго ведае!

— Ты ня пытаўся?

— Думаў папытацца.

— Пачакай, зараз мы ў яго дакумэнтаў папытаем.

З гэтым словам ён бліжай к Корабачу падышоў.

Карціць Бладзіку папытацца, што за хлопец такі ў іх ячэйку заявіўся. У акругкоме быў як на курсы езьдзіў. Ня бачыў там такога. Сама лепш—хай скажа

— Хлопцы, калі-ж пачнецца ў вас? ужо ўсе сабраліся?—ня цэрпіцца Корабачу.

— Да ўжо можна й пачынаць. Бюро ўсё тут.

У „абвестцы дню“ паставілі былі ўсяго адзін Корабачаў даклад. Бо ён з цэнтру толькі што прыехаў, дык была ў хлапцоў надзея, што й аднаго дакладу на ноч хопіць.

Далі яму слова.

Выняў з кішэні свой блёк-нот. Адкрыў на тым самым месцы, дзе у сакратара запісваў. Хлопцам давай пераказваць калі й што у іх было. Чым болей гаворыць, тым мудрэй іх прабірае. Там і мост успомнуся, і сакратароў арышт свайго бацькі з самагонкаю. Закапіцкі разказаў яму гэта здарэньне. Восьцер хлапец на язык. Так даціпае, што аж Бладзіку аднаму за ўсіх брыдка зрабілася.

— Ат!—махнуў ён рукою.

— Не перабівай, таварыш! Потым сабе слова возьмеш.

— І вазьму! А ты думаеш так пройдзе? Я быў, брат!.. Мяне ў лапці ні абуеш!

„Мотуз! Пэўне ён“, угадваў дакладчык.

— Потым, таварыш, потым! дай скончыць.

На гэтым і канец быў, пакуль што, іх спрэчцы.

Далей стаў Корабач гаварыць пра тое, што чуў у дарозе, сюды едучы. Хоць і ня выказаваў хто і што, але да таго ўсё было ясна, што й здагадвацца ня трэ' было: бэсьціў у вадкрытую. Нельга-ж бацькі заганяць, брату йсьці на перакор, ні рабіць работы толькі затым, што ты камсамолец. Па яго мове відаць было, што многа прылгаў стары Мотуз у сваю руку, абы сына горшым, як мага, выхваліць ды сваею крыўдаю перад людзьмі пахваліцца. Корабач-жа паверыў бацькаўскаму слову і надумаў сам сабе нямаведама які страх. А вынік з усяго гэтага аздаравіць ячэйку, ня места такім (разумелася—як Мотуз) у камсамоле; з новымі сьвежымі сіламі прызываў хлапцоў рушыць на завалы маладзяжу.

— Вось тут нам будзе шырокі ў працы разгон!—так і сказаў Корабач. Многа яшчэ чаго ён гаварыў, усяго ня спомніш. Потым хлопцы не памыліліся, што на гэты вечар усяго адзін даклад паставілі.

Бладзік разоў колькі паскураўся гаварыць, ды сам сябе трохі сутрымліваў. Толькі тады, як стаў Корабач пажаданьні розныя зычыць ня ўтрымаўся ён у межах парадку. Ні ў кога ня пытаючыся—сабе слова. Узяўся пыглю даваць.

— Таіцца няма чаго, —было яго першае слова.—Нейкі чорт прыежджаму таварышу наплёў кашалёў пра мяне, а ён і веры даў. Толькі гэта ўсё глупства, бабіны „казалы". Я ні баюся!

Ведае Корабач парадак на сходах. Заўсёды прытрымлюецца яго, але бываюць гарачыя моманты, калі дасьціпліна нікчэмна.

— Памыляешся, таварыш! Ня бабіных „казалаў" я наслухаўся, а мне сам твой бацька скардзіўся. Здэцца, сам—Мотуз?

— Дзе? калі? А пашоў ты к чорту!

— А я, можа, ехаў на яго возе.

— Эгэ-э! Вот чорт стары! Дома: каб слова, каб рэкнуў... Ні пахваліўся.

У іх спрэчку й сакратар улез. Ён за Бладзіка, за свайго хлопца Трэба-ж ад напасьці абараніць.

— Ты, таварыш, веры не давай розным алямэнтам!

Рука была тут Андрэю жарт прыкінуць к сакратароваму слову. Але яго сягоньня як і няма на пасяджэньні.

Сакратар тымчасам гаварыў болей:

— У нас розныя людзі ёсьць. Некаторы дык саусім проці ўсяго йдзе.

— Як гэта: ідуць проці ўсяго? проці чаго? хто? як тваё слова разабраць?

Сакратар дапамог Бладзіку. А той цяпер дапамог сакратару. Вось як выглумачыў.

— Ты, скажам, у камсамоле, а дома ўсе да аднаго проці цябе. Расшалопаў?

— Ага-а!..

У „бягучых справах" паказуе Корабач паперку з райкома, што яго сюды ў ячэйку сакратаром назначаюць.

— Дык скажы ты мне, што ты за шышка гэтакая! —пытае Бладзік з зьдзіўленьнем.

— Мяне ізбачом сюды прыслалі.

— Ага-а!.. А што, хлопцы? я-ж казаў: толькі націснуць на райком дык і чытальня будзе.

— Таварыш сакратар, я заўтра ад цябе прыму ўсе справы.

— Прымай, — адказаў сакратар бязудзельна і, нават, трошкі са злосьцю. Прыкідаецца ён, што як бы й ня мае інтарэсу да гэтых спраў.

Бладзік ужо з Корабачам гаворыць:

— А нашы думалі, што ты інструктар які, ці ад Цака прадстаўнік.

## XI

Апошнюю ніву аўса зжалі на жмені. Сьпяшаліся вельмі. Вот як учора быў дождж, а як сягоньня жаць пашлі. І каласы й салома ўсё адсыраўшы. Была тады пятніца. У суботу жменькі павярнулі. А ў нядзелю дык вязаць ды вазіць пара была, трохі зраніцы пачакаўшы.

Загэтым Ксеня гэты раз і гуляць нікуды ні пашла. Гэта ні работа. Выйдзе куды, завярніся з гадзіну ды й дамоў зьбірайся, а—не, то пасланца прышлюць. Пераходкі толькі шкода на гэтакую гульню.

З раніцы, агледзеўшыся, заслала яна ложкі і паклала падушкі, падбіўшы іх, каб большыя былі, на тым ложку, што ля акна, дзе

сама сьпіць. Няма болей дзяўчыне занятку. Прылягла задрамаць пакуль ісьці на поле.

Усе сышлі з дому, як згаварыўшыся, хто куды. Адну Ксеню пакінулі дому вартаваць.

Толькі яна вокам зьвяла, дзяўчата-тварышкі прыходзяць да Чвардоўскіх.

Далі „дзіндобры". Ніхто ні адказуе.

— Мусіць нікога дома няма,—знарок моцна гавораць.

Ніхто ні аказуецца.

Хацелі ўжо заварочвацца ды дамоў ісьці, ажно згледзіла Волька дзе соня ляжыць.

— А бадай цябе!..—хацела тая склясьці нарокам. А Ганька яе хвайт за руку.

— Ціха! пачакай.

— Моцна сьпіць, ня чуе,—Волька ўжо шэпча:—давайце дзяўчата мы ёй падстроім што.

— Давайце.

— Што-ж бы лепей?

— Вусы давайце зробім.

Згода ў дзяўчат: вусы зрабіць, вось што падстроіць. Ганька пашла к печы, адкінула фіранку над прыпякам, пальцам у коміне павяла. Ідзе к дзяўчатам. Захлынаецца ад рогату—каб хаця-ж ні пабудзіць! Таварышкі круга ложка сталі, як над дзівам якім. Расхінула іх Ганька. Над Ксеняю нагнулася. Далікатненька павяла з-пад носа ўмаль ні да самага вуха на аднэй шчацэ. На другой Ксеня спала, нельга было гэтак размазаць, дык Ганька толькі пад носам вус пачапіла, як гэта някаторыя шляхта носяць.

Ксеня пачула. Луп ачыма.

„Дзеўкі прышлі".

Прачнулася. Борзьдзенька села на ложку. Абцірае сьліну з шчакі, на каторай спала. Дзяўчата ў рогат.

— Чаго вы? Чаго вы зарзалі, жаробкі?

— Казак прачнуўся.

— Ху-ху-ху-у-у!—паехалі со сьмеху. На нагах ні астояцца.

— Ужо гадаўкі нешта падстроілі.

Ксеня як-бы й здагадуецца. Злазіць з ложка. Ідзе ў століку люстэрка шукаць.

Бачыць дзеўкі праз акно, што хлопцы ідуць па вуліцы. Пэўне сьмех пачулі—зойдуць. Іх трох там ідзе: Мікалай, Платон і Пётра Хвалісін.

Няма часу дзеукам кепікі з сваей таварышкі строіць. Трэба ад насьмешышча хлапцоўскага дзяўчыну выратаваць.

— Бяры, Ксеня, брытву ды галіся барджджэй. Хлопцы ўшчэ зойдуць—сьмяяцца будуць.

Ксені цяпер і люстэрка ня трэба.

— Ах вы—гадаўкі! А я й ня чула.

Ідзе пад парог. Там збоку вядро з чыстаю вадою на калодцы стаіць. Чэрпае кварту. Абмывае твар. Зьняла з цьвіка ручнік—уціраецца.

Адчыняюць хлопцы дзьверы. Тут яны ўсе ўтрох.

— Вось дзе гультай быў! да каторай пары ня мылася!

— Мы прышлі, дык спадніцы пашукаць прасіла,—аказалася Волька.

— Чаму-ж вы мяне ня клікнулі, я-б надзець памог,—дадаў Платон.

— Ці ўмееш? Гэта каб Хвядос, дык веры ль: а-б было даць, а ты—наўрад!

— Ого! 'шчэ й як добра.

Гэтым часам у Жыздрыцу прышоў Корабач. У канцы вёскі стрэўся ён з Хвядосам. Удвух зайшлі к Бладзіку.

Ня так даўно прыехаў Корабач сюды, а ўжо з Бладзікам ня толькі камсамольскія, але й наладзіў сяброўскія адносіны. Калі-б Бладзік ня быў у Хатніках, дык даведаецца чытальні. Там людзей заўсёды мала, а бывае, што й саўсім нікога няма. Ніхто ім не замінае, каб пра свае ячэйковыя інтарэсы пагаварыць.

Бладзік аднаго разу кажа:

— Ведаеш што, таварыш Корабач? Прыдзі ты да нас у Жыздрыцу. Сход правядзём. Там, брат, многа добрых хлапцоў ёсьць: уговорым—камсамольцы будуць.

— Трэба будзе. Ня толькі ў Жыздрыцы, а і ў другіх вёсках...

— Нізаводня!

Даўнейшаму сакратару цяпер хэньць ад камсамолу адпала. На сход рэдка калі пакажацца Калі й прыдзе, дык ня вельмі язык трудзіць, як гэта было раней. Урэдкаю сам ад сябе слова якое скажа. Найболей хлопцы самі ў яго пытаюцца як-бы лепш што зрабіць А ён калі скажа:

— Ня ведаю.

А калі:

— Як сабе хочаце.

Абы адкасьніцца.

Раней быў „сакратар“, а цяпер—проста Зьмітра Алевіч. Праз яго даўнейшае сакратарства, хлапцы былі траха яго ймя й прозьвішча ні забыліся.

— Ты як сам прыдзеш, дык і Алевіча прывядзі ў Жыздрыцу. Ен разьбітны хлапец—нешта скажа,—так Бладзік Корабачу загадзе наказваў.

— Ну яго з Алевічам! Кіслы ён нейкі.

— Гэта што ты ні ўвазнаў яго добра. Ого, што за хлопец Алевіч быў! Цяпер толькі асеў нешта. Разгарненьня ў ячэйцы яму няма.

— Ось дадзім нагрузку—раскурстаецца.

Гэту нядзелю Корабач сам прышоў, а Бладзікавай просьбы ня ўважыў—Алевіча ня прывёў.

Бладзікава першае слова было, толькі Корабач уступіў у хату:

— Дзе-ж Алевіч.

— Не захацеў. Кажа: „чаго я пацягнуся за блізкі сьвет“.

Стары Мотуз адразачку пазнаў Корабача. Той, каторага з мястэчка падвозіў. Толькі ўсяго адказаў на „дзіндобры“. У большую гаворку не палез.

„Чорт чорта пазнаў і па піва пазваў“ ёсьць у старога прыказка пра запас на такі выпадак.

Бачыць: ізбач гаворыць з Бладзікам па добрасьці. Некуды йсьці зьбіраюцца. Стары, іх не чакаючы, знашоў сваю шапку на лаве й вышаў з хаты.

Нядоўга й хлопцы ў Мотузавых завярнуліся.

Корабач усё дапытаваўся, у каго-б тут лепш маладзёж сабраць, каб і дзяўчат і хлопцаў—усіх разам. Бладзік вось як прапанаваў зрабіць:

— Пойдзем па вёсцы. Убачым, дзе дзеўкі гуляюць. Зойдзем туды й сход зробім. Скажам малым, каб яны хлапцом аказаліся. Дзяўчата прысьці на сход усёроўна ні паслухаюць, пасаромяюцца. Ім і загадваць няма чаго.

Вышлі на вуліцу. Там убачылі гурт малых. Падзываюць к сабе. Бладзік у іх пытаецца:

— У каго дзеўкі гуляюць?

Ужо калі гэтыя падшывальцы ня ведаюць, дык і ніхто ня ведае.

— У вас,—кажуць тыя на Хвядоса,—паўнюсенька хата. І хлопцы там.

— Няўжо?

— Папраўдзе.

— Пойдзем,—ня церпіцца Бладзіку.—Малыя!

— Чаго?

— А хто там з дзявок?

— Волька там.

Ведаюць падшывальцы (каб на іх упадак!), хто Бладзіку трэба каб быў.

— Хадзем, хлопцы.

Пашлі.

У Чвардоўскіх Мікалай ушыўся паміж дзьвёх дзявок. Ен ілжэ якія на фэсьце з ім прыгоды здараліся. Так там Мікалай разгасьціўся, што аж на трэйці дзень па сьвяце дамоў прыехаў. Дык мала што можа здарыцца гэтак доўга ў чужой вёсцы пабыўшы. Дзіва бярэ слухачоў гэтакі Мікалай дужы, сьмелы, адважны.

Ігралі там увечары музыкі. Сабралася была поўна хата маладзяжу. Прышоў туды й Мікалай. (Ён дык каб астаўся!). Пашоў з аднэю дзяўчынаю польку. Скрутнуліся разоў колькі ды й селі на ложку. Ні дачакаліся й пакуль музыка кіне йграць. Сядзяць. З дрэні на глупства пераходзіць гаворка іх. Тут зараз падыходзіць хлопец з таей самай вёскі п'яны, як гразь, на нагах ні астоіцца. Стаў у Мікалая перад носам. Дрыгае нагамі й зубамі скрыгіча.

Раптам калі раўне.

— Ты чаго каля яго трэсься?—на тую дзеўку, што з Мікалаем сядзела. Кулакі камечыць. Мікалай думае: „Толькі папрабуй ашлеіць! Я-ж тады табе“...

Тут не пярэліўкі. Чакаць Мікалаю няма чаго. Ён, рантоўне, калі ўсхваціцца з свайго месца. Таго хлопца калі хопіць за грудзі.

— Сядзь, дрыгун!!

Толькі ўсяго й страсянуў адзін раз, але па крайняй меры: аж пашчэнкі заляскалі й з каўняра два гузікі пакаціліся па падлозе. Страсянуў і пусьціў. Сам ізноў каля дзяўчыны сеў. Гаворыць спакойна, якбы нічога й ня было. Дзяўчына дзівіцца.

— Гэта-ж наш самы першы задзірака. Як то вы так разышліся.

Той хлопец перш быў адышоўся. Мікалай думае, будзе яму: пашоў таварыства зьбіраць. Ажно-ж—не. Толькі ўсяго схадзіў к вядру--вады напіўся. Ды прыходзіць назад. Каля Мікалая гуляшчае месца было—ён садзіцца, маўчыць. Ні той Мікалаю, ні Мікалай яму. Слова ні прагавораць. Толькі таго вечара, як сталі дамоў разыходзіцца (пад раніцу гэта было), адазваў ён у бок Мікалая.

Ідзе Мікалай і думае „дасьць“. Але ні баіцца. Раз ён Мікалаю дык і Мікалай сумодае яму. Ажно-ж-не. Адазваў ён ды кажа.

— Выбачай на гэты раз. Я тады ні помніў што рабіў.

Можа што трохі падобнае й было ў іх, але многа, патом, Мікалай ілжэ. А дзеўкі слухаюць,—абы гаварыў ні мыляючыся.

Платон сабе месца ня знойдзе, дзе-б прытарнавацца. Стаіць перад гуртам. То ў вадзін бок кінецца, то ў другі. Усім ён у помачы. Толькі ўкіне ў чыю мову сваіх слоў два, дык тым і гаварыць няма чаго, калі сорам маюць, а калі не, дык 'шчэ больш гаворкі, Платонавы словы раскусіўшы. Што хто ні скажа, дык у яго асьвятленьні мае брыдкі сэнс. На гэтакія ніспадзяванасьці—мэт ён. Быў і к Мікалаю прысьляпіўся з сваею адваротнаю моваю. Нешта быў прыкінуў, каб усілавіць Мікалаяву с..у. Але той добра ня прычуў і, толькі здагадуючыся пра гэна, заўгадзей асыкнуўся.

— А пашоў-ты! не перабівай, дай мне расказаць да канца.

Платон не перасьціхаў.

— А ты таго краю адрас ведаеш, куды мяне выпраўляеш?

— Ідучы, у людзей папытаешся.

Аднаго Пётры як-бы і ў хаце няма. Ні аказуецца ён. За дзеўкамі, дык сябры й забыліся, ці ёсьць ён на сьвеце. Толькі Пётра ўвышоў у хату, дык падняў угару вочы, на траму зірнуў. Бачыць: таўставатая кніжка там ляжыць. Падышоў бліжай. Зьняў. Чытае загаловак:

„Жыцьцё й праца Леніна“.

„Добрая“ сабе думае. За яе... падышоў к акну, сеў на лаву й чытае з першай старонкі. Ня любіць Пётра ў кніжках нечага лепшага шукаць, як гэта робяць другія—ён гоніць усё спачатку. Так, покуль прышлі камсамольцы, пятнаццаць картаў Пётра перакінуў. Засталі на 31 старонцы.

Бладзік у хату ўвышоў самым пярэднім. Перш-па-перш Вольцы Хвалісінай належную ўвагу аддаў. Яна меншая сястра Пётрава; тая самая, каторай толькі аднэй Пётра і не баіцца. На погляд нізенькая, але ў целе дзяўчына. Вочкі хоць маленькія, але жвавыя—яны й пад-

міргнуць, і ўгрозяцца, за адзін раз на двух чалавек і ўсё з накшым выразам пазіраць могуць. Злосьцю бывае Волька зарыміць, а зараз і ўсьміхнецца як-бы нічога й ня было.

Бладзік да яе зразу.

— Як маешся, мая жоначка?

Такую моду ён паняў, да дзеўкі зварачацца ня йначай, як „жонка“, хто-б сабе яна ня была. Папаўся быў Бладзік аднаго разу на вагзале з гэстым сваім словам, як ехаў на курсы камсамольскага актыву. Рап'ём кінулася яму ў вочы нейкая гарадзкая ў палітоне. Сварыцца да таго тоненькім галаском, што Бладзік ні вытрываў—зарагатаў. Потым так мудра адказ даў, што аж людзі, якія былі пры тым, зачырванеліся, а дзяўчына ў палітоне й пагатоў. Вот ты—кажа—хто, калі ня жонка.

Бладзік Корабачу Вольку захацеў паказаць. Крыху падняў далоньню ўверх яе бараду. Пытае:

— Ну, як табе мая жонка? рэкні!

— Патом ты троха знаешся на дзяўчатах.

Бладзік усьміхнуўся. Гэтак і трэба зрабіць, калі хваляць у вочы.

Вольцы не спадабалася агляднае. Тропнула кулаком па Бладзікавай руцэ: не давай, значыць, лішняй волі. Сама намружылася. Бладзіку ўняньчыць яе ня было калі. Нават і Вольчынай злосьці гэты раз ні запамеціў.

Увечары гэтага дня падышоў ён да дзявочага гурту. Давай каля паненкі круціцца. Дык сьпярша надзімалася. Нечага злосьць была Вольцы. Пазнаў гэта Бладзік па твары. Тут зараз рассунуў маладзеж. Сеў пры боку.

— Ты чаго зморшчылася, як ападак зьеўшы?

Прыхінуў к сабе.

— Што табе падалося?—вясёлая ўжо Волька. Хутка ў яе робіцца такая перамена.

Але гэта было потым—увечары. А за гэты час, як прышлі камсамольцы к Чвардоўскім, малыя абегалі па падоканьню ўсе хаты, паіменна зазываючы на сход к Ігналю. Зрабілі ўсё, як ім казаў Бладзік. Прышоў усяго Арсей Анцішэўчык. З меншых хлапцоў гэтак сама чатырох прышло. Арсей зараз да камсамольскага гурту далучыўся. Меншыя далі „дзіндобры“ ды селі на лаве каля стала, чакаюць, што далей будзе. Камсамольцы сваім гуртком пашапталіся нешта й парашылі, што больш ні зьбярэцца—вёска малая. Льга было й сход адкрываць.

Бладзік бяз ніякага выбару ўзяў на сябе старшынскія абавязкі.

— Слухайце!—гукнуў ён так моцна, што ўсе (хто хацеў, хто—не) паднялі вышай галовы й сьціхлі. Пётра і той сваю кніжку на калені спусьціў. Праўда, у сярэдзіне ён трымаў патом палец, каб барзьдзей расхінуць на таей старонцы, дзе кінуў чытаць. Заслухаўся.

— Вось гэты,—паказуе Бладзік на Корабача,—таварыш нам нешта скажа пра камсамол. Плятуць людзі: камсамол—тое, камсамол—гэта.

А што гэта значыць—камсамол! што за слова такое, дык трасцу ведаюць, а плявузгаюць нешта. Вы вот паслухайце лепш! Гэты таварыш вам як мае быць раскажа. Пачынай, Корабач!

— Пачакай. Што пачынаць? Трэ' было-б прэзыдыум перш-на-перш выбраць, каб усё па хорме...

— А праўда!—я й забыўся. Хвядос, хадзі сюды!

Хвядос Бладзіка слухае.

— Садзіся. Бяры карандаш, паперу—пішы пратакол. Яго сакратаром выберам?

Ніхто не аказуецца. Адзін аднаго чакае, каб хто першы аказаўся.

— Дзеўкі! што вам, як жабам у Пятроўку, раты пазарасталі? Чаго маўчыцё?

— Хай сабе й ён будзе,—адна за ўсіх аказалася Ганька.

Хвядос зірнуў на сьмелую дзяўчыну. Размахнуўся па аркушы.

*ПРАТАКОЛ № 1*

*агульнага сходу моладзі вёскі Жыздрыца...*

— Каго за старшыню сягоньня асадзім?—пытае Бладзік.

— Будзь сабе й ты,—аказаўся Мікалай. Ніхто ні пярэчыў, дык яго слова й пастановаю стала.

Корабач як сядзеў, дык устаў, падышоў к сталу бліжай. Стаў у рагу. Узапёрся на стол леваю рукою. Кажа:

— Падыходзьце бліжай; пагаворым крыху.

Ганька першая ўстала—яна сьмялейшая над усіх жыздрыцкіх дзяўчат—азіраецца на таварышак, тыя з месца й ня думалі кратацца.

— Што-ж, дзевачкі, мне аднэй трэба?—папыталася яна ў іх. Маўчаць тыя. Ганька ўзяла ды й села на сваё месца зноў.—Ведайце мяне! Вы саромеецеся, а я перадкаваць толькі ні хачу.

Тут адкуль ні зарваўся Бладзік. Прыскочыў у гурт. Ухапіў Ганьку з Волькаю пад пахі (яны разам сядзелі), бягом цераз усю хату перамчаў на другі бок, селі на лаве ўтраіх. Абапал Бладзіка дзеўкі. Дурыць ен ім галаву:

— Натапыруйце вушы, жонкі! што будзе гаварыцца, каб чулі. Вот вазьмеце ды запішэцеся ў камсамолкі. Хай яны тады аблізуюцца,—пальцам паказуе на другіх дзяўчат.

Тыя пакрыўдзіліся.

— Бладзік! Гэта ні ўгадана: можа мы раней 'шчэ за тваіх „жонак“ запішамся. Ты ні сьмейся.

— Чуеш, Корабач, што ў нас робіцца? Во' дзе—культура' Гэта табе ні Хатнікі.

Да дзявок зьвяртаецца з кпліваю ласкавасьцю:

— Падыходзьце-ж бліжай, камсамолкі, у гурток зьбірайцеся, вушы натапыруйце. Вам праз хустку ня добра чуваць.

— Пачуем, што трэба будзе.

— Падыйдзем, дзяўчата,—сьмяюцца яны,—гэтак хорашанька нас сягоньня Бладзік заве—трэба паслухаць.

І праўда—паслухалі, падступіліся к сталу.

Корабач паправіў каўнер у жакетцы, каб гладзей ляжаў, у нос дзьмухнуў—гаварыць нарыхтаваўся. Даклад перш суха йшоў. А чым далей, тым болей разьвясельваўся сам дакладчык, забаўляў слухачоў сьмешнымі здарэньнямі, каторыя ці на свае вочы бачыў, ці ад другіх давялося пачуць. Успамянуў і пра ранейшага сакратара Хатніцкай ячэйкі, як той з бацькам сваім абышоўся, з самагонкаю яго злавіўшы. Зазначыў, што кепска рабіць так. Ды хто за гэта пахваліць?!

Як Корабач скончыў, Бладзік і пытае:

— А пастанову якую зробім? Я-б казаў запісацца ўсім у камсамол і квіта.

— Ну цябе, таварыш Мотуз! Не абыйдзешся ты бяз жартаў.—упікнуў дакладчык.—Можа пытаньні якія будуць? Пытайцеся хто што мае.

Разышоўся быў з пытаньнямі Арсей Анцішэўчык. Ён увесь даклад выслухаў з патаемнаю ўсьмешкаю. Спадабалася хлапцу. І дакладчык відаць добры таварыш і гаворыць да толку. Перш Корабач адказваў на Арсеевы пытаньні так, каб усе чулі. Потым бачыць, што маладзеж даўно кінуў яго слухаць, заняліся сваімі інтарэсамы. Тады ён падсеў к Анцішэўчыку й сталі гаварыць пасяброўску ўдвух. Ад тэмы дакладу даўно за сем міль адышлі мальні да самай кітайскай рэвалюцыі.

Бладзік тым часам падышоў к Хвядосу. Схіліўся над яго вухам. Шэпчуць адзін аднаму. На Пётру зірнуў Бладзік. І Хвядос зрабіў гэта самае.

— Давай,—кажуць яны мацней,—ото сьмех будзе.

— Пішы, Хвядос, заяву,—пад рэшту загадаў Бладзік.

Хвядос паглядзеў, ці многа прынёс Корабач з сабою паперы на пратакол. Ні перадасьць—дзе гэта відана!—усяго адзін акруш ды й той з нізу ўрэзаны. Тады выцягнуў Хвядос з-пад лавы куфэрак з сваімі вучнёўскімі прычандаламі. Знашоў у ём нясьпісаны сшыгак. Выдраў сабе на заяву. Сеў за стол і піша.

Марыля Андрукова цікавая вельмі: схілілася цераз стол, каб паглядзець. што ён крэмзае, выцягнула наперад галаву. Ды ўбачыў гэта Хвядос. Рукою захінуў напісанае. Пагразіў на Марылю алоўкам.

— Гатова,—кажа ён Бладзіку, падпісаўшы ўнізу каторага чысла пісана.

Бладзік падыходзіць к Пётру.

— Ну, што вычытаў скажы мне? Ты каб слухаў, дык больш-бы чаго ў галаву ўзяў.

Пётра скончыў абзац. Зложыў кніжку. А палец трымае ў тым месцы. дзе трэба будзе расхінуць.

— Я й чытаў і слухаў—усё зараз.

— Пашоў ты!

— Уг-гу!

Бладзік памаўчаў трохі ды зноў пачынае. Збоку каля Пётры прысеў.

— Пётра!

— Што?

— Запішыся ты ў камсамол. Чорт цябе ведае, што за чалавек Пень ты асінавы. Што ні гавары табе—маўчыш. Хоць сказаў-бы, што „не хачу“, дык нечага ні чапіўся-б ніхто к табе, ато маўчыць... Ты-ж такі кніжкі палітычныя чытаеш. Разьбітны хлапец па гэтай часьці, калі з табою пагаварыць.

Ня так хутка ад Пётры адказ пападзеш. Усьміхаецца толькі сьцішка сам сабе. Ізноў расхінае сваю кнігу.

Бладзіку здаецца, што Пётра дражніць яго. Думае, што таму хочацца, каб болей прасілі.

„Пачакай-жа,—сабе думае,—я з табою доўга цацкацца ня буду“.

— Хадзі сюды!—паказвае Бладзік „к сталу“.

Пётра яго паслухаў, але ня надта сьпяшаецца. Бладзік-жа марудзтва ня любіць. Хватае яго пад паху і сілаю валачэ бліжай, хоць той і ня ўпіраецца, а толькі за Бладзікам ніяк ні ўправіцца йсьці.

— Расьпісвайся!

— Дзе расьпісавацца?

Нагінаецца Пётра над заяваю, чытае. Потым падымае ўверх галаву. Перш зірнуў Бладзіку ў вочы, а тады—Хвядосу. Нечага зьдзівіўся. Хацеў нешта сказаць у сваё апраўданьне, ды вышла вяла. Загадзе ён ведае, што не пераканае нікога.

— Я-ж казаў...—вось і ўся апраўдальная яго мова тут.

— Дрэнь! Глупства ты тады казаў і цяпер кажаш. Ось толькі расьпішыся, дык і камсамольцам будзеш. А там ніўзабаве й бялет з райкому прышлюць.

Пётра ‘шчэ раз сваю заяву прачытаў. Дае Бладзік яму аловак—узяў.

— Што расьпісавацца?—паціснуў ён плячыма. Зноў падняў на хлапцоў свае зьдзіўленыя вочы. Да таго яны нявінавата глядзяць, што пашкадаваць хлапца хочыцца.

— А! што з бараном пацяры гаварыць!—аж зазлаваў Бладзік. Быў нават памкнуўся заяву ўзяць ад Пётры. Але той больш ні сьпіраецца. Сьлініць канец у карандашы і пытае:

— Дзе-ж гэта чиркануць?

Хвядос паказвае:

— А войзьдзе во!

„Пётра Рудзька“ стаў на тым месцы радок буйных літараў, дзе Хвядось паказаў. Расьпісаўся Пётра й усьміхаецца сваею доўгаю, цялячаю ўсьмешкаю—мусіць, рад.

Дзе была Волька—дзеўка з доўгім языком і кемным вокам—пачула, што Пётра на нечым расьпісаўся. Трэба-ж было й ёй сюды свой язык уваткнуць. Добра ‘шчэ, што ўсяей мовы хлапцоў ні пачула, а толькі пятае цераз трыццатае ды й то ці залавіла. Затое давай на брата шурмаваць:

— Што ты там крэмзаеш? Нашто табе. Чаго там надта лезьці першаму. Хай хто накшы. А табе чаго? Дому вот лепш глядзі.

Па кім, як па кім, а па ёй Пётра ні шманае.

— Хто з табою гаворыць? Разьлякаталася лякотка. Доўгі нос маеш, усюды яго ўваткнеш: дзе трэба й ня трэба.

— А што-ж бо! Каб каму вешацца прыступіла, дык і ты адвяжаш ад рэзьгін павадок ды ўсьлед за ім пабяжыш. Жыві сваім розумам.

Можа й далей-болей іх сварка-б пашла, каб Бладзік ні нагадзіўся На перадзе ён у дзявочым гурце апыніўся. Вольку сморг за рог хусткі, разьвязаў.

-- А ну цябе, Бладзік, з тваімі жартамі!—асыкнулася Волька. Сама і ў той бок, дзе ён ні глядзіць. Завязала хустку на галаве. З бакоў па закладцы зрабіла, як мае быць. Ззаду абцягнула, каб харашэй было. Тымчасам і гарт у дзяўчыны адсеў. Паспакайнела.

— Ну й злосная ты, жонка!—вужака ды й годзе.

Ловіць Бладзік яе правую руку, а яна прымае к сабе, ні даецца. На стол глядзіць. Ёй цікава што там робіцца.

— З вамі нельга,—кажа,—накшай быць, як толькі злоснай.

— Што ты кажаш!?

Корабач з Анцішэўшчыкам загаварыўся. Сядзяць удвох пораўне й гамоняць. Блізка іх дзявочы гурт. Бывае, што й туды Корабач сваё слова закіне. Там Ганька самая ўпраўнейшая. Трохі Ксеня ей памагае. Урэдкаю прыкіне свае слова й Волька. А рэшта маўчаць перад чужым хлопцам.

Пачуў Корабач, што Волька сварыцца—у Анцішэўшчыка пытае:

— За што яны?

— З братам за невашта.

Зараз Хвядос падклікае:

— Таварыш Корабач, хадзі сюды.

Паказуе яму Пётраву заяву. Тут і Бладзік. Корабач зірнуў на верхні радок і на подпіс, ды кладзе яе сабе ў кішаню.

— Чаго-ж?—добра! Во што значыць агітацыя. Малайцы ў вас хлопцы. Пакажэце хаця каторы ён.

— А вунь той, што каля акна сядзіць—чытае.

— Гэта добра. Будзе ў сераду бюро—разгледзім. Ты—кажа Бладзіку—як будзеш іці, дык і яго з сабою вядзі. Трэба будзе трохі чаго папытацца.

Далей Корабач гаворыць... Голас яго глухім становіцца. Як ні захліпуецца хлапец ад захапленьня. Любая тэма яго: што далей ячэйцы рабіць трэба. Карціна вялізная выходзіць з яго словаў.

— Цяпер, браце, у нас трэба каб, былі што серады пасяджэньні бюро. Сходы штонядзелі і кожны раз у другой вёсцы ці пасёлку. Сьпяктакалі, кажуць, вы ставілі?

— Рабілі.

— Дык цяпер трэба, каб уладзіцца ставіць іх штосуботы ўвечара. Больш маладзяжу ўцягнім. Грошы на чытальню пусьцім.

— Далёкі разгон у цябе вельмі, -кажа Бладзік. Сам ён верыць у тое, што спраўдзяцца сакратаровы словы. Толькі хочыцца ‘шчэ, каб Корабач падмацаваў яго пераканаце.

— І трэба здалёк разганяцца. Тут так: ці пасьлізьнесься ці пераскочыш, куды наважыў. Ды ці адно гэта ў вёсцы можна зрабіць. Ужо восень. Зараз самая тая пара прыдзе, што будуць сельсавет, капэрацію перабіраць. Вось куды трэба будзе сваіх хлапцоў уперці.

Бладзік ужо верыць. З дружным хлопцам усё магчыма зрабіць. Што ў думках, тое ў яго й на языку:

— Хіба мы возьмімся!

Хвядос падцьвярджае:

— Раз наважым, дык і зробім.

А за гэтым вэрхалам забыліся й пратаколу падпісаць. Корабач хацеў ужо яго класьці ў кішэню. Быў нават зложыў у восім столак. Потым нечага паглядзець яму заманулася. Распасьцёр. Угледзіў недагляд і кажа:

— Трэ‘ было-б у пратаколе расьпісацца, а вы й забыліся.

Хоць гэтыя словы былі сказаны толькі спаміж Бладзіка з Хвядосам, але іх і дзяўчата пачулі. Страх ім дурны здаўся. Гэта-ж толькі расьпішыся, дык тады ўжо ў камсамолкі самі ўвядуць, хоць сабе-б і ні хацела. А хітрыя жыздрыцкія дзяўчата—з чорта! Зараз адна аднэй шапянулі. Кінуліся ў вакно глядзець.

— Хто гэна гэнакі ў Трахімавых на вуліцы стаіць?

Споздрыў Платон дзявочыя хітрыкі. Кінуўся й ён у вакно.

— Што там за ён?

Няма нікога на Трахімавай вуліцы.

— Дзе-ж ён? няма нікога.

— За браму толькі што схаваўся.

— Пойдзем, дзевачкі, на вуліцу, пагляджзім.

Усім гуртам рушылі к дзьвярам.

— Куды вы?—аказалася Ганька.

Тыя—няма дуру... Дык і яна хоць па задзе, але ад гурту ні асталася. Ксеня правяла з хаты дзяўчат. Вышла на вуліцу. Паглядзела ў вадзін канец вёскі, у другі ды вярнулася ў хату.

Тымчасам Мікалай дастаў з кішані ‘шчэ ні расьпячатаваны пачак карашкоў. Паперы тонкай Хвядос растараўся. Ведае ён дзе бацька кладзе. Скруцілі хлопцы кожын па папяросе. На дарэмшчыну ўсякі лас. Яшчэ схадзіў Хвядос узяў з паліцы карабок запалак. Прыкурылі. Нарабілі дыму—сівюсенька ў хаце. Прыкурыў і Корабач сабе на дарогу. Запрашае хлапцоў:

— Прыходзьце к нам у Хатнікі. Цяўлоўскага-ж можа ведаеце? У яго хаце й чытальня знаходзіцца і я тамака кватарую. Калі будзеце йці, дык у другія дзьверы заходзьце ад гумна. Ад вуліцы самі гаспадары жывуць.

Адыходзячы й Хвядосу наказ даў:

— Ты—аднак харашо пішаш—будзіш у нас тэхнічным сакратаром. Прыходзь у чытальню ў сераду ўвечары. Я табе ячэйковыя паперы

дам. Ты іх у парадак прывесьці павінен. У Алевіча чорт яго ведае як яны зложаны былі. Толку я ледзьве дайшоў.

Хвядос падрадзіўся. Ні вялікі яму ценжар сакратарскія абавязкі.

Павёў Бладзік Корабача паказаваць карацейшую сьцежку, кудэю у Хатнікі ходзяць. У хаце з чужых асталіся толькі Платон з Мікалаем. Петра ў гэты лік ня ўходзіць. Яго як і няма ў хаце: сядзіць сабе ціхінька, як сьвяты, ды толькі губамі мыляе.

Ксеня прысела ў вакне проці вуліцы. Падыходзіць да яе Платон. Дзе людзей ня многа, там ён забываецца на жарты свае. Можа хлопец і сур'ёна пагаварыць. Пытаецца ў Ксені:

— Па кім задумалася?

— Так сабе.

— Чаго гэта дзеўкі гэткак рана дамоў уцяклі?

— А дай рады! Сказалі, што расьпісацца трэба, дык пабаяліся, каб нехаця ў камсамолкі ні ўпісалі.

— Дзе былі дурні!

— Праўда што!..

*Канец першае часткі будзе.*

**Максім Лужанін**

# Госьці

## I

Да студэнта Альшэўскага, у вёску, прыехалі госьці. Самога яго ня было, а спаткала іх маці, трымаючы ў руках брудны рушнік.

— Дабрыдзень, цётачка, абазваліся яны з-за парогу.

— Дзе-ж вы Міхася падзелі, ці дома хаця?

І упэўніўшыся, што ён дома і косіць за садам канюшыну, хацелі йсьці.

— Няхай яны хіба пойдуць, раптам сказала кабета да хлапца. Вы пагуляйце тутака.

— Чаму? зьдзівілася дзяўчына, пайду й я.

— Як знаеце! Але-ж голы ён...

Спаткаліся яны ў старым вішняку, на шорсткай і рудой пакошы. Альшэўскі ішоў з касою, выплёўваючы вішнёвыя костачкі.

— Во, браткі, гэта дык слаўна! казаў ён ціснучы абоім рукі. Значыць, пажывом! Ато, ведаеце, сумна аднаму! Вы, Ірачка, выбачайце, што я ў трусах.

Цяпер усе грамадкаю ішлі яны прыгменкам. Дзяўчына ў жоўтых чаравічках і белай сукенцы, хлапец з вялікімі кучаравымі валасамі і ён, загарэлы, здаровы і некі нязвычна вялікі, для ўсіх, што прызвычаіліся бачыць шустрага і бязупыннага, сярод гарадзкое сумятні.

— Ты, браце, гэтак ня радуйся! Мы яшчэ ня ўсе, нізкім голасам прамовіў хлапец. Недалёка ідзе наша хурманка, там рэчы і Антон—вязе Рэню і Стасю.

— Гэта мы іх на нечаканку вам пакінулі, засьмяялася дзяўчына.

Разабраныя на радок, валасы яе былі змацованы вялікім чорным бантам і здаваліся здалёк, птушынымі крыламі.

— Слухайце, дастаньце мне гэтую галінку! Вось гэтую! Глядзеце сюды, Сяргей!

— Для вас, Ірачка, хоць у агонь! усьміхнуўся той і лёгка нагнуў вяршок дрэўца.

— Паволі трымайце, зломіцца, бо гэтая-ж вішанька да мяне падобна, жартавала дзяўчына, дастаючы сьпелыя, цёмна-рубінавыя на сонцы, вішні. А вы, Міхась, скажаце Стасі, на вуха, каб павесялела, ато ў дарозе была надзьмутая вельмі.

— Ну, гэта ў нас не палагаецца! Невясёлых адсюль назад адпраўляюць...

Іра пакінула вішню.

— Паволі, бо яна пакрыўдзіцца... Слухайце, Міхась! Вы ня прымайце гэтага за жарт. Мы прыехалі да вас надоўга. Было не хваліць свае вёскі... А цяпер, да таго-ж, мы птушкі вольныя!

— Вы, Ірачка, заўсёды птушка! аказаўся Сяргей.

Штосьці прыгожае і нечакана-чорнае здалося ўсім у гэтых словах. Як быццам-бы прышло некае прадчуцьце...

— Пачакайце вы з сваімі жартамі! зьнецярплівела дзяўчына... Ведаеце, Міхась, ён гэтакі лямця, што ў дарозе мы самі ўсё рабілі: і білеты куплялі, і з хурманом таргаваліся, а ён толькі гаварыў комплімэнты. Такі прыкры! Пакідае ўвязку матар'яльнага з ружовым самім жанчынам... А ці будзе тут нам хата на месяц?

— Я вам аддам абудва свае пакоі.

— А мы будзем эгоістамі і не адмовімся... Мы зараз з практыкі... І грошай у нас многа-многа! дзяучына разьвяла рукамі... Ніколі й ня сьнілі гэтулькі, калі вучыліся. Антон і вам вязе грошы... Ну, але, вы...

— Я вушам ня веру! Вы на месяц? І што толькі думалі руплівыя мамы вашы?

— А мы паціхеньку ад іх!

— Давайце, сьнедаць пойдзем, ды я пакажу вам дзе жыць... А перш за ўсё скідайце чаравікі і забывайце ўсё... Тут вёска!

І пакуль елі кіслае малако і скрылікі сухой вясковай кілбасы— прыехала хурманка...

## II

— Ну, от і ўсё гатова!

— У вас, Рэня, надзвычайная здольнасьць дапасоўваць рэчы да сябе.

— Я думаю, што ў нас ня будзе ніякіх непаразуменьняў... А то, помніце, ха-ха-ха! Не магу, дальбог! Недзе начавалі мы ў вёсцы, гуртам. Дык Сяргей, па звычайнаму, прышоў зараней, урыуся ў сена ды й заснуў... А Васілеўская дзесьці забавілася... Поцемкі... Наслала сена і легла зьверху. А яна-ж—вага! Потым, хоць ты пярэпалах вылівай! Той як здушнеў, ды павярнуўся, а яна кулём з тарпа...

— Ня бойцеся, цяпер не паблытаемся! Вы направа, мы налева! Дзявоцкая аўтономія, адным словам... А ты што скажаш, Міхась?

— Тое й скажу! Ты, брат, зух! Але Рэня чамусьці заўжды ўсё ведае.

— Ведаю, ня ўтоіцеся... Але—ціха! Ідзя! Калі ў нас гатова пасьцель, дык гэта ня значыць, што мы зараз і спаць завалімся! Хутка йдзеце і апранайцеся ў белае... Абавязкова з чырвонымі паяскамі... А я— дзяўчат падыму.

— Вось так... гаварыла яна потым аглядаючы ўсіх... А цяпер—на дарогу! Бачыце, як слаўна! Хадзем людзей пужаць. У каторы бок, Міхась?

— Мне радзіма—там дзе неба—прасьпяваў ен, падхватваючы Іру пад руку.

— І няхай дзяўчата косы распусьцяць!

— Каб менш людзей і ня гэтак далёка вы стаялі—пацалавала-б! Дальбог, Антось, пацалавала-б! А за ідэю—занясеце граблянцы ў хату!

І калі Антон вярнуўся, скамандавала:

— Пашлі!

Пужаліся й самі вялікіх ценяў, шорахаў. Абрывалі пачатыя песьні... І такою лёгкаю нячутнаю хадою адбіралі сілу адлегласьці.

— Прывіды! Здані! Вы, Рэня, жывіцё, каб сьвет баламуціць!

— Хадзеце да мяне, Антось! Бярэце пад руку і ціха! Ні-гу-гу! Давайце, падзелім пропорцыянальна смутак... Сяргей—да Стасі! А вось Іра з Міхасём мне зусім не падабаюцца... Ня шкодзіла-б ім кавалачак суму.

— Пачакайце, засмуткую! Самі лячыць будзеце... А Ірачку—я так даўно ня бачыў...—і паглядзеў у твар, не чакаючы стрэць вусны...

Гэта было, як-бы бліскавіцаю...

— Давайце, за рукі ўзяцца,—закамандавала Іра... А цяпер, ціхенька, на пальцах, ланцужком.

Яны йшлі, маладыя. радасныя разам са хціваю цішынёй, не чакаючы ад яе ні благога ні добрага. Супакой вечару, пыл прыбіты расою—былі такімі новымі і незнаёмымі. І Міхасю было слаўна адчуваць палкасьць у холадзе Стасінай рукі і гарачую халоднасьць Іры. Ён лёгка пацягнуў іх да сябе, разарваў ланцуг, абкружыўся і моцнаю рукою знайшоў стан Іры.

— Кветак хачу! нэрвова здрыганулася яна.

— Такіх? сказаў падаючы рамонак.

— Не! Сумных! Вось тут, на мяжы дастанем, і пацягнула за сабою ў збожжа.

— Я не запротэстую, калі вы, Міхась, пацалуеце яе на дарозе.— Цяпер цёмна,—гэтак здалёк пераказаў змрок Рэніны словы.

Было так, як і заўжды ў людзей. Адны прыкідваюцца, што ўсё ведаюць і разумеюць, другія—што нічога ня цямяць. І першыя, за гэтым. назаўжды трацяць тую крыху сплятеньня ніцяў блізкага і зразумелага якія есьць. Замест іх, нацягваецца нерат хлусьні, прыгажэйшы і каляровейшы... Але парваць яго—ня трэба тужыцца—лёгка і проста. А іншыя—прыкідваюцца нязнайкамі й бедакамі ды й высмоктваюць чужыя таямніцы—сок чалавечай душы. Робяць яны ўсё моцна й спорна, ня кажучы нічога аб сабе і накідаючы іншым толькі трывогі.

Розныя прабягалі думкі між вечару і дзявоцкай блізасьці... Міхась адчуваў, што гэты прыезд, гэта ня просты таварыскі адпачынак, але некая гульня, што кіруецца ясна і сурова, вялікаю і моцнаю воляй... А гэткая воля магла быць толькі ў Рэні... Але да чаго гэта ўсё? І заглухлі развагі. Бо цяпер былі ўсе яны роднымі—нічога не прасілі і не аддавалі. Бо адно было імкненьне—ноч і маладосьць.

Лёгкае прышло маўчаньне і прыемным цяжарам яшчэ больш змацавала гэтых выпадковых людзей. Яны не баяліся яго. Вочы дзяўчат былі, як зоры. А змрок палажыў беглыя цені на густыя вейкі. Таму й твары былі халодныя і бледыя, з адзнакамі нягэташняга хараства.

І маўчаў над імі прастор.

Варочаліся ўжо дамоў, як раптам спыніла песьня. І яна даказала ўсё тое, што мільганула, можа, толькі ў думках.

— Ня едзь, любы, на Украіну!—прасілі словы.

Цяжкім поступам прышлі вякі. Яны вярнуліся аджыць у сэрцах поўных юнацтва. Бо ці толькі любага шкадавала песьня? Ці толькі на ростань жалілася яна?

Яны адчулі гэта так, як павінны адчуць усе, што раджаюцца ў народзе вялікае пакуты.

... Маці прасіла сына, дзяўчына любага. Прасілі не пакідаць. Каб ён, катораму душна і каторы здолее знайсьці лепшае, шукаў яго ня толькі сабе... А ён адыходзіць, нічога не абяцаючы, бязмоўны і прыгожы, з дзіўною адзнакаю вачэй, як і ўсе, што ідуць і не варочаюцца...

Лёгка перабег малюнак у думках. І сорамна стала ім за сваю бесклапотнасьць.

— Мы пачакаем. Сьпеў ідзе нашаю дарогай, запрапанаваў Сяргей...

Але чамусьці крануліся і пашлі.

А яна ўсё йшла сьпяваючы. Калі сышліся блізка, вусны дзяўчыны скрануліся прывітаньнем.

Міхась зьняў шапку:

— Добры вечар, Зоська!

Рэня бачыла Міхасёў твар.

— Вы ведаеце яе? І як толькі падышла, кінулася ў вочы яму падробленая шчырасьць звароту.—Вярнеце, Міхасёк!

— Вам так хочацца? Пачакай, Зоська! пойдзем разам... Пазнаёмся з маімі таварышамі.

Віталіся моўчкі, толькі Рэня, тым-жа адценьнем голасу, што прасіла Міхася, сказала:

— Мы заслухаліся! Добра пяіцё!

А той непатрэбна хвала была.

Памаленьку ішлі дамоў. І маўчалі. Толькі Рэня ішла поруч з Зоськаю штосьці казала ёй і сьмялася. А Міхасю было сумна, бо адчуваў ён з гэтае гаворкі, што дзьве дзяўчыны тыя могуць жыць толькі цераз прорву.

І цяпер зьдзівіла ўсіх ціхая Стася. Яна блізка падышла да Зоські, нахілілася да сьвежага, ад паху поля, твару, паглядзела ў вочы ёй і абняла. Гэтак абняўшыся ішлі яны аж да дому.

Рэня скранула плячыма. Яшчэ раз на гэты вечар зьнецярплівела яна і ўсьміхнулася, калі, разьвітаўшыся каля варот, Стася прайшла паўз яе і падкрэсьліваючы прагаварыла:

— Вось гэтая дзяўчына—чалевек сапраўдашны. Куды мы ўсе...

## III

Аднойчы, пасьля абеду, сталася сумнае і сьмешнае здарэньне... Антон, ідучы з лугу, пераскакваў цераз запону калючага дроту, пасклізнуўся і навіхнуў руку. Гэта разбурыла пляны і парушыла вясёласьць.

Іра пашла спаць. Міхась і Сяргей леглі з голымі плячыма на сонцы і перасьміхаліся са Стасяю. Бо Рэня сядзела ля яе нярухома, нешта думала і вырывала ўсё некія маленькія травінкі. А сам пацярпеўшы прытуліўся падвязаны на прызьбе і чытаў Багдановіча. І быў сьмешны здалёк: з гладка-зачэсанымі валасамі, вусамі і барадою, што ледзь-ледзь пачалі высядаць, на худым выцягнутым абліччы. Потым схаваўся ён у хату, а дзяўчата ўсталі і пашлі купацца.

І сонца пільнавала двор і людзей на ім.

— Мне, Міхась, робіцца не па сабе!

— Дзіўна! мармынуў той...

— Не, ня дзіўна! Вы вось, усе толькі папрывыкалі лічыць так, што мне ня шмат патрэбна... Што й малое можа ўсьцешыць. Часамі аж прыкра робіцца. Тутака, у цябе, вядома, добра! Але чаго мне сядзець? Калі можна дамоў паехаць. Там-жа чакаюць. Мне здаецца, што Рэня нешта задумала... Антону, дык таму ўсё абы як! Дзяўчата выстараіліся ехаць сюды. Адным няёмка ўтраіх ехаць да аднаго, вось і папалі нас за казлоў падараваньня. Ты слухаеш? Дык давай, брат, на шчырасьць казаць! Што ты думаеш робіць? Іх-жа трое. І гаворкі другое ня знайдуць — „Міхасёк! Міхасёк!“ Ты ўжо калі ім жыцьцё труціш, дык сабе не завязвай. А то й гатоў пераходзіць ад аднае да другое па чарзе...

— Мне ўсё роўна, братка!

— Не, ты ня хочаш казаць! Прывык толькі, каб перад табою душу, як пустую кішэню, вытрасалі. Што ўсё роўна?

— Ды яны ўсе!

— Папраўды? Дык няўжо-ж... Гэтая... Зоська? А? Толькі яна як прыходзіць, дык ты й не аказваешся.

— Зоська? Можа й Зоська!

— А мне іначай здаецца... Дрэнна, што мы з табою, вось, пільнуемся, каб лішняга слова не сказаць, адзін перад адным, ды ў палон не падацца. Я думаю, што ты ня з усімі гэтакі. Табе трэба былі дэкорацыі, вось і ўляпіў дзьве ліштвы на цэлы чыгун. Выкапаў Стасю, а пасьля Іру. А цяпер адымі гэтыя ліштвы—дзіркі будуць.

— Дык, патвойму, выходзіць, што я й Рэня гэта цэлы чыгун?

— Цэлы, брат, моцны, ды яшчэ й паліваны. Такога і ў краме ня купіш.

— А чаму-ж ты сябе ня лічыш гэтак з ёю?

— Сябе? Вось дык здорава. Я памятую яшчэ тую восень. Калі Рэня ідзе па сходах, дык Міхась напэўна ў бібліотэцы кніжку здае і прыбяжыць пад люстра памагчы апранацца. А пасьля—як пойдуць! Прыпомні, у колькі гадзін я табе дзьверы адчыняў? Забыўся, пэўна, як мы Рэніны касьнікі з кішэні выцяглі, а ты траха не ўзвар'яцеў? Дык куды-ж Сяргею было патыкацца?

— Не раўнуючы, як Міхасю вясною!

— Кінь жартаваць! Сам-жа казаў, што мы хадзілі на сажнёвай адлегласьці.

— Я ня пытаўся ў яе!

— Дык я табе кажу! Ёсьць пяпяросы?

— Не, у хаце недзе!

— Не ахота йсьці! Антон! Га, Антон! Нясі папярос! О-о! Дзякуй, браце! Цяперака йдзі і паглядзі, можа... Ну, адным словам, пашукай Міхася.

— Пашоў ты! адмахнуўся рукою Антон. Я й так пайду!

— Дык вось, Міхась, пачаў Сяргей, калі засталіся адны. Мяне тады адкінулі, як гэты пачак ад папярос... А ты кажаш...

— Бо сам ты вінен... Які-ж з цябе ваяка будзе, калі ты без бою позыцыі аддаеш? Усяго твае й згрозы было, што з месяц са мною не гаварыў, ды й цяпер з кожнага слова гатоў абразу зрабіць.

— У мяне, брат, другі прынцып. Бярэце, калі вам падабаецца!

— Ого! Б'юць яго па мордзе. а ён яшчэ просіць! Цяпер гэта сьмешна!

— Ня гэтак зусім! Бярэце, а калі яна йдзе, значыць, ня моцна прывязана...

— А ты не падумаў аб тое, што ніякіх моцных прывязаў на сьвеце няма. Усё аднаго гатунку па крэпасьці.

— І каньяк і гарэлка?

— Ну, гэтыя прывязваюць, але з другога боку... Уся штука ў тым, як ты моцна трымаеш у руках! Захопішся барацьбою, перамогаю, дык за нівошта не аддасі! А па твойму—трэба стаяць з распасьцёртымі рукамі: прыплыло што—добра, назад ідзе—шчасьлівае дарогі!

— Мала што ты мне кажаш. а мо' табе гэта здаецца.

— Не адзін я кажу. Успомні, колькі год таму назад гаварыў тургенеўскі бацька: сам бяры, што здолеў, а ў рукі не давайся! А яму ня верыш, у Ломброзо, яшчэ лепш: кахаючы—даеш вэксалі, бяручы каханьне—бярэш іх. Так-жа спраўней.

— Бачыш, усё стасуецца да настрою! Нават кнігі болей падабаюцца такія, што захоўваюць твае рысы.

— Дык ты пры сваіх казырох?

— А як-жа? Што я табе ветрак здаўся? І раю табе кончыць з Рэняю.

— Ты гаворыш не за сябе.

— Пазьдзірай ліштвы і ў вас будзе яснаta і радасьць.

— А ты аб ліштвах падумаў?

— А ты аб іх думаеш? Мусіць больш я, чымся ты? Пойдуць замуж ды ўсё!

— Дык гэта ты й мяне ажаніць хочаш?

— Мне здаецца, што Рэня блізкая да такой думкі. Вазьмі, як яна абыходзіцца з Зоськаю! Адчувае моцныя перашкоды, хоць я ня ведаю тваіх адносін. Вы сыдзецеся ды пакайцеся ў грахох—тут і вясельле згуляем. Досыць вам ужо сілу паказваць адно перад адным. Бо калі дзень твае перамогі, ды адменіць яна сваею, дык глупства, значыць, сілы роўныя!

— Праўда глупства! Пойдзем паходзім, браток! Бо думкі цяпер, як звычайна, пасьля абеду, кашаю пахнуць.

IV

— Мы ня пойдзем сягоньня ў вёску? запыталася ўвечары Рэня.

— Антон-жа нездароў...

— А дзе наш Сяргей?

— Ня ў гуморы нешта... Злуе.

— Чаго?

— Мы з ім сягоньня крыху пагаварылі...

— Гэта значыць, што вы яго абразілі?

— Барані божа!

— Дык мусіць нешта некае шчапляли яму?

— Я? Не... Гэта ён пераконваў мяне у тым чаго нямашака.

— Глядзеце! Рэня недаверчыва паківала галавою.—Я пагавару з ім.

— Лепей ня трэба! А што будзе з вёскаю?

— Мяркуйце—мы-ж абяцалі прыходзіць, ды вачэй ня кажам! Няёмка. А ўсё-ж такі нядобра... Столькі мы дакладаў выслухалі „аб працы на вёсцы“, а выразілася наша падрыхтоўка ў тым, што сенажаці чужыя топчам ды малаком апіваемся.

Чацьвера людзей мяняюцца усьмешкамі ў змроку маленькага пакойчыка.

— Прыдумайце, Рэня! пасьля маўчанкі гаворыць Міхась. Права на навіны застаецца за вамі.

— Ого! А можа я прыдумала! Вы, Міхась, страшны эгоіст! Вы бачыце толькі тое, што хочаце!—Іра ўстае і спыняецца пасярэдзіне пакою. Слухайце! Давайце зробім прыемную нечаканасьць! Хутка падрыхтуемся і наладзім вечарыну. У нас-жа ўсе ёсьць. Сяргею—ролю каханка, Стасі—роля абражанай адзіноты, а мяне куды ні дайце, я ўсюды харошая. Скажаце няпраўда?

— Я згодзен, калі вы не кратаеце мяне!

— Не, гэта я вам яшчэ ролі не дабрала... Пачакайце, падумаю.

— Нашто гэта? раптам загаварыла Стася. І так заблішчэлі з кута вочы яе што ўсім адразу зрабілася ніякава.—Нашто гэта? Што мы гэтым дасягнем? Самі заморымся ды іншым апрача нуды нічога не дамо. Гэтым сьвету не нагрэеш, ды асабліва мы... Мы-ж тутака чужыя, у нас усё абмяжавана, адчуваць, нават, у межах прывыклі. Будуць усё роўна глядзець скосу, як па прыежджых... Душы свае не адасі, на замочку яна, дык нашто падманваць і сябе і другіх?..

— А я кажу што будзе іначай! перабіла яе Рэня. Давайце спрабуем! Помніце, Міхась. мы з вамі ігралі калісьці на сцэне,—і яна глядзіць у другі бок.

— Нават, нябдага! крыва ўсьміхнулася Іра...

У Міхася перасела у горле... Гэта-ж тады й пачалося ўсё! Як-бы незнарок тады сышліся яны з Рэняю гуляць у каханьне на сцэне, каб

адтуль перанесьці яго ў жыцьцё... Вось што яна ўспамінае! І ўсплыў той міг, за змрочнаю кулісаю, перад выхадам, калі стаялі яны ўзрушаныя, чакаючы сыгналу. Нахіліўся тады, паглядзеў у вочы, (так трэба было гэта зрабіць на сцэне), і стрэў агеньчыкі вясёлыя, насьмешлівыя... Хацеў адарвацца і не здолеў і не здолеў зманіць. Бледымі тонкімі вуснамі прашаптаў імя... А за імі ўжо хтосьці сьмяяўся і казаў у паўголас:

— У іх у жыцьці лепей, як на сцэне...

Як добра помніцца гэта! І тыя словы, што прышлося гаварыць, як яны патрэбны былі і як шчыра гаварыліся... Ён расказаў тады па сцэне ўсё: адкрыў і душу. І ня было там нічога фальшывага і робленага. Ачнуўся пасьля, калі апусьцілася заслона, усё яшчэ жывучы тым, што казаў, трымаючы яе ў абдымках. І якія былі яны шчасьлівыя і сьмешныя, калі змывалі грым і ўсьміхаліся людзям, радым за іх, прынёсшых ім вітаньне... У клюбе тады, пачаліся гульні, а ён асьцярожна вёў яе за руку да выйсьця, сярод тлуму. Ён нёс яе вопратку, у маленькім жоўценькім чамаданчыку... Ах! каб ён гаварыў гэты маленькі жоўценькі чамаданчык! Ён-жа запомніў шчасьлівую раніцу ў невялічкім Міхасёвым пакоі... Ён запомніў! Ён прывёз і сюды гэтую памяць разам з Рэнінымі рэчамі... І толькі ў канцы дня паўстала цяжкая сьляпая ненавісьць, лёгкі халадок і непатрэбнасьць слоў. Але толькі таму, што было гэтае пачуцьцё вялікае і нязвычайнае, да болю страшнае, хадзілі яны разам, не маглі адарвацца... Аж пакуль... Пакуль не зрабіліся ворагамі, выпадкова, за глупства (чалавек, каторы правёў яе дамоў!) і пачалі гадаваць помсту. За што? На каго? і самі ня ведалі... А потым неяк, умовы супольнага вучэньня ізноў прымусілі сустракацца і гаварыць, нават стварыць нешта падобнае да сяброўства... Што й на цяпер засталося нешта вялікае і непрагнанае, якое зьбліжала, але зьявілася гульня— тая-ж самая помста—імкненьне зрабіць што-небудзь як нельга больш прыкрае другому. Жаданьне даць зразумець, як многа каштуе іхны разыход і як многа яны трацяць адзін без аднаго.

Міхась кахаў і ведаў, што быў-бы шчасьлівы, але толькі для людзей. Бо не хапала цеплаты ў іх радасьці... Ён страціў усё гэта пры першым знаёмстве з горадам (няпрыветліва стрэў яго ён—маленькага вясковага затуканага ваўчка), а яна ў чужой сям'і, дзе расла і дзе ўсе так умелі маніць і прыкідвацца... А каб ня гэта...

І ўзрушаны непатрэбным успамінам ён дастаў з кішані маленькую кніжачку.

— З якога дрэва? запытаўся паказваючы засушаныя ў ёй кветкі.

— Гэтую вішню і я пазнала, сказала Іра.

— Праўда, вішня! і тая самая, што расьце на двары ў вашым дзявоцкім памяшканьні... На дзіва добра захавалася, калі я сарваў, даўно...

Рэня густа пачырванела не падымаючы вачэй. Дзяўчата зьдзіўлена паглядзелі на сваю таварышку, з якою ніколі не здаралася гэтага. А яна зразумела, што Міхась адпомсьціў. Бо гэтыя кветкі адбіраў ён з вуснаў яе і цяпер дае зразумець, што яна хацела яго пацалункаў...

— Значыць дагаварыліся? Я пайду шукаць Сяргея!
І Рэня хутка вышла з пакою.

V

Усё-ж такі пагадзіліся. У суботу падмялі школу, раставілі лаўкі, запалілі сьвятло. І неўзабаве было весела і шумна. Ды такі й чакалі ўсе пабачыць, чаго варты прыежджыя.

На пярэдніх лаўках паселі жанкі й мужчыны, моладзь перасунулася ў змрок. Папрыходзілі і з тутэйшага драмгуртка: настаўнікі, загадчык коопэрацыйнае крамкі ды некалькі комсамольцаў. Яны хацелі ўхапіцца за якую-небудзь дробязь, каб потым сьмяяцца і гаварыць што й яны робяць ня горш. Некаторыя былі палезьлі на сцэну, але іх ня пусьціў Міхась і гэта яшчэ больш абвастрыла настрой...

Да пастаноўкі выбралі некалькі сцэн з „Раскіданага Гнязда"... Парашылі не даваць сьмешных рэчаў, бо так прыеліся яны... І пра пакуту можна гаварыць, пакуль яна есьць.

Патушыўшы сьвятло паслалі Антона сказаць некалькі слоў. І ён выгукваў іх моцна і шчыра пад нядобрымі поглядамі сваіх адвольных супаратаў па сцэне...

— Вышэйшы знак адабрэньня! сказала Стася ў глухім і цяжкім маўчаньні, пасьля таго, як ён скончыў.

А пачаўшы, забылі ўсё апрача таго, што рабілі. І дзіўна было, што думка, якая прышла ў часе забавы і сама была забаваю—адчыніла сэрца. Здаецца, папрыросталі да плячэй зрэбныя лахманы, зусім як у тых, што змагаліся за тое, каб ня сысьці з гнязда сваіх маленькіх пакут і радасьцяй.

Мусіць зрабіла гэты дзіў тое, што пазіралі на іх маленькія лямпачкі-курнушкі, бо адчувалася, што ў іншым месцы гэтага ня было-б. І было гэта добра і балюча. Бо ўмеем мы для сябе быць усім, а сказаць гэга ўголас ня можам.

Сымон высякае крыж на магілу бацькі... І з такою праўдаю ляцелі трэскі з-пад Міхасевае сякеры, што Рэня—Зоська, шапнула падышоўшы:

— Не захапляйся. А то гэтак старанна робіш, што каб трэ' было чалавека забіць—напраўду забіў-бы.

Яе словы прынесьлі душы яго навальніцу гневу. Пачалі блытацца словы... Гэта яна давяла, што нічому ня можа аддацца да рэшты, а заўжды сядзіць на пустой і халоднай звоньніцы, адкуль так лёгка сьмяяцца з усяго дарагога... Успомнілася гутарка з Сяргеем і Міхасю стала шкода яго. І чамусьці захацелася, каб Рэня была часткаю душы назаўсёды. Толькі выплыла пагроза, што замарозіць яна яго; яшчэ больш аддаліцца ён ад чалавека, яшчэ менш будзе падобным да яго...

І памыліўся. Яна цяпер помсьціла за кветкі, што наказаў тады ўвечары. Дзесьці глыбока захаваная гнёзьдзілася цеплата душы яе, а там жыў Міхась... Толькі, па звычайнай жаноцкай прывычцы, знайшла

сілы яна, каб сказаць гэтыя словы. Так-жа заўжды яны: баяцца атруты але абавязкова прабуюць яе смак.

Ладу ўжо ня было. Хацелася, як мага хутчэй, скончыць. Толькі Рэня як на сумысьля, з кожным словам усё больш і больш здавалася сапраўднай закаханай вар'яткай...

Кончыўшы па чарзе глядзелі ў шчылінку. Людзі гаварылі на паўголас і паблісквалі гарачымі вачыма.

Неўзабаве, на сцэну прышоў Міхасёў бацька і толькі ківаў галавою...

— Што вы ў мяне пытаецеся? Самі лепш ведаеце. Я-ж люблю вас як родных. Вы як дзеці мае... Застаўся адзін Міхась. ды вы цяпер... Ніхто нічога ня скажа... ціха адказваў ён на запытаньні Іры.

А сябры тутэйшага драмгуртка сьмяяліся і аб нечым раіліся між сабою.

— Дзядзькі! Можна йсьці курыць... А мы, калі хочаце, потым яшчэ што наладзім.—сказаў вышаўшы Сяргей.

— А вы самі хто будзеце? запыталіся ў яго з пярэдняе лаўкі.

— Я? Прозьвішча сказаць?

— Не!.. Каго вы гралі? От каб вы нам Лявона й старую паказалі!

— Я гэты Лявон і буду.

— Ня можа быць! Ня вытрымаў нехі вёрткі дзядзька і падышоў бліжэй...—Лявон недзе схованы ў вас!

— Дык я вам кажу!

— Гэта маці? Такая маладзенькая? Гаварыў ён, пабачыўшы Стасю...

— Ня можа быць!

Цяпер ужо вышлі ўсе ў звычайных вопратках і гаварылі, пазлазіўшы са сцэны.

Але іх яшчэ прымалі за тых, чые словы і чыю пакуту нядаўна перадавалі яны. Было шкада нечага прыгожага і незваротнага, быццам тым людзям, якімі былі Міхасёвы госьці ў жыцьці, вечна трэ' было быць бедакамі і пакутнікамі.

— От Зоська, калі не пазналі! гаварыў Сяргей.

— Яна цяперака яшчэ прыгажэйшая! пазайздросьціў нехта...

А шустры дзядзька ўжо завіхаўся каля Міхася:

— Мы вас пазналі, Міхал Сьцяпанавіч! Адразу. Але Сымонам цяпер клікацьмем.

— Клічце.

— Дык курэце, дзядзькі, а мы адпачнем крыху...

Вечар скончыўся зусім нечакана. Толькі Стася прасьпявала „Вольным гоманам", а Міхась пачаў чытаць „Курган"—на сцэну ўзваліўся чалавек. Ён зьняў шапку, кінуў яе на стол, прыгладзіў валасы і шмаргануўшы носам па скуранай дзяжурны, прыпыніў Міхася:

— Дарагія старыкі і маладзёж! Я слухаў увесь вечар... І находжу, што сягонешні рыпіртуяр—стары і для дзеравенскага цеатра ўрэдны. Патаму вечар буду прасіць шчытаць закрытым, а маладзёж буду прасіць адкрыць гульні. І падцягнуўшы вялікія сінія галіфэ, зьлез.

Гэта быў старшыня сельскае рады, падбухтораны загадчыкам кооперативу і настаўнікам. Ім хацелася чым-небудзь дапячы Міхасю.

Ніхто ня ўздумаў пярэчыць. Зьбіраліся йсьці, калі ў дзьвярох Стасю затрымала жанчына:

— Дзякую, дзевачка мая, за песьню!

Тымчасове вышлі на двор.

VI

На сене было душна. Міхась ніяк ня мог суцішыцца і адагнаць думкі, каб заснуць. Трохі пасьмяяўшыся, паснулі хлапцы, а пасьля перасталі шаптацца і дзяўчата. У густым і пахучым паветры змроку адчувалася раніца з мітульгою прадвасеньняга дажджу. Нават, здавалася, што чуваць як ходзяць хмары ў некім лілёвым сьвятле і чапляюцца за страху.

— Сьмешна так! Спаць! Слухай, Сяргей! адчулася неабходнасьць пажартаваць.—Чуеш ты! Прачніся! Надзвычайна важная рэч!

— Ы-ы-ы-ыгым! Ну?

— Ці адчуваеш ты, што ў Амэрыцы зараз сонца заходзіць? А? Сьпіш толькі, а падумаць ня хочаш!

— Я заўтра падумаю! злым голасам адказаў той...—А табе прыдзецца паехаць зубы лячыць, калі будзеш поначы людзей будзіць. Балазе, ля мяне боты стаяць. Цяпер пабудзі!

І заснуў пад усьцешаны рогат Міхася...

Тады гэны, упэўніўшыся, што яго адсутнасьці ніхто не заўважыць, хутка устаў і пашоў к варотам. Не адчуў толькі, што, усьпершыся на локаць, паслала ў сьлед яму Стася змучаны і заплаканы погляд.

— Гукнуць, пагаварыць хвілінку,—уздумала яна, але пачула, як рыпнула вулічная брамка.

Вышаўшы пацьверазеў.

— Чаго гэта я? але зараз-жа прагнаў развагу:—от пахаджу расою — і пашоў сьцяною у аўсяны палетак.

У канцы поля стаялі, пашумліваючы, бярозы. Яны хавалі пад лісьцямі стары пасівелы крыж, накрыты накася дашчулкамі. Там вісела старая ікона. Яна ўжо страціла сваё даўнейшае значэньне і сэнс, запылела, выветрала і змылася макротою. Але заўжды гаварыла, што тутака ростань дарог, і дадому засталася вярста. Таму й зьдзівіўся Міхась, убачыўшы абабітую расу вакол крыжа і сьвежыя кветкі на іконе. Вянок з палявое бярозкі і збажыны.

Пастаяў і пашоў далей.

Так блукаў бяз мэты, з цішынёю заглушаных бур у грудзех. Аж пакуль не пабачыў сагнутую пакутай постаць..

Асьцярожна пачаў падыходзіць і... пазнаў:

— Зоська! Чаму...

Дзяўчына устала і хацела йсьці.

— Пачакай, Зоська!

— Нашто? Няма аб чым гаварыць!

Але стала проста вачэй.

— Я скажу табе нешта, Міхась! Ты ня думай, што я забылася на твае словы... Ня думай нічога—на другія словы! Нашто ты казаў нашто зрабіў, што гэта ўсё і сьвет увесь сталі манаю?

— Зоська! кажа ён лёгка ўзяўшы яе за руку...

— Пачакай! але рукі не адбірае.—Ведаеш, гэта я зараз занесла кветкі пад крыж... І малілася там... Каб ты зноўку вярнууся, каб такі быў заўжды, якога першы раз убачыла... А то...

Яна болей не стрымліваецца бярэ у рукі яго твар і гаворыць ціха і квола:

— А то мне гэтак балюча. Я не трымаю цябе... Але... будзь... застанься такім, як быў—харошым. Каб словы твае можна было з агню дастаць. Як сёньня, калі Сымонам быў. Мне й цяпер шкода, што цябе бачу, а не яго.

— Чаму ты гаворыш так, Зоська?

— Бо ты ня той! Той, як толькі прыяжджаў зараз наведваўся Зоські. Сядзеў з ёю, з людзьмі... А гэты... жыве цэлае лета, а вітаецца, як чужы, як з незнаёмымі на вуліцы... У полі блукаецца.... Чаму я стрэла цябе тут?

— Пачакай!

— Пакінь! Яна абымае хлапца і, гледзячы ўвочы, просіць гарачаі шчыра:

— Міхасёк! родны мой! Хадзем разам! Станем на колінкі і памолімся... Ня богу, Міхасёк... Я малілася яму, ды ўспомніла, што казаў ты... Уцякла з роспачы ў поле... Ня богу, Міхасёк! Сьвету гэтаму, полю што ўзгадавала цябе, гэтай бескрайнай ростані людзкой! Аддамо ім трывогі нашы!

Толькі ціхія крокі слухае трава... На ростані цьмяныя пасланці.

— Пакажы, сакол мой, вочы! Зноў такі! Памагла!

І ціхенька цалуе ён, па бледым і празрыстым твары халоднасьць начэй беларускага чэрвеня. Горнецца паволі дзяўчына... І горкія губы пахнуць расою...

Няма сьведак. Ня выслала іх вялікая земная цікавасьць.

Спаткала яго сонца. Чуў як мыліся дзяўчаты каля калодзіжу, але, ціхенька прачыніў дзьверы і ўзьлез на пусты торп. Спаў за паўдзень. А вышаў, сустрэўшы Сяргеяў воклік:

— Здароў, вандроўнік! Дзе ты быў?

— Не пабудзілі-ж!

— Каго будзіць было? Месца пустое твае?

Пачаўся дзень.

## VII

Міхась паверыў у тое, што ён будзе жыць іначай. Што пара трывогі для яго прайшла. Аднойчы цэлы вечар прагаварылі яны аб тым, ці здолеў-бы хто з іх зараз застацца ў вёсцы і зноў прыняць гэтае жыцьцё. Міхась горача бараніў гэта.

Аж зьдзівілася Рэня і сказала:

— Нашто гаварыць дарэмна, давядзеце гэта.

— І давяду! хмура сказаў Міхась.—На век у вёсцы не застануся, а некалькі год пажыву, сатру ўсю хлусьню з сябе, душу вылечу, тады вярнуся і не захварэю!

Радасная глядзела на яго Зоська. Цяпер часта страчаліся яны і яна ўжо не саромілася прыходзіць сюды.

— Як жа вы пабудуеце сваё жыцьцё? спыталася Іра...

— Звычайна, у гэтай старой хаце. Толькі апрача мяне будзе тут адзін новы чалавек, у каторага яшчэ шмат радасьці. А калі падзелім з ім усё напалавіну—будзе жыцьцё, як вялікая рака—ціхае і глыбокае...

— Ня знойдзеш гэткага! аказаўся Антон...

— Знайшоў.

Тады не заўважылі яны, як зьбялела Рэня і як хутка перавяла гаворку на другія рэчы.

І раптам усё гэта скацілася ў вялікую прорву. Як быццам пачалі выломвацца адна за аднэю сьпіцы з кола—гэтак па аднэй пamiралі Міхасёвы надзеі, бо хацеў ён, не патушыўшы аднаго агню, запаліць другі і ня здолеў. Бо заусёды мацней кахаюць тых, каторых пакідаюць, чымся тых, да каторых ідуць. Ён забыў гэта, не заўважыў, пад сівым налётам попелу, вялікае сілы агню—яго пачуцьця да Рэні.

А яна парашыла адпомсьціць і адпомсьціць жорстка.

Адвячоркам Рэня і Сяргей прышлі з лугу ўзяўшыся за рукі.

— Блаславі, Міхась!

Той, не адчуваючы сур'ёзнага, хутка прагаварыў:

Бласлаўляю па паўкапы дзяцей! і абарваў, убачыўшы Рэніны вочы.

А яна сама ўжо казала, кідаючы бязьлітасныя словы:

— Сур'ёзна! Мы хочам вянчацца ў царкве... Дапамажэце... Ідзеце з ім наперад, а мы прыдзем проста да цьвінтару.

Дарогаю толькі запытаўся:

— Як-жа гэта ты, Сяргей?

— Так вось... хмура абазваўся той.

І змоўчалі.

— Каго жаніць? Вас, Міхал Сьцяпанавіч, замятушыўся сівы сухарлявы поп, у каторага скакала сэрца ад радасьці, што ў яго руках самы большы бязбожнік.

— Не! Яго—таварыша!

— Бацюшка, хутка, калі ласка! без усялякіх запісаў у кнігах, пры зачыненых дзьвярах. Апрача нас не павінна быць нікога...

Поп прайшоўся па пакоі.

— Я не магу... Калі чалавек ня быў у споведзі...

Аднак хцівасьць перамагла і ён пачаў зьбірацца, намацваючы ў кішэні новенькі чырвонец.

Царква дыхнула пахам старое фарбы... А пакуль поп апранаўся, Рэня падышла да Міхася.

— Вось, бачыце, маё вясельле хутчэй за ваша!

— Я не лічу, што шлюб адбыўся тады, калі выпаўнена фармальнасьць! Досыць таго, каб людзі зразумелі адзін аднаго...

— Дык вы асуджаеце мяне за гэта?

— За што?

— За царкву.

— Кожны робіць, як хоча...

— Мне хочацца надоўга захаваць гэты дзень. Такія рэчы не паўтараюцца... Я вас папрашу?

— Зрабеце ласку?

— Патрымайце вянец нада мною!

Міхась нахіліў галаву.

Спачатку ён быў рад гэтаму. Цяпер на яго шляхох няма ніводнага чалавека, але пасьля зразумеў. Адчулася вялізманная пустэльня у грудзёх і сярод яе на сухім і гарачым пяску—голае сэрца... Многа вытрымала істота, мігнуўся, як у тумане, вобраз Зоські, але не кранулася рука з вянцом. Толькі аж страшна стала, калі крануліся бледыя вусны маладой на запытаньне, ці не абяцалася другому.

— Абяцалася! ціха прамовіла яна.—Але забыла.

І служба пайшла далей.

Як заўжды, пасьля вянца віталі маладых.

Але Міхась ужо вышаў і стаў у цёмным бабінцы. Адтуль глядзеў, як прымала Рэня прывітаньні і як вочы яе шукалі яго. Потым знайшлі.

— Вось дзе вы! Вітаць ня хочаць?

— Чаму-ж, вітаю! Сказаў, перамогшы горач, што асела ў горле.

І Рэніны вусны мацней і даўжэй, як трэба на прывітаньне, прыціснуліся да яго вуснаў.

— А цяпер... вы ня маеце права мучыць мяне! сказала адхіснуўшыся і пашла з Сяргеем з усходаў.

Поп, грымучымі ключамі, замкнуў царкву.

За вячэраю Міхась перамог сябе... Сьмела страчау погляды... Толькі маладыя глядзелі на яго з пагардаю. І яны думалі, што перамаглі. Ен—тым, што заўладае найбольш дарагою жанчынаю, а яна—вялікім ударам пачуцьцю.

Каб быць вальней—прыкінуўся п'яным. Хістаючыся ўстаў і адкінуў чарку.

— Мала! Шклянку дайце! Я хачу піць за людзкія перамогі!

— Пацалуйце мяне, Ірачка! гаварыла з вуснаў выпітая гарэлка. І тая цалавала.

— Піце, Стася! У вас такое малітоўнае імя! Бывайце! Спаць пайду! Людзі ноч разьбяруць—маладым не застанецца! І вышаў. А на дварэ выпрастаўся, пашоў роўна... Пасьля рынуўся ніцма на зямлю, устау і выбег на вуліцу.

У гэтую ноч плакала Зоська. Плакала, хоць ён быў з ёю. А тыя, што засталіся, таксама плакалі, бо яго ня было з імі.

Рана ён шырока размахнуў дзьверы гумна. На тарпе заўважыў Сяргея. Ударыў яго наском у бок.

— Што-ж гэта вы малады муж? Посьціце?

І заснуў апранены, не дачакаўшыся адказу.

## VIII

Быццам праклён павіс над гэтым домам. З саду прыбегла спуджаная Ірачка і кінулася да хлапцоў.

— Стася такая страшная! І гаворыць такіе дзіўныя рэчы! „З аднэю дні, з другою ночы", паўтарае ўсё... „Чаму-ж я адна ды адна?"—Мне зрабілася страшна з ёю і я пабегла да вас. Хадзем разам туды.

Але тэй ужо ня было, і на трэці дзень толькі, чакаючы пахаваньня, усплыло цела. Ня страшную, толькі незнаёмую некую знашлі яе. І ў цяжкім напруджаньні ішлі гадзіны. Жывым дакорам ляжала яна, пакорная, пасьля апошняга бунту свайго, аддаўшыся на волю людзей... А яны—пісалі пратаколы, давалі тэлеграмы, плакалі...

Цяжка было ім, сабраўшыся разам. Разыходзіліся, хто куды. А выехаць у горад ніяк не маглі. Вельмі цяжкае прыходзіла маўчаньне, раджала ненавісьць. Але ўсё-ж былі яны блізкімі...

— Рэнечка! Дзеўчынка мая? Што ты нарабіла? Га? ціха і ласкава кажа Міхась жанчыне...

І глядзіць якім страшным болем тонка заціснуты яе вусны.

— Ах, чаму-ж так позна я зразумеў? І чаму ты злая такая? Нашто ты мучыла мяне гэтулькі?

— Я цябе кахала, а ня мучыла? А ты сам? А ты... харошы? Ды можа ты гэта ізноў толькі зьдзекуешся, прышоў на адзін вечар, пакуль чым не захопішся? Прыкры! Чужы! як быццам баронячыся, яна наставуляе рукі.

— А нашто ў цябе вочы такія халодныя былі? Іду з табою—спакоен, а як разьвітаюся—вар'яцею ад роспачы... І ты кажаш...

Яны стаяць на ганку. Недалёка адчынена брамка ў сад. У Міхася ўся галава абмотана белым рушніком і сам ён страшна бледы. Кожнае слова яму каштуе вялікага напруджаньня і ён употай ад Рэні апіраецца аб касяк.

— Міхась! Дай мне слова, што мы ніколі ня будзем гаварыць аб гэтым?

— І што?

— Мы не разлучымся...

Проста ў вочы глядзіць ёй хлапец і ціхенька гладзіць маленькую вузкую руку.

— Я ўсё сказала, Міхась! гаворыць яна, моцна цалуючы вусны. У цябе зноў на перавязцы кроў? А я й забылася. Ты-ж такі слабы... Ідзі, родны мой, адпачні!..

— Рэня! Як цяпер жыцьцё харошае стала! Але зоры... Зоры... Чырвоныя й сінія!

Яны ідуць у хату ўзяўшыся за рукі. Усё больш і больш бялее Міхась і густыя чырвоныя кроплі падаюць на Рэніну сукню.

У пакоі цемнавата і холадна... Тутака яны пільнуюць яго ад сьмерці гры гэтыя жанчыны. Быццам баяцца, што, адлучыўшыся на крок, стра

цяць усё. Можа прыйсьці нехта прагны, забраць жыцьцё і накінуць пакуту. Бо ішла гэтаму шостая ноч, а ён не прыходзіў да прытомнасьці. Толькі часамі паказваў рукою на вусны і супакойваўся, калі клалі туды кавалачак лёду... Баяліся гаварыць і тут ля ложку сталі сёстрамі: Рэня падышла і абняла Іру. Тая адказала вільгатным удзячным поглядам. А калі прышла Зоська і бязумоўна стала ля іх, узяўшы яго халодную і цяжкую руку—адчулася і яе права быць тут.

Так чакалі.

— Чытайце, Антось! прасіла Рэня.

І ён чытаў нізкім маркотным голасам ледзь чутным з другога пакою. Ня трэ' былі словы. Толькі гэтае ціхае сумнае чытаньне.

За гэныя дні зрабіўся зусім пустым і нікчэмным той апошні крок Рэнінай помсты. Бо напісала роспач па твары яе такія страшныя і дзікія сьляды, што ў іх гасла разуменьне чалавека. Больш ня думала яна аб тым, каб захаваць яго толькі для сябе.

— Каб толькі ачуняў! маліла істота.—Няхай тады йдзе куды хоча!

І як-бы ў адказ на гэта пад раніцу ён папрасіў піць. Потым слаба ўсьміхнуўся і пацалаваў нахіленую Рэніну галаву.

— Пакажы вочы!

І забыўся зноў.

А тая баялася крануцца...

— Я пасяджу, ідзеце адпачнеце крыху.—сказала Зоська.

І яны пашлі...

Іра прымасьцілася ў другой хаце, а Рэня вышла на двор. І тут з нязвычайнаю яснасьцю мільганула ўсё.

... Нядаўна было яе вясельле... Гэта яно, праклятае, усяму прычынай! Сяргей... Дзе ён? Можа як Стася? З кожным днём усё больш хмурнеў ён вясёлы і бесклапотны пад вострымі жартамі Міхася... Яна не магла аддацца яму! Ды сапраўды, якое-б страшнае злачынства запісалася гэтым у кнігу пакут людзкіх! І вось ён пашоў і не вярнуўся. А праз дзень, знашлі на ростані скрываўленага Міхася... Можа пільнаваў... Але ці здолен Сяргей?..

Забылася дзяўчына ў цяжкіх развагах...

У хаце было ціха.

На пальчыках падышла Ірачка да пакою, дзе ляжаў Міхась, і укамянела у дзьвярах.

Над хворым стаяла нахіліўшыся Зоська і сьмяялася дзіка і бязгучна.

— Рэня! Антось! Сюды! крыкнула Ірачка і кінулася да ложка—калі-ж дабеглі тыя, дык убачылі, што дзьве дзяўчыны бязмоўна ўглядаліся адна на адну.

— Нячывы? хіснулася Рэня...

І над мёртвым сьмяяліся жывыя, глядзячы ў пустое і чорнае акно.

За ім стаяла ноч.

10 ліпіня 28 г.
Случчына.

**З. Бядуля**

# Язэп Крушынскі

*(Аповесьць)*

Працяг

XVII

Іх дзесяць—пяць Драздоў і пяць Дзятлаў. Палавіна нізкіх і бялявых. Палавіна высокіх і чарнявых.

Яны ў адзін і той самы час адзначаны асаблівым знакам.

Зьдзіўленьне і здаволенасьць зьмешваецца ў іх у адно пачуцьцё: высока ставіць кожнага ў сваіх уласных вачох.

Гэтыя дзьве пяцёркі таксама ў аднолькавай меры прыязьні і пашаны адносяцца да Язэпа Крушынскага.

Ён іх вызначыу з усяе грамады вёскі.

У абедзьвюх пяцёрак аднолькавы настрой. Нібы ў іх адно і тое самае імя; нібы ў адзін дзень у адным месцы ладзяць імяніны.

Язэп Крушынскі прывез з Менску дзесяць новых кос. Аддаў сваім касцом—пяці Драздам і пяці Дзятлам. Ён ім гэта абяцаў надоечы на сенакосе.

Назаўтра гэтыя-ж дзесяць чалавек (яны былі няпісьменныя) атрымалі яшчэ па два нумары газэты „Беларуская Вёска“.

Кожны з іх зьдзівіўся:

— Скуль?

— Хто?

— Чаму?

— Якім чынам?

У некаторых былі хлапчукі, якія вучыліся ў школе. Сынкі хоць па складох, але чыталі.

Кожны з гэтых падпішчыкаў „Беларускае Вёскі“, які звычайна ўжываў газэты на цыгаркі, стараўся даведацца, што ў газэце напісана:

— Як-жа іначай? Гэта-ж мне прыслана! Нават адрас надрукаваны...

Ужо праз колькі дзён пазьней яны даведаліся, што газэты выпісаў для іх таксама Язэп Крушынскі.

Суседзі глядзелі няпрыязна на гэты дзесятак:

— За што гэтым, а ня іншым?

— Ці ня ўсе роўныя суседзі?

Зайздрасьць суседзяў злучала у адно дзесяць адзначаных вялікай увагай Крушынскага.

Само сабою вышла, што яны некалькі разоў зьбіраліся разам у аднэй хаце, каб абгаварыць сваю справу.

Непаразуменьняў між імі ня было, наколькі косы і газэты ў кожнага з іх аднолькавыя—ня горшыя і ня лепшыя. Косы ня раз выпрабоўвалі рознымі спосабамі:

— Як адна каса!

— Газэты?

— Тыя самыя навіны! Проста няма і за што пасварыцца паміж сабою...

За гэта самае, што „няма за што пасварыцца“ яны часам нездаволена пазіралі адзін на аднаго...

І дзесяць чалавек былі злучаны ў адно—у невялікі колектыў імя Крушынскага...

Яго вылучэнцы.

Іх непакоіла адно пытаньне:

— Дармо нічога не даецца.

— Трэба чым колечы адслужыць.

— Крушынскі падмазваецца пад нас.

У гэтых людзей зьявілася да Крушынскага падвойнае адчуваньне, супроцілеглае. Прыязнае за тое, што праз меру добра да іх адносіцца. Няпрыязнае—за клопаты, якія маюць цяпер у сувязі з падарункамі.

— „За дзякуй не адбыць—трэба заплаціць“.

Колектыў імя Крушынскага пастанавіў адпрацаваць у Курганішчы: бабы будуць па два дні жаць.

Хоць Крушынскі ўжо каля двух гадоў ад сэкратарства ў сельсавеце адмовіўся (ня было часу гэтым займацца), але і цяпер быў тут першай і самай паважанай асобай.

Ні разу выбары не адбываліся без яго кіраўніцтва.

Заставаліся ў сельсавеце заўсёды тыя самыя людзі, якіх ён намеціў з самага пачатку, старшынёю—Дрозд, сэкратаром—Дзяцел.

Пісьменнасьці яны навучыліся трохі ў войску, а пасьля, у бытнасьці Крушынскага сэкратаром у сельсавеце, ён іх сам вучыў, падрыхтоўваў сабе „чырвоную зьмену“.

Кожны раз, у вольныя часы, у памяшканьні сельсавету Крушынскі займаўся сваімі „вучнямі“. Ён праходзіў з імі вучобу практычна з самага пачатку. Вучыў іх пісаць заявы, пратаколы, даклады, а галоўнае, стараўся ўбіваць ім у галавы „матэматыку“.

— Лічбы—гэта ўсё.—гаварыў часта Крушынскі сваім старанным вучням.—Калі лічбы ў галаве арудуюць спрытна, перасоўваюцца разумна з месца на месца, як салдаты на фронце пад указам добрага камандзіра, тады ўсё добра. Уся наша дзяржава жыве на лічбах. Калі добра ведаеш, што ў цябе ёсьць, тады цяміш чаго ў цябе яшчэ не хапае. А калі ведаеш, чаго не хапае, дык будзь пэўны, гэты недахоп папоўніцца ў некалькі разоў. Усюды лічбы пануюць. Я сам, каб стаць чалавекам, практыкаваўся ў лічбах.

Вучні рабілі вялікія посьпехі.

І гады толькі Крушынскі кінуў сельсавет, калі ўпэўніўся, што „вучні“ самі справяцца.

— Я перадаў сельсавет у добрыя рукі!—ганарыўся ён часта перад Драздамі і Дзятламі.

Ён быў пэўны, што іншых, каб і хацелі, ня выбралі-б, бо пісьменных бадай ня было.

І старшыня і сэкратар сельсавету былі „Крушынскімі“ толькі ў меншым памеры.

Розныя савецкія кампаніі, падаткі і іншае праводзіліся акуратна, у пору. Сельсавет карыстаўся славай аднаго з лепшых у ваколіцы.

Кожны раз, калі трэба было праводзіць якую-небудзь новую кампанію, сельсаветчыкі радзіліся з Язэпам Крушынскім.

У яго быў у гэтых выпадках адзін мэтад: як найбольш шуму рабіць вакол кожнай новай справы, каб аб гэтым многа гаварылася, каб у газэтах пісалі.

— Створаная раз пазаўсёды слава разыходзіцца і разрастаецца ўсё больш і больш. Яна ня лёгка спыняецца і, як разгарачаны конь, галепам скача наперад.

Такую думку у розных вар'янтах і разгалінаваньнях убіваў Крушынскі у мазгі сельсаветчыкаў цьвякамі сваёй лёгікі.

— Што будуць казаць пасьля—нас цяпер цікавіць не павінна. На тое рэволюцыя, каб зараз-жа гарачымі словамі захапіць грамаду ў свае рукі. Мы будзем старацца, каб наш сельсавет зрабіўся багатым, каб у нас ня было бедных. Гэтым мы прынясем самую большую карысьць рэспубліцы.

Так праводзіліся кожны раз рэволюцыйныя сьвяты, у такіх настроях працавала школа, з'організаваўся коопэратыў.

Усё рабілася пры гарачых прамовах Крушынскага пад лёзунгам: „Мы павінны багацець“.

Калі трэба было праводзіць антырэлігійную пропаганду, Язэп Крушынскі знайшоў свой уласны орыгінальны спосаб. Пачаў пропагандаваць само духавенства супроць рэлігіі.

Ён разважаў так:

— Адрэж галаву, тады ўсё цела апруцянее. Пераманім пастуха, тады і стада ён пагоніць у наш хлеў.

Гэта было ў мінулую зіму перад калядамі.

Быў зімовы вечар. Падаў пухкі лапцяваты сьнег. Ён лунаў у паветры белымі матылькамі.

Крушынскі надзеў кароткі кажушок. Вышаў на дзядзінец. Сам запрог каня ў санкі—і паехаў за пяць вёрст ад Курганішча ў веску Глухаўку.

Там жыў айцец Дзімітры.

Пад нагамі сьнег быў сыпчаты. Ня чуваць было як сані соўваліся па дарозе. Тупат конскіх капытоў глушыўся ў белай мякаці. Сьнег зьверху зараз-жа замятаў сьляды.

Спераду і з-заду—новая бялёная зямля, па якой яшчэ ніхто ня езьдзіў, не хадзіў. Санкі з канём, з чалавекам вырасьлі на гэтым месцы з зямлі, нарадзіліся тут: белыя, у сьнежным пуху.

У Крушынскага на душы быў вялікі супакой. Ні сьцебануць каня, ні нават лейцы падцягнуць не хацелася.

Ён сядзеў на санках, трохі зажмурыўшы вочы і, каб хмызьнячкі і хвоі ня соўваліся насустрач, як дзівосныя здані, падумаў-бы, што знаходзіцца на адным месцы.

Хвілінамі і думкі у яго супыняліся.

Тады ён ня ведаў, куды і дзеля якой мэты едзе. Нават забываўся адкуль ён, хто і як завуць яго...

А сьнег нізіўся з бяздоньня неба лёгкімі пушынкамі. Хтосьці ўверсе скубаў белых лебедзяў і пыліў уніз пер'е. Яно сыпалася, лезла ў вочы, у рот.

Крушынскі смакаваў на губах і вачох ледзь прыкметную вільгаць сьнежных краплінак. Увесь аддаўся пяшчотам зімовага вечару. Ня рухаў ні рукой, ні нагой, пазіраў на мутнаватую бель перад сабою спаміж вузенькіх шчылінак ледзь не заплюснутых на сон вачэй. Ён адчуваў на твары ў зморшчынках каля губ і вачэй застылую ўсьмешку. Твар страціў звычайную напружанасьць—памякчэў.

У гэтыя хвіліны думак ніякіх ня было. Толькі няясныя адчуваньні лезьлі на ўзьверх, выклікалі, нібы спрасоньне, урыўкі думак і абразкоў. Спачатку абразкі мільгаліся, зьліваліся ў бялявы туман. Потым пераўшлі ў слых, у шолахі. Лезьлі у вушы здалёку ціхія гукі. Яму здавалася, што нехта над ім квола і пяшчотна сьпявае і стогне:

А-а, а-а, а-а-а...
А-а, а-а, а-а-а...

Гукі прынялі ахварбоўку рытмічнасьці, увайшлі ў цэльнасьць мілагучнай гамы.

— Гэта-ж калыхальная песьня:

А-а, а-а, а-а-а...
А-а, а-а, а-а-а...

Крушынскіківаўся ў санках з боку на бок, як у калысцы...

— Вось і словы да гэтай песьні:

А-а, а-а, мой каток.
Ехаў коцік на таржок.

— Жонка так уночы сьпявае над калыскай маленькай дачушкі.

Ён усьміхнуўся:

— Калісьці маці і мне гэта самае сьпявала...

З—пад вэлюму сьняжынак перад вачыма Крушынскага вырысоўвалася постаць кабеты.

Ён бачыць яе ўсю, з галавы да ног.

Яна—журботная, пакрыўджаная, стомленая, хворая, няпрыгожая. А ўвогуле да сябе, як надзвычайна прыгожая...

Не. Ня ўсю постаць жанчыны бачыць ён перад сабою, толькі вочы яе.

Вочы набліжаюцца, робяцца вялікімі, зазіраюць у самае сэрца. Блакітныя вочы з гарачым блескам, ад якога робіцца цёпла, горача.

Толькі вочы бачыць Крушынскі—знаёмыя, родныя.

Вочы—гэта цэнтральныя кропкі, ад якіх разыходзяцца лёгкія, тонкія, як павуціньне, лініі—абрысы жанчыны.

Яго родная маці. Памёрла шмат гадоў таму назад. Ён тады быў яшчэ малым хлапцом.

Крушынскі ўздрыгануўся. Нібы ўсхапіўся ад сна. Працёр вочы. Азірнуўся па бакох.

— Не заўважыў як праехаў па замёрзлай рэчцы, як узьбіраўся на ўзгорак.

Мігаценіся агні вёскі Глухаўкі.

— Мабыць агоньчыкі здаваліся мне чалавечымі вачыма...

Пацягнуў лейцы, сьцебануў каня, сьцёр з вусоў і броваў прылеплены абледзянелы сьняжок, моцна таргануўся ў санёх. Нібы толькі што прымасьціўся на сядзеньні з гарохвінаў.

Цяпер ён зусім іншы чалавек.

— Сьняжынкі навеялі на мяне мяккацеласьць і рахманасьць... Зусім быў раскіс—і не да твару мне гэта!

Сівыя на белым соўваліся насупроць сялянскія хаткі.

— А вось і дом айца Дзімітрыя!

Дом стаіць водаль і розьніцца ад вясковых хат, нібы вол ад атары авечак.

Крушынскі зышоў з санак. Папоўскі дом выгафтаваўся перад ім як намаляваны на паперы.

Дом адгарожаны высокім частаколам, стаяў трохі водаль ад вёскі.

Дзьве старыя бярозы, як багамолкі, высіліся абапал брамы. Яны прывандравалі сюды здалёку, каб пакланіцца айцу Дзімітрыю ў ногі, каб пацалаваць беражок яго расы, каб паслухаць яго імшу ў царкве.

(Царква стаяла на ўзгорку на другім баку вуліцы насупраць папоўскага дому).

Але строгі поп чамусьці крыкнуў на багамолак і яны спыніліся тут спалоханыя.

Так засталіся чакаць да „страшнага суда“, да „сканчэньня сьвету“.

Пад лёгкім кялімам сьнегу і дом і царква выглядалі напісанымі акварэльлю на цёмна-сінім фоне.

Крушынскі ў самога сябе запытаўся:

— Ці ўдасца мне перамагчы папа?

У гэтакай пышнай дэкарацыі перад уяўленьнем Крушынскага і постаць папа красавалася ў зусім іншым асьвятленьні: у аўрэолі харараства, моцы і ўпэўненасьці.

Сумненьне напала:

— Ліха яго ведае...

Ён адчыніў вароты, узяў каня пад аброць і павольна павёў праз браму на дзядзінец.

З глыбіні двара пачуся брэх сабакі.

Мэлянхолічны, расьцяглы брэх выклікаў у Крушынскага настрой да глыбокадумных разважаньняў, да ціхай спакоры перад усім на сьвеце.

— І трэба ведаць—гаўканьне папоўскай сабакі мне падабаецца.

Звон ланцуга (сабака быў навязаны) пачуўся разам з стукатам дзьвярэй.

На высокім ганку паказалася фігура айца Дзімітрыя.

- Добры вечар, бацюшка!—крыкнуў яму здалёку Крушынскі.

Зацікаўлены голас папа:

— Вечар добры! пан Крушынскі?

- Той самы!

— Прашу, прашу! Будзьце ласкавы! Нечаканы госьць...

Крушынскі зачыніў вароты. Пайшоў за айцом Дзімітрыем у памяшканьне.

Айцец Дзімітры—нявысокага росту, досыць шырокі ў плячох, але ня тоўсты. Рэдкія, рыжаватыя валасы растуць на твары паасобнымі кусткамі, злучанымі між сабою ў адну бараду лёгкім сьветлаватым пушком. Пад ніжняй губою зусім няма валасоў: бялее чыстае, нібы выпаленае, лапікла. Гэта надае яму малажавы выгляд. Айцу Дзімітрыю гадоў пад сорак, а здаецца маладзейшым на гадоў дзесяць. Нявялікія сьветла-шэрыя вочы заусёды ўсьміхаюцца. Нібы духоўнік вечна чымсьці узрадаваны і ня можа стрымаць свайго настрою. Твар гладкі, бяз ніводнай зморшчыны, але на лобе прарыта адна глыбокая баразна, якая ніколі ня зыходзіць, і падобна да шраму. Чырвоныя тонкія губы і даўгаваты нос з чулымі рыжаватымі ноздрамі надаюць твару выраз сьмеласьці, упартасьці, зьменчывасьці, захаванага капрызу. Голас у айца Дзімітрыя мяккі з ноткамі просьбы і прабачэньня. Але гэта бывае тады, калі ён знаходзіцца ў памераным настроі, у роўнавазе пачуцьцяў. Калі часам яго выводзяць з цярплівасьці, калі ён злуецца, калі ён бывае чым колечы ўзварушаны,—тады голас яго мяняецца: ад мэталёва-басавых пераліваў пераскаквае да альтавых выкрыкаў да жаночага піску.

У гэткія хвіліны здаецца, што айцец Дзімітры практыкуецца на розныя галасы, шукае свайго голасу, сваіх манераў—і знаходзіць ня можа. Яны загублены ў пустэчах жыцьця і разьвеяны, нібы пыл пад ветрам.

Айцец Дзімітры быў да рэволюцыі настаўнікам у вясковай школе. Пасьля рэволюцыі, калі многія з выхаванцаў духоўнай сэмінарыі кідалі годнасьць духоўніка і пашлі зусім новымі шляхамі, цяперашні поп—былы настаўнік—„здау экзамэнт на папа“ (так і цяпер сяляне гавораць) і яго назначылі ў гэту парахвію.

Чаму ён так зрабіў—і цяпер ніхто добра ня ведае.

Адны кажуць, шта рэволюцыя на яго зрабіла такое адмоўнае ўражаньне—яе жорсткасьць і бязьлітаснасьць накіравала яго да бога.

Другія тлумачаць, што ен проста захацеў мець спакойнае жыцьцё духоўніка.

Трэція гавораць, што ён быў у часы рэволюцыі афіцэрам у белагвардзейцаў і, каб захаваць сваё мінулае, апрануў расу і запусьціў валасы.

Айцец Дзімітры і Язэп Крушынскі расьселіся пры стале. Пакой асьвятляла невялікая газавая лямпа. (Крушынскі ня зьняў кажушка).

— З чым бог нясе?—запытаўся айцец Дзімітры лагодным голасам з адценьнем просьбы ў тоне.

— Дзівіцеся, айцец, што каталік да праваслаўнага духоўніка прыблукаўся—запытаў у сваю чаргу Крушынскі.

Вясёлыя вочы папа пранікліва зірнулі на Крушынскага і ён з пакорай і сумам адказаў:

— Эвангельле для ўсіх хрысьціян аднолькавае. Хрыстос адзін і той самы і для каталікоў і для праваслаўных.

— Нудна зрабілася, бацюшка, і я вось прыехаў пагутарыць з вамі Чалавека жывога няма ў ваколіцы.

— І добра зрабілі, і добра зрабілі, што прыехалі. Я вельмі рад!

Поп кідаў падазроныя погляды ў бок гасьця.

— А дзе матушка?

— Яна сьпіць пасьля абеду. Прастудзілася нешта.

— І добра зрабіла!—ледзь не прагаварыў Крушынскі ў ранейшы тон папа, а замест гэтага сказаў з пашкадаваньнем:

— О-о-о, бедная. Трэба малінай напаіць і ўсё пройдзе. Як рукой зьніме!

Крушынскі быў здаволены, што „матушка“ ня прыме ўдзелу ў іхняй гутарцы. Дзяцей у папа няма—ня будзе лішніх сьведак.

— Ну й сьняжок. Ну й бела ўсюды. Аж воку люба!—пачаў Крушынскі з пагоды, ня ведаючы з чаго пачаць.

— Ніякі бялільшчык так ня выбеліць, ніякі маляр не намалюе—дадаў айцец Дзімітры.

Ён любіў устаўляць у гутарку слаўцы і пагаворкі з эвангельля. Ужываў гэта нават залішне. Нібы хацеў такім чынам моцна ахварбавацца пад колер духоўніка, каб выглядала, што ён „пасгырам божым“ ледзь не ад нараджэньня.

Крушынскі аглядаў пакой. Было надзвычайна цёпла. Нават мухі круціліся і гудзелі над сталом. Адна муха буйная, сіняга колеру, села айцу на успацелы нос. Айцец настаражыўся і застыў на месцы. Хітраватая ўсьмешка заяскравіла на твары і ён левай рукой шмаргануў па носе. Муха ўзьнялася над галавою айца і гарэзьліва села на лоб.

— Так, бацюшка,—кажа Крушынскі, нібы вядзе працяг доўгай ранейшай гутаркі.—Хутка нараджэньне Хрыста па каталіцкаму, а па праваслаўнаму будзе на два тыдні пазьней. Чаму-ж гэта для праваслаўных Хрыстос нарадзіўся ў адзін час, а для каталікаў—у другі?

Крушынскі расшпіліў кажушок на усе гузікі.

— Каталікі памыляюцца!—з упэўненасьцю сказаў айцец Дзімітры.

— Хто там разьбярэ, дзе памылка, але ў сельсавеце лішняя прычына два разы рыхтаваць антырэлігійную прапаганду.

— А вы ім памагаеце, Язэп Сымонавіч, біць нас? Вы памагаеце антыхрыстам?—усхваляваўся айцец Дзімітры.

Муха спаўзла з лобу на нос айца.

— Не... Я проста хачу з вамі, бацюшка, абмеркаваць гэту справу. Комунізм, мне здаецца, бацюшка, новай рэлігіяй, якая мае з хрысьціянствам шмат супольнага.

Крушынскі пачаў пацець.

У айца Дзімітрыя твар запалаў ад натхненьня.

— Хрыстос сказаў: „бо многія прыдуць пад імям маім, кажучы што гэта я“. Яшчэ ён сказаў: „Надыйдуць дні, у якія з таго, што вы тут бачыце, не застанецца каменя на камені: усё будзе зьнішчана“. У другім месцы напісана: „Паўстане народ на народ і царства на царства“.

Айцец Дзімітры нібы з кнігі чытаў свае словы.

Муха павандравала па носе і апусьцілася на верхнюю пульхлую і чырвоную губу айца Дзімітрыя. Яна грэбла яго па губе. Айцец моршчыўся, але махнуў рукой уніз (усё роўна ня зловіш).

— Так, шмат агульнага,—казаў Крушынскі.—Напрыклад, Хрыстос бараніў бедных. Тое самае і комуністыя робяць.

— Не да іх Хрыстос сказаў: „Я зраблю вас паляўнічымі над людзьмі“—комуністыя нашы ворагі.

Муха скраблася лапкамі і нібы моцна задумвалася над словамі айца, седзячы на яго губе.

— Але Хрыстос сказаў таксама: „любі ворагаў сваіх“—прагаварыў Крушынскі ў тон папа, хітра прыжмурыўшы правае вока.

— Адыйдзі ад мяне, сатана! Вашы комуністыя—фарысеі і кніжнікі,—зазлаваўся айцец Дзімітры.—Чаго вам ад мяне трэба, Язэп Сымонавіч?

— Я хачу вам дабра і толькі дабра, бацюшка. Ведаеце, што духоўнікам з кожным годам робіцца цяжэй жыць. Перастаюць хадзіць у божыя дамы. Народ стаў зусім іншым.

— Рахіль плача аб дзецях сваіх...—марматнуў айцец Дзімітры жалабным тонам.

Адзін плач тут не паможа, бацюшка, трэба нешта больш разумнае рабіць. І вам, бацюшка, жыць трэба. А як усё ў вас забяруць, дык з чаго жыць будзеце?

Крушынскі моцна спацеў.

— Зірнеце на птушак нябесных: яны ня сеюць, ня жнуць...—на сьпеўны лад сказаў айцец Дзімітры.

— Ну і капаюцца яны ў конскім гноі, корму сабе шукаючы—засьмяяўся Крушынскі.

— Навошта вы мне ўсе гэта гаворыце, Язэп Сымонавіч? Я прасіў у вас рыбы, а вы даеце мне зьмяю. Чаго вы ад мяне дабіцца хочаце?

Пры гэтых словах муха ўсадзіла айцу вострае зягло ў самую мякаць верхняй губы. Ён злосна ляснуў сабе рукою у губы. Аж сьлёзы пакаціліся з вачэй.

Муха выскачыла цэленькая спаміж яго растапыраных пальцаў і ўпарта загудзела над яго вухам.

— Я хачу толькі аднаго, каб і вам і ўсяе вашай парахвії добра жылося... Гэта залежыць ад вас, бацюшка.

— Ад мяне?! —зьдзівіўся айцец Дзімітры,—не ад бога, госпада нашага, а ад мяне?!

— Ад вас, бацюшка, вядома, і пры божай дапамозе,—спакойна гаварыў Крушынскі.—Ад вашай спакоры...

— І Хрыстос гаварыў аб спакоры. Калі паб'юць цябе ў адну шчаку, падстаў дру...

Айцец не дагаварыў. Муха моцна ўкусіла яго за вуха. Ён ляснуў рукою па вусе і... труп божай жывёлінкі пакаціўся і завіс у жоўтых хмызьнячкох папоўскай бароды. Яна загінула ў змаганьні за свой дабрабыт.

— Айцец! Гэта-ж вы супроць сваіх сьвятых слоў зрабілі! Чаму-ж не падставілі пад укусы мухі другое вуха?

— Я... я...—здэтанаваўся поп,—моцна падла кусаецца...

— Нічога, айцец. Ваш учынак правільны. Другую шчаку падстаўляюць толькі тады, калі моцны б'ець... Перад моцным, айцец, дапамагае толькі спакора. Аб спакоры я прашу вас...

— Усякі просячы атрымае, а шукаючы знаходзіць,—супакоіўся поп.

— Калі так, дык вельмі добра будзе! Мы з вамі, бацюшка, добрую справу наладзім. Я казаў, што новая рэлігія надыходзіць. Зёрны ва ўсіх рэлігіях адны і тыя самыя. Толькі каласы трохі інакш выглядаюць. Той самы гарох, але струкі інакшыя. Трэба ўмець лушчыць гэтыя новыя струкі, каб знаходзіць стары гарох. Для новай рэлігіі і новыя духоўнікі патрэбны. Старыя не гадзяцца. Вы нядаўна толькі папом зрабіліся. Вы яшчэ не ўкаранелы поп. Рабецеся чырвоным папом! Розьніца толькі ў расах, а нутро тое самае.

Пот капаў з твару Крушынскага на кажушок.

— Юда Іскарыёт!—крыкнуў на яго злосна айцец Дзімітры.

Ад хваляваньня ён скуб сваю рэдкую бародку, пачаў хадзіць туды і сюды па пакоі, махаў рукамі, ноздры ў яго разьдзьмухваліся. Але ў вачох заставалася ранейшая ўсьмешка...

Муха скацілася з барады на жывот айца, а з жывата—на падлогу.

Крушынскі спакойна за ім назіраў.

Айцец Дзімітры зноў сеў.

Ён пачаў просячым голасам:

— Калі распускаюцца кветкі, ведаеце самі, што лета—блізка. Кветкі вашых слоў, Язэп Сымонавіч, распушчаны. Але якая пагода будзе ад іх—ня ведаю. Свайго духоўнага сану ня кіну.

— І вельмі разумна зробіце. Яшчэ лепш зробіце, калі новыя ідэі будзеце праводзіць у казаньнях з царкоўнага амбону. Тыя самыя ідэі, аб якіх калісьці Хрыстос гаварыў...

Пот ліўся з твару Крушынскага маленькімі ручаінкамі. Ён выглядаў як заплаканы.

— Комуністыя ня веруюць у Хрыста...

— Я-ж вам, бацюшка, казаў аб гаросе і струкох: гарох—той самы. Нутро тое самае. Толькі струкі інакшыя.

— Вось так і Вэльзавуль Хрыста спакушаў! — рэзюмаваў словы Крушынскага айцец Дзімітры.

— Я зусім не спакушаю, а жыцьцевую практыку тлумачу. Камень на хлеб цяпер не пераробіце. Ваду ў віно не перавернеце, бацюшка. Вы застанецеся пры каменьнях і вадзе.

Эвангелічнае параўнаньне зрабіла уражаньне на папа.

— Дык што-ж вы ад мяне хочаце?

— Спакоры, хрысьціянскай спакоры і пашаны да ўлады. Той моцны, бацюшка, хто не ламаецца, а толькі гнецца...

Крушынскі пры гэтым тарганууў плячыма. Сьпіна была мокрая ад поту.

— Я шаную ўладу, бо кожная ўлада ад бога. Я спакорлівы, бо так у сьвятым пісьме загадана.

— Трэба яшчэ камень на хлеб перарабіць...

Айцец Дзімітры усьміхнууся ня толькі вачыма, а нават пад абскубанай рэдкай барадкай зайгралі зморшчынкі сьмеху.

Крушынскі расказвау, што у сельсавеце сяляне дамагаліся, каб забраць пад школу дом бацюшкі, але ён адгаварвау.

Да позьняй ночы сядзеу Крушынскі у айца Дзімітрыя. Яшчэ многімі тэкстамі з эвангельля аздабляу поп сваю гутарку.

— Ой як вы спацелі Язэп Сымонавіч, зьнімеце кажушок!—сказау поп тады, калі госьць ужо выбіраўся дамоу.

— Не, трэба ехаць—адказау Крушынскі і выцер пот рукавом.

Пасьля гэтага візыту поп у казаньнях часта успамінау комунізм, прыводзіў прыклады з эвангельля, з старых часоў хрысьціянства.

Скрыні з таварамі Крушынскага часта прывозіліся на сховы да папа.

Так Крушынскі кончыу з антырэлігійнай справаи мінулай зімою.

Пасьля гэтага Крушынскі завеў з айцом Дзімітрыем вялікую дружбу.

Пра айца распаусюджваліся чуткі, нібы ен хоча зусім адмовіцца ад духоунага сану.

Крушынскі стараўся рознымі спосабамі зьняпраўдзіць гэтыя чуткі. Ен, пэуна, не парэдзіу-бы айцу Дзімітрыю гэта рабіць, бо ўсё роўна на парахвію прыслалі-б іншага папа.

— Айцец Дзімітры у сане папа вельмі добра працуе на карысьць рэволюцыі,—гаварыу часта ў сельсавеце Язэп Крушынскі.—Ен павольна і грунтоуна падрыхтоўвае парахвіян да бязбожніцтва. Ен сьцне з сябе расу толькі тады, калі новы поп, які будзе прысланы сюды рознымі Мэльхісэдэкамі, ужо ніякага уплыву не патрапіць зрабіць на сялян.

На стале ў спальні Язэпа Крушынскага ляжала маленькая стопка газэты „Беларуская Вёска“—таго нумару, дзе быў яго портрэт і артыкульчык аб культурнай гаспадарцы Курганішча.

Газэт было ўсяго пяць штук. Апошнія з рэдакцыі забраў.

У горадзе, у завірусе розных спраў і хваляваньняў, Крушынскі не зьвярнуў увагі на гэтыя газэты, на хвальбу, якая ў іх аб ім надрукавана. Хаця на вечарыне ў яго стрыечнага брата аб артыкуле гаварылі спачуваюча і пахвальна.

Тут—у ціхім Курганішчы зусім ня тое.

Ён перачытваў артыкульчык аб сабе многа разоў, кожны раз па чарзе ў іншым нумары. На памяць вывучыў, як прыгожую песьню.

Літары, словы, радкі і кожны абзац паасобку мітусіліся ў яго зрокавай памяці намаляванымі маленькімі атрадамі войску, якое бараніла яго і разносіла аб ім славу далёка-далёка.

Ён так удала сфальсафаў газэты, што портрэт з тэкстам да яго знаходзіліся ў цэнтры. Хоць ты зараз устаў у залатую раму!

Так былі зложаны ім усе пяць газэт і раскладзены на стале па парадку, паасобку. Пяць яго ўласных портрэтаў пазіралі сур'ёзна, пранікліва і паважна. Ён пачаў шанаваць самога сабе яшчэ болей, чым заўсёды.

... І портрэты і хвальба аб ім расьсеяны па ўсім краі і па замежамі краю многа-многа тысяч...

... Шмат народу чытае, уяўляе яго, як гэроя—гэроя працы і культуры. Ён служыць добрым прыкладам для іншых. Яму зайздросьцяць. Ім ганарацца. Ён адна з апораў рэспублікі.

Ён уяўляе сабе вялізны дождж газэт з яго портрэтам па ўсіх беларускіх вёсках, мястэчках і гарадох.

Хто расчыняе газэту, бачыць яго—Крушынскага, чытае і думае аб ім...

... Чытаюць звычайныя людзі, але чытаюць і камісары.

Ён чуе шастаньне газэты ў тысячах рук, чуе мармытаньне людзкіх губ. Яны ўсе гавораць аб ім, запамінаюць прозьвішча:

„Крушынскі“.

„Крушынскі“.

„Крушынскі“.

Пасьля расказваюць аб ім тым людзям, якія ня чыталі гэтага нумару „Беларускай Вёскі“.

Ён цяпер знаходзіцца ня толькі тут, у Курганішчы, але ў многіх мясцох—ва ўсіх тых хатах, дзе чытаюць „Беларускую Вёску“, красуецца яго духоўнае аблічча.

Такім чынам яго, Крушынскага, ведаюць усе, ведаюць з таго добрага боку, з якога ён стараецца паказвацца перад людзьмі,—з якога хоча, каб яго бачылі.

Яго бачаць.

Так пільна і з пашанай глядзяць на яго, ажна нейк нялоўка яму—нялоўка і надзвычайна прыемна ад нялоўкасьці. Яму здаецца, што нават хатнія інакш на яго цяпер пазіраюць.

Яму трэба цяпер адмовіцца ад усяго іншага і займацца выключна сельскай гаспадаркай. Тады аб ім ня толькі ў газэтах пісаць будуць, але нават кнігу надрукуюць.

... Натое-ж рэволюцыя! Цяпер многа аб кім пішуць кнігі.

Ён пачынаў агітаваць самога сябе:

— Кінь ты, Язэпка ты, (успомніў выраз Зэліка) свае гандлёвыя справы! Кінь! Глядзі, лепш будзе, калі адчэпішся ад гэтай смалы. Тады ўсе бакі твае будуць чыстыя. А то, Язэпка ты, выглядаеш, нібы ў цябе шоўкавая вопратка на зрэбнай падкладцы. Кінь, гад, Язэпка ты! Кажу табе, кінь!

Лаіў самога сябе.

Ён пераходзіў ад настрою да настрою: і за і супроць сваіх цёмных, гандлёвых спраў.

Нібы пераскокваў праз высокія парканы, брыў па невядомых палёх, перасечаных між сабою глыбокімі канавамі і ручаямі. У кожным з гэтых палёў быў іншы клімат. У адзін і той самы час на адным полі— зіма, на другім—лета; на адным—вясна, на другім—восень.

Яму то холадна, то горача.

— Кіну! Раз назаўсягды буду займацца аднэй чыстай справай— культурнай сельскай гаспадаркай. Курганішча зробіцца цудоўным садам, куды будуць прыяжджаць дзівавацца з усіх краін Саюзу. Калі ўвесь аддамся гэтай справе, тады ня тое будзе, што цяпер. І ўсе страхі зьнікнуць! Раз пакончу з гэтымі паганымі хованькамі!

Пры гэтых думках у Крушынскага твар прымае выраз адвагі гэроя і нявіннасьці дзіцяці.

— Але... але многія (праўда, прыяцелі) ведаюць аб маіх сакрэтных учынках і ўсё роўна плямы ня змыеш... Айцец Дзімітры што скажа... Як ні круцішся, а ня змыеш.

— Пляма?!—гневаецца Крушынскі на самога сябе,—якая пляма? Дзе? Няўжо-ж, Язэпка, ты забыўся, што бяз грошай нічога ў цябе ня выйдзе? Няўжо-ж ня ведаеш, што нават па марксыцку экономіка—усё на сьвеце? Няўжо-ж я буду чакаць, пакуль мне хто дасьць дапамогі? Каб кінуў гандаль, дык быў-бы невялікім разумнікам і не малым дурнем.

І Крушынскі разважаў далей:

— Калі набуду шмат грошай, тады мая гаспадарка стане на моцны грунт. Прыемнае заўсёды злучана з няпрыемным. І рэволюцыя, заваёвы яе былі зьвязаны з рознымі няпрыемнымі ўчынкамі. Я змагаюся за тое, каб добра ў сябе, на паказ іншым, паставіць гаспадарку. На гэта патрэбны сродкі. Ну й вось... Каб есьці смачнае пахучае сала, трэба рэзаць парсюка. Каб расло прыгожае збожжа, трэба гнаіць поле. Каб...

Гэтых „каб“ набралося ў яго многа. Ён часта бываў у айца Дзімітрыя, вёў з ім гутаркі. Эвангелічны стыль папа пераняў трохі і Крушынскі. Ня то, каб навучыўся эвангельлю, але спадабалася манера папа сыпаць параўнаньнямі, у вобразнай гутарцы выказваць філёзофскія думкі.

— Сам дапамажы!—*жартуюць бабы.*

Сьмяюцца. Граюць сярпамі, іскрамі зрэнкаў і белымі зубамі.

— Эх...

Нават жнейкі яго не разьвесялілі.

— Вось табе і знаходка! Усе на вёсцы, як глянуць на мяне, так і кажуць, так і шэпчуць: „знаходка! знаходка! знаходка!“

Няўжо-ж каменьне на дарозе разумее яго бармытаньне? Спачувае Цыпруку?

— Знаходка... знаходка...—шэпча ён.

---

Такі час.

Жнуць жыта і ў Курганішчы. Жнеяк на полі каля рэчкі многа. Сакочуць, як куры, шчабечуць, як птушкі.

І чаго ім так весела? Напрацаваліся за дзень, а ім хоць-бы што— сьмяюцца, жартуюць. Яны да чырвана накалілі на сонцы рукі (галовы пакрыты хусткамі). І куды не пранікае сонца? Падсмажвае ўсё цела чалавечае, як на гарачым вугольлі: у дзяўчат-жнеяк ікры таксама сьпечаны сонцам, цёмнабурыя, поўныя, пругкія і набітыя знутры нечым цьвёрдым і круглым. А ступні—чорныя, патрэсканыя ад гразі і ветру, ад хлеўнага гною.

Сонца заходняе топіцца ў шызых валокнах хмар, бляднее.

Гоняць з поля стада. Наперадзе бягуць сьвіньні—крычаць.

— Заўтра дождж будзе, ці што?

Ластаўкі кружацца над вадою, апускаюцца, беленькія камізэлькі ледзь не дакранаюцца да сіняй прахаладзі вады; пішуць сталёвымі адшліфаванымі крыльлямі па вадзе; пішчаць, літасьці просяць, трывожацца.

— Заўтра дождж будзе, ці што?

Так варожыць на пагоду стары Цыпрук.

Ён апынуўся ў Курганішчы. Не пашоў дамоў, а іншай дарогай сюды прывалюхаў. Пацягнула... Яму трэба пагаварыць з Крушынскім аб вельмі важнай справе.

Не знайшоў гаспадара ў хаце і пайшоў на поле.

І тут яго няма.

Жабы пад нагамі скачуць.

— Заўтра дождж будзе, ці што?

Ён трывожыцца:

— Цяпер патрэбна пагода.

Цыпрук пашоў начаваць да старога селяніна, дзе быў у мінулы раз.

Неба было хмурае, калі раніцой Цыпрук стаяў на дварэ ў Курганішчы.

Прысеў на ганку.

Ледзь дачакаўся гаспадара.

Зусім ветла, нават з усьмешкаю, сказаў Крушынскаму „дзень добры!“

— Маеце да мяне справу?—запытаўся Крушынскі і зусім у другі бок глядзеў.

Цыпрук пацерабіў бародку і апусьціў галаву, як вінаваты. Яго голас быў трохі прыдушаны, шапатлівы і хрыплы:

— Памятаеце, як вы анэгды перагналі мяне на дарозе? Вы ехалі тады з аграномам, што ў мяне начаваў, ці што?

Крушынскі зірнуў на яго схаладзелымі вачыма.

— Памятаю.

— Я знайшоў ваш пакунак—сукно... У вас выпала з возу...

Крушынскі таргануў левай нагою.

— Што? Які пакунак?!

— Ну, кортрабанда, ці што?—прахрыпеў Цыпрук.

— Ніякіх пакункаў ня ведаю і ня губляў!—цьвёрда адрубаў Крушынскі.

— Як не? Адразу знайшоў пасьля вас. Вы шыбка паехалі. Крычаў, хацеў дагнаць і ня мог,—схлусіў Цыпрук.

Крушынскі ціскаў плячыма, круціў двума пальцамі правы вус і дзівіўся.

— Апамятайся, стары! Што ты?!

Ен палажыў Цыпруку руку на плячо і зацікаўлена запытаўся:

— Што ты зрабіў, дзядзька, з гэтым пакункам?

— Я то нічога не зрабіў, зрабілі чырвонаармейцы. Арыштавалі мяне.

Цыпрук усё расказаў.

— Мой сын Мікола—рабфакавец, кажа, што гэта ваша кортрабанда, што на вас напіша.

— На мяне?! Што ты, дзядзька! Апамятайся! Мала людзей езьдзіць па дарозе. Гэта-ж сьмех. Вельмі шкода мне цябе, дзядзька, што карову прадаў на штраф, але пры чым тут я?

Крушынскі гладзіў плячо старога і ўсе гаварыў:

— Шкода, шкода.

Цыпрук усхліпваў:

— Праўда, я і Міколе, сыну свайму, сказаў, што ня ваша віна. Хто будзе губляць такое дабро? Сьмех адзін, ці што?

— Зайдзі, дзядзька, пасьнедаць,—папрасіў Крушынскі.—А я бягу, часу няма.

Крушынскі пашоў у кузьню, скуль чуваць быў звон малатка. Там быў Рахмілька.

— І чаго я валокся блізкі сьвет нямаведама куды?—пытаўся сам у сябе стары Цыпрук.

Ен ішоў з Курганішча дамоў. На дарозе нікога ня было. Толькі водаль па сьцежцы дыбаў чалавек.

— Нічога ня будзе з гэтага. Дарма прычапіўся да гаспадара Курганішча, прыстаў, як бярозавы ліст да...

Кінуў вачыма на дарогу. Зьдзівіўся.

— Нячыстая сіла арудуе?

— Зноў д'ябал круціць?

— Ці не шаптунова работа?

Такія запытаньні задаваў сабе Цыпрук і, як укопаны, спыніўся.

Перад ім каля самых ног ляжала невялічкая белая хустачка, зьвязаная ў вандзэлачак...

— Зноў знаходка ці што?

У Цыпрука задрыжэлі рукі. Ён азірнуўся па бакох.

— Нікагусенькі няма... Той чалавек пашоў полем, у бок...

— Не! Пайду...

Цыпрук зірнуў на маладую бярозку, што стаяла застыглая на мяжы, перажагнаўся, плюнуў і, адышоўшы на тры крокі ад знаходкі, адвярнуўся тварам да белай хустачкі.

Рашуча падышоў, нагнуўся і падняў...

У хустачцы шуршаць паперкі.

Разьвязаў.

Вочы ў яго шкляныя—ад сполаху:

Пяць чырвонцаў па дзесяць рублёў...

— Божа літасьцівы! Няўжо гэта праўдзівыя грошы?!

Сунуу за пазуху, да „тых“, што Падласая II на памятку пакінула, палажыў хустачку на тое самае месца і пашоў.

Ішоў хутка. Не адглядаўся. Адчуў вільгаць поту пад кашуляй каля поясу. Сэрца малаціла ў грудзёх, выстуквала:

— Знаходка!

— Знаходка!

— Знаходка!

На мяжы стаяла бярозка, шчупленькая, з тоненькімі галічкамі, з кволымі лісткамі.

Каб яна мела вушы жывой істоты, дык прыслухоўвалася-б да мяккага лапцёвага тупату Цыпруковых ног і пачула-б у яго кроках захаваную трывогу. Каб мела вочы, дык з цікавасьцю глядзела-б, як постаць Цыпрука драбнее-малее на дарозе, расьце ўніз і вось хаваецца за глiністым, рудым касагорам. Схавалася.

Няма тут Цыпрука. Нібы не шліфаваў ен на гэтым месцы гасьцінцу стоптанымі лапцямі.

Жывыя вушы і вочы ў Рахмількі: ён чуе і бачыць.

Твар яго бяз голасу сьмяяўся, калі вярнуўся з поля на дарогу.

— Ну і дзівак Крушынскі! Сапраўды дзівак! Гэта-ж трэба кідаць пяцьдзесят рублёў на дарогу, каб селянін потым не брахаў, што ён, Крушынскі, контрабандай займаецца!

Рахмілька спыніўся каля бярозкі і зьдзівіўся:

— Вось чорт стары! Не падняў...

Белая хустачка ляжыць на тым самым месцы, нібы камок сьнегу.

— А, здаецца, доўга тупаўся тут стары шэльма. Здалёку бачыў...

Рахмілька падышоў да хустачкі, апусьціў на яе руку, асьцярожна павольна, нібы ў глыб вады, і падняў парожнюю хустачку.

Гучны і шчыры рогат Рахмількі калыхаўся ў паветры над дарогай разнагалоснымі выбухамі.

Аб знаходцы грошай Цыпрук расказаў толькі жонцы. Яны абодвы трымалі гэты сакрэт за зубамі, нават дзецям не расказвалі. Заплацілі пяцьдзесят рублёў штрафу і купілі другую карову.

Дзівіліся суседзі:

— Адкуль у Цыпрука грошы?

— Мо' сапраўды контрабандай займаецца?

Цыпрук маўчаў.

У яго быў такі настрой, нібы зусім забыўся аб контрабандзе і штрафу. Ён быў рад, што ў яго цяпер маладая кароўка—рабенькая, жваменькая, на кароткіх нагах, вялікае вымя. Забыў Цыпрук і пра Падласую II. Даўно-б розныя крыўды Цыпрукова сэрца, як іржа, пераелі, каб стары не забываўся...

Толькі яго малодшы сын, рабфакавец Мікола, не забыў аб штрафе за контрабанду.

Памагаючы на працы ў полі, ён быў хмуры і маўклівы. Яго шэрыя вочы закапаліся глыбей у падлоб'е, часта сыпалі вострымі іголкамі злосьці, зарасьнікі брывей насоўваліся на іх грозна. Шырокі скуласты твар рэдка ўсьміхаўся, і выглядала, нібы на свой ранейшы вясёлы твар Мікола насунуў маску.

Ён пару разоў пробаваў гаварыць бацьку аб сораме, аб пляме, якая асталася ад знаходкі сукна і штрафу за контрабанду.

Стары не разумеў яго.

— Гэта можа мне нашкодзіць. Скажуць: бацька контрабандыст, прагоняць з унівэрсытэту.

— Глупства гаворыш, ці што? Ніякай контрабанды тут ня было. Ты-ж, сынок, хіба верыш мне...

У вольны ад працы час Міколе хацелася чытаць. (Хата-чытальня была ў суседняй вёсцы за восем вёрст). Браў кнігі выпадковыя ў выпадковых людзей.

Часта заходзіў Мікола да старога матроса Сьцяпана Солаха. Той быў матросам дзесяць год, ад 1906 да 1916 году. Потым яго збракавалі, і ён вярнуўся ў вёску на гаспадарку. Адзнакі матроса і „былой славы" засталіся ў Сьцяпана Солаха і па сягонешні дзень як у выглядзе і ў гутарцы, таксама і ў хадзе наогул.

У Сьцяпана Солаха была яшчэ да гэтага часу матроская вопратка. Насіў штаны навыпуск, шырокія, з клёшам. А на нагах—лапці, бо ня мог купіць абуцьця. Жыў бедна.

Сьцяпан Солах часта расказваў Міколе аб ваколсьветных плаваньнях на караблі, аб розных землях і народах. Паказваў паштоўкі з малюнкамі розных краёў зямлі, як ілюстрацыі да сваіх апавяданьняў. Паказваў прыгожыя медзяныя скрынкі і шкатулкі, якія прывёз з сабою з карабля, і банкаўскую кніжку на шэсьць тысяч рублёў. Гэтыя грошы сабраў ён за час службы, але яны прапалі ў банку.

У Сьцяпана Солаха была адна кніга—„Война и мир" Льва Талстога. Рабфакавец кожны раз пазычаў у былога матроса гэту кнігу і перачытваў яе. Князі і графы, розныя княгіні і графіні, далікатныя,

прыгожыя, разумныя, стаялі перад ім, як жывыя. Як чытаў першы раз гэту кнігу, дык той час, тыя людзі здаваліся яму вельмі прывабнымі. Але з кожным разам „Война и мир“ адчыняла перад ім новыя далягляды, будзіла новыя думкі. І—ці хацеў гэта аўтар кнігі, ці не—на гэты раз князі і графы таго часу пачалі выклікаць у пачуцьцях рабфакаўца агіду. Ён бачыў тут нешта чужое, далёкае.

Хадзіў ён да Сьцяпана Солаха яшчэ дзеля таго, што два чалавекі яго там цікавілі—дзед і сын матроса.

Дзеду—Мірону Солаху стукнула ўжо за дзевяцьдзесят гадоў. Дзед вечна, і зімою і летам, сядзеў на печы. Ён быў маленькі, згорблены. Валасы на барадзе калісьці (як памятае Мікола) былі белыя, цяпер жоўта-зялёныя і выглядаюць як скомканы сухі мох.

Дзед калісьці быў бортнікам. Меў каля пяці дзесяткаў калод пчол. Ён любіў лазіць на дрэвы.

— Я-бы і цяпер лазіў,—ня раз гаварыў ён шамкаючымі губамі,—але палякі зьнішчылі ўсе калоды. Мёд я прадаваў, а з воску сам сьвечкі рабіў і раздаваў па цэрквах за дваццаць або трыццаць вёрст. Пехатой у Менск хадзіў са сьвечкамі. Усе папы мяне ведалі. Заўсёды пехатой трапаў, каня шкадаваў, каня,—паўтараў дзед гэта слова.

Мікола ўжо ведаў. што далей будзе гаварыць дзед. Стары бортнік кожны раз паўтараў адно й тое самае:

— Надта каня любіў, каня. Ён быў гняды, разумны, як чалавек. Ды што я кажу?—Разумнейшы і лепшы за нашых дурняў!

У патухшых вачох дзеда блішчэлі агоньчыкі.

— Б'ала (бывала), пушчу Гнядога на пашу на цэлы дзень. Няхай сабе ў шкоду ідзе! Зямля была мая. Усе тутэйшыя Солахі мае ўнукі і праўнукі. Цяпер у іх малыя палоскі зямлі—вечна дзеляцца і зямля драбнее. Гняды сам пасьвіўся. Выйду, б'ала, на двор і сьвісну тры разы...

Дзед складваў сухія зморшчаныя губы ў трубку.

— Сьвісну тры разы.—Як заіржэ Гняды, як пусьціцца бягом дадому, стане каля мяне і пачне, як сабака, рукі мне лізаць. Разумны быў конь! А потым... эт!

Пры гэтым стары бортнік махаў пажоўклымі кручкамі пальцаў правай рукі.

— Дванаццаць гадоў жыў у мяне Гняды. Я на сваіх плячох насіў дровы з лесу, зімой на саначках вазіў, а Гнядога шкадаваў. А потым палякі яго падстрэлілі. Не даваўся ім у рукі, як забраць у абоз хацелі. Нікому Гняды (апрача мяне) у рукі не даваўся—волю любіў. Сам яго закапаў на гумне. Эт!

Стары ківаў сухой галавою. Вочы ў яго патухалі і глядзелі на сьцяну ў нейкую аднаму яму відочную далеч.

Стары бортнік і сын яго—матрос царскай службы—жылі сваім мінулым.

Зато ўнук, Саўка, жыў будучыняй.

Саўцы семнаццаць гадоў. Ен высокі, як жэрдка, тоненькі, з доўгімі рукамі, румяны, бы яблык, і сарамяжлівы, як дзяўчына. Сёлета скончыў сямігодку ў блізкім мястэчку. Саўка рыхтуецца быць пісьменьнікам. Ужо гады два як займаецца пісанінай. Прыносіць чытаць Міколе-рабфакаўцу. Анэгды паскардзіўся, што бацька са злосьці (Саўка не павёў каня на начлег) парваў усе яго творы—працу за два гады. Праўда, яго творы яшчэ нідзе ня друкуюць, але шкода...

Мікола, як мог, пацяшаў яго: ён яшчэ малады, яшчэ многа новага напіша. Але Саўка быў смутны.

Саўку ўвесь час мучылі два пытаньні:

— Аб чым цісаць і як пісаць.

Мікола, які быў у яго крытыкам, „дазваляў“ яму пісаць аб усім тым, што бачыць і чуе.

— Можна даваць пекныя малюнкі нашай прыроды. Вось „Гарадок“ апісаў-бы. Таксама варта апісаць дзеда Мірона, бо такія людзі выводзяцца. Можна апісваць усё!—раіў яму Мікола.—Шкада, што я сам ня ўмею пісаць. Так вось, здаецца, думаю-думаю, а як вазьмуся за пяро, дык нічога ня выходзіць!

Але галоўным чынам Саўка мучыўся над пытаньнем, „як пісаць?“

— Вершам, апавяданьнямі, або проста ў форме артыкулаў?

Кожная з гэтых трох літаратурных формаў цягне да сябе, мае перавагу над іншымі формамі.

Вершы вабяць рыфмамі, напеўнасьцю—той напеўнасьцю, якую Саўка чуе на кожным кроку: хлопцы і дзяўчаты частушкі сьпяваюць, гармонік грае. Усюды, дзе толькі ёсьць радасьць або сум, там галоўнаю госьцяй—песьня. Нават вада пад млынавым калясом сьпявае, выдае тахт.

Апавяданьне, аднак, лепш тым, што ня трэба галаву ламаць над рыфмамі, над якімі часта прыходзіцца Саўцы пацець. Часам рыфма як закруціць яго, як замуціць, як пацягне на сваім павадку ў вір, дык усе думкі, усе настроі паймчацца зусім у новы бок. А ў апавяданьні ен можа тое самае сказаць, толькі бяз крутні, можа разгарнуць думку і малюнак велічынёю ў жытняе поле, у лес...

Артыкул мае таксама свае добрыя бакі ў той час, калі, пішучы апавяданьне, прыходзіцца нешта выдумваць і хлусіць, у артыкуле даеш толькі голую праўду, як яна ёсьць. Ці не даражэй і за вершы і за прозу гэта „голая праўда“?

Пры такіх думках сьветла-шэрыя дзіцячыя яшчэ вочы Саўкі робяцца больш задуменымі. Ён бянтэжыцца. Быццам тры дзяўчаты завуць яго да сябе, адна да аднэй не падобныя, але ўсе яны красуні. Якую любіць? Быццам Саўка піць хоча, а перад ім тры крыніцы з чысьцюткай і смачнай вадою. З якой крыніцы піць?

Піша ён і вершы, і апавяданьні, і артыкулы. Разрываецца на часткі. Пасылае ва ўсе рэдакцыі. Нідзе пакуль што ня друкуюць...

Ён часам у роспач упадае. Тады яго дух падтрымлівае Мікола. Любіць Мікола гэту сям‘ю. Часта сьвідруе Міколу контрабандная

знаходка яго бацькі, пляма, якая пяпер на ім ляжыць і можа нашкодзіць. Але пойдзе да Солахаў і забывае.

У гэтай сям'і ён бачыць сымболь трох пакаленьняў: мінулае, сучаснае і будучыну. Ён з цікавасьцю глядзіць на гэты твор (не літаратурны) самога жыцьця.

Сымболь розных пакаленьняў Мікола бачыць ня толькі тут у сям'і Солахаў, але ўсюды. Нават на рабфаку ў Менску.

Паміж старымі настаўнікамі і студэнтамі часта пачынаюцца спрэчкі на лекцыях. Галоўным чынэм пры выкладаньні гісторыі. Пры ім-жа выставілі аднаго настаўніка. Той тлумачыў розныя гістарычныя падзеі ня так, як трэба. Настаўнік ідэалізаваў расійскую інтэлігенцыю, „царя освободителя" і г. д.

Сустракаўся Мікола і з студэнтам Ленінградзкага унівэрсытэту, які прыехаў сюды зьбіраць народную творчасьць і вывучаць быт вёскі.

Ня вельмі цягнула Міколу да гэтага чалавека, апранутага ў шэры элеганцкі гарнітур, за лішнюю, прыкрую далікатнасьць. Ня любіў яго за гладкі, выпешчаны твар, за прыжмураныя вочы, у якіх заўважвалася пагарда да ўсяго вакольнага. З нейкай цынічнай пахвальбою студэнт расказваў Міколе аб тым, як цяжка было яму паступіць ува унівэрсытэт за бацькавыя грашкі (за якія грашкі і хто яго бацька не расказваў), але памог адзін выдатны профэсар унівэрсытэту—яго родны дзядзька.

Аднаго разу Мікола з студэнтам сядзелі на гумне. Гутарылі аб новым быце.

Студэнт даказваў, што забабоны ў народзе, якія гадаваліся тысячагодзьдзямі, яшчэ моцна жывуць у псыхіцы сялян і будуць жыць.

Мікола горача спрачаўся, гаварыў адваротнае.

— А дзікія забойствы ўсюды?—пытаўся студэнт.—За той час, што я тут жыву (а жыву я тут усяго два тыдні) аж тры забойствы былі! На вечарынцы аднаго дзяцюка зарэзалі. За тры вярсты адгэтуль сын роднага бацьку прыстукнуў. І за пяць вёрст на хутары Зялёны Бор хлопец сваю каханку ў студні ўтапіў.

— Гэта пераходны час!—тлумачыў Мікола.—Культуры ў нас яшчэ мала. А тое, што вясковыя хлопцы, як галодныя, да навукі рвуцца, гэта, павашаму, нічога? Бадай кожная вёска мае свайго поэта, селькора. Мы, моладзь сялянская, ірвемся цяпер да навукі да культуры, носячы ў душы тысячагадовую смагу... Сяляне вырываюцца цяпер з турмы цемры і забабонаў... Пры лучыне кніжкі чытаюць...

— Ваша захапленьне падобна да захапленьня Саўкі пісанінай. Яго яшчэ ня друкуюць. А вашы мары аб лепшым жыцьці, пакуль што яшчэ марамі астаюцца.

— Гэта ня мары, а сапраўднасьць. Трэба толькі змагацца, каб больш сялянскіх дзяцей у школе вучылася.

— З кім змагацца будзеце? Ваша змаганьне будзе падобна да змаганьня паміж вершам і прозай у Саўкі.

— Ён і вам расказвае аб сваёй творчасьці?—накіраваў Мікола гутарку ў новы бок.

— А як-жа! Сягоньня чытаў мне свае новыя рукапісы. Старыя яго бацька парваў.

Мікола і студэнт сядзелі на камені за токам, на некалькі хвілін спынілі спрэчкі.

Мікола расчуліўся ад сваіх уласных слоў. Студэнт курыў папяроску і задумёна пазіраў на шызы дымок, які струіўся ледзь прыкметнымі тоненькімі істужкамі.

Быў заход сонца.

Дзесьці іграла труба пастуха. Выдавала гукі, нібы рог паляўнічага. Чырвона-крывавы дыск сонца стаяў нізка ад зямлі, відавочна апускаўся. Мікола заўважыў, як у студэнта ружавелі вушы, запаленыя сонцам. Тры высокія і тонкія дубочкі стаялі сярод поля, як дазорцы. Стромкія, роўныя, з кучмамі зялёных лістоў вызначаліся на смугласінім небе.

З поля чуваць была жніўная сумная песьня.

— Баюся, што песьня возьме верх над прозаю ў творчасьці Саўкі!—сказаў студэнт ні то жартам, ні то сур'ёзна.—Сотні гадоў нашых сялян падтрымлівала песьня. Песьняю Беларусь была адваявана.

Мікола гучна зарагатаў:

— А Кастрычнік? А чырвонаармейцы? А партызаны?

— Іх усіх будзіла песьня.

— А ці ня будзіла іх да змаганьня кепскае жыцьцё? зьдзекі над імі багатых людзей?

Студэнт маўчаў.

Мікола на яго падазрона зірнуў. Вушы ўжо ня былі празрыстыя і ружовыя.

Сонца зайшло.

Тры бярозкі пацямнелі. Трышчэлі конікі. Пахла мёдам і скошанай травою. На блізкіх шнурох зелянелі аўсы.

Гаспадыня Цяцера,
Ці гатова вячэра?

Так сьпявалі жнейкі, ідучы з поля.

Зноў думкі Міколы накіраваліся да конфуза бацькі—да знаходкі контрабанды.

— Даўно ня бачыў такіх прыгожых пэйзажаў!—перабіў яго трывожныя думкі студэнт.—Шкада, што хутка трэба ехаць адгэтуль. Глядзеце, як неба цямнее, лес робіцца задумёным і пагрозным... Вунь „Гарадок“ зусім ужо чорным ценем пакрыты. Быццам на яго чорную дзяругу накінулі. Эх... Люблю старасьветчыну!

На блізкім полі засьвяціўся агоньчык. Агнёвыя язычкі скакалі, выцягваліся, прымалі розныя формы.

У паветры зьвінела песьня:

Мядзьведзь кару дзярэць-у-у-у...
А зайчына дамоў ідзець-у-у-у...

Агоньчык скакаў па іржаньні. Неба цямнела, а агоньчык ярчэў.

Здавалася, што сама зямля выдае гукі песьні. Здавалася, што там, дзе блішчыць маленькае вогнішча, зусім іншы сьвет—цікавы, вабны.

— Няйначай, на нашым полі!—усхапіўся Мікола.—Ідзем глянем.

Яны шыбкім крокам пусьціліся да агня.

Вогнішча апусьцілася нізка. На выгарэлым іржані ляжала кучка шызага попелу. Над агоньчыкам кружыліся матылькі.

Старая маці Міколы ўсё падкладвала стружкі на агонь.

— Маці, што робіш тутака?!—зьдзівіўся Мікола.

Старая не адказала яму. Яна трасла сухім, старчым кулаком у бок вёскі і злосна гаварыла:

— Я ёй дам! Гэтай паскудзе, гэтай паганьніцы! Я ёй...

— Каму гэта?—запытаўся Мікола.

— Гэта яе работа! Яе—ведзьмы праклятай! Я ей...

— Чыя работа? Што яна зрабіла?—устрывожыўся Мікола.

— Гэта-ж Мар'яна! Ведзьма тая! Пэўна яна залом на жыце заламала!

Мікола зарагатаў.

— Сьмейся, сьмейся, сынок!—пакрыўдзілася старая.

Зацікавіўся студэнт:

— Дык што-ж вы, цётка, робіце?

— Як што раблю?—зьдзівілася старая.—Адрабляю залом!

— Так і трэба,—спагадна сказаў студэнт.—І добра робіце! Чым-жа вы адрабляеце, цётка?

— Няўжо ня ведаеш?!—зноў зьдзівілася яна.—Патрэбны стружкі ад труны і гняздо квактухі.

Студэнт выняў з кішэні блёк-нот і аловак, адвярнуўся ад старой і тэрмій упоцемках, наўгад запісваць.

— Дык гэта Мар'яна, кажаце?

— А як-жа, саколік,—яна!

Мар'яну студэнт ведаў.

Гэта была маладая, прыгожая ўдава. Суседкі разнасілі аб ёй благую славу ведзьмы-шаптухі. Хаця вясковыя не карысталіся яе шэптамі.

Міколе было сорамна перад студэнтам, што яго маці такая цёмная.

— І Мар'яна і ты, маці,—аднаго поля ягадкі!—казаў злосна Мікола.

— Я, патвойму, сынок, таксама ведзьма?—ускіпела на яго маці.

— І ты і яна—дурныя бабы!

— Ідзем!—пазваў яго студэнт.

Яны пайшлі далей полем.

— А гэта Мар'яна—бабец!—аблізваючыся, сказаў студэнт.—Я ад яе многа замоў запісаў.

— Шаптухі трымаюць, здаецца, у вялікім сакрэце свае замовы,—сказаў Мікола.

— Я ўмею падступіцца і да шаптух.

— Як гэта вы робіце?

— Я абменьваюся замовамі: навучаю іх мне вядомыя замовы і запісваю іхнія.

— Дык вы-ж узмацняеце веру ў забабоны!

— А вы хацелі, каб я з іх сьмяяўся. Тады ніводнай замовы не ўдалося-б мне запісаць.

— Цемру сееце сярод людзей!—хваляваўся Мікола.

— Інакш я ня буду мець матар'ялаў да залікаў ува унівэрсытэце!—апраўдваўся студэнт.—А яны ўсе роўна цёмныя! Ад маіх замоў цямнейшымі ня стануць.

— Гэта ня добра!—цьвёрда сказаў Мікола.—Можа апрача цемры яшчэ што засеялі на Мар'янавай глебе? Суседкі гаварылі, што вы з Мар'янай у любошчы граеце.

Студэнт гульліва хіхікнуў.

— Глядзеце, каб нашы сяляне вас не пакалацілі за вядзьмарства. Добры з вас вядзьмар новага фасону! Шкада, што ў вас дзядзька профэсар! Вельмі кепска, што такім, як вы, даюць месца ўва унівэрсытэце. На вашым месцы лепш сын бедняка вучыўся-б.

---

Назаўтрае студэнт-этнограф выехаў з вескі. Нават не разьвітаўся з Міколай.

— Відаць, я здорава яго напалохаў!—падумаў Мікола.—Аб такім факце трэба будзе ў газэту напісаць!

Яму не ўпяршыню было супрацоўнічаць у газэтах. Першую школу літаратуры праходзіў у насьценнай газэце.

Дзень удаўся дажджлівы. Дробны, густы дождж барабаніў у шыбы. Якраз быў вольны час. У хаце пісаць нельга было ад цеснаты і Мікола пашоў у стары ток.

Ток быў запушчаны. Дах прасьвечваўся, набрак гліняны памост. Калі Мікола праходзіў па гліне, дык ногі гразьлі і сьляды ад іх заставаліся на памосьце.

Пахла трухляцінай і вільгацьцю. Пад дахам было шмат павуціцьня. Ток яшчэ быў пусты. На сьцяне на калкох віселі граблі, вілы і цапы. У кутку стаяла пара кублаў, адзін парожні, а другі з леташнім сухім гарохам. Каля сьцяны пад цэлым кавалкам даху стаяла „машынізацыя“ іхняй гаспадаркі—старая арфа.

Мікола прымасьціўся да арфы і пачаў пісаць корэспандэнцыю ў газэту аб новым знахары.

Кожны раз, калі яму прыходзілася пісаць для газэты аб недахопах у мірным савецкім будаўніцтве, ен успамінаў словы свайго начальства:

— Ня трэба сьмецьця з хаты выносіць. Усё можна наладзіць сямейным парадкам.

Кожны раз Міколе агідна рабілася ад гэтых слоў. Ен напісаў вельмі вострую корэспондэнцыю. Думаў—у якую газэту паслаць.

Трэба было папрасіць Саўку што-колечы на гэту тэму напісаць!—пажартаваў у думках Мікола.—Але шкада хлапца, бо пачнецца ў яго творчасьці зноў блутаніна паміж вершам, апавяданьнем і артыкулам

Як расьпісаўся, дык яшчэ захацелася пісаць.

— Аб чым-жа?

Успомніў знаходку бацькі і штраф.

— Ёсьць! Толькі не для газэты, а заява ў пагранатрад.

Мікола напісаў:

„Як усім вядома, у пагранічнай паласе арудуе контрабанда. Каго трэба, таго ня зловяць. Часам пападаюцца зусім невінаватыя людзі. Нядаўна аштрафавалі і майго бацьку, Цыпрука Ярэмчыка, на пяцьдзесят руб. за контрабанду. Каб зьняць паганае кляймо з нашай сям'і, паведамляю, што яму, бацьку майму, Цыпруку Ярэмчыку, гэта контрабанда (кавалак сукна) была падкінута на дарозе Язэпам Крушынскім з хутара Курганішча. Я гэта магу сказаць напэўна, бо ўва ўсей ваколіцы ведаюць, што ён гэтым займаецца. Я шмат дзе распытваўся—усе тое самае гавораць аб ім. Хаця яго цяжка злавіць. Калі бацька мой, Цыпрук Ярэмчык, ішоў па дарозе, то яго дагнаў і перагнаў на фурманцы Язэп Крушынскі з Курганішча. Ён ехаў з нейкім аграномам. Відаць, як пабачылі здалёку чырвонаармейцаў, дык выкінулі контрабанду з возу. А мой бацька, Цыпрук Ярэмчык, падняў гэта з дурасьці сваёй. Можа быць, што і я сам, яго сын, Мікола Ярэмчык, хоць я і рабфакавец, таксама падняў-бы з зямлі такое дабро. Няўжо-ж мяне маглі-б за гэта судзіць і штрафаваць? Мой грамадзянскі доўг паведаміць вас аб гэтым факце і прасіць зрабіць вобыск у Курганішчы. Там пэўна шмат чаго забароненага можна знайсьці".

Мікола падпісаўся пад заявай і быў вельмі здаволены.

Гудзеў дождж. Тонкая, мутная пража цягнулася з хмар і наўскос ударалася аб зямлю.

Супакоены Мікола схаваў напісаныя паперкі пад палу суконнай сьвіткі і пашоў у хату.

*(Далей будзе).*

**Уладзімер Хадыка**

* * *

Адыйшла, адгрымела навала.
Мы ля новага сонца стаім.
Чорных дзён Беларусі ня мала
Перажыта народам маім.

Ну, якіх мне яшчэ успамінаў
Ціха ўвечар гамоніць лаза...
За каханую выйшаў краіну
Галаву палажыць партызан.

Курганамі дарогі усланы.
Курганы мне быліну пяюць,
Як драпежніцкай Польшчы уланы
Рабавалі краіну маю.

Шмат загінула ворагаў лютых
Ў беларускім шумлівым трысьці.
Песьні, песьні плянэты раскутай—
Найцудоўней за вас не знайсьці.

І мотывы і словы старыя,
А на сэрцы і помста і рань...
Вось надоечы быў у бары я,
Наглядаў, як суніцы гарасць.

Сумны мрок цішыні верлавокай
Піў ўрачыстую вільгаць зямлі.
Я і сам жыватворчым тым сокам
Пачуцьці і лятункі наліў.

Што ні сьвет—то чырвоныя сьцягі,
Што ні гук—то мяцежніцкі сьпеў.
Праз агонь непадкупнай адвагі
Праўду незахованы гнеў.

Стой, зязюля, прыдушаным сквілам
Ты ніколі ў бары ня кувай...
Партызан дарагія магілы
Спавіла залатая трава.

Залатыя квітнеюць праменьні,
А як скоціцца сонца ля ніў—
Стану я перад тым на калені,
Хто краіну сьвятла бараніў.

Не палохаюць гром і навала
Гартаванае раці страі...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Чорных дзён Беларусі ня мала
Перажыта народам маім.

---

* * *

Прысядзем, ночка, на траве,
Прытулімся бліжэй к каліне.
Ідылія мая плыве,
Ідылія мая ня гіне.

Я помню і дагэтуль твар
І вочкі ў кудзерках заспаных...
Яна была—суладзьдзе мар,
Яна з лілей была саткана.

Бывала так: вясна гарыць,
І сэрца, чулае ў надзвычай,
Умела ведаць, хто з гары
Яго увечары пакліча.

Я многа выпалатых дум
Кідаю па бярозках рэдкіх
І (блудам выпіты) іду
К табе пагутарыць, суседка.

Мне хочацца цябе адну
Туліць цяплом вясновай былі
І ладзіць чыстую струну
Ў страі малюнкавых ідылій.

Мне хочацца, краса мая,
З табою піць расу пялёстак,
І каб і ты была, як я,—
Непараўнанаю і простай.

**Васіль Шашалевіч**

# Сумны зьвер [1)]

Сялянская хата Кажана Пётры. Ноч. Вокны старанна завешаны дзяругаю. На стале толькі што кінутая вячэра. Кажан і яго жонка Агата ў вялікім спалоху: нехта стукае ў хату, моцна б'е ў дзьверы.

Агата *(з печы чалавеку)*. Не адчыняй... Спытайся, хто...

Кажан *(падышоўшы да дзьвярэй, нерашуча)*. Хто там?

Голас *(за дзьвярыма)*. Імем Рэўтрыбунала, адчыні!

Агата. Божухна! *(Хрысьціцца)*. Адчыні, Пятрок... Ой!..

*(Кажан трусіцца, адчыняе дзьверы. Уваходзяць Андрэй Расамаха Сьвірановіч. Першы ў чырвоных портках. Абадва трымаюць рэвальвэры ў руках)*.

Расамаха *(акінуўшы вокам усю хату, зіркліва спыніўся на гаспадару)*. Ты Кажан Пятро?

Кажан. Мы. А вы хто будзеце?

Расамаха. Я начальнік атраду змаганьня з бандытызмам і контррэвалюцыяй. Андрэй Расамаха—чуў такога?

Кажан. Як ня чуць? Чулі. *(Сеў. Спалохана глядзіць)*.

Расамаха *(на Сьвірановіча)*. А гэта мой намесьнік...

Кажан. Чаго-ж вы гэта?.. Мы з старою аж спалохаліся...

Расамаха. Да нашага ведама дайшло, што сын твой Кандрат уцёк з фронту і далучыўся тут да шайкі бандыта Чырвонца! Разам з ім грабіць, забівае!.. Мы павінны забраць твайго сына, каб перадаць Рэўтрыбуналу, дзе будуць судзіць яго па ўсёй строгасьці рэвалюцыйных законаў, як здрадніка, прадаўцу і ворага пралетарыяту!

Кажан. Таварыш камісар! Што вы гэта! Каб мой сын! Ён-жа ўжо месяцаў пяць як на фронце... Як пайшоў з хаты, дык з таго часу ні слуху яго, ні духу ня чуваць!..

Расамаха. Ня прыкідвайся, што быццам нічога ня ведаеш. Я ведаю, што гавару!.. Твой сын знаходзіцца тут, у тваёй хаце! І ты павінен нам яго выдаць!

Агата. Ой вой, вой! Божухна! Што гэта яны на нас наваліліся! Ня сюды вы прышлі, таварышы, шукаць майго сына!.. Пашукайце Кандрата на фронце!.. Пяць месяцаў ня бачыла яго матчына вока!.. *(Плача)*. Можа ён там, нябога, паклаў ужо сваю галовачку за гэтую рывалюцыю, за ірадаў праклятых!..

Расамаха. Ты там маўчы, старая ваўчыха! І не брашы! Бо ведаем мы, што ён тут!

---

[1)] Пролёг з новае п'есы „Воўчыя ночы".

Сьвірановіч *(паказваючы на вячэру).* Вы толькі што вячэралі?

Кажан. Так точна...

Сьвірановіч. Хто ды хто вячэраў?

Кажан. Мы са старою...

Сьвірановіч. Толькі? *(Глядзіць зірkліва, прыжмурыўшыся).* А болей ніхто тут не сілкаваўся?

Кажан. Каму-ж тут быць?—Нікога...

Сьвірановіч *(зірнуўшы на вячэру).* А гэта-ж чыя трэцяя лыжка? А? Гавары!..

*(Кажан зьбянтэжана маўчыць).*

Кажан. Ня ведаю, як яна сюды трапіла?..

Расамаха. Твой сын, бандыт Кандрат быў, толькі што тут і з табою вячэраў!.. Дзе ён? Гавары?..

Кажан. Скуль-жа я вам яго вазьму, калі няма...

Агата. Што ты, як гагал, наваліўся на нас, як смала прычапіўся? Мы-ж табе сказалі: Кандрата ў нас няма.

Расамаха. Няма?..

Кажан. Няма.

Расамаха. А што калі мы яго знойдзем? Тады што?

Кажан. Што хочаце, тое рабеце...

Расамаха. А ты ведаеш, што мы маем права зрабіць з табою за тое, што хаваеш бандытаў і контррэвалюцыянэраў? Ведаеш?

Кажан. Дык каб-жа мы хавалі...

Расамаха. Апошні раз табе кажу, што калі ты сам выдасі нам свайго сына, злодзея і бандыта, ты застанешся жывым і цэлым, і гаспадарку тваю не кранём!.. А калі-ж... Ты ведаеш, якое права мне дае мой надзвычайны мандат?.. Вось ён, бачыў?.. *(Выймае вялізны мандат за штатлікімі подпісамі і пячаткамі розных установу).* Самім Леніным і Троцкім падпісан.

Кажан. Мы, таварыш, няпісьменныя...

Расамаха. Я сам яго табе прачытаю. *(Пачынае чытаць хутка, іншы раз больш павольна, голасна падкрэсьліваючы паасобныя моцныя месцы).*

Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

МАНДАТ.

Дадзены гэты мандат грамадзяніну Расамасе Андрэю Мікалаевічу ў тым, што ён ёсьць Начальнікам атраду змаганьня з бандытызмам і контррэвалюцыяй. Гэтым т. Расамасе надаюцца надзвычайныя ўпаўнаважаньні, паводле якіх ён мае права затрымліваць і арыштоўваць на месцы падазроныя асобы і рабіць вобыск у прыватных кватэрах. Над бандытамі і контррэвалюцыянэрамі мае права чыніць суд і расправу аж да расстрэлу на месцы *(чуеш?),* для чаго існуе пры атрадзе надзвычайная тройка. Зусімі тымі, чые хаты зьяўляюцца прытулкам бандытам і ворагам рэвалюцыі, дазваляецца т. Расамасе бязьлітасна распраўляцца, ужы-

ваючы самыя крайнія захады, аж да канфіскацыі ўсёй іх маемасьці і артылерыйскага і кулямётнага абстрэлу цэлых бандыцкіх вёсак!..

Усе сьвядомыя грамадзяне заклікаюцца на дапамогу т. Расамасе ў вялікай справе абароны рэвалюцыі!

Сьмерць і бязьлітасная помста акулам сусьветнага капіталу і імпэрыялізму!

Далей ідуць подпісы: Леніна, Троцкага і г. д.

*(Да Кажана).* Чуў?

Кажан. Чулі.

Расамаха. Усё зразумеў?

Кажан. Усё.

Расамаха. Значыць, ты цяпер ведаеш, што мы можам зрабіць? Ты хаваеш нашага ворага, значыць, ты падлягаеш самай жорсткай кары...

Кажан. Тав. камісар, не сярдуйце... Ну, толькі няма ў нас Кандрата...

Расамаха. Ты ўсё сваё трубіш? Дык ведай, што прышоў я сюды ня з пустымі рукамі і калі ты нам яго цяпер ня выдасі, дык адсюль ён жывым ня выйдзе! Чуеш? Зараз-жа загадаю сваім чырвонаармейцам ачапіць з усіх бакоў тваю гаспадарку і пусьціць полымем усю тваю рахубу! Хай у агні скіпіць к чортавай матары.

Агата. Што ты пагражаеш нам? Думаеш, мы баімся. Крывапійцы вы! Мала вы насмакталіся, як павукі, нашай крыві? За каго-ж нашы сыны на фронце паляглі капамі снапоў?

Сьвірановіч. Дурная ты, цёмная баба! Ці ты можаш зразумець, за што яны паляглі? За вялікую справу рэвалюцыі.

Агата. Не! не! ведаю за каго! За вас—камуністаў ды ірадаў праклятых! Ад расстрэлаў стогне зямля.

Кажан. Ой, маўчы, старая! Ой, глядзі, ліха будзе!

Сьвірановіч. Мы цябе зараз арыштуем!

Агата. Ну арыштуй мяне! На! Арыштуй за праўду!

Сьвірановіч *(Расамасе ціха).* Не зважай на яе: яна хоча нашу ўвагу адцягнуць ад сына.

Агата. Нікаяньнікі вы! Храпаідалы! Глыбаеды цяпер пачалі царстваваць!

Расамаха *(ускіпеўшы).* Ах ты сволач! Будзеш ты яшчэ над намі тут... Зараз усё тваё шалахмоцьце разьнясу ў мэтлухі на грэцкую крупу! *(Стукнуў наганам па стале).*

Кажан. Таварыш камісар! Таварыш...

Агата. Не баюся я цябе! На! Страляй у грудзі!.. Па сына прышоў? Ну! бяры мяне за яго! Страляй.

Расамаха. А! Калі так! Дык бяры сваё! *(Раптам падняў над галавой наган. Гулка гракнуў у столь стрэл).*

Агата. Ой, вой, вой! Божухна! Ратуйце!..

Кажан *(увесь дрыжыць).* Вылазь, мой сыночак! Вылазь, роднень-кі! Каб ліха ня было! *(Паўза. Сам стары сталохаўся сваіх слоў).*

Агата *(з абурэньнем Кажану).* Што вылазь?! Хто вылазь! Адкуль? Ці табе мазгі выкарчыла? Забыўся, што Кандрата ў нас няма? Тава-рыш камісар! Ён, дурасьвет, з глузду зьбіўся! Вярзець нямаведам што?

Расамаха. Сьвірановіч! Адыйдзі ад падпечча! Ён там! Ён можа нас падстрэліць! *(Абодвы становяцца ў бок ад падпечча).* Ну, вылазь, калі ты тут, а то будзе горай!.. Чуеш? *(Паўза).*

Сьвірановіч. Мусіць яго тут няма... Можа пад масьніцай?..

Расамаха. Давай стрэлім разоў пяць ў падпечча, можа яго выку-рым?..

Голас *(глуха з падпечча).* Не страляйце... Зараз лезу...

Расамаха. А!.. Зброя ў цябе ёсьць? Вінтоўка?

Голас. Ёсьць...

Расамаха. Ну, давай яе сюды... *(З падпечча высоўваецца дула вінтоўкі).*

Сьвірановіч. Не, ня так... Ты падавай нам яе прыкладам. *(Дула хаваецца, высоўваецца ложа карабіна. Расамаха бярэ).* Наган ёсьць?

Голас. Няма.

Расамаха. Ну, цяпер лезь. Паглядзім мы, які ты ёсьць... *(З пад-печча вылазіць Кандрат. Узлахмачаная галава. Шырокі твар, шы-рокія плечы. Мультановая кашуля, чырвоная з белымі крапінкамі. Цяжкія вялікія боты. Стаў насупроць Расамахі. Выцягнуўся, як перад начальнікам. Адзін на аднаго глядзяць зіркліва. Паўза).*

Расамаха. Здароў, Кандрат Пятровіч! *(Працягвае руку).*

Кандрат. Здравія жалаем, таварыш камісар!.. *(Здароўкаецца).*

Расамаха *(бяз злосьці).* Ну што-ж ты гэта? Га? Такое няўдалае месца выбраў для адпачынку?

Кандрат. Што зробіш. Можа вы ў лепшым мяне пахаваеце!..

Расамаха. Можа быць.

Агата *(Кумільгам саскочыла з печы, бухнула ў ногі камісарам).* Таварышы! родныя мае! не страляйце толькі майго сына! Ён за вамі ў агонь і ваду пойдзе! і ня гневайцеся вы на мяне, старую, што абла-яла вас, абразіла ўсякімі словамі!.. Балела мне сэрца за сына майго... Баялася я, што прыкончыце вы яго...

Кажан. Гэта яна правільна... Ну, канешне, мы ва ўсім вінаваты, ня гневайцеся...

Расамаха. Ну што-ж, я ня злуюся... Адышло сэрца. Трэба было даўней так... Во што: пакіньце вы нас адных. Мы з ім пагутарым ад душы.

Кажан *(нерашуча).* Дазвольце, т. камісар... Толькі ня гневайцеся... Хацелі мы вас пачаставаць... *(Дастае з-за абразоў бутэльку).*

Расамаха. Што гэта?

Кажан. Самагонка... Першы сорт... як агонь..

Расамаха *(задумлёна)*. Трэба было-б цябе за гэта арыштаваць...

Кажан. Гэта, як ваша воля... Калі ўжо мы ў вялікім правініліліся, дык што ўжо на малое глядзець... як ваша будзе ласка...

Расамаха. Ну добра... Пастаў... Калі справу ўладзім — вып'ем. Не — мы яе ня будзем піць. Ну ідзеце!

Агата. Сыночак мой, глядзі беражыся!.. На ўсё згаджайся, абы жыў быў!

Кондрат. Добра, мама... ідзі...

Агата. Ой злыя цяпер людзі пашлі: ня чуючы — чуюць, ня бячучы — бачуць!.. *(Кажан і Агата выходзяць)*.

Расамаха. Ну што стаіш? Сядай. Пагаворым.

Кандрат. Нічога, мы і пастаяць можам...

Расамаха. А я хачу, каб ты сеў да стала. *(Кандрат садзіцца)*. Ну, расказывай усё бяз утайкі, толькі чыстую праўду... Ад гэтага залежыць тваё жыцьцё.

Кандрат. Добра... Скажу, што магу.

Расамаха. Раскажы, як ты бандытам зрабіўся.

Кандрат. Неяк так яно вышла, што і ратунку мне іншага ня было, як бандзістым зрабіцца...

Як раскалашмацілі наш полк палякі, пачалі нашы бегчы, хто куды... Ну, у поўным беспарадку. Ня ведаю, як і што, а толькі адбіўся і я ад сваіх таварышоў. Дзе я апынуўся—і сам не разьбяруся... Ну тут, канешне, віна мая ў тым, што ня стаў я шукаць сваей часьці, а падаўся да хаты.

Сьвірановіч. Зрабіўся дэзэртырам?

Кандрат. Але. Да сьмерці захацелася дахаты... Апроч таго, абрыдзела ваяваць, аж злосьць узяла! Што-ж гэта — думаю — бальшавікі нам мір абяцалі, ды яны-ж нас і кроў праліваць пхаюць... Вайна ня сунімаецца!.

Сьвірановіч. Ты ня мог таго зразумець, што мы заўсёды былі процiў імпэрыялісцкай вайны і ніколі ня былі проціў вайны за свабоду!..

Расамаха *(Сьвірановічу)*. Чакай. Няхай ён расказвае...

Кандрат. Ну, толькі плюнуў я на вайну, абрэзаў вінтоўку, каб карацей была, каб можна было пад крысо схаваць, дый махнуў дахаты... Восем дзён пешаходзьдзю ішоў. Уначы. Удзень хаваўся. Ну, прыбрыў да хаты. Зноў-жа хавацца прыходзіцца. На гумне пад асецьцю, у каноплях... Пачалася для мяне прыгуга вялікая: няма куды дзецца. Пайсьці і заявіцца: «так і так, дэзэртыр я, рабіце, што хочаце». Ну толькі даведаўся я, што за гэта расстрэл чакае, нахальная сьмерць... Пабаяўся...

Сьвірановіч. Дарэмна ты баяўся. Маглі прыняць пад увагу тваё чыстасардэчнае прызнаньне і даравалі.

Кандрат. Можа. А можа на маіх касьцёх ужо і жыта расло-б... Хто ведае?

А тутака прышлі хлопцы, таксама дэзэртыры. Яны ўжо паступілі на бандзістаў да Чырвонца і мяне цягнуць туды. Захапіў я прычындальле сваё дый пайшоў з імі. Хлопцы, канешне, паручыліся за мяне, ну толькі павінен я быў экзамант трымаць на бандыстага...

Расамаха. Экзаман?

Кандрат. Экзамант...

Расамаха. Як цябе экзаманавалі?

Кандрат. Не магу сказаць, як, ну толькі гэта быў нібыццам нейкі іспыт: ці магу я, значыць быць бандзістым?

Расамаха. Рукі пакрывавіў?

Кандрат. Але. Гэта было. Праўда, вышла ў мяне тутака вялікая памылка. Загадалі мне забіць камісара ўпрадкома т. Качканосава. Даведаўся я, што ён будзе ехаць па Чэрыкаўскім тракце. Засеў я, чакаю. Едуць, гляджу; ён, той, што мне трэба. Злажыўся я, смальнуў. Двума стрэламі ў лоскат паклаў і камісара і возчыка. Выбягаю, каб паглядзець, што і як. Аж тут бачу, што гэта я не камісара забіў, а... доктара. Відаць, сам чорт яму парадзіў насіць галіхвэ і фрэнчу—выліты камісар. Шкада мне зрабілася, а ён яшчэ жыў. Зьняў я картуз: „Выбачайце, кажу, таварыш доктар, што забіў вас!.. Няўмысьля я гэта зрабіў. Палічыў я вас за камісара“. Зірнуў ён на мяне, дый кажа: сволач ты і гад! Ну і тут і ўсё яго.

Сьвірановіч. Гэта ён сказаў правільна...

Кандрат. Вядома, што правільна. За гэтую справу дужа злавалі на мяне хлопцы: яны вельмі паважалі гэтага доктара, бо ён лячыў іх.

Расамаха. Каго лячыў?

Кандрат. Бандзістаў. Можа вы чулі, як Чырвонец сярод белага дню напаў на больніцу ды ўзяў гэтага доктара ў палон. Ён выдаў сябе за чэкістага, паказаў мандат ды арыштаваў доктара, як контррэвалюцыянэра. Пасадзілі яго на воз і павезьлі. Па дарозе яму сказалі, куды яго вязуць, завязалі яму вочы ды прывезьлі ў стан бандзістаў. А там былі два хлопцы цяжка паранены. Прышлося яму лячыць іх. Два тыдні жыў у бандзістых, а тады адпусьцілі яго.

Расамаха. Я чуў пра гэта здарэньне... Адным словам, ты экзамэн на бандыта вытрымаў?

Кандрат. Але. Прызналі, што магу быць ім. У той-жа дзень я яшчэ падстрэліў штук пяць камсамольцаў—каторага забіў, а каторага параніў. Варочаліся з павету пехам. Ну я дзьве абоймы выпусьціў.

Расамаха. Ці шмат вас усіх?

Кандрат. Шмат.

Расамаха. Колькі?

Кандрат. Гэтага не магу сказаць...

Расамаха. Ня ведаеш, колькі, ці ня можаш?

Кандрат. Не магу.

Расамаха. Так. Ці у вас ёсьць якая палітычная праграма?

Кандрат. Чаго?

Расамаха. Якія ў вас задачы? Чаго вы дамагаецеся? Ці вы сьвядома ідзёце супроць дзяржаўнага ладу, ці толькі абы руйнаваць, рэзаць і грабіць?

Кандрат. Мы павінны ў першую чаргу біць камісараў і яўрэяў, бо нам казалі, што гэта яны пусьцілі Расею прахам...

Расамаха. Так... Чаму-ж ты ня прыстрэліў нас з падпечча? Здаецца, можна было.

Кандрат. Можна было. Сказаць па праўдзе, дык я колькі разоў ладзіўся прыстрэліць, ды ўсё неяк ня зручна было. Аднаго разу намеціўся вам у грудзі—во, во выстраліць. А тут бацька раптам павярнуўся і засланіў.

Расамаха *(сьмяецца)*. Значыць твой бацька выратаваў мяне ад сьмерці.

Кандрат. Выходзіць, што так.

Расамаха. Учарайшаю ноччу шаснаццаць чырвонаармейцаў з майго атраду, якіх я адправіў лавіць бандытаў, у вёсцы Гардзееўка, былі зарэзаны ўсе, як адзін, у той час, калі яны спалі. Ты быў там?

Кандрат. Не.

Расамаха. Кажы праўду.

Кандрат. Мне няма чаго хаваць ад вас. Пра сябе я магу ўсё расказаць.

Расамаха. Потым. У часе вялікага пагрому ў мястэчку Чырвонапольску, калі было выразана шмат яўрэйскіх сем'яў, разгромлены будынкі міліцыі і валіспалкому і палова мястэчка спалена,—ты быў там, ва ўсім гэтым?

Кандрат. Так точна. Быў.

Расамаха. Праліваў яўрэйскую кроў?

Кандрат Нікак нет. Так што гэтага ня прыйшлося...

Расамаха. А што-ж ты рабіў тады?

Кандрат. Мы тады грамілі міліцыю.

Сьвірановіч. А! Дык гэта, значыць, ты забіў начальніка міліцыі.

Кандрат. Не. Ня я. Гэта адзін з нашых хлопцаў устрэліў.

Расамаха. Раскажы, як гэта было!

Кандрат. Значыцца так. Перад самым мястэчкам мы разьбіліся на тры часьці: мы павінны былі зрабіць напад на міліцыю, другія на валіспалком, ну а трэція, як вы кажаце, пашлі праліваць яўрэйскую кроў. Мы ўвайшлі ў мястэчка па трох дарогах і адразу адкрылі страляніну Вядома, што міліцыянэры кінуліся на стрэлы і, можна сказаць, нарваліся на самае пекла: у лоскат паклалі, як аднаго. Падступілі да будынку міліцыі, аж там ужо ніводнага чалавека з варты ня было. Валім у пакой начальніка. Выламалі дзьверы. Кінулася нам у ногі дзяўчынка, дачка начальніка, год сямнаццаць, стала нам рукі цалаваць, прасіць, каб не забівалі. Тут-жа і брацішка яе Ваня, хлопчык гадкоў дванаццаць. „Дзе бацька“,—пытаемся. „Ня ведаю“. Але ён сам выдаў сябе: з гары адкрыў па нас страляніну. „Там твой бацька?“—Там,—прызналася. „Дык лезь ты да свайго бацькі ды скажы яму, што калі

ён не аддасца нам у рукі без адзінага стрэлу, дык мы хлапчука Ваню заб'ем! Палезла яна на гору. Вяртаецца. „Бацька, кажа, злазіць. Толькі пытаецца, ці пакінеце вы яго жывым".—Будзе жыў, кажам. Пашла яна зноў па нашаму загаду і прынесла ўсю зброю ад бацькі, а потым ужо вядзець за руку і яго самога да нас. Ідуць па сходнях. А тут адзін з нас раптам злажыўся—ляп! Ну, вядома, начальнік міліцыі шмякнуўся на падлогу. Як звар'яцелая, кінулася дачка да свайго бацькі, абыймае яго цела, крычыць і рвець на сабе валасы. Ну тут, канешне, схапілі мы яе за рукі, выштурхнулі за дзьверы—ідзі куды хочаш. Прынесьлі хлопцы колькі кулёў саломы, пакрылі ёю забітага. Канешне, запалку—чырк! Самі вышлі. Бачым, ужо ўсё мястэчка занялося: полымя раве, у неба шугае. Людзі бягуць, па гародах хаваюцца... Лямант, крыкі, енкі!.. Хлопцы разьбіваюць капэрацыю, валяць на вазы тавары. Прышлі мы да свайго галоўнага. „Так і так, кажам, міліцыю ануліравалі". Ну ня больш, як за гадзіну ўсё гэта адбылося. Паўскакалі хлопцы на коняй, махнулі, так што і сьледу няма. *(Паўза).*

Расамаха. І ўсё?

Кандрат. Усё...

Расамаха. Якую-ж ты кару чакаеш ад нас за ўсе гэтыя справы?

Кандрат. Да ўжо-ж бачу, што прыйшоў мой канец. Крышка.

Расамаха. Правільна кажаш. Крышка.

Сьвірановіч. А жыць хочаш?

Кандрат. Няма чаго пытацца пра гэта, таварыш камісар, каму-ж белы сьвет ня любы?

Расамаха. А калі мы даруем табе жыцьцё, ці зробіш ты тое, чаго мы ад цябе патрабуем?

Кандрат. Калі што льга зрабіць, дык чаму-ж не.

Расамаха. Мы хочам, каб ты выдаў нам з галавою ўсю гэтую бандыцкую зграю! Так, каб мы захапілі іх, не праліўшы і кроплі крыві... Вось і ўсё. За гэта—жывым застанешся.

Кандрат *(памаўчаўшы).* За здраду—жыцьцё?

Сьвірановіч. Гэта ня здрада!.. Гэта вялікі ўчынак, якім ты выкупіш усю сваю віну перад краінай і рэвалюцыяй.

Расамаха. Выдай нам бандыта Чырвонца і будзеш жыць, як і ўсе грамадзяне, не хавацца ў воўчым логаве ды ў падпеччы...

Кандрат. Цяжка гэта зрабіць... Ніколі я ня быў здраднікам і прадаўцам. Не прадаваў я сваіх таварышоў!..

Сьвірановіч *(з абурэньнем).* Ах ты ня быў здраднікам? Ты ня быў прадаўцам? Дык я табе скажу, што ты ня толькі здраднік і прадаўца, а яшчэ сволач, злодзей і бандыт!

Кандрат. Таварыш камісар!..

Сьвірановіч. Хто кінуў фронт, не захацеў бараніць краіну і рэвалюцыю проці воўчых зубоў імпэрыялізму? Гэта ня здрада!

Кандрат. Добра табе тут у тылу гаварыць пра гэта! Паспрабаваўбы сам пабыць там у пекле...

Расамаха. Ты думаеш, нам лепей тут, як на фронце? Учора шаснаццаць нашых ляглі душою ў адной брацкай магіле, а сягоньня ты з падпечча пільнаваў нашу сьмерць! Мерыўся мне ў грудзі!

Сьвірановіч. Усюды яно аднолькава соладка—ці там, ці тут. А ты яшчэ ня толькі кінуў фронт, а і далучыўся да рознага людзкога зброду, з якім разам руйнаваў краіну, рабаваў народную маемасьць, праліваў нявінную кроў, пускаў па сьвеце сірот! Гэта ня здрада, каменная твая галава?..

Расамаха. Адным словам, няма чаго нам яшчэ тут доўга размузыкваць... Табе вядома наша прапанова: альбо ты нам выдаеш сваіх супольнікаў, і мы даруем табе жыцьце. альбо заўтра ты ўжо ня ўбачыш, як усходзіць сонца!.. Выбірай...

Кандрат. Дайце падумаць...

Расамаха. Думай. *(Паўза).*

Кандрат. Што вы зробеце з імі з тымі хлопцамі, што я выдам?.. Растраляеце?

Расамаха. Да ўжо-ж па галоўцы не пагладзім сваіх ворагаў.

Сьвірановіч. Рэвалюцыя ня ведае літасьці. *(Паўза).*

Кандрат. Дазвольце мне, таварышы камісары, выпіць.

Расамаха. Пі, калі ласка. *(Кандрат з прагнасьцю адным духам выпіў шклянку самагону. Твар пачырванеў, вочы загарэлися).*

Кандрат. Ну, дык вось мой сказ: ня выдам!.. *(Паўза).*

Расамаха. Твой апошні сказ?

Кандрат. Але, апошні. Сьмерць, дык сьмерць! Ачамярэла такое праклятае жыцьцё. Хай яно гарыць.

Сьвірановіч. Дурань ты! За каго ты ахвяруеш сваё жыцьцё. За сволачаў чалавечага роду! Ці варты яны таго! Каб ты пайшоў на сьмерць за рэвалюцыю, за сацыялізм, мы зьнялі-б шапкі перад тваім прахам, працоўныя паставілі-б табе помнік. А гэта-ж твая зусім бязглуздая сьмерць! Як ты гэтага не разумееш?

Кандрат. Не, таварышы, вы мяне не пераканаеце...

Расамаха. Ну што-ж, калі так—разьвітайся з сваімі бацькамі ды пойдзем.

Кандрат *(зноў нэрвова наліў сабе самагонкі і выпіў. Урачыстым голасам).* Таварышы камісары! Таварышы камісары! Памятайце, што не адзін я загіну! Памятайце, што ўсім вам камісарам Чырвонец рыхтуе крывавую лазьню!..

Сьвірановіч. Ну, на гэта ў яго пораху ня хопіць.

Кандрат. Хопіць. Бо цяпер ён ужо не адзін, а разам з капітанам Марусяй!..

Расамаха і Сьвірановіч. Капітан Маруся! Тыя. што на Украіне!

Кандрат. Яна самая. Атрады яе ідуць сюды. Беражэцеся: ня будзе дабра вам!..

Расамаха. Маніш! Чаму-ж мы пры гэтым нічога ня ведаем.

Кандрат. Ня верце сабе, як хочаце... Ну толькі я вам болей нічога не скажу.

Расамаха. Ну што-ж, калі так, будзем змагацца! Сьвірановіч! Пазаві яго бацькоў. Ды пойдзем. *(Сьвірановіч выйшаў з хаты. Паўза).*

Кандрат. Дазвольце мне, я ўжо ўсё гэта вып'ю. Хай маці думае, што мы добра ўладзілі справу. *(Пэе. Сьвірановіч вядзе Кажана і Агату).*

Кандрат *(весела)*. Ну, маці, бывай здарова! Бывай здароў і ты бацька!

Агата. Куды-ж ты ідзеш, мой сыночак?

Кандрат. На новае месца маці. Дзякуй камісарам, уладзілі мы справу, так што лепей быць ня можа. Даюць мне добрую пасаду, так што я і гора ня буду ведаць...

Агата. Сыночак мой, дзе-ж ты будзеш служыць?

Кандрат У падзямельным аддзеле, маці. Ну, бывайце. *(Цалуецца з бацькам і маткай. Агата глядзіць у вочы камісарам стараючыся адгадаць праўду, але яны халодна маўчаць. Кандрат ідзе з хаты, за ім ідуць, забраўшы зброю, Расамаха і Сьвірановіч. Кажан і Агата на разьвітаньне кланяюцца ім).*

**П. Глебка**

## Вітаньне

Віецца шлях паміж палямі,
а па-над шляхам—віхрам пыл;
імчымся мы, а перад намі
бягуць дарожныя слупы.

За слупам слуп—вярстою меней,
вярстою бліжай да сяла.
Здалёку бачу—на гуменках
бяроза лапы узьняла.

А навакол—красуе жыта,
аўсы чупрынай шалясьцяць.
Усланы шлях наш аксамітам;
кані, як шалыя, імчаць.

Шалёны міг і міг шчасьлівы!
У пазалоце тоне луг...
Вітаньне вам, палеткі. нівы,
вітаньне шчырае сялу!

* * *

Вечарамі выходжу ў бязьмежнасьць раўнін -
няпрывычная нейкая жудасьць:
па-над Слуцкам далёка мігаюць агні,
дзе-ні-дзе дрэмле ў змрочнасьці хутар.

Гэта ты усхваленая, слуцкая ноч,
ай, якая навокал раўніна!
Ў Беларусі такіх больш нідзе нячутно
і звычайна—узгоркі, лагчыны.

Па дарозе іду—чую восені шаг,
разьнялі ветракі свае лапы.
Натуральнай красой упівайся, душа,
бо такое стварыць не патрапяць!

Максім Лужанін

# Тры вершы

1

## Змрокам

Гаварыць—не перакажаш...
– Горна?
– Надта!
Дзень і я.
Каторы госьцем?
У пакоі крышку сумнавата.
– Можа прыдзе хтосьці?

– Музыку пастухаць? – Пэўне!
– Журавіча ці каліна?
Згадка:
выдзі, мо' тугу пярэймеш!
Дзіўна!

Ці заўсёды будуць дарагімі
крокі з саду?
Белы цень за чорнымі дзьвярыма:
– хто там?
– Радасьць?

2

## Гульня

Вы стаіцё і пільна сочыце,
каб я ня здолеў ваш кон сьцерці...
– А дзе спаткаемся?—Дзе хочаце!
– Давайце ў сёньнешнім концэрце.

Іржой над новымі завесамі,
у словах вісьне роспач плямкамі,
бо гутарка:—там будзе весела,
больш сьвецяць лысіны, як лямпачкі.

Яна гняце мяне зьнямогаю
і тым усім, што трэба выказаць,
і непатрэбнасьцю бязрогаю,
перад людзьмі заўсёды „Вы“ казаць.

Каб думкі 'мчаліся, як з выраю,
бяз клопату, як апалонікі,—
лепш фэхтаваць тупой рапіраю,
ні мне ні вам ня быць палоньнікам.

А ўсё-ж ткі—як вы слаўна маніце!
(Хай зразумее маці дзейканьне!)
Бо вочы кажуць: стрэнем раніцу
перад знаёмай магалейкаю.

Ідзём ня ў ногу — людзі штацкія:
— не памыліцца ў кроках пусткаю!
Вы ўсёж жыцьцё так пражываецьмеце
багіняю і прастытуткаю!

3

## Непатрэбны верш

...Батыстовы кіў хусьцінкі...
— Будзь здарова! Будзь здарова!
Запытала:—ці прысьці мне?
з-пад усьмешкі, з-пад крывое.

Пацалункі давяць плечы,
бо чакаць даўно прысталі,
бо упала гэта стрэча
ў нашу ростань на вакзале.

Не пытайся як завецца,
ня хрысьцілі, каб ня пляміць.
Аб тваёй памятай кветцы
бутаньерка носіць памяць.

Будзем біць адкрытай картай
супакой памылак бледных:
ты паедзеш тым-жа сьледам
і маёю будзеш заўтра-ж!

А пасьля душы разводзьдзе...
Калі распач сны акрэпіць,—
хай пэрон цябе праводзіць
і махне калматай кэпі.

Так, здаецца, сэрца даляй
зваяваў у бойцы спорнай,
але хто-ж цыгаркі паліць,
над зарэччам лічыць зоры?

Хто вязе сваю няпэўнасьць,
у шырокай чорнай сьвітцы?
— Гэй, кандуктар! Хто ў ваконе ў вас?
Ці ня вам гэта ня сьпіцца?

16 жніўня 1928 г.
Старыя Дарогі.

## Уладзімер Жылка

Будзь блаславёна, мая маладосьць,
Кроў няслухмяная, цьмяная млосьць!
Радасьці дужыя крыла
Кануць у сіні нябёс:
Песьні ласкавае мілай,
Песьні мае незабылай
Поўныя сьненьня і кроз
Вецер разводзьдзем паводкі.
Як яе вусны салодкі,
Вецер вясеньні прынёс.
Сэрца ад млосьці бяз сілы
Сьветлае штосьці прысьніла,
Хоча і сьмеху і сьлёз.
У гэтым узрушаным сьненьні,
Ў сонечным гэтым праменьні
Песень яе маладых
Шчасны я шчасьцем—маленьнем
І ад жыцьця ў захапленьні
Хочу і паху й каджэньня
Кветау уцешных зямных,
Сьцежкам паверыць вясеньнім
І—заблудзіцца на іх.

Будзь блаславена, мая маладосьць,
Кроў няслухмяная, цьмяная млосьць!

### Разьвітаньне
(Lai).

Пара! Ня моўкне хваль гамонка,
Сьпявае вецер сьвежа, гонка
І ветразь плешча - Адплывай!
Цалуй у апошні моцна, звонка,—
Мой сум, як золата пярсьцёнка,
На сэрца лёг і цісьне ў край.

Але трывог ня ўбачаць вонках,
Хоць вочы сьветлая палонка,—

У іх адна, адна чыгай.

Насупроць мне з імглы пялёнкай
Паўстане бур адхлань—прадонка
І бура выпесьціць адчай.

Але хай машта квіліць тонка,
І ўспамінаецца старонка,
І мора пеніцца няхай,—

Затым што мужны буду, жонка,
Вярнуся я; а ты ў ваконка
Цікуй і цноту ткліва дбай.

З далёкіх падарож, мая сасонка
Я прывязу суровых вод звычай,
І сэрца вернае, і ў тронках
Вось гэтых, гэты нож.. бывай!

Жнівень. 1928.
в Лісічына.

**Юры Бярозка**

# Пытаньні сучаснага марксыцкага вывучэньня літаратуры

I

Марксыцкае літаратуразнаўства ў нас, на Беларусі, знаходзіцца пакуль што ў пачатковым кругабезе разьвіцьця. У гэтым кірунку перад намі вялікая праца. Бо трэба выпрацаваць асноўныя мэтодолёгічныя перадумовы марксызму ў літаратуразнаўстве. Больш таго: нам трэба правесьці змаганьне за марксызм, супроць пяражыткаў ідэялістычнай мэтодолёгіі, якія паўстаюць сёньня ў самых нечаканых тэорытычных шатах, у „защитной“ тэрмінолёгічнай інтэрпрэтацыі, а часам—адкрыта.

Аглядаючы ўсё напісанае пра беларускую літаратуру, мы павінны сьцьвердзіць, што вялікіх навуковых твораў, памарксаўску вытрыманых ад пачатку і да канца ў нас няма. Параўнаўча багатую спадчыну мы атрымалі ад культурна-гістарычнае школы, знак якой заўважаецца над нашаю навукаю аж да апошняга часу. Адным з найбольш выдатных прадстаўнікоў культурна-гістарычнае школы і менавіта ў яе этнографічным ухіле трэба ўважаць акадэміка Е. Ф. Карскага. Багаты фактычны матар'ял сабраны і сыстэматызаваны Карскім зьяўляецца агульна навуковай маемасьцю, але асьвятленьне, пры якім гэты матар'ял падаваўся, у многім нас ужо ня можа задаволіць. Яно також далёка ад паступовага соцыолёгічнага асьвятленьня, як далёка газьніца ад электрычнае лямпачкі. Уласьне літаратуры Карскім прысьвечаны трэці выпуск трэцяга тому яго капітальнага досьледу „Белоруссы“ і, кажучы пра гэту яго частку, можна сьцьвярджаць, што поруч з дасягненьнямі марксыцкай дасьледчай думкі ў РСФСР і ў Нямеччыне, яна мае толькі другараднае даведачнае значэньне. Вядомым крокам наперад было зьяўленьне „Гісторыі беларускае літаратуры“ Максіма Гарэцкага. Таленавіты аўтар даў спробу сыстэматычнага апісаньня соцыяльнае ахварбоўкі кожнага літаратурнага факту. Паасобнае літаратурнае зьявішча ён пастараўся зьвязаць ня толькі з папярэднім яму літаратурным-жа зьявішчам, але і з грамадзкім асяродкам, у якім гэтае зьявішча ўтварылася. Аднак, будучы, з аднаго боку, работай у большым памеры пэдагогічнай, чымся навуковай у сьцісылым значэньні слова, а з другога—не пазбаўленай яшчэ канчаткова некаторых уплываў культурна-гістарычнае школы „Гісторыя беларускае літаратуры“ толькі адкрывае шлях, якім павінна пайсьці марксыцкае літаратуразнаўства, застаючыся сама ў пачатку гэтага шляху.

Прыгадаю яшчэ пра работы А. Навіны. Хутчэй крытычныя, а не дасьледчыя, паводле агульнага характару, нарысы гэтага выдатнага публіцыстага і літаратурнага крытыка гакжа павінны быць прызнаны ў значнай частцы устарэлымі. За апошнія дзесяць гадоў навука пра літаратуру зрабіла такія вынаходкі, пасьля якіх многае з напісанага раней можа існаваць толькі гістарычна, толькі як выражэньне свайго часу, як уласьцівы яму помнік.

Паміж літаратуразнаучых работ, якія зьявіліся апошнім часам асабліване ўвагі заслугоўвае работа проф. І. І. Замоціна „Максім Багдановіч". Гэты салідны монографічны досьлед надоўга застанецца асноўным дапаможнікам пры вывучэньні як самога поэты, так і ўмоваў, што яго нарадзілі. Але досьлед проф. І. І. Замоціна яшчэ ня скончаны. У кола вывучэньня яшчэ не ўведзена Багдановічава поэтыка і, іншымі словамі, не зачэплены той формальна-стылёвы лад, які у гісторыі беларускае поэзіі азначаны імём—„Багдановіч". Трэба такжа паказаць, што у Замоцінавай мэтодолёгіі пераважаюць падставы і прыемы так званага псыхолёгічнага падыходу да літаратурнае зьявы.

Паасобныя вельмі цікавыя работы дае маладое пакаленьне літаратуразнаўцаў (артыкулы Адама Бабарэкі, Уладзімера Дзяржынскага і нек. іншых). Але прысьвечаныя паасобным пытаньням, дэталям літаратурнага развою, не завершаныя пакуль што шырокімі навуковымі абагуленьнямі, гэтыя работы павінны разглядацца толькі як эскізы да стварэньня марксыцкага літаратуразнаўства у беларускай мове.

Да гэтага часу мы бралі такія літаратуразнаўчыя зьявы, якія бясспрэчна трэба залічыць у актыў нашае навукі пра літаратуру. Зараз нам трэба заняцца куды менш прыемнаю работай. Сур'ёзным супаратам марксызму можа зьявіцца у нашай краіне задзіўляючая няпісьменнасьць некаторай часткі нашых „літаратуразнаўцаў" і „крытыкаў". Хваляй пачварнага невуцтва захлынае чытача „крытыка", якая знаходзіць самы гасьцінны прытулак на балонах такой, здавалася-б, салідзнае часопісі, як „Полымя". Возьмем програмны нумар гэтае часопісі за 1928 г. (№ 1). У літаратурна-крытычным аддзеле зьмешчаны артыкулы г. Байковага („Да пытаньня аб мэтадах і прыёмах нашае крытыкі") і г. Глыбоцкага („Літаратурнае балота"). Цяжка сказаць, каторы аўтар можа атрымаць пальму пяршынства. Зрэшты, абодва яны, напэўна, зоймуць належнае месца ў зборніку літаратурных анэкдотаў, бо: „варт Пац палаца, а палац варт Паца".

Байкоў, выступаючы супроць пашырэньня ў нас ідэолёгічна вытрыманае прыгодніцкае літаратуры, за якую выступаў у друку і т. Бухарын, робіць вынаходку: у лік *пісьменьнікаў* залічае... Пінкэртона... Кажучы накш, „крытык" пераблытаў гэроя літаратурнага твору з яго аўтарам. Калі гэты г. Байкоў самым грунтоўным чынам не займецца папаўненьнем сваіх ведаў, дык у далейшым ён можа абвясьціць усім што „Гамлета" напісаў Гамлет, або што „Сокі цаліны" напісаны Сокам Цаліны...

Г. Глыбоцкі далёка ў гісторыю не забіраецца. Ён арудуе ў другім кірунку. Зусім нечаканую карціну прадстаўляе пад яго пяром так

званы формальны аналіз. Ен, небарак, нааналізавауся да таго, што устанавіў, нават факт, быццам Дубаўкава „Наля“ страціла 40% сваёй эмоцыянальнай насычынасьці. На роўных падставах з такою анэкдотычнаю дакладнасьцю я магу сьцьвярджаць, што „Наля“ страціла ня 40% эмоцыянальнае насычанасьці, а толькі 1,0005% і няхай „крытык“ давядзе. што менавіта яго лічба правільная [1]). Падобныя-ж вынаходкі расьпіраюць гэты гартаваны твор. Каб паказаць іх дзікасьць, падам такі прыклад. Г. Глыбоцкі прабуе „разграміць“ Дубоўку, калі ў вершы апошняга „на адно слова прыпадаюць два націскі“.

Вы, таварыш Наруталічанка і г. д.

Накш кажучы, гэты гартаваны крытык радзіць пісаць чыстым мэтрам. Гэта немагчыма—папершае. а падругое—гэта нячуваная няпісьменнасьць. Глыбоцкім „зьнішчаны“ Пушкінскія радкі:

... и светла
адмиралтейская игла

або Коласаўскія:

так і друѕы разважалі.
пераглядаліся, чакалі...

Крытычныя „практыкаваньні“ Байковага і Глыбоцкага разабраны мною тут зусім не для таго, каб даць чытачу вясёлы настрой. Усё гэта, урэшце, куды больш сумна, чым сьмешна. Сама магчымасьць зьяўленьня гэтых „практыкаваньняў“ на балонах тоўстае часопісі сьведчыць пра невыстарчальна-высокі агульны ўзровень вядомага значнага сэктару нашае літаратурнае крытыкі. Змаганьне за аўладаньне цьвярдынямі марксыцкага падыходу да літаратурнага развою павінна быць у той-жа час змаганьнем супроць невуцтва, дыльлетантызму і някультурнасьці. Марксыцкі мэтод, самы дасканалы з усіх вядомых нам навуковых прыладаў, зьяўляецца такжа адным з самых складаных, самых цяжкіх мэтодаў.

Як вынік з усяго сказанага, я ўважаю зусім сваячасным прыцягнуць найвялікшую ўвагу да пытаньняў марксыцкай літаратурнай мэтодолёгіі. Мне здаецца, што гэтымі пытаньнямі нашай навуцы пра літаратуру і нашай літаратурнай крытыцы трэба заняцца—стала і грунтоўна. Менавіта зараз, як ніколі раней, патрэбна нам паглыбленая праца па дэталізаваньні, праверцы і замацаваньні прынцыпаў дыялектычна-матэрыялістычнага падыходу да літаратуры.

У гэтым артыкуле я пастараюся даць пасільнае вырашэньне некаторым пытаньням марксыцкае мэтодолёгіі, пастаўленым сёньня на чаргу. Гэта пытаньне пра эстэтычную суггестыўнасьць мастацкага твору, пра значэньне інэрцыі ў літаратурным развоі і некаторыя іншыя. Паводле характару тэмы мне давядзецца браць ілюстрацыйны матар‘ял з розных літаратур і розных эпох. Сыстэматычнага выкладу асноў

[1]) Няхай ён таксама паведаміць. з дапамогаю якіх, дагэтуль нікому невядомых формул, ен мае магчымасьць вылічаць эмоцыянальную насычанасьць у процантах. А можа ён ужо праводзіць опэрацыі з „квадратамі“ гэтай насычанасьці, можа ён ужо інтэгруе яе?!

марксыцкага мэтаду я не даю, таму што гэта ўжо шмат разоў рабілася да мяне. Буду рад, калі мой артыкул выкліча водгукі і ўважную крытыку. Гэта дазволіць мне маю задачу,—абудзіць цікавасьць да пытаньняў мэтодолёгіі,—уважаць выкананай.

II

Кожнае новае эстэтычнае вучэньне пачынала звычайна ад спробы адказаць на пытаньне: „што такое мастацтва?", са спробы якая давяла-б невыстарчальнасьць усіх ранейшых адказаў і дала-б унівэрсальнае вызначэньне эстэтычнай чыннасьці чалавека ва ўсім яе гістарычным абхваце. Утваралася формула, якая-б аб'яднала двухмерную дзікунову графіку з рамантычнымі вышуканасьцямі Дэлякруа або нямецкі міньнезанг з Дастаеўскім. Іншымі словамі, вызначаліся нейкія агульныя, абсолютныя, нязьменныя адзнакі для ўсяго таго, што ўжо разглядалася як мастацтва, а на будучы час давалася эстэтычная конституцыя. Усе падобныя спробы да гэтага часу канчаліся нічым. Гісторыя эстэтычных тэорый прадстаўляе адзіную ў сваім кірунку гісторыю тэорэтычных банкруцтваў. І хоць няўдачы тлумачацца галоўным чынам тым, што ня ўсе дэталі пакуль што вядомы і апісаны, можна з глыбокаю ўпэўненасьцю сьцьвярджаць, што задача стварэньня эстэтычнае конституцыі адносіцца да тыпу задач квадратуры круга.

Для марксыстага пытаньне: „што такое мастацтва?" і ў асобку: „што такое літаратура?"—ня існуе ў той адцягненай форме, у якой яно звычайна даецца. Становячы яго так, мы маўкліва дапушчаем існаваньне нейкай абсолютнай катэгорыі эстэтычнага, сьвядома ці не сьвядома разглядаем мастацтва мэтафізычна. У самой умове задачы мы робім памылку, не паказваючы чацьвертага вымеру дасьледванае зьявы, не раскрываючы яго t, яго часовае дапасаванасьці. Пытаньне: „што такое мастацтва?" становіцца навуковым толькі пасьля растлумачэньня: пра якое, уласьне, мастацтва ідзе гутарка. Мастацтва „наогул" нам невядома. Адмаўляючыся адказаць на пытаньне: „што такое мастацтва"—можна гаварыць на тэму, што такое мастацтва Грэцыі ў Пэрыкляву эпоху і што такое мастацтва Рэнэсансу.

Усё сказанае адносіцца, бязумоўна, і да літаратуры. Усялякая тэорэтычная работа пачынаючы ад выясьненьня прадмету навукі, пачынае ў сапраўднасьці ад спробы даць статычную цьвёрдую формулу літаратуры. Вынікі атрымоўваюцца нечаканыя. Лянсон, уключыўшы ў сваю „гісторыю францускае літаратуры" творы Гізо, Т'еры і іншых, толькі адна са шматлікіх ахвяр ідэялістычнае мэтодолёгіі. Я ня маю часу для ілюстрацыйнага параўнаньня хоць-бы самых популярных з існуючых вызначэньняў мастацтва слова, але наогул зрабіць такое параўнаньне ўважаю ня лішнім. Надзвычайна цікава было-б правесьці параўнаньне выказваньняў некалькіх пакаленьняў. Чым больш сумленна будзе праведзена гэтае параўнаньне, тым больш блізкае адлюстраваньне сапраўднага гістарычнага быцьця літаратуры у пэўны хронолёгічны

кругабег мы атрымаем. Дагаворанасьць, пра якую яшчэ і сёньня сумуюць многія, тут ня можа быць праз самую істоту рэчаў. Кожнае новае пакаленьне ўваходзіла ў жыцьцё са сваім разуменьнем таго, што зьяўляецца літаратураю; у межах кожнага пакаленьня паасобныя соцыяльныя групы змагаліся за сваё ўяўленьне наконт яе. Узьвядзеньне клясава абмежаванага разуменьня ў навуковую догму зьявілася вынікам спэцыфічнае асаблівасьці буржуазнае навукі ўважаць *сучаснае* пачаткам вечнага і абсолютнага. Значна горш, калі замілаваньне да статычных вызначэньняў пранікае ў марксыцкае літаратуразнаўства, калі марксысты, пачынаючы адбор літаратуры мастацкай ад не мастацкай узбройваецца якім-небудзь адзіным крытэрыем гэтай мастацкасьці, адзіным маштабам для рэчаў несуразьмерных. Дагаворанасьці тут нельга дамагчыся ўжо таму, што яна стаіць у супярэчнасьці з дыялектыкаю. Літаратура ёсьць развой і статычнае вызначэньне літаратуры можа быць сапраўдным толькі для якой-небудзь конкрэтнай часткі гэтага развою. Агаварваюся, што гутарка ўвесь час ідзе пакуль што наконт вызначэньня літаратуры ў яе спэцыфіцы, як асобнага гатунку людзкой чыннасьці, а не наконт выясьненьня соцыяльна-біялёгічнае ролі мастацтва. Адна справа сказаць, што фізыка ёсьць навука наконт руху энэргіі і зусім іншая справа паказаць значэньне гэтае навукі для людзей.

У чым заключаўся практычны сэнс шуканьняў абсолютнае формулы мастацтва? Шуканьні гэтыя былі а засталіся вынікам сваеасаблівае мэтодолёгічнае зайздрасьці. Наяўнасьць цьвярдога вызначэньня літаратуры, якое заключае ў сабе згадваньне пра ўсе адрозныя адзнакі гэтага гатунку мастацтва, якое разам зьяўляецца і ключам да раскрыцьця таямніцы эстэтычнай суггэстыўнасьці дадзенага мастацкага факту і беспамылковым крытэрыем эстэтычнага адбору, дазволіла-б навуку пра літаратуру зрабіць навукай дакладнай, а законы выведзеныя з яе дапамогай матэматычна непарушнымі. Пераможнае разьвіцьцё матэматычных і прыродазнаўчых навук, якія вырасьлі за апошнія дватры стагодзьдзі ў аграмадную вывядоўчую і наступальную організацыю чалавецтва, гіпнотызавала навукі гуманітарныя. Самое процістаўленьне дакладных навук гуманітарным здавалася зьняважлівым. І зусім натуральнымі былі спробы насьлядоўваць у мэтодолёгіі гуманітарных дысцыплін прынцыпам навук, якія вывучаюць фізычны сьвет. Справа даходзіла да зьмены самой знадворнасьці гуманітарных досьледаў на ўзор досьледаў матэматычных. У якасьці клясычнага прыкладу спашлюся на „Этыку“ Сьпінозы. Славуты трактат, як і Эўклідава геомэтрыя пачынаецца з асноўных азначэньняў—аксыом, якія не патрабуюць довадаў, а пасьля прадстаўляе збор тэорэм з іх довадамі, з прыцягваньнем схолій, калі для гэтага зьяўлялася канечная патрэба. Зусім блізкім да нас прыкладам могуць служыць працы некаторых літаратуразнаўцаў-формалістых, якія запазычылі з альгэбры сыстэму яе абазначэньняў, якія матэматыкападобна фіксуюць пабудову літаратурных твораў. Але, вядома, адным жаданьнем атрымаць знадворнае падабен-

ства з дакладнымі навукамі пытаньне не абмяжоўваецца. Пры павярхоўным параўнаньні кідалася ў вочы, што ў той час, як навукі пра фізычны сьвет выразна спэцыялізаваны і да пэўнай граніцы цьвёрда разьмежаваны, навука пра літаратуру нават ня мае здавальняючага прадстаўленьня аб сваім прадмеце і вельмі часта ня можа азначыць, што ўласна належыць да яе компэтэнцыі. Менавіта тут і зьявілася мэтодолёгічная канечнасьць у такім азначэньні мастацтва, у такой статычнай формуле літаратуры, якая, ускрываючы спэцыфіку літаратурнага фэномэну, магла-б служыць крытэрыем літаратурна-эстэтычнага адбору. Гісторыя дамарксыцкага літаратуразнаўства і была гісторыяй утварэньня гэтай формулы, кругабегам своеасаблівай літаратуразнаўчай альхэміі. Няўдачы з атрыманьнем мэтодолёгічнага „філёзофскага каменя“ прывялі, нарэшце да пэсымістычнага адмаўленьня самай магчымасьці навукі аб літаратуры, да сумненьняў у яе існаваньні, як навукі. І сапраўды, навука пра літаратуру, ніколі навукай, у тым значэньні, якое мы цяпер уносім у гэта слова, стаць не магла на шляху шуканьняў эстэтычнага абсолюту.

Мэтодолёгія кожнай навукі вызначаецца характарам, прыродай і асаблівасьцямі яе прадмету. Закон захаваньня энэргіі сам па сабе не стаіць ні ў якай прычынна-выніковай сувязі з соцыяльным жыцьцём і зьяўляецца законам, які аднолькава дзейнічае і ў фэўдальным грамадзтве, і ў буржуазным, і ў нашым. Ня гледзячы на тое, што вынаходка гэтага закону насіла глыбока-заканамерны соцыяльны характар, ня гледзячы на тое, што само яго азначэньне ня можа да канца ўразумляцца па-за тым грамадзкім асяродзьдзем, дзе яно, гэта азначэньне, ўзьнікла, фізычны зьмест раунаньня Гэльмгольца застаецца соцыяльна нэўтральным. Іншае палажэньне характэрна для навук гуманітарных. Навука пра літаратуру ня можа разглядацца як прынцыпова тожсамая навукам прыродазнаўчым, бо ў ёй фактам соцыяльнага быцьця зьяўляецца ня толькі яна сама, але і яе прадмет. Якраз таму і яе мэтодолёгія будзе ня гэткай, як мэтодолёгіі навук пра фізычны сьвет. Усе спробы ўтварэньня статычнага азначэньня прадмету навукі пра літаратуру выходзілі з няправільнага прадстаўленьня аб констытуцыйнай асаблівасьці гэтага прадмету. Навука пра літаратуру можа стаць дакладнай навукай, здольнай ня толькі да дэскрыптыўнай констатацыі мінулага, але і да прадбачаньня наступнага, толькі трэба цьвёрда ўстанавіць, што яе прадмет мае соцыяльную прыроду. Адпаведна з гэтым ёй прыдзецца выпрацоўваць свае мэтодолёгічныя асновы не пры дапамозе спосабу тэорэтычна-памылковага запазычаньня іх у навук прыродазнаўчых, а на аснове ўважлівага ўрахунку асаблівасьцяй зьявы, якую яна вывучае.

## III

Караль Маркс у сваіх „Уводзінах да крытыкі політычнай экономіі“ пісау: „Продукт мае сваё канчальнае завяршэньне толькі у спажыцьці. Чыгунка, якою ня езьдзяць, якой не карыстаюцца, якая не

спажываецца, ёсьць чыгунка толькі dynamei, а не ў сапраўднасьці. Бяз вытворчасьці ня можа існаваць спажыцьцё, аднак, і без спажыцьця ня можа існаваць вытворчасьць, бо вытворчасьць у такім выпадку была-б непатрэбнай. Спажыцьцё ўтварае вытворчасьць у падвойным сэнсе: па-першае, тым, што ў спажыцьці продукт становіцца сапраўды продуктам, адзеньне становіцца адзеньнем толькі тады, калі яго носяць, памяшканьне, у якім ня жывуць не зьяўляецца фактычна памяшканьнем; такім чынам, продукт у адрозьненьне ад простага прадмету прыроды, становіцца продуктам толькі ў спажыцьці. Спажыцьцё, зьнішчаючы продукт, дае яму зьвяршэньне, бо продукт ёсьць вынік вытворчасьці ня толькі як аматар'ялізаваная дзейнасьць, але і з тэй умоваю, што ён зьяўляецца продуктам для дзейнага суб'екту. Па-другое, спажыцьцё параджае вытворчасьць, утвараючы патрэбнасьць новай вытворчасьці, г. зн. выклікаючы ідэальны, унутраны, пабуджальны мотыў вытворчасьці, які зьяўляецца яе перадумовай. Спажыцьцё ўтварае імпульс да вытворчасьці; яно ўтварае таксама і прадмет, які бярэ ўдзел у вытворчасьці, вызначаючы яе мэту. І калі ясна, што вытворчасьць прапануе спажыўцу прадмет у яго знадворнай форме. то таксама ясна, што спажыцьцё ўтварае прадмет вытворчасьці ідэальна, як патрэбнасьць і як мэту. Яно ўтварае прадмет вытворчасьці яшчэ ў яго суб'ектыўнай форме. Без патрэбнасьці няма вытворчасьці. Аднак спажыцьцё рэпродуктуе патрэбнасьць“ [1]). Паколькі мастацкі твор зьяўляецца не прадметам прыроды, а продуктам пэўнай, хоць і вельмі спэцыфічнай вытворчасьці, прыведзеныя Марксавы разьважаньні трэба аднесьці і да яго. Ня будзе простай аналёгіяй сьцьвярджэньне, што продукт эстэтычнай творчасьці сваё вышэйшае завяршэньне знаходзіць у спажыцьці і толькі праз спажыцьцё становіцца ўласна продуктам. Рэчаў гэніяльных „у сабе“ няма. Гэніяльнай рэч можа стаць толькі тады, калі яна спажываецца і толькі ў зьнішчэньні яна рэалізуецца да канца. Гэніяльнасьць з пункту гледжаньня літаратуразнаўцы ёсьць катэгорыя соцыяльна-гістарычная. Калі-б „Боская комэдыя“ была напісана ў нашы дні (зробім гэта не марксыцкае дапушчэньне) яе вялікая поэтычная моц была-б нягрунтоўнай. Гэніяльнасьць мастацкага твору не зьяўляецца нечым дадзеным у ім, бязузгляднa, але існуе толькі для яго конкрэтнага спажыўца. Толькі праз спажыўца мастацкі твор становіцца мастацкім і толькі губляючы яго перастае быць такім. Гэніяльнасьць „Боскай камэдыі“, калі яе разглядаць ня ў пляне біолёгічных асаблівасьцяй яе тварца, а ў пляне гістарычна-літаратурным, памерла разам са змаганьнем гвэльфаў і гібэлінаў.

Мне ўжо даводзілася пісаць, што калі-б у будучыне кім-небудзь з пункту гледжаньня чытача крымінальна-прыгодніцкага раману была-б напісана гісторыя літаратуры, мы атрымалі-б гісторыю романа фэльетону плюс, магчыма, школьныя успаміны пра клясыкаў. Для масавага спажыўца дэтэктыўнай бэлетрыстыкі іншай літаратуры проста не

[1]) Вып. 2. Адэса 1923 г., стар. 8.

існавала. Усе яго эстэтычныя запатрабаваньні знаходзілі ў сэрыйным рамане канчатковае і высокае задавальненьне. Або другі прыклад: „История славного вора, разбойника и бывшего московского *сыщика* Ваньки Каина“ вытрымала ў XVII ст. у Расіі пятнаццаць выданьняў, у той час, як Рычардсон ня мог атрымаць ніводнага паўторнага выданьня. І калі романы Рычардсона разглядаюцца, як вышэйшы эстэтычны пункт для цэлага вялікага кругабегу літаратурнай культуры, то няма жадных асноў ня бачыць таго-ж самага і ў „Ваньке Каине“, але ўжо для іншага культурнага ўтварэньня. Вясёлы злодзей, жорсткі і спрытны, уладаў сакрэтам вялікага, у пэўным чытацкім коле, монополістычнага захапленьня. Калі поэтыка выдатнай аўтобіографіі і магла паказацца недарэчнай, бязгустоўнай, „нізкай“ для паклоньнікаў панэгірычнай лірыкі Дзержавіна, дык, сваім парадкам, заканамерны адваротныя суадносіны. Там, дзе панаваў Ванька Каін, „певец Фелицы“ быў бы незразумелым і варожым. Прыгадаю, нарэшце, яшчэ адзін прыклад. Хто з нас чуў імёны Балестрэма, Марыі Бернгард, графіні Зольбург, барона Шліхта і шмат іншых? Тымчасам, для чытача провінцыяльнага нямецкага „гарадка“ ў 90-х гадох мінулага стагодзьдзя гэтымі імёнамі вычэрпвалася ўся нямецкая літаратура. Да Клёпштока, Гётэ, Шыльлера ў яго ня было нічога, апрача афіцыйнай павагі. У Эўропе пісалі Золя, Ібсэн і Талстой, у Нямеччыне тварылі Гаўптман і Зудэрман, але тут маглі хваляваць толькі доўгія романы Натальлі фон-Эшструт і Гонгофэра. Утварыўся асобны, даволі значны кадр аўтараў забытых і асьмеяных у сталіцах, але акружаных тут пашанай і замілаваньнем. Што-ж, у такім выпадку, зьяўляецца нямецкай літаратурай, літаратура Шыльлера, Гётэ ці барона Шліхта? Калі гэта пытаньне паставіць чытачу „Hintertreppen romane“ ён адкажа, ні тое, ні другое: Клясычным творам нямецкай літаратуры будзе для яго „Пячора Лейхтвэйса“.

Мастацкі твор, як і твор усякай іншай працы ня існуе без спажыцьця. Становкае слова аб пытаньні эстэтычнай значнасьці літаратурнага факту належыць таму, для каго гэта эстэтычная значнасьць „угатавана“, дакладней, кім яна ажыцьцяўляецца. Ігноруючы спажыцьце мастацкага твору, г. зн. завяршаючы акт у яго соцыяльным быцьці, мы атрымоўваем аб ім скажанае прадстаўленьне, а часта зусім ня бачым яго. Уразуменьне поэтычнага факту можа быць зроблена толькі пры дапамозе рэстаўрацыі ўмоў і характару яго спажывецкай рэалізацыі. З гэтага пункту гледжаньня „Боская комэдыя“ і „Ванька Каин“ маюць для марксыстага літаратуразнаўца аднолькавае права на ўвагу. Верх і ніз у эстэтыцы таксама зьяўляюцца ўмоўнымі, як і ў астрономіі.

IV

Усе выкладзенае цесна падводзіць нас да проблемы эстэтычнай суггестыўнасьці мастацкага твору.

Раскрыцьцё таямніцы эстэтычнай суггестыўнасьці мастацкага факту, г. зн. менавіта таго, што робіць гэты факт мастацкім, у адрозь-

неньне ад усіх іншых фактаў чалавечай вытворчасьці, зьяўляецца ў існасьці асноўнай задачай кожнай літаратурнай тэорыі, задачай ад разьвязаньня якой залежыць лёс самой тэорыі. Ідэялістычнае прадстаўленьне гісторыі літаратуры, як адналінейнага разгортваньня эстэтычнага абсолюту, які застаецца, тожсамым самому сабе ў розных фэномэнальных выражэньнях, мела на ўвазе ўразуменьне эстэтычнай суггестыўнасьці конкрэтнага мастацкага факту толькі праз папярэдняе ўразуменьне самога эстэтычнага абсолюту. Адсюль мае пачатак разуменьне поэзіі і як „мовы багоў“, і як „нябёснага адкрыцьця“, г. зн. як нечага, калі не асоцыяльнага, то, ва ўсякім выпадку, надсоцыяльнага. Гэта разуменьне дакацілася і да нас ды лягло ў аснову тэорыі агульначалавечай значнасьці мастацтва, якая ня так даўно яшчэ вызнавалася на балонах марксыцкіх часопісяй. Прызнаньне эстэтычнай суггестыўнасьці конкрэтнага поэтычнага факту проэкцыяй у ім эстэтычнага абсолюту прадумовіла „характар дамарксыцкай дасьледчай працы ў гэтым кірунку“. Эстэтычная суггестыўнасьць гіпотэтычна разглядалася захованай у самым мастацкім творы, незалежна ад яго соцыяльнага быцьця, як об'ектыўная існасьць мастацкага факту. Мысьлілася магчымым зразумець і растлумачыць эстэтычную суггестыўнасьць ізолявана, выходзячы з яе самой, застаючыся ў межах зьявы, якая вывучаецца. Менавіта на гэтых гносэолёгічных падставах трымаліся мэтодолёгічныя перадумовы формальнай школы ў літаратуразнаўстве, у першы „опоязаўскі“ кругабег яе існаваньня. Далейшая эволюцыя формалістых, якія ў апошні час прышлі да соцыялёгічнай працы над гістарычным матар'ялам, гаворыць сама за сябе[1]. Як толькі мы падыходзім да літаратуры, як да соцыяльнага процэсу, становіцца ясным, што эстэтычная суггестыўнасьць адшукоўвалася ідэялістымі там, дзе яе ніколі ня было.

Марксыцкая навука аб літаратуры, сваім парадкам, далёка не адразу падышла до правільнага разуменьня пытаньня, якое стаяла перад яе вывучэньнем. Яшчэ і да сягоньня ня ўсе непаразуменьні вызначаны і разьвеяны. Характарнай рысай раньніх марксыцкіх літаратуразнаўчых прац быў разгляд мастацкага твору, як простай ілюстрацыі да агульна-культурнага, соцыяльна-экономічнага разьвіцьця. Мастацкі твор браўся не як адно з выражэньняў гэтага адзінага процэсу, а як яго адлюстраваньне. Скрозь упускалася з вока нават элемэнтарная тэхнолёгічная своеасаблівасьць поэтычнага мастацтва. Для раскрыцьця эстэтычнай дзеістасьці літаратурнага факту уважалася выстарчальным, соцыялёгічнае апісаньне асяродзьдзя, дзе бытаваў гэты факт. Яго аналіз падменьваўся аналізам хронолёгічна роўналежнай яму экономікі прычым сувязь паміж двума гэтымі момантамі спрашчалася нагэтульki, што станавілася няўгрунтоўнай. Вялікай заваевай было спыненьне вышуканьняў поэтычнай дзеістасьці літаратурнага твору ў самым літаратурным творы але было памылкай адшукоўваць яе толькі там дзе

[1]) Працы В. Шклоўскага пра „Войну и мир“ Л. Талстога.

гэты твор паўстаў. дзе ён спажываўся. Эстэтычная суггестыўнасьць знаходзіцца пасярод.

Эстэтычная суггестыўнасьць у самым агульным сэнсе ёсьць дачыненьне паміж матар'яльнай дадзенасьцю мастацкага твору і дадзенасьцю соцыяльнай (спажывец, чытач). Як і „ўсякае дачыненьне. эстэтычная суггестыўнасьць не прадстаўляе сабой нечага нязьменнага, раз назаўсёды дадзенага, але з зьменай аднаго члену дачыненьня зьмяняецца і яна сама. Матар'яльная аснова мастацкага факту звычайна ня мае магчымасьці якой-бы там ні было гістарычнай дэформацыі (я выключаю. вядома, моманты фізычнага ці нечаканага распаду і зьнішчаньня рукапісу, кнігі, статуі. карціны), але ў выніку гістарычна-соцыяльнай эволюцыі другога члену дачыненьня мастацкі твор можа або зусім згубіць эстэтычную суггестыўнасьць. або яна атрымае новую ахварбоўку і новую накіраванасьць. Эстэтычна вечных рэчаў няма. З утратай эстэтычнай суггестыўнасьці мастацкі твор перастае існаваць, як такі. Ён яшчэ можа існаваць, але ўжо па-за сваім ранейшым прыстасаваньнем, застаючыся адно часткай фізычнага сьвету. Аднак, у выключных выпадках для яго можа быць адшукана новае прыстасаваньне. якое нічога агульнага з эстэтычным ня мае. Так. Вэнэра Мілоская можа служыць у горадзе пудзілам для птушак, а старонкі. на якіх надрукавана „Боская комэдыя“ могуць пайсьці на цыгаркі.

Каб маё разуменьне эстэтычнай суггестыўнасьці. як дачыненьня, стала відавочным, прыгадаю конкрэтныя прыклады. Між іншым, было-б асабліва цікава напісаць монографію гісторыі такіх значных твораў, як „Гамлет“, „Фауст“, „Дон-Жуан“. Мы-б убачылі. як адзін і той-жа герой зьменьваўся. разам з зьменамі асяродзьдзя. якое яго ўспрыймала, як ён станавіўся непазнаваным у кожным новым дзесяцігодзьдзі свайго існаваньня. Перастаючы зьменьвацца, ён пераставаў існаваць. „Гамлет“ у гады свайго напісаньня і першых пастановак (1601—1605) быў трагэдыяй з выразна акрэсьленай агітацыйна-палітычнай ахварбоўкай. Для наведвальнікаў „Глобуса“ дацкі прынц быў надзённым. вострым палітычным намёкам. Самім аўтарам трагэдыя выкарысталася перш за ўсё ў вузка партыйных інтарэсах; яна залучала саюзьнікаў і асуджвала ворагаў. Затым „Гамлета“ на вельмі доўгі час забываюць. Калі палітычныя абставіны зьмяніліся, то яны вывялі дацкага прынца з шэрагаў жывых герояў. Яго ўваскрошаньне адбываецца толькі ў 18 стагодзьдзі пад уплывам рэзкіх зрухаў у соцыяльнай псыхолёгіі. Але „Гамлет“ у выкананьні Давіда Гарыка ўжо ў асноўным іншы за „Гамлета“ Шэкспіра. З героя нацыянальнага дацкі прынц зьменьваецца ў пэрсонаж інтэрнацыянальны. У XIX стагодзьдзі „Гамлет“ толькі псыхолёгічная проблема. У XX стагодзьдзі трагэдыю Шэкспіра іграюць у Лёндоне ў сучасных эўропэйскіх вопратках маючы на ўвазе акрамя эпатажа мэты, максымальнага абстрагаваньня. максымальнай дэлёкалізацыі пастаноўкі, а ў СССР у Маскве Чэхаў робіць новае раскрыцьцё вобразу дацкага прынца ў містычным пляне, утвараючы ў існасьці яшчэ аднаго свайго Гамлета.

Ня менш, чым гісторыя „Гамлета“ зьяўляецца цікавай біографія другога буйнага твору ангельскай літаратуры, поэмы „Страчаны рай“. Апокаліптычны эпос суворага пурытаніна Мільтона, які зьявіўся дзякуючы рэволюцыйнаму змаганьню ангельскай буржуазіі з абсолютызмам Стуартаў, успрыймаўся сучасьнікамі Кромвэля, як пэўная дзеістая пропаганда. Але гэтая-ж поэма зусім нечакана апынулася ў ліку найцікавейшых кніжак для расійскай вёскі XIX-га стагодзьдзя. Вядома, нічога агульнага ў экономічна-псыхолёгічнай кон'юнктуры Ангельшчыны XVI ст. і Расіі XIX-га нельга адшукаць. Пад адным і тым-жа назовам у Расіі жыў ужо другі твор, які меў новую эстэтычную актуальнасьць. Поэма Мільтона выдавалася для вёскі ў пераказе. Але гэта гаворыць аб пасягальнасьці часу нават на матар'яльную аснову твору, на тое, што здавалася нам нязьменным.

## V

Разглядаючы эстэтычную сугестыунасьць літаратурнага факту, як дачыненьне, мы атрымаем магчымасьць адказаць на пытаньне аб вельмі дзіўнай гістарычнай жыцьцяздольнасьці некаторых твораў сусьветнай літаратуры. У пяршыню гэта пытаньне было пастаўлена марксыцкаму літаратуразнаўству самім Марксам. „...Цяжкасьць зьмяшчаецца ў тым, пісаў Маркс, каб зразумець, што грэцкае мастацтва і эпос зьвязаны з вядомымі грамадзкімі формамі разьвіцьця. Цяжкасьць змяшчаецца ў разуменьні таго, што яны не перастаюць даваць нам мастацкую асалоду і у пэўным сэнсе захоўваюць значэньне нормы і недасяжнага ўзору“ [1]). На Марксава пытаньне адказвалі па рознаму, але толькі некаторыя прыбліжаліся да яго правільнага вырашэньня. Адказаць на гэта пытаньне наогул немагчыма, не падыходзячы да мастацкай асалоды, якую давала Марксу грэцкае мастацтва, як да спэцыфічнага выражэньня тых гістарычных суадносін, у якіх стаяла грэцкае мастацтва і яго спажывец у XIX стагодзьдзі. Толькі ўстанавіўшы, што эстэтычная суггестыўнасьць мастацкага факту ёсьць функцыянальны вынік узаемадзейнасьці самога твору і яго спажыуца, мы атрымоуваем ключ да разьвязаньня Марксавае задачы. Справа ў тым, што грэцкага мастацтва такога, якім яго ведалі непасрэдныя тварцы і першыя спажыўцы, нам ведаць не дадзена. Маркс чытаў другога Софокля, мала падобнага да поэты, вядомага жыхарству старой Аттыкі. Каб было інакш, мы былі-б прымушаны адмовіцца ад марксызму. Перш, эмпірычны Софокль памёр разам з умовамі, што яго аформавалі, але пасьля, калі адчувалася патрэба, кожная новая эпоха ўтварала свайго новага Софокля. Эстэтычная суггестыўнасьць Эдыпавай трагэдыі зьмянялася, ахварбоўвалася ў новыя колеры, атрымоўвала новы зьмест у залежнасьці ад паўсёдных зьмен соцыяльнай масы, якая яе ўспрыймала (другі член

[1]) „Да крытыкі політычнай экономіі“, уводзіны стар. 25—26. Адэса 1923 г.

нашага дачыненьня). Пад Софокляўскімі грагэдыямі Маркс любіў грагэдыі створаныя на палову ім самым, трагэдыі, у якіх ад іх першага аўтара заставалася адна матар'яльная слоўная аснова, якая ня гучыць, калі яе ня чуюць. Марксу, пэўна, нічога-не гаварыла паняцьце фатуму, паняцьце, якое наогул ня можа ўразумецца эўропэйцам новага часу, соцыяльна псыхолёгічны рэбус, які мы наўдачу ці здолеем калі-небудзь прачытаць, але Маркс, гістарычна абумоўленая асоба, рэволюцыянэр і вучоны, успрымаючы творы, дзе галоўнай дзейнай асобай быў менавіта гэты фатум, уносіў у іх некі новы эстэтычны сэнс, падказаны яго ўласным палажэньнем у гісторыі і ў грамадзтве. Адразу за прыведзеным урыўкам, Маркс вызначыў сваё разуменьне эстэтычнай жывучасьці грэцкага мастацтва, разуменьне, якое, вядома, рэзка разыходзіцца з тым, што бачылі і цанілі ў гэтым мастацтве самі грэкі.

Каб не варочацца да проблемы я паспрабую зараз-жа адказаць яшчэ на адно пытаньне, якое часта прыходзіцца чуць сьледам за Марксавым пытаньнем. Другое пытаньне зьмяшчаецца ў тым, чаму менавіта грэцкае мастацтва, а не нямецкае, ня кітайскае ці якое-небудзь іншае займала такое значнае месца ў цэнтры ўвагі пазьнейшага чалавецтва; чаму XVIII ст. выбрала Шэксьпіра, а не Марлё ці Грына і г. д. Да гэтага часу адказ на гэта пытаньне бачылі ў тым, што грэцкае мастацтва эстэтычна больш каштоўнае, чым усякае іншае, якое спаборнічала з ім, што ў п'есах Шэксьпіра захавана больш об'ектыўнай мастацкасьці, чым у п'есах Марлё і што гэтая мастацкасьць носіць надгістарычны характар. Марксыцкі адказ гучыць інакш і лёгка выцякае з сказанага намі раней. Грэцкае мастацтва атрымала перавагу над эгіпецкім зусім не таму, што яно эстэтычна было багацейшым за апошняе, не таму, што бязрукая Вэнэра Мілоская мастацка вышэйшая за славутага бязносага сфінкса. Захапленьне вывучэньнем антычнага мастацтва Лесынгам, рамантыкамі Шылерам, Гётэ і прызнаньне гэтага мастацтва Марксам „нормай і недасяжным узорам“, усё гэта гаворыць аб тым, што ў Нямеччыне XVIII—XIX стагодзьдзяў бытавалі такія соцыяльна-псыхолёгічныя ўмовы, у якіх грэцкае мастацтва здолела атрымаць нейкую новую эстэтычную каштоўнасьць. Тут ня было простага стэрэотыпнага адраджэньня антычнай эстэтыкі, але тут антычнае мастацтва атрымала магчымасьць новага ўразуменьня, Вэнэра Мілоская і яе новы спажывец прышлі ў такія суадносіны паміж сабой калі стаў няўхільным пераход славутай скульптуры з сьвету фізычнага ў сьвет эстэтычны. У грэцкім мастацтве былі пэўныя формальныя асаблівасьці, якія, прышоўшы ў дачыненьне з, пэўным парадкам настроеным, спажыўцом, далі эстэтычны контакт. Але трэба было толькі спажыўцу зьмяніцца і грэцкае мастацтва згубіла эстэтычную жыцьцяздольнасьць. У сучаснай Эўропе яго месца на пэўны час заняла нэгрыцянская скульптура. Шэксьпір быў выбраны з цэлай плеяды драматургаў Лізавецінскай эпохі ў Расіі зноў-такі не таму, што яго талент меў агульналюдзкі характар.

У канцы XVIII ст. Шэксьпір наагул ня быў таленавітым. Але ўжо ў XVIII ст. нейкія пэўныя матар'яльныя элемэнты Шэксьпіраўскіх трагэдый атрымалі магчымасьць значнай мастацкай выразьлівасьці.

Некалькі слоў нра тое, што я разумею пад матар'яльнай асновай мастацкага факту. Яе першая і адрозная адзнака—нязьменнасьць. Гэта адзіна-сталая частка мастацкага факту, пры ўсіх іншых зьменных. Гэта сыстэма формальных асаблівасьцяй мастацкага твору, сыстэма прыёмаў, што абумовілі эстэтычнае, а ні якое-небудзь другое быцьцё гэтага твору. Вынаходка поэтычнага прыёму адбываецца пад уплывам цэлага шэрагу канечных патрэбнасьцяй, першапрычынай якіх зьяўляецца экономічная канечнасьць, але раз паўстаўшы, гэты прыём у сваёй індывідуальнай конкрэтнасьці ўжо ня можа зьмяняцца. Гэта ня значыць, што ў іншых грамадзкіх умовах гэты прыём ня будзе інакш разумецца. Але мы гаворым цяпер не пра эстэтычнае перажываньне рэчы, а пра матар'яльную прычыну для такога перажываньня. Растлумачу на прыкладзе. Прынцып трохсустаўнай ступянёвай композыцыі ў тым выглядзе, у якім ён арганізаваны ў былінах, хоць-бы, тэхнолёгічна можа разглядацца ізолявана, як пэўная матар'яльна-фармальная дадзенасьць, якая сама ў сабе зьмяшчае мяжу далейшага разьвіцьця. Гэтая дадзенасьць сёньня або ніяк ня будзе эстэтычна ўспрыймацца, або можа ўспрыймацца інакш, ня гэтак, як успрымалася ў тым грамадзкім асяродзьдзі, дзе яна зьявілася, але эстэтычна яна засталася такой самай, якой была ў першы дзень свайго матар'яльнага існаваньня. Намі, людзьмі социялістычнай экономікі, былінны эпос эстэтычна амаль што ўжо ня ўспрымаецца хоць фармальныя часткі быліны, у тым ліку і трохсустаўная ступянёвая композыцыя, стаяць перад намі ў тым-жа выглядзе, у якім яны стаялі перад людзьмі натуральнай гаспадаркі.

*(Канец будзе).*

**Ант. Адамовіч**

# Максім Гарэцкі

## XI

Апошнім творам першага пэрыяду творчасьці Максіма Гарэцкага зьяўляецца апавяданьне „Патаёмнае"[1]). Як ужо можна здагадацца з самага загалоўку, тэмаю гэтага апавяданьня зьяўляецца тое „патаёмнае", якое мы ў сваім месцы назвалі-былі характэрнай формай праяўленьня „праклятых" пытаньняў сярод сялянства. Таксама ў сваім месцы мы нагадвалі і на прычыну гэтага самага праяўленьня, якою, панашаму, зьяўляецца беларуская прырода, незразумелая, „патаёмная" селяніну, што ў гэтым неразуменьні яе, фактычна, ня дужа далёка пайшоў ад сваіх прадзедаў—першабытных славян, што і неаднакраць адзначалася ўсімі дасьледчыкамі і апісальнікамі беларускага народнага сьветапогляду[2]). Цяпер мы павінны разгледзець больш падрабязна на матарыяле кагадзе згаданага апавяданьня, як ставіць і распрацоўвае гэтую тэму Максім Гарэцкі.

Першае, што трэба адзначыць у дадзеным кірунку, гэта тая працягальнасьць („преемственность"), якую дужа лёгка заўважыць паміж названым творам і ранейшымі пісьменьнікавымі творамі, дзе так ці інакш ставілася і распрацоўвалася названая тэма. Так, перш-за ўсё, выразна працягальная сувязь адчуваецца паміж пачаткам дадзенага твору і пачаткам-жа разгледжанага ўжо намі апавяданьня „Лірныя сьпевы" (са зьборніка „Рунь")[3]). Асабліва-ж адчуваецца гэтая сувязь паміж кульмінацыйным пунктам гэтага твору (сьмерць чараўніка) і кульмінацыйным-жа пунктам дужа падобнага па асноўнай настроенасьці і накірованасьці апавяданьня з „Руні"—„Што яно?", якія бадай-што цалкам супадаюць[4]). Гэтая зьява працягальнасьці, якая накіравана на самыя бадай яскравыя моманты ранейшага выяўленьня „патаёмнага", а таксама тая акалічнасьць, што нават загаловак рэчы, дадзены ў форме простага названьня, так сказаць, сваім імём згаданай тэмы („Патаёмнае"), прымушае нас думаць ужо нават наперад, a priori, што аўтар хоча даць у творы нейкае падагульненьне выяўленьня гэтае тэмы ў сваёй творчасьці.

[1]) Напісана, паводле аўтаравага сьведчаньня, перад вайною 1914 г.—дакладнай даты не захавалася. Надрукована ў „Зборніку Нашай Нівы" за 1920 г., ст. 35.

[2]) Гл. хоць-бы: А. Е. Богданович—„Пережитки древнего миросозерцания у белорусов"—Гродна, 1895.

[3]) Гл „Рунь", ст. 88.

[4]) Там-жа, ст. 114—115.

Калі мы зьвернемся да непасярэдняга разгляду твору, дык заўважым, што гэта сапраўды так. Апрача гэтага, мы заўважым, што такое падагульненьне пісьменьнік правёў па надзвычайна стройнай мастацкай схэме, і, больш таго, нават фактычна толькі скарыстаў самую форму „патаёмнага“ для опоэтызаванага падагульненьня сваіх уласных ранейшых шуканьняў у галіне „праклятых“ пытаньняў. Для гэтага надзвычайна ўдзячна самая надворная форма твору—поэтычна-лірычных імпрэсіяў, як-бы „вершаў прозаю“, пра што заўважыў яшчэ ак. Карскі [1]). Але, перш, чымся зрабіць гэта, разьвяжам яшчэ адно агульнне пытаньне: навошта пісьменьніку спатрэбілася і якраз цяпер гэтае падагульненьне? Такое пытаньне нам будзе ня цяжка разьвязаць, калі толькі мы ўспомнім ня так даўно пакінутага „Антона“, дзе адбылося, як мы казалі, стыкненьне містычнай настроенасьці аўтара з матэрыялізмам, якое прывяло яго да пэўнага компромісу з апошнім, компромісу, выяўленага ў „Антоне“ толькі напалавіну, толькі ў дачыненьні да, так сказаць, пэсымістычнай формы гэтае настроенасьці. Такім чынам, як відаць, падагульненьне „Патаёмнага“ зьявілася патрэбным аўтару для таго ці іншага выяўленьня ўплыву гэтага компромісу і ў галіне самога зьместу настроенасьці. З гэтага само сабою зразумелым робіцца і тое значэньне „Патаёмнага“, якое яно павінна мець, падобна да „Антона“, у дачыненьні да пісьменьнікавай ідэялёгіі. Але разгледзім самы твор, выяўляючы ў ім тую схэму, пра якую мы кагадзе сказалі.

Першым момантам гэтае схэмы, які распрацоўваецца ў першым-жа ўрыўку твору, зьяўляецца пастаноўка „патаёмнага“, як пэўнай формы праяўленьня „праклятых“ пытаньняў сярод самое патаёмнасьці прыроды, у самым яе асяродьдзі, і нават пры дапамозе яе-ж зьяў, пастаноўка выніку на прычынным фоне. Як такая, пастаноўка гэтая робіцца пры дапамозе пэўнага лірычна-поэтычнага надзіўленьня: „Жу-жу-жу...— гаманілі лісьцікі на бярозах і з балючай цікавасьцю і з вялікай жальлю і страхам слухалі спрадвечную гутарку лісточкаў асіны, што без надзеі і спуджана, як у трасцы, трапыхаліся і ціха казалі пра страшнога Юду. Заікаюцца яны, трасуцца на родных сучочках, ня ведаючы спакою ад *праклятае думкі спрадвечнае...*“ [2]) (курсыў мой. А. А.). Разьвіваючы гэтую зьяву далей, аўтар пераносіць яе ў момант самога яе генэзісу, у мінуўшчыну: „І зноў загадаўся (дуб.—А. А.) аб старадаўных лепшых часох, калі пад ім маліліся людзі і баранілі яго, аквятчалі яго славай і хвалай і не падпускалі чужынцоў, і шукалі пад ім адказу на свае загадкі...“ [3]).

Другі момант зьмяшчаецца ў опоэтызаваньні самое беларускае прыроды, у якім аўтар узьняўся да неперавышанай бадай у нашай лірычнай прозе вышыні (вядомы ўрывак „Шпарка бегаеш ты, шэры

[1]) Гл. „Белорусы“, т. III, вып. III, ст. 373.

[2]) Гл. „Зборнік Нашае Нівы“, ст. 35.

[3]) Там-жа, ст. 36.

воўк!", ст. 36). Зварачаючыся да воўка, да бусла і да „маланкі-бліскаўкі", аўтар, з аднаго боку, падкрэсьлівае магчымасьць іх абсягнуць прыроду наогул, як найбольш, так сказаць, усеабсяжных, цякучых чыньнікаў яе, а, з другога боку, адцяняе немагчымасьць іх зрабіць тое самае з прыродаю беларускаю. І ў заключнай выснове гэтае супаставы ён яшчэ мацней падкрэсьлівае патаёмнасьць гэтае прыроды: „А дарма.., бо ніколі не асьвяціць табе адразу старонкі нашае патаёмнае".

Трэці момант пачынаецца з упляценьня ў гэтак разгорнутую тэму некаторых фабульных мотываў (вясельле) і раптоўнага прарыву непасярэдняй містычнай настроенасьці аўтара: „Рвецца сэрца чагось. Думы лятуць дзіўныя". Праўда, гэтая настроенасьць адразу-ж з наступнага ўрыўку ўвязваецца з патаёмнасьцю прыроды („Завылі сабакі жаласна за сялібамі...", „Кудкудакаюць курухны на куросадні, ці ня чуюць што ды нядобрае?", „А цяпер во сунецца ночка страшная, ночка таёмная..." [1]). Гэтая ўвязка зараз-жа пераходзіць ува ўвасабленьне ў тую-ж форму „патаёмнага" у найбольш чыстым яе выглядзе (гутарка „старое бабулі" і „маладухі-свашачкі"—„Ходзіць нешта нявіднае па зямлі за гумнамі...", „Ці нарвалі стракіўкі джыгучае, стрыкастае ў вароты на-нач пачапіць... І грамніцу сьвечачку... ці знайшлі-то яны, ці богу памаліліся...", „Ці мальска і ля нашага боку ёсьць усякіх людзей. Ёсьць з вачамі чырвонымі, чараўніцкімі", ст. 37), І, урэшце, заканчваецца гэты момант ізноў тым-жа раптоўным упляценьнем містычнае настроенасьці, якая цяпер ужо распаўсюджваецца і на іншых асоб уведзенага фабульнага элемэнту: „І адразу пачулі ўсе, што па дарозе йдуць, па шляху, з-пад гайка, за сялібамі, ідуць і песьню пяюць нібы старцы якія, нібы гулякі заядлыя, безгаловыя. Ліра чутна старэцкая і псальма старадаўная:

А род засмучоны,
Ад Хрыста ён адлучоны...

Усякія бываюць старцы... Можа то й ня старцы, а старцамі йдуць" [2]). Такім чынам, гэты момант мае нават як-бы кругавую (пярсьцёнкавую) пабудову, пры чым у цэнтры знаходзіцца „патаёмнае" у цесным сэнсе гэтага слова.

Чацьверты момант разгортваецца ў адпаведным і толькі адваротным парадку з разгортваньнем першых двох момантаў. Так, перш за ўсё тут апісваецца „патаёмнасьць" Цёмнага Лесу, у якім „імшары непралазныя, бярлогі зьвярыныя, званы падзёмныя, пяяньне сьвятое пад зямлёю ў скляпох старадаўнашных, княжэцкіх, пахаваных там ад вока людзкога на векі-вечныя", падобна да таго, як у другім моманце апісвалася патаёмнасьць усёй беларускай прыроды. Такім чынам, мы маем тут толькі як-бы адзін з фактаў конкрэтызацыі другога моманту. Сьледам за гэтым ідзе мотыў, дужа падобны ўжо да заключнага мотыву першага моманту—зварачэньне да генэзісу, мінуўшчыны „пата-

[1]) *Гл. „Зборнік Нашай Нівы"*, ст. 37.
[2]) Там-жа, ст. 37.

ёмнага", прычым гэты генэзіс, ізноў-ткі, бярэцца цяпер у больш конкрэтнай форме, у форме сучаснага свайго завяршэньня: „Пачаў адбівацца ад лесу новы чалавек. Ня прыходзіць ужо пад дубы тысячагадовыя, многабачыўшыя пытацца аб долі-нядолі старонкі роднае". І, нарэшце, закончваецца гэты момант тэю-ж пастаноўкаю „патаёмнага" сярод самое прыроды, якою пачынаўся першы момант і зноў самое „патаёмнае" бярэцца ў больш конкрэтнай форме чыста-сялянскіх павер'яў (пра зязюльку, якая крычыць „Якуб!", пра русалак на Купальле і г. д.). Такім парадкам, гэты момант як-бы замыкае той круг, які можна назваць „кругам „патаёмнага ў прыродзе" і які складаецца з першага, другога і чацьвертага момантаў. Гэты круг як-бы абхапляе, як большы концэнтрычны круг, той малы круг „містычнай настроенасьці", які выяўляе з сябе трэйці момант, бо цэнтрам яго зьяўляецца тое-ж „патаёмнае".

Апрача гэтага замыканьня, якое ўтвараецца дзякуючы таму, што чацьверты момант распрацоўвае толькі конкрэтызаваныя, але ў існасьці тыя-ж самыя мотывы першых момантаў толькі ў адваротным парадку, гэты момант мае яшчэ значэньне, так сказаць, сымболічнае, пераноснае. Фактычна, самы вобраз „Цёмнага Лесу" можна разглядаць ня толькі як конкрэтызацыю беларускай „патаёмнай" прыроды, але і як пэўны сымболь усяе гэтае „патаёмнасьці". І таксама ў тым зварачэньні да генэзісу „патаёмнага", пра якое мы кагадзе казалі, можна бачыць ня толькі конкрэтызацыю ранейшага зварачэньня (конкрэтызацыю дзякуючы непасрэднай накіраванасьці ў дадзеным выпадку на завяршэньне гэтага генэзісу), але й сымболь пэўнага завяршэньня, канца самога „патаёмнага". Асабліва гэта можна ўгледзець з наступных слоў: „Зарастае багно. Дарма, што пільна так беражэць яго лес да часу астатняга. Адылі яшчэ цурчаць лясовыя цурочкі, цуркі і цэлыя ручаі халодныя з Лоз Савіных, Машкоў Салаўіных, Залужжа, Чартаўшчыны, Гайка і ўсяго Лесу Цёмнага". Адылі, зусім зразумелай гэтая сымболічнасьць нам стане тады, калі мы разгледзім дадзены твор на фоне ўсяе творчасьці першага пэрыяду Максіма Гарэцкага. Тым-жа часам пакінем гэтую заўвагу, як apriori'ную.

Пятым момантам апавяданьня зьяўляецца самы кульмінацыйны пункт яго, пра які мы ўжо ўспаміналі,—сьмерць чараўніка. Гэтая сьмерць адбываецца ўва сьне сустрачанае ўжо „маладухі-свашачкі", калі яна праяжджае праз „Цёмны Лес". Самы вобраз чараўніка і нават ягонае сьмерці зьяўляецца дужа характэрным для тагочаснай містычнай настроенасьці аўтара, што мы ўжо маглі заўважыць з папярэдняга разгляду „Руні" і „Антона".

Падае яго тут пісьменьнік у тых-жа рысах, што і раней у згаданых творах (просьба да чараўніка аб споведзі, адмаўленьне яго, жудаснае і „патаёмнае" выцьцё сабакі, магчымае зьяўленьне „нячысьцікаў са сваймі відэльцамі па душу бязбожную", нават некаторы соцыяльны момант—„Людзкія сьлёзы яму адрыгаюцца" і, урэшце, кашчунства чараўніка над абразамі, як разьвязка). Гэты сон перарываецца з нады-

ходам раньня і выездам з „Цёмнага Лесу“ і, як містычная праява, зьвязваецца аўтарам з самым гэтым „Цёмным Лесам“. „Яны з лесу выяжджалі. Халадком прыемна абвявала. І не магла прыпамятаць маладуха, што ёй сьнілася, чаго млее душа ёй. Парваліся тыя ніткі патаёмныя, што з Цёмным Лесам былі зьвязаны, парваліся ці схаваліся“ [1]). Такім чынам, гэты момант як бы ўстаўляецца ў сярэдзіну, у цэнтр тых двух концэнтрычных кругоў, якія становяць папярэднія моманты, зьвязуючыся з імі гэтымі „патаёмнымі ніткамі“ як радыусамі.

Выезд з „Цёмнага Лесу“ і становіць сабою пераход у шосты, заключны, завяршальны момант апавяданьня. „Млела душа. Раньне. Сьвятлее. У галаве хмель сьціхае. Цёмны Лес—нямы асілак—сьцяною зубчатаю адзаду стаіць“ [2]), гэткімі словамі канчаецца апавяданьне. Такім парадкам, калі прыняць наша ранейшае палажэньне, што „Цёмны Лес“ сымболізуе сабою „патаёмнае“, дык з гэтага вынікае, што выезд з яго павінен сымболізаваць выезд ці выхад з самога „патаёмнага“. Зьяўляючыся апошнім з назначанага намі шэрагу сымболяў ён і дае нам магчымасьць абгрунтаваць цяпер усю тэзу аб гэтых сымболях. Гэтае абгрунтаваньне, як мы казалі, можна зрабіць толькі на высьвятленьні ролі „Патаёмнага“ на фоне папярэдняе творчасьці Максіма Гарэцкага. Некаторыя штрыхі гэтага высьвятленьня мы ўжо падалі на пачатку гэтага разьдзелу, калі казалі пра тое, навошта аўтару спатрэбілася мастацкае падагульненьне разгортаньня тэмы „патаёмнага“, якое ён робіць у разгляданым творы. Калі мы прыгадаем той адказ, які мы тады далі, а ўласна, што гэтае падагульненьне патрэбна аўтару для таго ці іншага выяўленьня компромісу між містычнай настроенасьцю і матэрыялізмам, які адбыўся ў „Антоне“ у галіне самога зьместу гэтае настроенасьці і калі-ж глянем на нашыя сымболі, дык адразу-ж убачым, што яны і зьяўляюцца формаю гэтага выяўленьня. І супраўды, ці не зьяўляецца самы выезд з „Цёмнага Лесу“, які падаецца аўтарам, як момант, калі „парваліся ніткі патаёмныя“, сымболем выезду з самога „патаёмнага“, а, значыцца, ці не зьяўляецца і сам „Цёмны Лес“ сымболем „патаёмнага“? І ці не зьяўляецца тое сымболічнае выказваньне пра „адыход ад лесу новага чалавека“, пра „зарастаньне багна“, якое „дарма пільна бэражэць лес да часу астатняга“ — выяўленьнем пэўнай прычыны гэтага выезду (прычыны, можа і не непасярэдняй), а тыя-ж „лясовыя цурочкі, цуркі і цэлыя ручаі“, якія „адылі яшчэ цурчаць“ толькі іншай формай выразу тых „патаёмных нітак“, якія „парваліся *ці схаваліся*“ (курсыў мой. А. А.)—сымболем пэўных пазасталых і захаваных рэштак гэтага „патаёмнага“, што пры спрыяльных абставінах яшчэ могуць праявіцца.

Такім чынам, мы бачым, што гэтае выяўленьне компромісу ў галіне зьместу містычнай настроенасьці зьяўляецца тым-жа разьвітаньнем, якое адбываецца і ў галіне формы яе—пэсымізму—у „Антоне“. Такое

[1]) Гл. „Зборнік Нашай Нівы“, ст. 39.

[2]) Там-жа. ст. 40.

супаданьне ўтварае поўную гармонію зьместу і формы ў гэтай настроенасьці і яго можна было прадбачыць яшчэ раней, на грунце простай apriori'най магчымасьці такое гармоніі. Мы толькі наўмысьля не падавалі гэтай думкі пра такую магчымасьць, каб ускрыць і разгарнуць усю стройнасьць пабудовы гэтага твору. Але зьвернемся ізноў да апошняга моманту гэтае пабудовы, які мы яшчэ ня зусім закончылі разглядам.

Калі першыя моманты апавяданьня ўяўляюцца нам у выглядзе двух концэнтрычных кругоў, а перадапошні—як устаўлены ў гэтыя кругі, дык апошні момант, момант, фактычна, самога разьвітаньня з „патаёмным" можна ўявіць, як такі, які накладаецца, пакрывае сабою ўсе гэтыя моманты. Гэтае накладаньне адбываецца пры дапамозе як тэй сувязі, якая ёсьць паміж сымболічнымі вобразамі выезду з „Цёмнага Лесу" і сымболічнымі вобразамі большага з концэнтрычных кругоў, гэтак і тэй тэматычнай, так сказаць, непасярэдняй увязанасьцю, якая існуе паміж апошнім і перадапошнім, „устаўленым у кругі" момантам. Гэткім парадкам, апошні момант і композыцыйна адыгрывае завяршальнае, заключнае, а значыцца, дужа важнае значэньне. Уся-ж пабудова, нагадваючы замкнутыя „патаёмныя", зачараваныя кругі, як нельга лепш адпавядае самой тэме.

Мала таго, апошні момант падае апрача гэтай агульнай разьвязкі разьвітаньня з „патаёмным" яшчэ і конкрэтную разьвязку самога фабульнага элемэнту апавяданьня, разьвязку пры гэтым чыста рэальную: „Гру-ру-ру...—загрукатала ў вушох, быццам каменьне пасыпалася з гары. Прачнулася маладуха, *так трахнула калёсы аб корч*" і крышку далей: „Нібы-то ліра йграла, *аж то кола скрыгала*: сухаватыя грыбы на падмазку ўчора папаліся" (курсыў усюды мой. А. А.). Гэтая разьвязка зьяўляецца заключным момантам другое лініі, якая прыхована суіснуе ў творы побач з галоўнаю, лініі, якую можна назваць лініяй рэальнай разгадкі „патаёмнага". Паасобныя прыхованыя праявы гэтае лініі можна прасачыць у некаторых ранейшых вобразах твору, як прыкладам: „Ці русалка там гуталася... Ці мо' сава гукала да сябе дуракаватага зайку" або: „Ідуць і песьню пяюць, нібы старцы якія, нібы гулякі заядлыя, безгаловыя"...( падаецца на фоне напруджанай містычнай настроенасьці, гл. вышэй). Апрача гэтага, з паасобнымі праявамі гэткае лініі мы сустракаліся ўжо і пры разглядзе ранейшых твораў М. Гарэцкага— „Руні" (асабліва прыгадаем апавяданьне „Роднае карэньне") і „Антона". Адылі, розьніца паміж праявамі гэтае лініі ў ранейшых творах і ў разгляданым зьмяшчаецца ў тым, што ў першых яны адыгрываюць ролю выключна суіснавальную, суправаджальную, адцяняючую, тымчасам як у другім, дзякуючы яго асноўнай імкнёнасьці—завяршальную, будучы формальна ўзьведзенымі ў ступень конкрэтнай, фактычнай фабульнай разьвязкі. Як такія, яны зьяўляюцца ўжо непасярэднімі пачаткамі таго рэалістычнага кірунку ў творчасьці пісьменьніка, які павінен прыйсьці ў яго пасьля разьвітаньня з „патаёмным".

Другім элемэнтам такіх пачаткаў рэалізму ў „Патаёмным" зьяўляюцца некаторыя апісаньні прыроды ў ім, вытрыманыя ў рэальных,

дадатных, сьветлых танох, тымчасам як апісаньні „патаёмнае“ прыроды падаюцца больш у танох містычных, змрочных. Вось прыклады такіх апісаньняў: „Ніколі не накрасавацца табе бясконцай і неабгляднай удаўжкі і ўшыркі ўстужкай палёў нашых рознакалёрных, нашых лясоў зялёна-сініх, нашых рэчак ціхаводных, што вербалозам ды краскамі абрасьлі“[1]), або: „Прыгожа там вясною, калі дрэвы ўва ўсё зялёнае ўбіраюцца, у вопраткі дзіўныя апранаюцца, калі аборкі ў лядзе красачкамі пахучымі і кволымі ўсьцілаюцца. Калі лозы сівымі мушыстымі пупышачкамі вабяць дзікіх пчолак з усіх бакоў. Калі паветра цёплае, лёгкае“[2]). Усе гэтыя элемэнты можна разглядаць, як пэўныя адзнакі душэўнага пераламу, ацьверазеньня аўтара ад хмелю „патаёмнага“, як адзнакі „сьвятленьня“, „раньня“, пасьля містычнай ночы ў „Цёмным Лесе“: „Млела душа. Раньне. Сьвятлее. У галаве хмель сьціхае. Цёмны Лес—нямы асілак—сьцяною зубчатаю адзаду стаіць“.

Праўда, усе яны зьяўляюцца толькі завяршальнымі, а не дамінуючымі яшчэ ў гэтым творы; і нават тое домінаваньне іх, якое наступіць пасьля гэтага твору, не выключае яшчэ сабою магчымасьці пэўных водгукаў і праяў „патаёмных“ элемэнтаў—тых нітак, якія „парваліся ці схаваліся“, тых „цурочкаў“, якія „адылі яшчэ цурчаць“, як кажа сам аўтар.

Якую-ж ролю ў творчасьці пісьменьніка маюць гэтае разьвітаньне з „патаёмным“ і рэалістычныя пачаткі, наяўнасьць якіх мы ўстанавілі ў дадзеным творы? Калі мы прыгадаем сказанае намі раней пра разьвітаньне з пэсымізмам, які мы назвалі формаю ў дачыненьні да „патаёмнага“, у „Антоне“, дык само сабою зразумела стане ўся вялізнасьць гэтае ролі. Мала таго, калі мы параўнуем між собку гэтыя абедзьве зьявы, дык убачым, што апошняя адыгрывае нават больш важную ролю, чым першая. І сапраўды, калі першая зьява адбываецца ў творы „Антон“ толькі як заключны яго момант (і, пераважна, у межах заключнага разьдзелу), дык апошняй адведзены цэлы твор з сваёй уласнай і, як мы бачым, дужа стройнай унутранай організацыяй; калі першая зьява, адбываючыся ў „Антоне“, мае непасярэдняе датычаньне больш да самога гэтага твору, дык апошняя, з яе, адзначанай намі, працягальнасьцю (у дачыненьні да „Руні“) і ідэялёгічнаю зьвязанасьцю з „Антонам“ абхапляе сабою ўсю пісьменьнікаву творчасьць першага кругабегу. Нават той факт, што ў дадзеным творы захоўваецца магчымасьць кагадзе ўспамінанага водгуку „патаёмнага“, тымчасам як разьвітаньне з пэсымізмам падаецца, як канчатковае і беззваротнае, падкрэсьлівае важнасьць гэтае ролі. Калі-ж сюды далучыць тую эмоцыянальную лірычнасьць і ўзьнёслую опоэтызаванасьць, якою прасякнута форма разгляданага твору, дык гэтая роля вырасьце перад намі яшчэ больш. Такая зьява абумоўлена тым, што самы містыцызм, з якім адбываецца „разьвітаньне“ у разгляданым творы, мае вялікае значэньне ў творчасьці Максіма Гарэцкага, што мы ўжо неаднакраць

[1]) Гл. „Зборнік Нашае Нівы“, ст. 36.
[2]) Там-жа. ст. 38.

маглі бачыць з папярэдняга яе разгляду. Паколькі з гэтаю зьяваю пісьменьнік цяпер „разьвітваецца“, мы павінны яе некаторым чынам падагульніць і пашукаць адпаведнага вытлумачэньня, прычын яе.

Фактычна, містыцызм Максіма Гарэцкага пачынаецца яшчэ ў зборніку „Рунь“, у тэй частцы яго, якую мы назвалі,-былі другім тэматычным паверхам, паверхам касмогонічна-гносэолёгічных пытаньняў як пэўны вынік гэтых пытаньняў. Тады-ж яшчэ мы адзначылі вялікае значэньне гэтага паверху для „Руні“ і, разам з тым, для ўсяго першага кругабегу пісьменьнікавае творчасьці, спыніўшы на ім сваю галоўную ўвагу. Падобную-ж зьяву мы падкрэсьлівалі і ў „Антоне“. Адзначаючы вялікае значэньне яе ў пісьменьнікавай творчасьці, мы тады-ж заўважылі, што гэтае значэньне атрымоўваецца дзякуючы „надзённасьці“ гэтае зьявы. Разьбярэмся цяпер у гэтым больш падрабязна.

Справа ў тым, што ўсе разгляданыя намі дагэтуль творы Максіма Гарэцкага ствараліся ў эпоху пасьля 1905 году і перад 1914 годам, эпоху, як вядома, панаваньня самай разьюшанай рэакцыі, што, таксама вядома, выклікала ўцёкі інтэлігенцыі ад рэальнага жыцьця ў містыцызм. Гэта была пара розных рэлігійных шуканьняў, „богашуканьня“, якога не абмінуў нават такі райскі пісьменьнік, як Максім Горкі, пара захапленьня рознымі тэософскімі навукамі і сярод іх асабліва навукаю Ул. Салаўёва, а ў галіне мастацкай творчасьці—творамі ягонага супрацоўніка апошніх год Дастаеўскага. З гэтага боку дужа паказальны як творчасьць, гэтак і артыкулы хоць-бы расійскага пісьменьніка Ал. Блока, які таксама тварыў у гэты час і таксама падпаў гэтаму ўсеагульнаму захапленьню. Мала таго, ён нават усьведамляў самую прычыну гэтага захапленьня. „Рэакцыя, якую нам выпала на долю пераžыць, закрыла ад нас абліччa жыцьця, што прачнулася-было“—піша ён у пачатку артыкулу „Рэлігійныя шуканьні і народ“ [1]). Апрача таго, ён ахвяруе цэлы шэраг узьнёслых артыкулаў самому Ул. Салаўёву, на якога быў галоўным чынам, як мы сказалі, накіраваны ўвесь гэты містычны рух [2]).

Гэтая эпоха і гэты рух і наклалі адбітак на тагочасную творчасьць Максіма Гарэцкага, надаўшы ягонаму містыцызму тую „надзённасьць“, пра якую мы ўспаміналі. Пра гэты ўплыў эпохі на пісьменьніка мы маем нават яго ўласнае, хоць і ўскоснае, выказваньне ў згадваным ужо намі раней артыкуле „Развагі і думкі“, дзе пісьменьнік гэтак гаворыць пра беларускую літаратуру: „Скранулася Беларусь, узварухнуліся яе спрадвечныя імшары, і я з вялікай надзеяй жду *беларускіх Дастаеўскіх, Ул. Салаўёвых і т. п.*“ [3]) (курсыў мой. А. А.). Але, надаўшы пісьменьнікаваму містыцызму „надзённасьць“, гэты ўплыў эпохі, фактычна, не надаў яму асноўнага кірунку, асноўнага зьместу.

[1]) Гл. „Собрние сочинений Александра Блока“, т. VII, выд. „Алконост“ (Бэрлін, 1923 г.), стр. 71.

[2]) Гл. там-жа артыкулы „Рыцарь-монах“ (ст. 201) і „Владимир Соловьев и наши дни“ (ст. 296).

[3]) Гл. „Вялікодную пісанку“ за 1914 г., ст. 59.

Гэты зьмест толькі раскрыўся дзякуючы такому ўплыву, але грунт яго быў заложаны ня містычнымі рухамі эпохі, а якраз тым „патаёмным“, як формаю праяўленьня „праклятых“ пытаньняў у сялянсьцьве. Мы ўжо ведаем цэлы шэраг аўтарскіх выказваньняў аб наяўнасьці гэтага элемэнту ў сялянсьцьве, пададзеных у ягонай папярэдняй творчасьці (выказваньні Архіпа Лінкевіча з апавяданьня „Роднае карэньне“ ў зборніку „Рунь“, „Беларускага Аўтара“ ў „Антоне“ пры спрэчцы з „Польскім Публіцыстым“ і „Маскоўскім Дэмакратам“ і г. д.). Спынімся цяпер толькі на больш конкрэтных выказваньнях пра гэта ў тым-жа артыкуле „Развагі і думкі“. Вось самае характарнае з іх: „Як гэта выходзіць, судзіце, людзі божыя, а толькі чым болей я жыву і прыглядаюся да духоўнага жыцьця беларуса, жыхара беларускіх таёмных пушч, тым болей я пазнаю нахіл яго да здаровага містыцызму, да неразлучных з яго жыцьцём пытаньняў: „Адкуля ўсё і што яно?“ І ўжо тут пісьменьнік падае пэўны намёк на сапраўдную прычыну гэтага нахілу (словы „Жыхара беларускіх *таёмных пушч*“), а ў другім месцы ўжо конкрэтызуе гэты намёк, называючы прычыну па йменьні: „блізкасьць да таёмнага жыцьця прыроды“. Праўда, крышку далей ён стараецца згладзіць рэзкую парадоксальнасьць гэтага свайго выказваньня пра „здаровы містыцызм“, як-бы запярэчваючы яго і толькі спрабуючы знайсьці яму эстэтычнае апраўданьне: „І крывое—калі добрае, прыгожа!“ [1]), а ў другім месцы — апраўданьне, так сказаць, тактычнаадраджэнцкае: „Мы ня можам ня лічыцца з жыцьцём, з жыцьцёвымі патрэбамі народу нават і тады, калі гэтыя жыцьцёвыя патрэбы народныя, на наш пагляд—хворы, ненормальны і шкодзяць адраджэньню беларусоў. Ня можам ня лічыцца дзеля таго, каб не адарвацца ад карэньня“ [2]).

Праўда, у нашыя часы некаторыя крытыкі, якім мімабегам даводзілася выказвацца пра творчасьць Максіма Гарэцкага, спрабуюць некаторым чынам запярэчыць кагадзе згаданай пісьменьнікавай тэзе, называючы ягоны містыцызм „псэўдо-народным“. Так, прыкладам, Ул. Дзяржынскі ў сваіх „Выпісах з беларускае літаратуры XIX і XX ст.“ гэтак піша пра зборнік „Рунь“: „Праўда, апавяданьні гэтага зборніку ў значнай меры былі акрашаны павевамі романтыкі, прасякнуты часта *псэўданароднай містыкай*. Асабліва яскравае выяўленьне знайшлі гэтыя рысы прозы М. Гарэцкага ў творах „Антон“ (1920 г.) і „Патаёмнае“ [3]) (курсыў мой *А. А.*). Трэба сказаць, што гэтую сваю думку Ул. Дзяржынскі больш не конкрэтызуе і ня ўгрунтоўвае. Дый яе цяжка было-б ўгрунтаваць хоць-бы таму, што самае асноўнае ў містыцы М. Гарэцкага якраз тое „Патаёмнае“, аснову якога становяць розныя чыста-народныя павер'і, якімі народ імкнуўся так ці іначай апраўдаць незразумелыя яму зьявы, адказаць на пытаньне „адкуля ўсё і што яно?“ і якія зафіксаваны ў народнай творчасьці документальна. Іншая справа,

[1]) Гл. „Вялікодная пісанка“, ст. 60.
[2]) Там-жа, ст. 49.
[3]) Гл. „Выпісы з беларускае літаратуры XIX і XX ст.“, Ул. Дзяржынскага, ст. 446.

што містыцызм М. Гарэцкага не зьяўляўся цалкам народным; бязумоўна, на грунце народнага пісьменьнік унёс шмат свайго, як і кожны пісьменьнік, маючы дачыненьне з народнымі формамі. Наогул-жа, сьцьвярджаючы выключную „псэўда-народнасьць“ містыцызму Максіма Гарэцкага, можна толькі прыпадобніцца да тых спрачальнікаў у „Антоне“, якія аніяк не маглі, дзякуючы сваёй чужанацыянальнасьці, зразумець Антонавага „цягаценьня да ўсяго патаёмнага“...

Такім чынам, з гэтага высьвятленьня значэньня містыцызму ў першым пэрыядзе творчасьці Максіма Гарэцкага нам робіцца зразумелай і тая важная роля „Патаёмнага“ ў ім, і тая зьява абсягальнасьці гэтага твору, зьява ягонай выключнасьці і пакіданай ім магчымасьці водгуку „патаёмнага“, на якую мы зазначалі вышэй. Ужываючы вобразную мову самога твору, гэтую ролю можна параўнаць да тае русалчынай песьні, якая „пяяла, сумавала аб нечым мінулым, сярдэчным“... [1]) Таксама, на фоне гэтага значэньня містыцызму яскравей вырысоўваецца і значэньне самога разьвітаньня з ім, зробленага ў гэтым творы, як буйнейшага ідэялёгічнага зрушша ў творчасьці пісьменьніка, буйнейшага нават за папярэдняе разьвітаньне з пэсымізмам у „Антоне“. Гэта факт разьвітаньня пракладае рэзкі рубеж, выразную мяжу паміж першым пэрыядам творчасьці Максіма Гарэцкага і ўсёю далейшаю ягонаю творчасьцю. Маючы гэта на ўвазе, кінем апошні погляд падагульненьня на тое, што мы пакідаем за гэтаю мяжою.

Першае і самае характэрнае, што мы прыгадаем там, гэта, бязумоўна, той тып сялянскага выхадца, галоўнага героя творчасьці пісьменьніка, якому мы й аддалі ў папярэднім сваю галоўную ўвагу. Калі мы прыгадаем усе тыя асаблівасьці, якія мы заўважылі ў паасобных прадстаўнікоў гэтага тыпу, а ўласна—рэфлексыйнасьць, духовую раздвоенасьць, філёзофскі і гносэолёгічны пэсымізм і, урэшце, містыцызм, дык пабачым, што яны ў большай ці меншай ступені ўласьцівы ўсім гэтым прадстаўніком, і ўсе гэтыя прадстаўнікі, фактычна, розьняцца між собку адно большай ці меншай разгорнутасьцю гэтых асаблівасьцяй, а, часам, і сфэрай іхнага праяўленьня ці прыкладаньня (прыгадаем, прыкл., тую „лесьвіцу“ герояў, якую мы ўстанавілі былі ў „Руні“). Такім чынам, мы маем тут справу як-бы з рознымі толькі портрэтамі, а не адменьнікамі аднаго і таго-ж героя, маем як-бы пэўныя матэрыялы для монумэнтальнага выяўленьня гэтага героя пры дапамозе адпаведнага накладаньня гэтых портрэтаў адзін на адзін.

Наадварот, калі мы прыгадаем цэлы шэраг гэрояў, якіх мы былі назвалі героямі зьвернутымі да галоўнага, дык адразу-ж можам вылучыць з іхнай масы ўжо монумэнтальна выяўленага потэнцыяльнага героя Антона. Фактычна, гэты герой, у аспэкце ўсяе творчасьці першага пэрыяду зьяўляецца помнікам, які пісьменьнік узьвёў пэўным сваім шуканьням гэтага пэрыяду, шуканьням пераважна псыхолёгічным і містычным, нагробак якім дадзены ўжо ў „Патаёмным“. Як такія, „Антон“ і „Патаёмнае“ зьяўляецца яшчэ і завяршальнікамі таго „другога тэматычнага паверху космогёнічна-гносэолёгічных пытаньняў“, якія

намі быў назначаны яшчэ ў „Руні". Іншыя-ж тэматычныя паверхі яе— першы паверх соцыяльных пытаньняў і трэці паверх пытаньняў нацыянальна-беларускіх застаюцца пакуль што яшчэ, так сказаць, адчыненымі, незавершанымі.

Прыгадваючы яшчэ тую галоўную асаблівасьць творчасьці пісьменьніка—псыхолёгізм—якую мы маглі добра заўважыць хоць-бы і ўскосна, з усяго папярэдняга разгляду, і тыя кардынальныя ідэялёгічныя зрушшы разьвітаньня з пэсымізмам і містыцызмам, пра якія мы гаварылі ўжо ня гэтак даўно—мы атрымаем больш-менш поўны малюнак разгледжанага першага пэрыяду. Застаецца толькі сказаць некалькі слоў аб проста яшчэ не закрананым, але ўскосна ўжо зразумелым пытаньні— пра агульны кірунак гэтае творчасьці. Бязумоўна, такія ідэялёгічныя адзнакі, як містыцызм, ужо могуць непасрэдна вызначыць гэты кірунак, як пераважна романтычны, ня гледзячы на тое, што сам аўтар на пачатку свае творчасьці дакляраваў рэалізм і рэалізм нават чыста протокольны, фотографічны (прыгадаем першыя словы, якімі пачынаецца зборнік і апавяданьне „Рунь": „Не падумайце, людзі добрыя, што ў апавяданіўку гэтым выдумка хітрая, пляцень мастацкі... Не! яўна парушаючы законы пісьменства краснага, пішу я тут аб тым, што запраўды было. Пішу бяз прыкрасы самай маленькай" [1]), а гэтак сама розныя выказваньні пра літаратуру ў „Антоне" і ў згадваным артыкуле „Развагі і думкі". Праўда, першае, прыкладам, выказваньне не перашкодзіла аўтару даць у гэтым-жа апавяданьні тып чыстага романтыка, па ягоным-жа самапрызнаньні і пры тым у чыста романтычнай, так сказаць стылізацыі. Такім чынам, разьвітаньне з містыцызмам, якое адбылося ў „Патаёмным", зьяўляецца ў значнай меры і разьвітаньнем з романтызмам, які павінны заступіць наяўныя і адзначаныя намі ў ім рэалістычныя тэндэнцыі, дакляраваныя на самым пачатку пісьменьнікавае творчасьці.

## XII

Тыя патэтычныя выгукі „Жыць!", якімі закончыўся „Антон", прагучэлі якраз напярэдадні вялікае сусьветнае бойкі—імпэрыялістычнай вайны 1914—1917 г.г. Гэтая ~~вайна і~~ вызначыла сабою тэматычна ~~другі~~ пэрыяд творчасьці Максіма Гарэцкага, пэрыяд, які, паводле шмат якіх адзнак, мы будзем магчы назваць пераходным. Першым творам, у якім фактычна і выявілася гэтае вызначэньне, былі вядомыя запіскі „На імпэрыялістычнай вайне", якія хоць і былі апрацаваны і выдадзены значна пазьней, але ў сваёй документальнай і блізу непарушанай аснове належаць якраз да гэтага часу.

Запіскі пачынаюцца не з непасярэдняга апісаньня вайны, а з апісаньня тае ваеншчыны, якую аўтару, як галоўнаму герою запісак, давялося распачаць адбываньнем зусім не задоўга ад самое вайны. Гэтая ваеншчына адразу-ж няпрыемна ўражаець гэроя, настроенага пасьля

[1]) Гл. „Рунь", стр. 3.

„Антона“ зусім дадатна: „Усё тут было паказённаму груба і неахайна. Толькі адно вакно трошку адчынілі, а там прыемна, пажывому шавяліў шырокім зялёным лісьцем густы клён. І ў мяне супроць розуму зьявілася жалкая, дзяцінная пацеха, што хоць-жа троху, да лагеру, пабуду яшчэ на волі“ [1]). І толькі гэтае адчуваньне „жывога“, так пранікліва выражанае ў пададзеных словах, толькі гэты мотыў кагадзе згаданае настроенасьці, прымушае яго супакойваць сябе „наўмыснай пакорай і цярплівасьцю“, хоць і гэтае супакойваньне пачынае паступова траціць сваю моц. Такім чынам, тут адразу-ж як-бы назначаецца ўзварот гэроя да свайго ранейшага сумнага погляду на рэчы, цяпер ужо абумоўленага зусім іншаю прычынаю, а ўласна, няпрыемнаю абстаноўкаю ваеншчыны. Гэты мотыў асабліва ўзмацняецца падчас далейшага гэроевага жыцьця ў лягеры, дзе ён адчуваў сябе, „як вастрожнік“, адарваным ад усяго навакольнага сьвету:—„Увесь час мне было цяжка на сэрцы. Лісты ні з дому, ні адкуль ня прыходзілі, і ад гэтага мне было яшчэ болей цяжка. Газэт, як прыехаў, я і ў вочы ні разу ня бачыў. Я ўжо ня ведаў, каторы я тут дзень, і які цяпер дзень: можа субота, можа пятніца... Я са страхам думаў, што мушу так жыць цэлых два гады. Мне шкода было загубленага часу, загубленых маладых сіл. І калі па вечарох, у пяхотнай частцы лагеру, прыгожа й вясёла йграла вайсковая музыка, мяне так хапала нуда за сэрца, што сьлёзы мімаволі накручваліся на вачох. Я пачынаў нэрвавацца“ [2]). Таму зусім ня дзіўна, што абвяшчэньне вайны, як магчымасьці нейкага ажыўленьня ад гэтакай аднатоннасьці, было сустрэнута гэроем зусім прыхільна і навет радасна. Праўда, дзеля свае рэфлексыйнасьці гэрой ня мог не асудзіць гэтае радасьці, але ня мог яе і не азначыць: „Я спачатку ня мог сабраць думак, уцяміць усяе важнасьці пачутага, але неяк мімаволі ўсьцешыўся, што ня трэба мне будзе цягнуць вастрожнае жыцьцё цэлых два гады, што жыцьцё пойдзе ўжо цікавейшае, што я трапіў у кашу лоўка... Потым стаў сам сябе сароміць за гэткія думкі: быццам я радуюся вайне. І сорамна прызнацца, але мне хацелася, каб яна была, каб прышла нейкая перамена“ [3]). І, пачынаючы адгэтуль, такое падвойнае дачыненьне да вайны—то дадатнае, як да рэакцыі супроць аднатоннасьці, то адмоўнае, як да самай існасьці вайны, атуленае рэфлексыямі, праходзіць скрозь усе разгляданыя запіскі.

Першым момантам гэтага дачыненьня зьяўляецца, бязумоўна, дадатнае дачыненьне, дачыненьне, як да ажыўляльнай справы, якое выражаецца ў самым жаданьні ажыўленьня, вайны. Пад уплывам гэтага жаданьня ў гэроя зьяўляецца нават як-бы дадатнае дачыненьне да самой нялюбай раней ваеншчыны: „Не магу ведаць, ваша благародзіе!—адказаў я, усхапіўшыся і аддаўшы чэсьць, *і быў рад, што вышла гэта ў мяне зусім добра, як у праўдзівага салдата*“ (курсыў мой. *А. А.*) [4]).

[1]) Гл. „На імпэрыялістычнай вайне“, ст. 4.
[2]) Там-жа, ст. 11.
[3]) Там-жа, ст. 13.
[4]) Там-жа, ст. 22.

Непасярэдня гэтае жаданьне выяўляецца ў розных нэрвова-патэтычных выгуках чаканьня, якія паказваюць на пэўную ўзьнёсласьць настрою: „Дык зараз бой, бой!“ [1]) і крышку далей: „Але зараз—бой! Таварышом маім, тэлефоністым, прыкра, што я ў такі мамэнт запісваю ў сваю кніжку. Ня лайцеся, чорт вас дзяры!“ [2]).

Адылі, гэтаму першаму моманту зараз-жа супроцьставіцца другі момант, які ўжо выцякае з адмоўнага дачыненьня да вайны, як жудаснай у сваёй існасьці зьявы. Пачаткам сваім ён зачэпліваецца за першы момант, якраз за тое напружанае чаканьне, якое з сваім цягам прыносіць некаторую расчараванасьць: „Мы наступілі і адступілі. Крыўда і зьдзіўленьне“. І ўжо далей яна выліваецца ў зусім адваротнае папярэдняму жаданьню—у нежаданьне вайны, у жаданьне як-небудзь уцячы, схавацца ад яе. Гэтае праяўляецца яшчэ тады, калі гэрой ідзе на мэдычны агляд: „Ідучы туды, я разважаў як малое дзіця: „А вось знойдуць у мяне якую-небудзь загану ў грудзёх—і забракуюць... Паеду назад! якое шчасьце!“ [3]). У далейшым гэтае жаданьне праяўляецца ўжо стала, выклікаючыся markознымі знадворнымі фактамі, якія як-бы надаюць нейкую магчымасьць выбару паміж вайною і другім, але меншым злом: „Адзін ездавы трапіў пад кола гарматы і зламіў нагу. Кажуць—наўмысьля. А што, каб і мне так?—думаю“ [4]) і падобна ў другім месцы: „Адзін ездавы зваліўся, задрамаўшы, і трапіў пад колы гарматы. Шчасьлівы! паклалі ў санітарны фургон“ [5]). У далейшым гэтае жаданьне падаецца і больш непасярэдня, у крытычныя моманты даходзячы нават да жаданьня сьмерці („І што-б мне захварэць, як мае быць. Скончыліся-б гэтыя мукі“—ст. 91 і „Сьмерць, дык сьмерць, абы ня мучыцца гэтак“—ст. 73). Асабліва-ж праяўляецца яно ў дачыненьні да міру, як найлепшага і нават бясшкоднага выйсьця з палажэньня: „Падпалкоўнік Гноеў казаў, быццам вайна працягнецца найболей—два месяцы. А там—мір, і на зімовыя кватэры... Якое шчасьце! Усе салдаты казалі, што два тыдні будзем тут стаяць, бо Аўстрыя просіць міру. Я ня веруў, але так хацелася верыць. Ах, каб праўда! Ах, каб так!“ [6]). Адылі, нязьдзейсьненьне гэтага выйсьця прымушае героя ізноў шукаць выбару: „Каб ужо скарэй замірэньне! Хай раняць, толькі каб жывым застацца“... [7]). І тая радасьць, якая ахоплівае яго пры зьдзейсьненьні гэтага апошняга выбару, як нельга лепш характарызуе і падкрэсьлівае ягонае жаданьне: „Быў рад, што не забіла і што ранены, паеду з фронту, але мучыўся і корчыўся нямаведама чаго, болей як трэба,—баяўся, каб яшчэ не забіла, не папсавала шчасьця, дык наўмысьля павялічваў сваю больку нямаведама перад кім, што во глядзі, не чапай ужо мяне“ [8]).

[1]) Гл. „На імпэрыялістычнай вайне“, ст. 33.
[2]) Там-жа, ст. 34.
[3]) Там-жа, ст. 16.
[4]) Там-жа, ст. 28.
[5]) Там-жа, ст. 78.
[6]) Там-жа, ст. 85.
[7]) Там-жа, ст. 134.
[8]) Там-жа, ст. 147.

Трэці момант гэтага дачыненьня, ізноў-ткі, насупроць другому зьвязаны з дадатным дачыненьнем да вайны і зьмяшчаецца ў любаваньні яе ажыўленасьцю і сваеасаблівым хараством: „Нас не абстрэльваюць, і страляньне мне падабаецца: у ім ёсьць сваё хараство. І тож быццам радасьць чуецца ў батарэйцах, што аднатоннасьць астатніх дзён урэшце ажывілася, неазначанае чаканьне кончылася“ [1]) і ў другім месцы, крышку з другога боку: „Учора ўвечары адзін знарад нямецкі трапіў у штабпалка, узарваў ракеты і спаліў хату. Надта хораша выглядала, як сноп ракетаў рассыпаўся па цёмным небе“ [2]). Праўда, як звычайна, і гэты момант не пакідаецца без рэфлексыйнага асуджэньня: „Калі я слухаў, мне здавалася, што фронт выцягнуўся дугою, і нямецкія знарады бомкаюць гдзесь за Вержбаловым, а ляцяць якраз над намі, толькі высока-высока, у небе. Доўга і звонка, ясна, аж прыгожа, як ляцяць... Але, ць! Сорам за такое хараство і любаваньне“ [3]).

Ізноў-ткі, у адваротнай адпаведнасьці з гэтым момантам, чацьверты момант, выцякаючы з адмаўленьня вайны, выліваецца ў агіду да яе жудасьцяй. Пачынаецца гэты момант з, праўда, яшчэ не разгорнутага, супроцьстаўленьня вайны спакойнай зацішнасьці прыроды: „Як тут зацішна і прыгожа на ўлоньні ў прыроды: лог, травы, кусты, ручай. Берагі рову хаваюць нас ад вока з бакоў, над намі—сіняе жнівеньскае неба. Але зараз бой!“ [4]) У далейшым гэтае супроцьстаўленьне пачынае адчувацца яшчэ больш на грунце параўнаньня: „І... знаёмыя мясцовасьці! Вось тая горка з дрэвамі, па якой мы палілі 4-га жніўня. Засмучэньне і трывога на сэрцы. Не пацяшае перамога. Сумныя малюнкі!“ [5]). І, нарэшце, пачынаецца ўжо цэлы шэраг апісаньняў агідных жудасьцяй вайны, якімі супоўнена большая частка запісак,—пачынаючы ад першага пабачэньня трупаў („Толькі ўзабраліся на курганок... Груды сьветла-сініх нямецкіх трупаў!“, ст. 38), праз цэлы шэраг абразоў, якія пакідаюць „асабліва цяжкі асадак у душы“ аўтара (прыкладам, разьдзел XI—„Адзін абраз з учарашняга дню пакінуў асабліва цяжкі асадак у маёй душы“, ст. 63, і там-жа запіс ад 18 жніўня, ст. 65), канчаючы агідна-жудаснай сьмерцю Саксана ўжо ў шпіталі (разьдзел XXXVI).

Пяты момант зьвязваецца з пацьвярджэньнем вайны, выкліканым тэй узьнёсласьцю, якая выцякае з яе ажыўленасьці і выліваецца ў гэтак званае пачуцьцё гэройства. Так, перш-за ўсё, адчуваючы гэтую ўзьнёсласьць, гэрой войстра ўспрымае, як прыкрыя дысонансы, усе зьявы, што гэтак ці інакш пярэчуць ёй: „ля самай кірхі, на адчыненым вакне пустога дому, грамафон, заведзены рукою ворага, пахабным дысонансам у абставінах вайны і сьмерці равець мірнага „пупсіка“ [6]).

[1]) Гл. „На імпэрыялістычнай вайне“, ст. 66.
[2]) Там-жа, ст. 117.
[3]) Там-жа, ст. 149.
[4]) Там-жа, ст. 33.
[5]) Там-жа, ст. 137.
[6]) Там-жа, ст. 56.

Такім-жа дысонансам і нават цынізмам здаецца яму самае жаданьне ўцячы ад вайны, якое ён бачыць у салдатаў: „Ратуйся, хто можа!—цынічна кажуць яны і бягуць, бягуць на ўсход“ [1]). У вабстаноўцы гэтае ўзьнёслясьці гэрой войстра-рэфлексыйна ўспрыймае і ўласную маладушнасьць: „Век сабе не дарую гэтай маладушнасьці, калі не сказаць— трусасьці, дзеля якой зьняважылі памяць таварыша“ [2]) і ў другім месцы: „Усё-ж прыкрасьць за тую маладушнасьць так і засталася ў мяне на сэрцы“ [3]). Пад уплывам гэтага яму самому хочацца зрабіць нейкае як-бы гэройства, хоць і гэта ён зараз-жа рэфлексыйна асуджае: „Я пашоў працаваць у канцылярыю, за вярсту адгэтуль, і па дарозе, восеннай, цёмнай, бязьлюднай, думаў: каб цяпер ляцеў знарад і адарваў-бы мне палец на левай руцэ—я чырціў-бы праваю, і паказаў-бы рану тольні скончыўшы заказаную мне камандзірам працу. Хай-бы ведалі, які я... Зразумела, што я зараз і лаяў сам сябе за падобныя разважаньні, і дзіві́ўся, чаму падобнае глупства лезе ў галаву: ці-то пад уплывам чытанай мною раней расійскай літаратуры, ці то яшчэ з якіх прычын“ [4]). Адылі, ня гледзячы на гэта, яму хочацца хоць пакланіцца чужому гэройству: „Камандзір узьлез на перадок ува ўвесь свой вялікі рост— і з біноклем у руках камандаваў. Хацелася пакланяцца перад яго гэройскай постацьцю—гатовай мішэньню для ворага“ [5]), а калі камандзіра забіваюць, ён з захапленьнем дадае: „гэрою гэройская сьмерць“ [6]).

Нарэшце, шосты і заключны момант адмаўляе вайну ўжо на чыста эмоцыянальным грунце, на грунце страху. Гэтае пачуцьцё страху пачынаецца з першага-ж бою, у якім давялося так ці інакш браць удзел гэрою: „Сьпярша я ня чуў страху.—Джжж!!—над самым вухам асколак. Тады я надта спужаўся, упацеў, ногі саслаблі. Прытуліўся ў канаўцы“ [7]). І ўжо ў другім месцы: „Слабасьць духа, страх сьмерці апанавалі мяне“. [8]) Нават тое сваё любаваньне хараством вайны, якое мы бачылі ў трэйцім, дадатным моманце, гэрой бывае прымушаны спыняць пад уплывам гэтага страху; так, да прыведзеных у сваім месцы слоў пра гэтае любаваньне ён, пасьля асуджэньня яго, дадае: „А галоўнаеткі—страх...“ Гэтае-ж пачуцьцё страху прымушае яго і да згадванай вышэй маладушнасьці, якую ён цяпер ужо згодзен прызнаць у сабе, адмаўляючы гэройства: „А я сядзеў і горка разважаў: „Якія-ж мы гэроі... георгіеўскія кавалеры? Каб не баяліся кары, каб не вайсковая дысцыпліна, ніводзін-бы з нас..ні я, ні Пашын, ні Беленькі, пэўна з месца ня зрушыліся-б. Дый хадзілі па чароду, часам войстра сьпіраючыся, каму йсьці“ [9])... і ў другім месцы: „Дык у чым-жа праўдзівае

[1]) Гл. „На імпэрыялістычнай вайне“, ст. 79.
[2]) Там-жа, ст. 46.
[3]) Там-жа, ст. 144.
[4]) Там-жа, ст. 119.
[5]) Там-жа, ст. 141.
[6]) Там-жа, ст. 148.
[7]) Там-жа, ст. 34.
[8]) Там-жа, ст. 93.
[9]) Там-жа, ст. 77.

гэройства, і ці шмат пад гэтымі крыжамі гэрояў? Ці я, можа, ня добра разумею слова „гэройства“? На сучаснай вайне—усе гэроі ці, лепей кажучы, няма гэрояў, а ёсьць болей ці меней дысцыплінаванае быдла“ [1]).

Такім парадкам змагаюцца гэтыя дзьве лініі—пацьвярджэньня і адмаўленьня вайны—ува ўспрыманьні гэроем гэтай зьявы, выяўленым перш за ўсё ў разгляданых запісках. Іх ураўнаважвае трэйцяя, так сказаць, роўнадзейная лінія, якая падводзіць у дадзенай галіне канчатковы падрахунак. Гэта—гэроева абыякавсьць, якая ўтвараецца, як вынік уплыву абстаноўкі і вышэйзгаданага змаганьня пацьвярджэньня і адмаўленьня. Яна пачынаецца яшчэ з той „наўмыснай пакоры і цярплівасьці“, пра якую мы ўжо гаварылі. У далейшым яна паўстае як на грунце пацьвярджэньня вайны („Я быў рад, што еду,—куды, усё роўна, абы еду...“, ст. 14), гэтак і на грунце яе адмаўленьня („Яшчэ болей змарыўся розумам. Ня хочацца ні аб чым думаць і разважаць“, ст. 58) і проста, як такая, сама па сабе (асабліва яскрава пры прыняцьці прысягі, разьдзел XVIII—„Будзь стоек у баі і міласьціў к ворагу!—казаў мне добры попік.—Буду... мне цяпер усё роўна“, ст. 87). Напару яна выліваецца з нейкага адчайнага як-бы навет пацьверджаньня вайны, як перамогі жыцьця над сьмерцю таксама ў адчайнай форме: „А хай-бы йграў перамогу жыцьця над сьмерцю! Ня ўсё роўна, што тут рабіць: плакаць ці сьмяяцца?“ [2]), а напару сама пераходзіць у, так сказаць, адмоўнае пацьвярджэньне вайны: „А ўсе скаты двуногія. Хай жыве вайна—зьнішчэньне скатоў скатамі! Мы—ня людзі, мы—быдла...“ [3]) і закончваецца праклёнам вайне на гэтым грунце: „Ды быццам ня ўсё роўна, якіх людзей пабілі? будзь проклята вайна!“ [4]).

Гэтая абыякавасьць урэшце набывае сталую форму, форму атупеньня да навакольнасьці, нерэагаваньня на яе. Сваё ступеньне гэрой заўважвае яшчэ на самым пачатку вайны: „А я атупеў, страціў яснасьць думкі і чуцьцё вайсковае павіннасьці“ [5]). Асабліва-ж адчувае гэта ён пад канец свае ваеннае практыкі; тут асабліва характэрны запіс ад 29 верасьня (разьдзел XXI): „Забіты чалавек, забіты чалавек... Што тут асаблівага? Здаецца, нічога. А як уяўлю сабе тыя страшныя, мутныя, мёртвыя вочы, вывернутыя мазгі, кроў, сьцягнутыя сударгай і пастаўленыя ўгору адубеўшыя рукі са сьціснутымі кулакамі—тады толькі чую значэньне слоў „забіты чалавек“. Духовага-ж безабразьзя ўва ўсёй глыбіні адчуць не магу. Атупеў“, і ўрэшце: „Што гэта я раблю? Пакуль што я не адчуў усяе глыбіні гэтага жаху! Не адчуў, а толькі думаў, што тут вялікі страх, і жудасную сутнасьць гэтага страху я зразумею толькі некалі пасьля...“ [6]).

---

1) Гл. „На імпэрыялістычнай вайне“, ст. 103.
2) Там-жа, ст. 55.
3) Там-жа, ст. 81.
4) Там-жа, ст. 68.
5) Там-жа, ст. 48.
6) Там-жа, ст. 102.

Усё разгледжанае гэроева ўспрыйманьне вайны ў агульнай форме характарызуецца ў апошніх, заключных словах запісак: „І так пераходамі думалася, то лепшае, то горшае. А ўсё наогул—нядобра, прыкра, цяжка...“ [1]) У гэтым успрыйманьні мы ўжо маглі заўважыць некаторыя рысы, характэрныя гэрою, як сялянскаму выхадцу, прыкладам—рэфлексыйнасьць, нерашучасьць і г. д. Адылі, гэтае гэроева выхадзтва адбіваецца ня толькі ў такіх формальных рысах, але ў і некаторых момантах зьместу, якія ўжо характарызуюць яго выключна як выхадца і датычаць успрыманьня вайны праз, так сказаць, чыста выхадзкую прызму. Да разгляду гэтых момантаў мы цяпер і зь вернемся.

Першым такім момантам раскрыцьця гэтага зьместу выхадзтва пад уплывам вайны зьяўляецца момант соцыяльны. Перш за ўсё, вайна як-бы спрыяе ўзмацненьню гэроевых сувязяй з сваім родным асяродзьдзем, з вёскаю: „Думкі ляцяць дамоў, да родных“ [2]) і далей: „На вайне я люблю яго, далёкае, роднае“ [3]) прызнаецца нам гэрой і сапраўды, успаміны аб гэтым „далёкім, родным“ займаюць значнае месца ў запісках. У далейшым гэтыя сувязі на адлегласьці набываюць ужо больш шырокі памер, пачынаючы ад спачуваньня гэроя да тых прадстаўнікоў гэтага асяродзьдзя, якія так, як і гэрой, знаходзяцца на вайне: „Я аддаўся сумным разважаньням, што ня кожны можа дастаць сёньня кісет (калядны падарунак. *А. А.)*, такі, як гэты, што на пазыцыях сьцюдзёна, што край наш бедны, край наш цёмны—хвойнік, мох ды верасок, што ў гэтую проклятую нешчасьлівую гадзіну заліт ён скрозь сьлязьмі, спавіт галечай, абязьвечан, абяздолен. Я думаў аб сваіх братох-сялянах“ [4]). Нават сваю ўласную долю на вайне ён пачынае ўспрыймаць у чыста-соцыяльным аспэкце: „Ах ты, доля мая доля! Доля горкая мая! І не адна мая: цэлых міліёнаў.“ [5]). Яшчэ далей гэтыя сувязі пачынаюць ужо конкрэтызавацца, пераходзіць у рэальныя сувязі з гэтымі прадстаўнікамі сялянскага асяродзьдзя на вайне, пад уплывам якіх гэрой нават прымушан констатаваць: „Між „паноў“ няма столькі вялікіх душ, колькі ёсьць у „простым народзе“ [6]). Асабліва-ж старанна адзначае ён такіх прадстаўнікоў гэтага асяродзьдзя, якія шырока раскрываюць сваю соцыяльную існасьць, выступаючы „бунтаўнікамі“ супроць вайны: „І сёньня трапіў я на бунтаўніцкую гутарку нейкага прыгнатага надоечы кудлатага запасьніка.—„Дурні мы ўсе, вось чаму нам трудна, і мы тут цягаемся“. Салдаты сапраўднае (парасійску—„действительной“) службы з патрыятычным задорам зараз асадзілі яго. Але як-бы й сорамна ім было, як-бы й чулі троху сябе дурнямі...“ [7]) або ў другім месцы падобныя-ж разважаньні пра вайну

[1]) Гл. „На імпэрыялістычнай вайне“ ст. 185.
[2]) Там-жа, ст. 36.
[3]) Там-жа. ст. 83.
[4]) Там-жа, ст. 167.
[5]) Там-жа. ст. 105.
[6]) Там-жа, ст. 71.
[7]) Там-жа, ст. 86.

яшчэ больш конкрэтныя: „Колькі нашага брата вышла на вайну, а што нам: прыбавіцца хоць па дзесяціне ай што? Чаго не хапаець багатым чарцям, што лезуць у вайну? Здаецца, і сыты і п'яны. З жыру шалеюць, сволачы, а ты за іх жыцьцём накладай" [1]). Пад уплывам вайны і сам гэрой пачынае прыходзіць да вывадаў, падобных вывадам гэтых „бунтаўнікоў", спачатку ў форме лятуценьняў, якія дужа нагадваюць социялістычныя лятуценьні раней ужо разгледжаных намі аўтаравых гэрояў (Архіпа Лінкевіча, Антона)—„Ішоў на батарэю і па дарозе думаў: ці прыдзе той час, што ня будзе імпэрыялізму, нацыянальнага ўціску, багатых і бедных, сытых і галодных, цёплых і сьцюдзёных, ня будзе салдат, вайсковай службы, вайны? Калі наступіць гэты залаты век?" [2]), а пасьля ўжо і ў больш цьвярдой, азначанай форме: „Тыя соцыялісты, што адразу зьявіліся „паражэнцамі", за сваю цьвёрдасьць духа маюць будучыню. Не баюся ў гэты момант саглядатаяў,—хай прачытаюць маю кніжачку і расстраляюць палявым судом" [3]). Адылі, і гэтая форма адразу-ж памякчаецца ўласьцівай гэрою рэфлексыйнасьцю: „Толькі... ці надоўга ў мяне гэткай сьмеласьці?" Тут ужо праглядае тая рыса соцыяльнай нясьмеласьці, якую мы заўважалі і ў ранейшых гэрояў-выхадцаў, і якая ў разгляданага намі цяпер гэроя праяўляецца ў вадным ягоным сьне надзвычайна яскрава, хоць і алегорычна (як і часта ўва сьне наогул): „Мама крышыць мяса—дробнае, чырвонае, сырое—і з гуркам. І я хачу адыйсьці ў бок і купіць ёй гуркоў. Ня купіў... Ня купіў дзеля свае прост недараванае неадважнасьці. Мама кажа некаму: „Хваліць бога. прыждала ўжо і я помачы ад дзетак". А мне сорамна-сорамна і жаль-жаль" [4]).

Гэта ўжо—зукі таго дваіснага, прамежнага між панскім „небам" і сялянскай „зямлёю" палажэньня выхадца, якое выклікае абзываньне яго „арыстакратам" і „інтэлігентам" як з боку салдата-кастраміча Пашынага (разьдзел XXIX) і магчымасьць такога абзываньня з боку простага вартаўніка („Вучоныя,—яны... часта дурнеюць", ст. 95), гэтак і падобныя-ж нападкі ад юнкера Шалапутавага („Кідайце, калега, сваё інтэлігенцтва!" ст. 6) і шпітальнага пэрсоналю („Потым старшая сястра ласкава сароміла: „Эх вы інтэлігенты!", ст. 158), прычым апошнія заўважаюць пры гэтым і гэроеў нахіл да рэфлексыйнасьці („Вы ўсё нешта думаеце, як індык.., Чорт вас ведае, аб чым вы ўсё думаеце"—Шалапутаў і „Уся ваша хвароба ад думак. Меней думайце"—шпітальная няня).

Другім момантам раскрыцьця выхадзкага зьместу ёсьць момант нацыянальна-беларускі, нацыянальна-адраджэнцкі. Гэты момант цесна ўвязваецца з папярэднім, соцыяльным момантам: „Праяжджалі вялікі панскі двор, дзе памешчык—паляк, арандатар—яўрэй, батракі—жмудзіны. Зусім, як бывае ў нас на Беларусі. Ня дзіва, што ні польскія паны,

---

[1]) Гл. „На імпэрыялістычнай вайне", ст. 136.

[2]) Там-жа, ст. 89.

[3]) Там-жа, ст. 104.

[4]) Там-жа, ст. 36.

ні яўрэйскія эксплёататары не спагадаюць ні літоўскаму, ні нашаму адраджэньню. Прабудзецца народ—і зьверне ім карак...“ [1]). Побач з гэтым паказаньнем на соцыяльную аснову адраджэньня праз адзначэньне падобнасьці соцыяльных умоў яго ў розных народаў, гэрой паказвае на гэты грунт яшчэ і праз адзначэньне спагады нацыянальна-беларускай справе асоб чужое нацыянальнасьці на грунце соцыяльнай салідарнасьці: „Радасьць маю (ад атрыманьня „Нашае Нівы“. *А. А.)* зьняважыў старшы пісар, Лебедзеў, калі камандзір выйшаў.—„Ахвота-ж пісаць газэты на такой сьвінячай мове. *Ведь порусски так легко научиться“*. Задрыжэла ўва мне ўсё ад гневу, але што я магу сказаць гэтаму чорнасоценцу, калі ён гаворыць так не ад цемнаты, а сьведама і наўмысьля. Пашын так ня скажа“ [2]) (курсыў аўтара. *А. А.).*

Падобна як у папярэднім гэрой імкнуўся адзначаць соцыяльныя моманты на вайне, гэтак і тут ён імкнецца адзначаць нацыянальна-беларускія моманты хоць і ў несьвядомым праяўленьні іх (гл. прыкладам, спрэчку дзяншчыка-беларуса з вялікарусам у пачатку XXII разьдзелу), ды імкнецца нават ужываць некаторыя захады дапамогі сьвядомаму іх выяўленьню (спроба ўсьведамленьня аднаго салдата-беларуса ў запісе ад 3 кастрычніка, разьдзел XXIII). Адылі, асабліва зьяўляецца ў гэроя гэты момант тады, калі ён спрабуе рабіць ацэнку вайны, спачатку ў чыста-пытальнай форме—„Усё гэта цяпер загіне, як згіну можа і я сам... во славу... во славу чаго? Вызваленьня „малых“ народаў? А ці вызваліцца мой народ? Што яму дасьць гэтая вайна? Лепей ня думаць... [3]), а пасьля ўжо ў форме больш пытальна пацьвярджальнай: „За які родны край, і наогул—за што? Ці-ж Беларусь будзе мець нейкую палёгку ад гэтае вайны? А ня здарыцца так, што, дастаўшы перамогу на фронце, расейская рэакцыя ўзмацуецца і загнець нас у яшчэ горшы рог“ [4]). Ня менш яскрава праяўляецца ён і тады, калі гэрой, наадварот спрабуе зрабіць ацэнку чалавека з пункту гледжаньня вайны: „І Лебедзеў—казюлька, і я—казюлька, і ўсе мы—казюлькі. І тыя нашы заўзятыя „сьведамыя“ беларусы, якія заўсёды вытыкалі мне падобныя развагі як слабасьць духа, нягожую дзеля праўдзівага адраджэнца-рэволюцыянэра, і яны—самі казюлькі...“ [5]). Такім чынам, гэрой спрабуе ў гэтай ацэнцы знайсьці сабе як-бы апраўданьне за сваю некаторую нацыянальную інэртнасьць. Адылі, сам ён адчувае нямоцнасьць гэткага апраўданьня, і сьпяшае замяніць яго другім апраўданьнем, апраўданьнем ужо за сваю ваенную інэртнасьць, пабудованым на першай ацэнцы, ацэнцы вайны з нацыянальнага пункту гледжаньня: „І калі тут не заб‘юць, прыдзе пара—паваюем і за што другое“... і ў другім месцы, ужо больш азначаней: „Нейкі голас супакойвае мяне: ну й добра, што хаваўся,—ты яшчэ спатрэбішся для сваёй роднай справы“ [6]).

[1]) Гл. „На імпэрыялістычнай вайне“, ст. 91.
[2]) Там-жа, ст. 89.
[3]) Там-жа, ст. 25.
[4]) Там-жа, ст. 110.
[5]) Там-жа, ст. 89.
[6]) Там-жа, ст. 53.

Над гэтымі нацыянальнымі момантамі, злучанымі непасярэдня з соцыяльнасьцю і з вайною, у гэроя надбудоўваюцца ўжо і чыста-нацыянальныя моманты, зьвязаныя з наведваньнем гэроем, дзякуючы вайне, Нямеччыны. Першы такі момант—гэта момант нацыянальна-культурны, які выяўляецца ў форме зайздрасьці гэроя да высокай нямецкай культуры („На культуру завідасьць глядзець! І жаль бярэ за сэрца, што Беларусь, у параўнаньні, дзікая-дзікая!", ст. 40), якая прымушае яго з другога боку навет як-бы цешыцца, калі ён заўважае ў гэтай культуры якое-небудзь упушчэньне („Цікаўныя вулейчыкі сплецены з саломы і ракітніку, як у нас пляцёнкі ссыпаць канаплі. Аж я ўсьцешыўся: і ў немцаў ня толькі рамчакі", ст. 57). Другі такі надбудованы момант—момант нацыянальна-псыхолёгічны, які выяўляецца перш-на-перш у параўнаньні Нямеччыны і Расіі з боку псыхолёгічнага: „У Расіі пасьля Нямеччыны я чую сябе... быццам выйшаў з нечага душнага і такога, дзе ўсё-ўсё вядома і няма поэзіі, і выйшаў на сьвежае, вольнае і ўбогае паветра" [1]). Праўда, такая псыхолёгічная ацэнка Нямеччыны не выключае сабою і папярэдняе культурнае ацэнкі— „Хочацца і ў Расіі, тут, бачыць гэтыя зручныя, з прысадамі шосы, прыгожыя цагляныя хаткі (і іншае і іншае,—абраз нямецкага поля стаіць у вачох: дрэнаж, раскіданыя, ля сьвежае канавы дрэны, культура), але каб і наш прастор захаваць, поэтычную шырыню і волю лясоў, лужкоў". „Гэтая акалічнасьць і прычыняецца да ўсьведамленьня гэроем свае раздвоенасьці і ў дадзенай галіне: „Ці гэта прызвычаенасьць да свайго? Ці гэта дзьве душы ўва мне—усходняя і заходняя? І сумна, чагосьці лепшага хочацца, і здаволены, што вырваўся з духаты".

Трэйцім момантам выхадзтва ў гэроя зьяўляецца момант наяўнасьці некаторага містыцызму ў яго. Ён выяўляецца ўжо значна слабей за папярэднія моманты, дый гэта зразумела: пасьля таго „разьвітаньня" з містыцызмам, якое адбылося ў першым пэрыядзе творчасьці пісьменьніка' гэтае выяўленьне можа быць у другім пэрыядзе яе або сваеасаблівым выяўленьнем, так сказаць, па інэрцыі, або выяўленьнем тых, „схованых нітак Цёмнага Лесу" ці „лесавых цурочкаў", на якія пісьменьнік зазначаў пры сваім разьвітаньні. Перш за ўсё мы бачым тут выяўленьне былых „праклятых" пытаньняў" як былое непасярэдняе прычыны містыцызму. У гэтай галіне мы тут ужо заўважваем пэўную працягальнасьць з „Антонам", падобна да таго, як у „Патаёмным" заўважалі такую працягальнасьць з „Руньню". Так, у вадным месцы ў гэроя праяўляецца тая-ж цікавасьць да пытаньня пантсыхізму, якую мы бачылі ў Антона: „Калі ня дужа трасло, я думаў, што такое боль, чаму яго ня можна ўявіць, калі перастае балець, і чаму ён ёсьць ува ўсіх жывых істот. Што такое боль? Раздражненьне нэрваў—і ён ёсьць як-бы толькі ў думках таго, каму баліць. Можа і ў дрэва ён ёсьць, калі дрэва сякуць сякераю, толькі мы гэтага ня ведаем" [2]).

---

[1]) Гл. „На імпэрыялістычнаи вайне", ст. 79.

[2]) Там-жа, ст. 153.

У другім месцы ён ставіць войстрыя пытаньні наконт проблемы жыцьця й сьмерці, зусім падобныя да тых, якія ставіў у „Антоне“ „Беларускі Аўтар“: „І на што яно гэта? І што-ж гэта такое? Жыў чалавек і памірае. Проста ўсё. І няма нічога вышэйшага. І вечная загадка“... [1]). Часам праяўляюцца ў гэроя і некаторыя ранейшыя ноткі агностыцызму (думкі пра мэдыцыну ў разьдзеле XXXIII).

Другою формаю выяўленьня гэтага моманту зьяўляюцца ў гэроя паасобныя ніткі таго „патаёмнага“, у васнове якога ляжаць сялянскія павер'і і забабоны. Ён нават прабуе ўсьведаміць сабе гэтую форму: „Паводля нашых народных забабонаў, сьніць сырое мяса і гуркі— дужа дрэнны знак. І я думаю: як незразумела сплятаецца ў чалавеку гэтая спадчына вякоў, перажываньні многіх пакаленьняў“ [2]). Гэтая форма мае цеснае дачыненьне да тых сувязяй з родным асяродзьдзем на вайне, якія мы разглядалі ў соцыяльным моманце; нават самае кагадзе прыведзенае выказваньне зьяўляецца непасярэднім вынікам таго алегорычнага выхадцавага сну, пра які мы ўспаміналі ў згаданым разглядзе (яшчэ адзін выпадак „нітак“ гэтага гатунку гл., прыкладам, у запісе ад 13 верасьня—разьдзел XVIII—пры прыняцьці прысягі).

Нарэшце, апошняю формаю такога выяўленьня зьяўляецца ўжо нахіл да непасярэдняй рэлігійнасьці, які стымулюецца некаторымі момантамі ваеннай абстаноўкі. Першым такім стымулям, бязумоўна, ёсьць баявая частка гэтай абстаноўкі, якая параджае страх як за сябе, гэтак і за навакольных: „Жыць хачу! Госпадзі, памілуй мя грэшнага!—і хочацца хрысьціцца, як камандзір, але рэшткі розуму сьцюдзёна шавеляцца“ [3]), або ў другім месцы: „Божа, ратуй яго! Божа, вярні яго!—нязвычайна напружаемся мы ў адным жаданьні, не разважаючы, ёсьць такая сіла ці няма такой сілы, што магла-б ўратаваць яго“ [4]). Другім стымулям, які часткаю прыўваходзіць і ў першы стымуль, зьяўляецца ўжо непасярэдняя людзкая абстаноўка. Так, гэройства таго-ж камандзіра прымушае гэроя заявіць: „І ўжо хочацца верыць у дзівы“ [5]), падобна да таго, як ягонае хрышчэньне, як мы кагадзе бачылі, падштурхавала гэроя на непасярэдняе перайманьне пад уплывам страху. Падобна-ж дзеюць на гэроя і іншыя факты навакольнай рэлігійнасьці: „Фэльчар хрысьціцца, Пашын таксама і абцірае сьлёзы рукавом наодмах, як адганяючы мух. Мне на гэты раз хочацца зрабіць, як і яны, ды рука не паднімаецца: я веру і ня веру, што над гэтымі парванымі кішкамі ёсьць нешта, што завецца богам“ [6]), і ў другім месцы: „Нават мне было цяжка за сваю варожасьць да ўсяго гэтага прыгожага самаашуканства“ [7]). Часам адценьне гэтага стымуляванага нахілу пачынае

[1]) Гл. „На імпэрыялістычнай вайне“, ст. 162.
[2]) Там-жа, ст. 36.
[3]) Там-жа, ст. 43.
[4]) Там-жа, ст. 75.
[5]) Там-жа, ст. 50.
[6]) Там-жа, ст. 76.
[7]) Там-жа, ст. 51.

навет згладжвацца, і мы маем ужо як-бы простыя дадатныя ці адмоўныя, але ўсё-ж рэгіліязаваныя—выказваньні: „Ах, каб ужо баржджэй скончылася гэтае пекла!—прашу я няведамую сілу“ [1]) або: „Я пачынаю бунтаваць супроць начальства, што на зямлі і што на небе“ [2]). Адылі, на гэткія выказваньні можна глядзець хутчэй як на пэўны прыём.

Апошняе, у чым раскрываецца зьмест выхадзтва, зьяўляюцца некаторыя рысы „выхадца ў каханьні“, якія праяўляюцца ў дадзеным творы. Так, у гэроя часам зьяўляецца цікавасьць да дзявочага хараства, (прыкладам, запіс ад 16 кастрычніка пра трох жмудзінак, разьдзел XXVII), або ўспаміны пра дзяўчат (запіс ад 25 кастрычніка пра „сваю даўную сымпатыю“ Зену, разьдзел XXXI), часам ён прымушаны нават інтымна прызнавацца: „Ня гледзячы на абстаноўку, мне прысьніўся распусны сон“ [3]). Самы гэты момант прыцягвае гэроя ўжо сваёю агульналюдзкасьцю („Салодка было глядзець на яе мілае жмудзінскае і агульна-людзкае хараство“, ст. 123) і нават прымушае часам абмяжоўваць свае чыста-соцыяльныя пачуцьці („Так мне зрабілася іх шкода, хоць і ня любіў я афіцэраў і паноў. Тут—шчырае каханьне і разлука...“ ст. 15). Адылі, дзеля абстаноўкі, гэты момант не атрымоўвае большменш шырокай разгорнутасьці.

Як відаць з усяго папярэдняга, гэрояў настрой праз увесь час прабыцьця на вайне паступова пануравцца. Праўда, у пачатку яе гэты настрой зьяўляецца сьветлым, будучы працягам таго настрою, які запаноўвае ў аўтара пасьля разьвітаньня з пэсымізмам у „Антоне“ (асабліва яскрава, прыкладам, у III разьдзеле: „Як ішоў назад—агледзеўся. Месяц. Ядрана. Туман у доле. Шуміць цягнік. Машына: пых-пых! пых-пых! пых-пых! А колы грымяць: гру-ру-ру! гру-ру-ру! гру-ру-ру!.. Хараша! Супакой і хараство агарнулі мяне. Варта жыць на сьвеце!“, ст. 19), але пад канец ён ужо мае выразныя адзнакі пэсымізму, праўда, не ранейшага—філёзофскага ці гносэолёгічнага, а ўжо чыста псыхолёгічнага і псыхофізыялёгічнага, з якімі гэрой усьцяж вядзе змаганьне, але якія не пакідаюць яго і нават перад водпускам дадому („Мяне адпускаюць дамоў! Далоў нуду! Хай красуе жыцьцё! Не... нудна. Рана ня гоіцца асколак сядзіць у назе, а я мушу сядзець у шпіталі... Праклятая вайна“, ст. 165). Першае падтрымліваецца тэю першаю лініяю пацьвярджэньня вайны, пра якую мы вышэй казалі, а таксама процілежнымі ёй соцыяльнымі і нацыянальнымі момантамі ў іхнай аснове, другое—другою і трэйцяю лініямі адмаўленьня вайны і абыякавасьці, соцыяльнымі і нацыянальнымі момантамі ў іхных высновах і тымі „ніткамі“ містычнага моманту, на якія мы вышэй паказвалі. На грунце ўсяго гэтага і адбываецца гэты як-бы ўзварот да пэсымістычнай формы настроенасьці, толькі, як бачым, пры зусім іншым зьмесьце.

---

[1]) Гл. „На імпэрыялістычнай вайне“, ст. 48.
[2]) Там-жа, ст. 98.
[3]) Там-жа, ст. 135.

У гэткім настроі гэрой і накіроўваецца на пабыўку дадому, апісаньню якое прысьвечаны апошні (XL) разьдзел запісак, які дапаўняе характарыстыку гэроя пэрыяду вайны, канчаткова яе · акрэсьліваючы. На пачатку гэтага разьдзелу мы сустракаем гэроя ў тым-жа настроі, толькі накірованым ужо ў адваротным кірунку і непасярэдня ўвязаным з ранейшым гэроевым пацьвярджэньнем вайны, як дзейнасьці: „Яшчэ й месяца няма, як вярнуўся дамоў, і вось ізноў такое звычайнае, нуднае жыцьцё, як быццам ня было ані тых акопаў, ані тэй апэрацыі. зноў нудна і няцікава...“ [1]). Праўда, гэты настрой ён спрабуе перамагчы процілежнаю ўвязкаю з адмаўленьнем вайны і соцыяльным момантам: „І тады ўздумаў на тых, што там, на пазыцыі засталіся яшчэ, калі я паехаў, і вось цяпер, у гэты самы момант, сядзяць у сьцюдзёных ямах, чакаючы з нецярплівасьцю то раніцы, то вечара, то калі прыедзе кухня, то калі прывязуць хлеба. Шкода іх, шкода... Бедныя, любыя!“ [2]). Адылі, зварачаючыся ізноў да свае конкрэтнай абстаноўкі, гэрой зварачаецца ізноў і да папярэдняга мотыву, востра асуджаючы і свае ранейшыя сувязі ды імкненьні да роднага асяродзьдзя на вайне, як пэўнае самаашуканства—„Але з самага споду душы вылязае тое, што мучыць тут, удаму. Так, думкі іхныя лятуць у гэты момант сюды, пад родныя стрэхі, на сваю цёплую печ, да гэтых шчасьлівых ціхамірных дзён, дзе ёсьць сьвятло й цяпло ў хаце. Лятуць з поля сьмерці, з тых сьцюдзёных ям, з бясконцага няшчасьця дзён. Лятуць... Яны там цяпер толькі й думаюць аб гэтым, болей ні аб чым... Ну, дык-жа й няхай сядзяць, няхай калеюць... Няхай, няхай!..“ [3]). Як бачым, пад уплывам гэтага мотыву гэрояў настрой пераходзіць ужо як-бы і ў злосны. Гэтая злосьць знаходзіць сабе цяпер добры грунт у тым атупеньні, якое гэрой набыў з вайною, прымушаючы яго войстра зрываць сваю злосьць на зусім непавінных асобах і істотах (сабака Буян, маці ў пачатку разьдзелу, ст. 173) і часам пераходзіць нават у жорсткасьць (гл. жорсткую расправу з непавіннымі галубцамі, ст. 176). У далейшым гэтая злоснасьць зьвязваецца і ўзмацняецца некаторымі чыста-выхадзкімі мотывамі, якія пад уплывам непасярэдняга ўзьдзеяньня роднага асяродзьдзя, пачынаюць праяўляцца тут ужо куды яскравей, чым на вайне. Галоўным такім мотывам, з якім і адбываецца тут непасярэдняя ўвязка, зьяўляецца вядомая ўжо нам раздвоеннасьць выхадца ў галіне дачыненьня яго да роднага асяродзьдзя, якая вырашаецца спачатку алегорычна, маючы ў аснове алегорыі вобраз гэроевае маці: „Думаю, што злосьць такая таму, што маці стаіць уваччу няпрыгожая і неахайная, а люблю яе, і шкода, што яна ў такіх растоптаных, калматых лапцёх. І так трэба жыць усё жыцьцё, і мучыцца—няведама на што...“ [4]). Як бачым, гэты мотыў завяршаецца пэсымістычнай высновай, правільней, напоўвысновай аб сялянскім жыцьці. Яшчэ яскравей гэты мотыў

[1]) Гл. „На імпэрыялістычнай вайне“, ст. 172.
[2]) Там-жа, ст. 175.
[3]) Там-жа, ст. 176.
[4]) Там-жа, ст. 173.

выступае ў сваёй адмоунай частцы, у частцы адмоўнага дачыненьня выхадца да роднага асяродзьдзя, у выказваньнях пра яго іншых асоб, прыкладам, гэроевага бацькі („Мы так, як тыя сьвіньні, увесь век у балоце жыць будзем. А ты-ж сьвету пабачыў, табе часьцей хочацца...“ і далей: „Мы, сынок, не паны і ня жыды, каб кожнаму пад нос талерачку падстаўляць... Мы і з аднае міскі дастанем, абы даваў бог што даставаць“). Некаторыя з гэтых выказваньняў больш дакранаюцца да іншых момантаў адмаўленьня гэроем роднага асяродзьдзя, асабліва ідэялёгічнага яго ўкладу, як, прыкладам, выказваньне маці: „Мусіць, ты і ўчора не маліўшыся лёг? Надта-ж неспакойна спаў, марматаў, зюкаў, стагнаў...“ [1]) Усе гэтыя моманты прымушаюць гэроя зрабіць наступны вывад: „Яны мяне чакалі з такою радасьцю, а ня прынёс я ім весялосьці ў хату“. І, нарэшце, калі ў самым канцы разьдзелу зьяўляецца ізноў магчымасьць паўторнага ўзяцьця гэроя на вайну, ён прыймае ўжо суздром пэсымістычны вывад пра бескаштоўнасьць свайго жыцьця: „Заб'юць цяпер... І к ліху новае жыцьцё“. Ну й чорт яго бяры, такое жыцьцё,—ня шкода“... [1])

Такім чынам, як мы бачым, ні вайна, ні хатняе жыцьцё падчас вайны не дае гэрою здаволеньня, прымушаючы нават зварачацца яго да пакінутага раней пэсымізму. З апошніх-жа прыведзеных слоў, а таксама з разгляданае намі раней лініі абыякавасьці, і зьявы атупеньня мы можам яшчэ бачыць, што гэтыя-ж абставіны прымушаюць гэроя зусім ня цікавіцца як навакольным, гэтак і сваім жыцьцём. Інакш кажучы, гэрою як-бы пачынае абрыдваць сваё ўласнае жыцьцё, а, значыцца, і ён сам. У гэтым самая характэрная рыса разгляданых запісак, як першага твору другога пэрыяду творчасьці Максіма Гарэцкага.

Гэтая рыса падтрымоўваецца ў дадзеным творы яшчэ тым, што, дзякуючы ягонаму інтымнаму характару, як твору мэмуарнага жанру, гэрой бадай адзін і запаўняе яго. І супраўды—усе іншыя гэроі запісак маюць вузка-эпізодычны характар; пра некаторых з іх аўтар абмяжоўваецца адно ўспамінаньнем. У невялічкіх-жа замалёўках некаторых з гэтых гэрояў яскрава прыглядае разгледжаная намі асноўная накіраванасьць аўтара. Так, прыкладам, ён адзначае, як мы ўжо ведаем, гэройства і апрача таго містычныя нахілы камандзіра („Чуў я пра яго дзівоты вялікай набожнасьці...“, ст. 7), падобнае да галоўнага гэроя дачыненьне да вайны і той-жа містыцызм у падпаручыка Сізовага („Гутарка ізноў узьбілася на лёгка магчымую сьмерць, і падпаручык Сізоў удаўся ў містыцызм...“, ст. 100; „Яму хочацца руху, дзейнасьці прыгожае вайны, а тут сядзі й сядзі ў гнілым акопе...“, ст. 112), ненавідны гэрою грубы фізыялёгізм Шалапутавага („Вечна ён або жор, як у якую прорву, так у свой вялікі лантух...“, ст. 6, або „нягожы выпадак“ з ім у разьдзеле VIII, ст. 51), інтэлігенцкую сарамлівасьць

[1]) Гл. „На імпэрыялістычнай вайне“, ст. 183.

[2]) Там-жа, ст. 185.

падпаручыка Івановага (разьдзел III, ст. 21), характэрная „пабожнасьць“ украінца Яхімчыка (разьдзел V, VII і інш.), адмоўнае выхадзтва пісара Масловага (разьдзел XXII), характэрную для вайны псыхолёгію „тыповага служакі, унтэр-афіцэра“ (разьдзел XXXIX) і г. д.

Такім, у васноўным, выглядае першы твор пераходнага кругабегу пісьменьнікавае творчасьці.

## XIII

Як мы кагадзе вывелі, вайна настолькі зрабіла ўплыў на пісьменьніка, што выклікала ў яго пачуцьцё абрыдласьці як да самой сябе, гэтак і навет яшчэ больш да самога сябе, як да галоўнага гэроя. Адсюль зусім натуральна ў пісьменьніка тэндэнцыя рэакцыі супроць гэтых зьяў, тэндэнцыя да адцягненьня ад вайны і ад гэроя. Гэтая тэндэнцыя і праяўляецца ў некаторых творах пісьменьніка другога пэрыяду ягонае творчасьці, якія ідуць сьледам за разгледжанымі вышэй запіскамі „На імпэрыялістычнай вайне“. Перш за ўсё, яна праяўляецца толькі напалавіну, толькі ў дачыненьні да гэроя, як прадмета, які найбольш абрыдаў аўтару з вайною. Творы, у якіх праяўляецца гэтая тэндэнцыя, тэматычна прымыкаюць да запісак, але характарызуюцца адсутнасьцю ў іх галоўнага гэроя творчасьці М. Гарэцкага. Апрача таго, яны маюць і некаторую падагульняючую ролю ў тэматычным дачыненьні.

Сюды, перш за ўсё, належыць невялічкі ўрывак, які раней нават прызначаўся для запісак „На імпэрыялістычнай вайне“ і нават друкаваўся пад такім загалоўкам у „Полымі“ [1]), але ня быў устаўлены ў згаданыя запіскі пры асобным іхным выданьні. Гэроем гэтага ўрыўку, дарэчы, зьмешчанага ўжо і ў хрыстоматыях [2]) зьяўляецца „Рускі“, якога аўтар характарызуе, як тыповага селяніна: „З пэўнасьцю можна сказаць, што да вайны ці, лепей кажучы, да мобілізацыі—Рускі быў звычайным земляробам Магілеўскае губэрні; быў здаровы, але крышку павольны, здольны ад прыроды, але цёмны, грубы. Апранены пасалдацку, ён нічым не зьмяніўся, толькі прытарнаваўся да свайго новага жыцьця“ [3]). Апрача гэтага, аўтар адзначае яшчэ адну характэрную рысу „Рускага“—памаўзьлівасьць, дзякуючы якой „на пазыцыі, у часе доўгага і спакойнага стаяньня ў зацішку малаважнага фронту, болей за другіх сваіх таварышоў любіў Рускі туляцца па пустых, кінутых сялянскіх дварох і поркацца там, шукаючы пажытку“. Фактычна, грунтам для разьвіцьця гэтай памаўзьлівасьці ў „Рускага“ зьяўляецца, як бачым, тое-ж „стаяньне ў зацішку“, якое не падабалася й гэрою, як бязьдзейнае і аднатоннае, і ў дачыненьні да якога памаўзьлівасьць зьяўляецца толькі пабудкаю да пэўнага віду дзейнасьці, як рэакцыі на

[1]) Гл. „Полымя“ № 1 за 1925 г., ст. 83.

[2]) Гл. хрыстоматыю для 4-й групы сямігодкі „Наш Сьцяг“ І. Самковіча і І. Пратасэвіча.

[3]) Гл. „Полымя“, ст. 83.

гэтую аднатоннасьць, віду, якасьць якога абумоўліваецца сялянскім палажэньнем гэроя. І вось гэтага сялянскага гэроя аўтар бярэ для таго, каб на больш конкрэтным прыкладзе яшчэ раз падкрэсьліць псыхолёгічны ўплыў вайны і, разам з тым, дапоўніць і як-бы зайстрыць усё тое, што было пададзена аб гэтым уплыве на гэроя яшчэ ў запісках „На імпэрыялістычнай вайне“.

Сваё гэтае падкрэсьленьне аўтар праводзіць пры дапамозе нескладанай, але надзвычайна напруджанай і выразна псыхолёгізаванай фабулі, галоўным гэроем якое ён робіць „Рускага“. Гэтая фабуля зьмяшчаецца ў тым, што „Рускі“, падчас аднае з сваіх памаўзьлівых вылазак, сустракае „аўстрыяка“, абое пужаюцца адзін аднаго; „аўстрыяк“ пры дапамозе украінскай мовы прапануе „Рускаму“ гарэлкі, якую яны і расьпіваюць удвох, пасьля чаго „аўстрыяк“ прапануе „Рускаму“ весьці яго ў Расію, ад чаго той адмаўляецца, і яны разыходзяцца ў свае бакі; разьвітаўшыся з аўстрыякам, „Рускі“ пад уплывам свае няхітрае сялянскае рэфлексыйнасьці забівае „аўстрыяка“, дзякуючы сваёй памаўзьлівасьці старэнна аглядае яго, а пасьля дастае душэўнае хваробы і сьледам за ёю, дый з прычыны яе—хваробы грудзей. У самым напаўненьні фабулі асабліва цікава гэтая кагадзе ўспомненая сялянская рэфлексыйнасьць „Рускага“, якая прыводзіць яго да зробленай ім разьвязкі: „Яго прыціснула тое, што некалі было падумаць, як гэта што было. Ён хапаўся ўцяміць, ці ўсё добра ён рабіў. І раптам бліснула яму ў галаве, і ён, каб не спазьніцца, бо горш ня будзе, а каб пасьля не шкадаваць, што быў варонаю, ён ужо ступіўшы разоў дзесяць, сказаў сам сабе: „Э, што ж я за ваяка?“ [1]). Такім чынам, мы бачым ізноў, што і тут „Рускі“ зьяўляецца падобным да галоўнага гэроя, толькі, ізноў-жа, больш нізкім з якаснага боку.

Яшчэ цікава апісаньне аўтарам таго надворнага ўплыву, які зрабіла здарэньне вышэйапісанай фабулі на „Рускага“: „На выгляд гэта ёсьць даволі здаровы мужчына. Ён сярэдняга росту, добрага складу, шырокаплечы, і грудзі ў яго звычайныя. На твары ніякай хваравітасьці ня відаць,—пэўна-ж, калі ўважаць на тое, што чалавек прыехаў не з гасьцей, а з акопаў. І толькі ў вачох гароткіка ё штосьці такое, што выдае і цяжкую хваробу, і муку, і безнадзейнасьць. Вочы ў яго праваліліся, зрабіліся маленькімі. Галоўнае-ж, яны страшэнна змарнаваныя, нейкія зьмяглыя, сьцёртыя. Трэба прыгледзіцца да іх, і тады відаць у іх боль“ [2]) і ў канцы твору: „Я на свае вушы чуў ад Рускага аб тым, як ён забіў беднага аўстрыяка, і сьпярша таксама не паверыў: ці мала хітрых бэстый бывае паміж салдат. Аднак, я на свае вочы пабачыў, у першую-ж яго ноч у нашым шпіталі, як ён горка плакаў і жаліўся, што яму ўсё нешта здаецца. Няшчасны, ня гледзячы на бром і падскурнае ўпырсківаньне, заліваўся сьлязьмі так шчыра і жалосна і так доўга, што ніяк ня можна было яму ня верыць“ [3]).

[1]) Гл. „Полымя“, ст. 84.
[2]) Там-жа, ст. 83.
[3]) Там-жа, ст. 85.

Апрача гэтага, цікавы ў дадзеным творы і некаторы нацыянальны момант, адылі, зусім неразгорнуты: так, фактычна „Рускі“ ў „Аўстрыяку“ забівае, як відаць (асабліва з апошніх перад сьмяротных слоў апошняга), украінца—свайго блізкага нацыянальнага суседа, а зусім ня немца і не аўстрыяка. Самае-ж цікавае ў ім—той псыхолёгізм, які напаўняе яго ўшчэрць і, нават, параўнальна больш, чым іншыя творы аўтара, асабліва творы малых жанраў.

Наогул-жа, мы бачым у дадзеным творы падкрэсьленьне і зайстрэньне псыхолёгічнага ўплыву вайны выведзенага ў запісках „На імпэрыялістычнай вайне“, пры дапамозе паказаньня яго на прыкладзе звычайнага селяніна. У апошнім мы навет можам бачыць пэўны прыём адцягненьня ад галоўнага гэроя творчасьці пры дапамозе, так сказаць, яго якаснага паніжэньня да звычайнага селяніна, што як дужа ўдзячна для асноўнай устаноўкі твору, гэтак і апраўдваецца агульнай устаноўкай твораў пасьля запісак „На імпэрыялістычнай вайне“.

Адылі, у разгледжаным творы яшчэ як-бы прысутны сам галоўны гэрой у васобе аўтара, якога можна адчуваць такім, так сказаць, па інэрцыі са згаданых запісак, хоць ён сябе нічым не праяўляе, як гэрой, і наагул займае ў творы дужа мала месца, выключна як аўтар-перадавальнік, апавядальнік, у вузкім сэнсе. У другім творы, які мае тую-ж тэндэнцыю, што і кагадзе разгледжаны, гэты гэрой ужо зусім зьнікае, даючы твору поўную аўтономію. Гэткім творам зьяўляецца апавяданьне „Генэрал“, надрукованае ў свой час у газэце „Вольная Беларусь“ [1]). Гэроем яго, як відаць ужо з загалоўку, зьяўляецца вышэйшая вайсковая асоба—генэрал, як бачым, наўсупроць папярэдняму твору, дзе такім гэроем зьяўляецца просты селянін. Падобна да таго, як і ў папярэднім творы, ужо ў самай знадворнай характарыстыцы гэроя, аўтар падае яго адразу-ж, як асобу свайго стану: „У мундзіры на ангельскі фасон і ў штанах „галіфэ“, з белым каўнерчыкам на шыі і ў манжэтах, ён выглядаў дробненькай, старэнькай чысьцешкай“. Ізноў-жа, падобна да папярэдняга твору, фігура генэрала падаецца на фоне бязьдзейнай ваеннай абстаноўкі: „Дывізія стаяла на адным мейсцы фронту, без асаблівых здарэньняў, ужо колькі месяцаў“.

Гэтая ваенная абстаноўка выклікае ў генэрала „нудлівы“, блізкі да пэсымістычнага, настрой: „Генэралу нечага было рабіць; станавілася нудліва“. Побач з гэтым, мы заўважаем у яго і як-бы намёк на рэфлексыйнае дачыненьне да самай прычыны свайго настрою—ваеннай абстаноўкі, якое мы бачылі раней у галоўнага гэроя: „Генэралу было нудліва, хаця, пры думцы аб баях, ён быў глыбока здаволен, што іх тут даўно ня было і не чакалася“. У далейшым генэрал спрабуе адшукаць і самую гэтую прычыну: „Нудліва... Так бывае ўва ўсякай справе, калі чагосьці пачнецца гэткі настрой, і думаецца, што ўсё ясна, усё кончана, зроблена, і ніякіх асаблівых цікавасьцяй-мажлівасьцяй няма. І тады нудліва. Бо няма к чаму ляцець, няма размаху.

[1]) Гл. „Вольная Беларусь“ за 1918 г., ст. 131 (№ 17 ад 12 траўня 1918 г.; напісана апавяданьне 20—23/X—1916 г.).

Але ў тэй-жа справе адкуль возьмецца настрой, каторы дасьць гэткую глыбіну дзела, гэткі размах, прастор, столькі розных мажлівасьцяй, што з гарачкай кожны працуе, працуе, і ня можна ўсяго перарабіць, канца ня відно, і ў гэтай працы столькі вялікага, нязвычайнага робіцца з налёту, неспадзявана. Людзі тады п'янаватыя ад творчасьці, і не адзін, а ўсе". Такім чынам, мы бачым, што генэрал, як і раней галоўны гэрой, бачыць гэтыя прычыны ў аднатоннасьці спакойнае ваеншчыны і глядзіць на ваенную дзейнасьць, як на спосаб пазбаўленьня ад яе, прычым, глядзіць навет вышэй за гэроя, бачачы ў гэтай дзейнасьці ня толькі ажыўленьне, як гэрой, але і пэўную творчасьць. Цікавы і той элемэнт некаторага фаталізму, якім надзіўляюцца генэралавы словы, і які асабліва праяўляецца ў яго тады, калі ён пачынае задумвацца аб самой вайне і прыходзіць да адмаўленьня ролі навукі (стратэгіі) у ёй, падобна да некаторых гэрояў расійскага пісьменьніка Л. М. Талстога з раману„Война и мир": „Няпрыкметна пераскакаваў на газэтныя навіны ды зноў выводзіў сваё даўнейшае перакананьне, што вялікае навукі для вайны непатрэбна" і крышку далей: „Ні ў аднэй навуцы значэньне, а ў чым-то другім яшчэ, — думаў генэрал. Так неяк зложыліся ўмовы, што ён выпаўнае тое, што яму загадаюць; адходзе, прыходзе, стаіць, як гавора прыказаньні, і сам не ўсягды разумее, на што што робіць". І ў гэтым фаталізьме можна бачыць таксама як-бы ўзвышэньне абыякавасьці і пэсымізму галоўнага гэроя.

Гэткім дадзены гэрой, падобна да папярэдняга гэроя—„Рускага" уводзіцца аўтарам у фабулю, якая зьмяшчаецца ў тым, што, жадаючы разагнаць свой „нудлівы" настрой, генэрал едзе на позыцыі; там, у вадным месцы ён зьдзіўляе салдатаў сваім простым, таварыскім абыходжаньнем з імі, а ў другім, жадаючы падняць іхны дух, выстаўляе сябе і ротнага камандзіра пад кулі, чым і прычыняецца непасрэдна да забойства апошняга. У напаўненьні гэтае фабулі ад самага-ж пачатку мы маем ужо больш праяўлены рэфлексыйны настрой генэрала: „Часам у яго на'т зьяўлялася думка, што гэткі настрой бывае перад сьмерцю і што сёньня нешта павінна зрабіцца.—Хіба ня ехаць?—змаладушыў на момант.—А дзеля чаго маю бярэжч сваё жыцьцё?—горкі, абідны быў адказ". На позыцыях-жа генэрал праяўляе і некаторыя ўласьцівасьці свае інтэлігентнае натуры; так, „яму было люба, што ў вачах маладога ўнтэр-афіцэра саўсім няма рабскага, затуканага погляду" [1]), ён патаварыску, як з роўнымі, гутарыць з салдатамі, чым ні мала іх зьдзіўляе: „Потым ізноў дзякаваў і пакінуў усіх зьдзіўленымі". Асабліва-ж праяўляецца тут генэралава дачыненьне да вайны, як да „п'янаватай творчасьці", якое і прыводзіць да трагічнай разьвязкі. „Тагды генэрал падумаў, што хоць салдаты маюць добры від (праўда, ня ўсе), але пры няцікавым стаяньню, навет бяз добрай перапалкі, у салдатаў траціцца храбрасьць, і яны прывыкаюць бярэжч

[1]) Гл. „Вольная Беларусь", ст. 132.

сябе“. А ўжо пасьля гэтай разьвязкі ізноў разыгрываецца яшчэ дужэй, чым у пачатку, генэралава рэфлексыйнасьць: „На што было ехаць, на што?—часам голасна шаптаў ён і пачуваў, што ў душы хвалюецца то настрой добрага пакою, то нецярплівая нуда, мукі сумленьня; і выясьняючы тое і тое, успамінаў, што баёў даўно ня было тут і не чакалася, і людзі ў добрым настрою,—і гэта добра. І раптам з нудою бачыў мёртвы жоўты твар з адзначанай брудзьлзю заміж барады і тускла-жоўтым, незаплюснутым вокам,—і гэта балюча“ [1]).

І зноў гэтая рэфлексыйнасьць закончваецца фаталістычна-агностычнымі развагамі, у якія падаецца канчатковая ацэнка вайны: „Падходзюць з меркамі, ацэнкамі, як-бы што цямяць ува ўсім тым, што дзеіцца навокала“ і крышку далей: „Я ведаю, вы лічыце, што я хачу адкупіцца, што я каюся, ня маючы добрага падмуроўку ў мірадразуменьню, каюся, што паехаў... А вы? Вы што разумееце? Сьляпыя-ж і вы. І дзеля вас, дзеля вашых ацэнак, адкупаюся, і... нічога вы ня выпытаеце ў душы маёй, і ўсё суета... Усё!“ [2]).

Гэтую ацэнку падтрымліваюць і фаталістычныя выказваньні іншых асоб, якія здараюцца ў дадзеным творы („Можа так суджана, але на што ты прыехаў“, „Усё ад бога“, „Ня ўцяміш“, „На ўсё, братка, судзьбіна—гаварыў ездавы спакойна“, ст. 133), утвараючы з яе тое-ж падкрэсьленьне псыхолёгічнага ўплыву вайны, якое мы мелі і ў папярэднім творы. З другога-ж боку, мы можам бачыць тут і пэўнае дапаўненьне да запісак „На імпэрыялістычнай вайне“, дзе фігуры чыста-вайсковых асоб зусім бадай не разгорнуты. Гэткае дапаўненьне ўтвараецца яшчэ й таму, што, як мы заўважалі вышэй, сам аўтар у апавяданьні адсутны, і яго запаўняе адзін генэрал. Праўда, у вышэйпрыведзеных словах пра прычыны генэралавага настрою, мы можам бачыць, як-бы і ўскоснае аўтарава выказваньне, пэўнае апраўданьне яго за свой пэсымізм другога пэрыяду творчасьці (асабліва зважаючы на перадачу слоў гэроя як-бы ад трэйцяе асобы), але простых выказваньняў яго мы зусім ня маем.

Такім чынам, у гэтым апавяданьні, як і ў папярэднім, мы маем тое-ж падкрэсьленьне вайны пры дапамозе фаталістычнае ацэнкі яе ўжо вайсковым чалавекам, генэралам. У самым-жа гэтым генэрале, з ягонай інтэлігентнасьцю, узвышаным поглядам на вайну і фаталізмам, мы ізноў-ткі можам бачыць пэўны прыём адцягненьня ад галоўнага гэроя творчасьці, але ўжо адваротным папярэдняму шляхам, шляхам якаснага падвышэньня яго. Апошняе дужа ўдзячна як для праяўленьня асноўнай тэндэнцыі твору, бо дае больш соцыяльнага грунту для самога адцягненьня, гэтак і для некаторага падагульненьня, падкрэсьленьня асноўнай тэмы—вайны, падаючы пэўную яе ацэнку.

Побач з творамі, якія выяўляюць тэндэнцыю адцягненьня ад вайны і гэроя толькі напалавіну, толькі ў дачыненьні да апошняга, мы маем у

[1]) Гл. „Вольная Беларусь“, ст. 133.
[2]) Там-жа, ст. 134.

разгляданым пэрыядзе пісьменьнікавае творчасьці яшчэ й творы, якія выяўляюць гэтую тэндэнцыю поўнасьцю, г. зн., як адцягненьне і ад вайны, і ад гэроя. Гэтае адцягненьне робіцца пры дапамозе жанчыны, якая пачынае фігураваць у тых ці іншых, кахальных, так сказаць, сытуацыях у ролі галоўнага гэроя ў творах гэтае групы. Сюды належаць два апавяданьні: „Дзёгаць“ і „Чарнічка“, якія пісаны аўтарам яшчэ роўналежна з запіскамі „На імпэрыялістычнай вайне“ („Дзёгаць“ датованы 12-V—1915 г., „Чарнічка“—1915 г.), так што гэты спосаб адцягненьня хронолёгічна зьяўляецца яшчэ даўнейшым за першы.

Праўда, у першым апавяданьні гэтае групы—„Дзёгаць“ [1]) мы яшчэ ня маем зусім поўнага адцягненьня ад гэроя, а хутчэй, адцягненьне, так сказаць, сурогатнае, паколькі ў ролі гэроіні выступае ўсё-ж сялянская выхадка, хоць і выхадка адмоўная, і само нават апавяданьне трактуе тэму выхадзтва. Перад намі праходзіць дачка шляхціца Юлічка Пухальская, бацькі якое мала чым розьняцца ад сялян: „Шляхціц Пухальскі жыў у месьце і пісаўся мешчанінам, але, маючы за местам кавалак зямлі, ён, як звычайны земляроб, капаўся ў зямлі, жыў з зямлі і, хоць хадзіў у ботах, блізка-што нічым ня розьніўся ад акалічнай лапцёвай шляхты“. У другім месцы аўтар яшчэ выразьней падкрэсьлівае гэтую сялянскасьць Пухальскіх, іронізуючы: „Паня паднімала калёсы, а пан зьнімаў каток і шпарка вазёкаў па восі дзёгцявым квачам, каб не сьцякло многа дзёгцю без карысьці на зямлю“. Адылі, апрача свайго шляхоцтва, Пухальскія яшчэ маюць сякія-такія сувязі з вышэйшым станам, якія побач з некаторымі іншымі абставінамі прычыняюцца да палажэньня іхнай дачкі, як сялянскай выхадкі: „Па жонцы ён меў заможную радню. І Юльку сваю пачаў вучыць, што дужа таго хацелі, і троху памагала фэльчарыха, родная сястра яго жонкі, і што ня даў бог хлапцоў“.

Юлю Пухальскую мы адразу-ж знайходзім у вабстаноўцы каханьня, прычым самая знадворнасьць гэтай абстаноўкі малюецца аўтарам зусім падобна да ранейшага маляваньня яе ў апавяданьні „Красаваў язьмін“ са зборніку „Рунь“, у чым можна бачыць і тут пэўную тэндэнцыю працягальнасьці з „Руньню“: „Кусты язьміну, бэзу і акацыі пояць паветра мляўкім, п'янаватым водарам“. Адылі, у гэты язьмінавы водар, водар каханьня, у якім Юля трымае сябе як тыповая „паненка“, пачынае дамешвацца моцны водар дзёгцю, які нагадвае сабою вёску, водар ад калёс Юлінага бацькі, які прыехаў забраць яе з гэтай атмосфэры „паненства“ ў роднае ёй сялянскае асяродзьдзе: „Калёсы былі ізноў толькі-што падмазаны, і з каткоў капаў на зямлю бруштыновымі каплямі дзёгаць. Ён мяшаўся з пылам і даваў прыемны водар,— ад каторага ў такое прыгожае вясеньнае раньне, у халадку пад ліпкамі дый каля кветак у садочку, было спакойна, весяло, па вясковаму ціхамірна, хораша“. На гэтым грунце ў Юлі і паўстае пэўны конфлікт з родным асяродзьдзем, у якім яна і выяўляецца, як адмоўная выхадка: „У галаве сядзеў той бульвар. Яна яшчэ хадзіла па гулянью

[1]) Гл. „Нашу Ніву“ за 1915 г., № 19—20.

чула яшчэ любоўныя слоўцы Пеці Міровіча. І неслася сэрцам да такога жыцьця, дзе яна была гімназістка як гімназістка, ня мела ніякага, апрыч пераэкзаміноўкі, клопату, гуляла, ды ня чула, як сварыцца матка з бацькам і пачала забывацца на маткіны папяканьні за панства, што позна сьпіць, ня хоча сьвіньням замяшаць. А яна і рада-б чым матцы прыслужыцца, памагчы, дык калі-ж у іх у доме павялася такая нечыстата, матка й бацька радзіліся ў такой нечыстаце, прывыклі к ёй, не замячаюць яе і вінавацяць Юлю, што яна сядзіць на іхным гарбу, нічога ня робіць, цягнецца за падругамі-багатыркамі і ня любіць бацькоў, стыдзіцца іх, што яны—простыя людзі. А Юлі душна, яна затохніцца ў такім жыцьці... „Адылі, калі пры Юліным адэзьдзе неспадзявана прыходзяць яе кавалеры і дзівяцца з простых калёс, якія яны бачаць заміж „коняй па пані Пухальскую“ і простага селяніна-бацьку, якога яны прымаюць за падводчыка, калі як-бы стыкаюцца моўчкі між собку абдовы сьветы—гарадзкі і сялянскі, Юля чыста інстынктыўна паступае, як сялянка: „Хлапцы ўзяліся падсаджваць Юлічку, але тая неяк, ня гледзячы па бакох, скокнула на калёсы пахлапецку, ня стаўшы на каток, падкомкала пярыну, абгарнулася хвусткаю, утупілася і бяз радасьці казала: „Нічога, нічога... Дзякую. Бывайце. Ай, нічога“.

Апрача фігуры Юлі, якая папаўняе сабою невялічкую групку гэроінь-выхадак (Муся, Ядзя К. у „Руні“), у апавяданьні цікава яшчэ фігура Юлінага кавалера, няўдалага, няёмкага, з вечнай прыгаворкай: „этага“, якая крыху нагадвае сабою некаторыя ранейшыя фігуры сялянскіх выхадцаў, асабліва, выхадцаў у каханьні (хоць-бы Юрку з таго-ж апавяданьня „Красаваў язьмін“). Цікавы і погляды Юльчынае маці на яе, як выхадку: „Было ня слухаць кумы, не аддаваць дзеўку ў навуку. Затое, што не дзявоцкая заняція. Вот і мне помач-бы была, ато гэткія расходы, гэткі кавалак зямлі па арэндзе ходзіць, гэтак мы ўсё адны старыя мардуемся. Ато мне йшчэ трэба яе абмыць, абшыць, пакуль з тэй навукі карысьць выйдзець“. Сам-жа аўтар нічым ня выказвае свайго голасу, апрача, хіба, апошніх апісальных слоў апавяданьня, у якім чуюцца некаторыя мэлянхолічныя ноткі—„Места блішчэла адзадзя, а ўперадзе і з бакоў цягнулася шырока-далёкае мэлянхолічнае поле“...

Затое ўжо ў другім апавяданьні гэтае групы—„Чарнічка“ [1]) тэндэнцыя адцягненьня праяўляецца ў найбольш чыстым і найбольш поўным выглядзе. Апавяданьне малюе зусім нэўтральны прадмет—манашак, якія „з беднага манастыра паехалі зьбіраць восенную радзіцельскую каляду“. Асабліва цікавіць аўтара маладзенькая манашка, у якой ён выводзіць і падкрэсьлівае супярэчнасьць паміж яе манаскай вопраткай і чыста дзявочай існасьцю: „Маладзейшая сьмялей. Расчырванелася за ядою. З-пад зьмятай, зьлінялай намітачкі выбілася чорная жменька сукрысьценькіх валасоў. Вусты пухлы і чырвоны. Зьняцейку яна саромліва ўскінець часам чорныя бліскучыя вочы на маладога мальца, і ў іх пачы-

[1]) Гл. „Вольную Беларусь“ за 1917 г, № 33.

наюць хавацца дзявоцкія агеньчыкі". У сваім поглядзе на гэтую яе дзявочую існасьць аўтар сам раздвойваецца, выказвае таксама некаторую супярэчнасьць. Так, з аднаго боку ён называе гэтую існасьць мяшчанскаю: „Ох, дзеўка! Не манашкаю стварыў цябе бог; сядзець ба табе ў мяшчанскай хатцы, у гарадзкой слабадзе і раджаць здаровых і важкіх дзяцей з пухлымі вустачкамі і сукрысьценькімі валосікамі"... і ў канцы апавяданьня: „Часам апошняя бліскавічка радаснай усьмешкі прабяжыць па пухлых мяшчанскіх вустах і ўзноў, яшчэ глыбей, захаваецца пад наўмыснай стродкасьцю і сьвятой бесклапотнасьцю". З другога-ж боку ён намякае на агульна-людзкасьць гэтае існасьці: „І ў маладой, пад стродкасьцю і сьвятой бесклапотнасьцю ўсё мітусілася нешта і кіравалася выскачыць, ды не паказацца, такое, ці чым то падобнае, як у тэй Джыоконды". Усе гэтыя зьявы могуць да некаторай ступені характарызаваць аўтара, асабліва, ягонае імкненьне да замалёўваньня раздвоеных вобразаў. Такім чынам, і гэты жаночы вобраз можна аднесьці блізка да тае купкі, куды мы аднесьлі папярэдні вобраз, да тае купкі, якая можа даць аўтару невялічкі папярэдні матарыял для стварэньня адсутнага ў яго творчасьці дагэтуль жаночага тыпу. Фактычна, у аспэкце гэтага тыпу апошні вобраз можна нават прызнаць самым пачатковым, падвалінным, як вобраз чыстажаночы. Апрача таго, у стварэньні гэтага вобразу можна бачыць і пэўную тэндэнцыю „выхадца ў каханьні", паасобныя рысы якога мы сустракалі і ў запісках „На імпэрыялістычнай войне". Адно слова, да гэтага вобразу можна як нельга лепш дапасаваць сэнс таго, што аўтар выказаў у словах: „Ніжэй схілілася старэйшая манашка, а маладая ўсьміхнулася нясьмела і прыгожа, як нясьмел і прыгож пачатак чыстага каханьня".

Апрача гэтага, цікавы ў апавяданьні і некаторы соцыяльны момант, які падтрымлівае мяшчанскую існасьць „чарнічкі" (словы яе: „Насьміхаецца... Аднак, які прыгожы і ладны; дарма, што мужык"), выкрывальныя словы хлопца пра жыцьцё „чарнічкі" („І-і, як-жа яны там песьні пелі"...), вобраз сухое старэйшае манашкі. Пэўную цікавасьць прадстаўляюць словы аўтара, якімі некаторым чынам характарызуецца ягоны настрой, як сумны: „І трэба было згадзіцца, што восень на дварэ, а нейкае нявыразнае нездавальненьне варушылася на сэрцы і чагосьці сярод восеннага смутку жадалася". Наагул, дарэчы кажучы, восень знайшла сабе надзвычайна ўдалае і мастацкае апісаньне ў гэтым творы.

Сьледам за гэтай групаю трэба адзначыць і трэцюю, апошнюю групу апавяданьняў пераходнага пэрыяду, у якіх праяўляецца тая-ж тэндэнцыя адцягненьня, толькі з іншай накіраванасьцю. Так, калі ў першай групе гэтая тэндэнцыя праяўлялася толькі напалавіну, поўнасьцю толькі ў дачыненьні да героя, дык у гэтай групе гэтая тэндэнцыя праяўляецца таксама напалавіну, але ўжо поўнасьцю ў дачыненьні да вайны. Гэрой-жа тут прысутны, хоць і адцягваецца таксама ад свае існасьці, ад свайго выхадзтва.

Першым творам гэтае групы зьяўляецца апавяданьне „Амэрыканец"[1]), у якім гэрой адцягваецца ад свайго выхадзтва, так сказаць, у часе і ў прасторы, зьяўляючыся выхадцам у Амэрыцы, прычым гэтае адцягненьне ён спрабуе зрабіць сам. Так, ён спрабуе давесьці самому сабе, што „раз я амэрыканскі грамадзянін, я не павінен і ня маю права пазіраць на Амэрыку, як на нейкі этап на шляху вышуканьня лепшай долі ранейшай бацькаўшчыне", спрабуе ацаніць сваё палажэньне, як амэрыканца тэрыторыяльна і беларуса нацыянальна, бачучы ў прывядзеньні гэтых рэчаў да аднаго амэрыканскага назоўніка заставу набыцьця нейкага вышэйшага чалавечага стану: „І я, можа, маю думку аб лепшай долі свае першае бацькаўшчыны, і можа... і можа іншы раз думаю і назад туды, на бацькаўшчыну, выехаць, але прынцыпіяльна—што гэта, што гэта? Хіба ня прызвычка толькі будзёнай несьвядомасьці думаць, што я от з тым лапікам на зямным клубку зьвязан навекі, што павінен клапаціцца аб ім? Праз што? Праз прызвычку і ўспаміны, якія ня выйдуць, ужо з галавы. І праз тое, што мы, што я—чалавек звычайны, слабы і не магу змогчы гэных успамінаў, адарвацца саўсім, забыцца саўсім, калі мусіў пакінуць тэй лапік, мусіў эмігрыраваць. А каб я быў вышэйшы чалавек, я здолеў-бы паслухаць розуму і забыцца і ня мучыцца праз дурное, чулае сэрца..." Адылі, як бачым з гэтых слоў, „амэрыканец" яшчэ ўсьведамляе сваю слабасьць і магчымасьць перамогі бачыць толькі ў тэорыі. Таксама гэта прымушае яго, з аднаго боку, ставіць пытаньне аб выхаваньні ў сабе гэтае моцы, зварочваючы перш за ўсё ўвагу на магчымасьць выхаваньня яе ў дзяцей, змалку адцягненых ад бацькаўшчыны: „І вот дзеці, дзеці, што вырастаюць і гадуюцца тутака. Каб ім не казаў пра тую бацькаўшчыну, ці яны-б ведалі, што апрача Амэрыкі ёсьць і яшчэ *яна*, і яшчэ аб ёй трэба клапаціцца?" (курсыў аўтараў. *А. А.)*. З другога-ж боку, няпосьпех у гэтым выхаваньні выклікае ў яго пачуцьцё незадаваленьня, якое даходзіць нават да пэсымістычнае абыякавасьці: „К чаму, на што?—думаў ён ні то аб гэтым багацьці наўкола, ні то аб тым, што спрачаўся:— як ні спрачайся,—жывец кожны, як жывецца".

Таксама з вышэй прыведзеных словаў відаць, што прычыну свае слабасьці „амэрыканец" бачыць у пэўнай раздвоенасьці, супярэчнасьці між „розумам" і „сэрцам". Апошняя тэма ў далейшым пачынае разьвівацца больш шырока ў гутарцы „амэрыканца" з жончыным дзядзькам-немцам, пераходзячы ў тую нацыянальную тэму „дзьвюх душ", якую мы бачылі і ў запісках „На імпэрыялістычнай вайне". Тут дзядзька-немец выказвае думку, што „ў чалавеку павінны быць дзьве роўных часткі— цьвёрдая і мяккая. У немца гэта якраз палавінкі. У другіх народаў— як калі. А ў славяніна мяккая часьць залішне вялікая на кошт цьвёрдай, дужа залішне", чаму „амэрыканец" супярэчыць, падтрымліваючы даўную аўтараву думку, выказаную яшчэ ў „Антоне": „У чалавека дзьве

[1]) Гл. „Вольную Беларусь" за 1917 г., № 29. Датована апавяданьне 7/XI—1916 году.

часьці: душа і цела. У славяніна дух за цела, і толькі". І ўжо ў гэтай новай знайдзенай ім форме выяўленьня раздвоенасьці „амэрыканец" пачынае бачыць задатак да выканьньня свайго тэорэтычнага адцягненьня ад бацькаўшчыны: „А славянін бліжэй да вялікага чалавека, каторы мусіць знайсьці сілы парваць старую зьвязь, базыруючую на інстынктах, на прызвычцы, і шкодную наогул нават бацькаўшчыне, вот!"

Гэтая гутарка падштурхоўвае „амэрыканца" да пераходу ад тэорэтычнага станаўленьня да практычнага выкананьня сваіх думак, а апошняя вынайдзеная ім думка падае яму нават надзею на адшуканьне ў сабе, як у славяніна, патрэбных для гэтага сіл і магчымасьцяй: „Я патраплю скінуць усякія ланцугі з волі, хаця-б гэтыя ланцугі былі—балесныя згукі бацькаўшчыны. Чалавек шмат навыдумляў ланцугоў і пут! Павіннасьць да бацькаўшчыны, ха... Я перш за ўсё волен хачу быць сам у сабе ад усякіх людзкіх пут. Я патраплю парваць іх „Перш за ўсё ён імкнецца рэалізаваць гэтую думку ў дачыненьні да сваіх дзяцей, у вадпаведнасьці з выказванымі раней тэорэтычнымі меркаваньнямі: „Заўтра-ж забараніць Язэпу і Монці гаварыць з Лёвай і Галяй пабеларуску. Адна перашкода—добра вучыцца паангельску. Я—амэрыканец і яны—амэрыканскія дзеці"...

Адылі, пад уплывам надзвычайна моцнага і яскравага сну, у якім ён бачыць сваё сучаснае жыцьцё,ператвораным у родныя вобразы жыцьця на бацькаўшчыне, і пад уплывам свае жонкі, якая прадстаўляе сабою ў творы процілежную лінію, лінію звароту на бацькаўшчыну, „амэрыканец" здае гэтыя свае пазыцыі. Праўда, гэтая здача не праводзіцца выразна ў апавяданьні дзякуючы пэўнаму композыцыйнаму прыёму заканчэньня яго, але яна адчуваецца ў заключных словах апавяданьня: „Ён пачуваў, што ня меў і ня маець нейкага цьвёрдага падмуроўку, і прыціхаў у жальбе пад словы ласкі і любосьці". Такім чынам, „амэрыканец" міжвольна спраўджвае словы дзядзькі-немца, што „славянін жыве пачуцьцём і толькі маркоціцца аб дзедаўшчыне, замест практычнага нямецкага клопату. І гутарка яго аб вялікім чалавеку знача... знача толькі тое, што туга па бацькаўшчыне пачынае выліваць з берагоў і зараз пагоніць яго з Амэрыкі"...

З другога боку, вывад, які падаецца ў гэтым апавяданьні, можна адпаведным парадкам прыкласьці і да пісьменьнікавай творчасьці разгляданага кругабегу; гэта—адмаўленьне адцягненьня ад гэроя, назначэньне новага ўзвароту да яго. Апрача таго, вялікае значэньне мае і больш акрэсьлены зварот да нацыянальных пытаньняў, які назначаецца ў дадзеным апавяданьні.

Другое апавяданьне трэйцяй групы—„Зіма" [1]) мае ўжо крышку іншы характар у накіраванасьці тэндэнцыі адцягненьня, а менавіта, зусім процілежна папярэдняму адцягненьню ў прасторы, разгортвае дзеяньне ў родным асяродзьдзі галоўнага гэроя творчасьці. Праўда,

[1]) Гл. „Вольную Беларусь" за 1918 год, №№ 22-23 і 24 (ст. 164—166 і 171—172). Апавяданьне не датована, але, паводле аўтаравага сьведчаньня, пачата яшчэ ў 1915 г., а скончана ў 1917 г.

ужо ў самым прыёме маляваньня гэтага асяродзьдзя, праведзенным пераважна з боку чыстага бытавізму, можна бачыць некаторае адцягненьне ад гэроя, прынамсі, ад зьвязанага з ім псыхолёгізму. Гэты прыём можна адзначыць яшчэ і таму, што якраз з боку бытавізму— надзвычайна яскравыя малюнкі сялянскай хаты (I разьдзел), картэўніцтва (II р.) і асабліва вясельля (V р.)—дадзены твор трэба прызнаць самым удалым ува ўсёй аўтаравай творчасьці.

Што да тэндэнцыі адцягненьня ад галоўнага гэроя, дык яна тут ажыцьцяўляецца пры дапамозе карыкатуры на яго, пададзенай у замаляваньні вучыцеля Лявона Ляксеевіча, якога мы знайходзім, як іронічна кажа аўтар, „за стварэньнем нацыянальнай літаратуры“ [1])—няўдалых вершаў пад псэўдонімам „Леў Парнасьнік“ і ня менш няўдалага роману, у якім у вобразах „Старацакуноў“ і „Мономісачнікаў“, якія, „набраўшыся басурманскага ці жыдоўскага духу ў няверных землях... заводзілі, каб кожны цакун еў з асобнай місачкі ці талеркі“, тымчасам як „здавён-даўна, спрадвеку, ад дзядоў-прадзедаў вялося ў хвальнай Цакуніі, што ўся сям'я цакуноў сёрбала з аднэй міскі гліянай, ці латкі дзеравянай, за адным высокім, хісткім сталом, дзеравянымі лыжкамі“ можна бачыць карыкатуру на выхадцаў і іхных бацькоў-сялян з іх заўсёднаю колізіяй. Асабліва-ж праяўляецца гэтая карыкатурнасьць, калі аўтар паказвае свайго гэроя за навязваньнем сувязяй з родным грунтам: „Так, добра паказаўшы старым выпіўкай сваю блізкасьць да народу, настаўнік загадаў сабе паказаць тую-ж блізкасьць і маладым. Ĭ так разышоўся, што вылез з-за стала, і трошку хіснуўшыся, думаючы, што нікаму тое няпрыкметна, выйшаў на круг, тантурыста ўзяўся ў бокі, кіўнуў да сябе сваёй былой вучаніцы, якая залетась скончыла школу, і пусьціўся з ёй у скокі“ [2]).

Другі вобраз выхадца ў разгляданым апавяданьні—Пархвен—падаецца спачатку таксама з пэўнай тэндэнцыяй адцягненьня, як адмоўны выхадзец: „ён лічыў, што дарма вучыўся, калі аставацца мужыком“ [3]). Адылі, пад канец апавяданьня гэтую тэндэнцыю перамагае назначаная ў папярэднім апавяданьні тэндэнцыя звароту да гэроя, і Пархвен падаецца ўжо як суздром дадатны выхадзец, ня гледзячы на некаторы налёт тае-ж карыкатурнасьці, якую мы бачылі ў дачыненьні да замаляваньня папярэдняга гэроя: „А Пархвен, расчырванеўшыся, хадзіў паміж народу і хваліў вучыцеля: „А што, ці не мая праўда, што ўсе людзі роўны? Я ня раз казаў, што і я, хоць і скончыў двухклясное, аднак-жа не запанеў і са звычаяў наскіх не сьмяюся, а люблю іх. Я, як і ўсе людзі, са ўсімі і гарэлку п'ю, і ў карты гуляю, і на вясельлі хаджу. Вот я і вучыцеля прывёў. Каб ні я, можа-б ён і не пайшоў, а я і з панамі пан, і з мужыкамі—мужык“ [4]). Хоць-жа, з другога боку, у дачыненьні да асноўнага тыпу галоўнага гэроя, гэты

[1]) Гл. „Вольную Беларусь“, ст. 166.
[2]) Там-жа, ст. 171.
[3]) Там-жа, ст. 165.
[4]) Там-жа, ст. 172.

вобраз у вапошнім асьвятленьні неадарванасьці ад роднага асяродзьдзя можна ўважаць таксама за некаторае адцягненьне.

Цікавы ў апавяданьні і неразгорнуты вобраз потэнцыяльнага гэроя—Івана—нясьмелага, затуканага і засмучонага, але пададзенага, ізноў-жа, у некалькі карыкатурным дусе (гандаль гарэлкаю, разьдзел III). Асабліва-ж цікавы самы тон апавяданьня—спакойны, чыста-эпічны, праведзены ў поўнай адпаведнасьці з асноўнай тэмай,—як-бы зімовасьвежы, марозна-ядраны. І гэта ў некаторай ступені характарызуе ўстанаўленьне пэўнага новага настрою ў аўтара, зьвязанага з назначаным зваротам да галоўнага гэроя.

## XIV

Нарэшце, апошнім творам другога, пераходнага пэрыяду творчасьці Максіма Гарэцкага, у якім праяўляецца тая-ж тэндэнцыя адцягненьня ад выхадца, зьяўляюцца „Ціхія Песьні"—аповесьць, якую сам аўтар называе проста „апавяданьнем" [1]). Адцягненьне тут адбываецца, папершае, пры дапамозе вывядзеньня ў ролі галоўнага гэроя селяніна, пры чым, селяніна ў яго маленсьцве і юнацтве; па-другое—пры дапамозе таго-ж бытавізму, як пэўнага прыёму адцягненьня, які мы бачылі і ў папярэднім апавяданьні на фоне якога і выводзіцца дадзены гэрой. Апрача таго, у апавяданьні, апошні раз ставіцца тэма вайны, для якой кагадзе згаданая зьява адцягненьня выяўляе з сябе ўзьдзячны грунт для асаблівага падкрэсьленьня і зайстрэньня яе, як апошні раз стаўленае.

Перш за ўсё, разгледзім той фон, на якім выводзіцца гэрой. Гэты фон у васноўным адразу-ж характарызуецца аўтарам у тых словах аповесьці, якія ён бярэ за эпіграф да яе: „... Дзікай травою красуюць палеткі. Гніюць і правальваюцца стрэхі..." [2]). З гэтых слоў адразу-ж відаць і той настрой аўтара, у якім ён замалёўвае фон, настрой даволі пануры і пэсымістычны, які пераходзіць адразу-ж і ў апавяданьне, куды пераходзіць таксама і разгортаньне гэтага фону, якое праводзіцца аўтарам у некалькіх кірунках. Першым такім кірункам зьяўляецца кірунак прыродна-абстановачны, у якім аўтар апісвае прыроду (Няпро, ягоны прыток Плёску, заглухлы стары шлях, прыдарожныя бярозы) і абстаноўку (Старое Гарадзішча, каплічку з кірмашовымі днямі) свайго фону, прычым вынікі гэтага апісаньня знаходзяцца ў поўнай адпаведнасьці з настроем аўтара, выражаным у эпіграфе. Так, „Мялее і нядужае Стары Няпро. І потым-таго выбілася з духу Плёска", „Заглушэў зусім вялікі стары шлях", прыдарожныя бярозы „ціхім, роўным векавечным гоманам вецьця свайго яшчэ болей дадаюць тут глухаты, пустэльнасьці і маркоты"; у падобных-жа танох малюецца і абстаноўка.

[1]) Напісана паводле аўтаравага сьведчаньня ў 1918 г. і называлася спачатку: „За што?" Першы раз друкавалася ў перакладзе парасійску ў „Известиях Смоленского Совдепа" за 1918 г. (у маі). Пабеларуску выдадзена ў 1926 г. БДВ.

[2]) Гл. „Ціхія песьні", ст. 3.

Сьледам за гэтым аўтар разгортвае фон у кірунку гістарычным: „Старыя граматы і акты гаспадарства, у кругабегі вялікіх разбурэньняў пазаглабаныя ў бібліотэкі чужых краёў, ня мала сьведчаць аб сівой мінуўшчыне Лугвенева.. А ў Лугвеневе анічога не захавалася“ [1]). І тут маем той-жа настрой аўтара: „Ато ўздымаюць шэры, важкі пыл з пахам поту і дзёгцю, уздымаюць там, дзе некалі, як пішуць вучоныя гісторыкі, шумела вольная рада магутных і ганарлівых продкаў нашых белай косьці, там, дзе гудзеў звон рады і бразгала гострае шабельле. Можа і так!“ [2]).

Крыху шырэй разгортваецца фон у трэйцім, социяльным кірунку. Тут мы маем і адвечныя сялянскія спрэчкі з абшарнікам-князем, і заработкі на бровары, зьвязаныя з тым-жа п'янствам, якое, як прыгадаем, адыгрывала значную ролю ў социяльным фоне „Антона“, і социяльную няроўнасьць сярод саміх сялян (антагонізм паміж багацейшымі амсьціслаўцамі і беднякамі-асмолаўцамі), і балючыя пытаньні выхадзтва („Хлопцы едуць у шахты і на фабрыкі, і наогул „у сьвет“, але шлюць яны адтуль часьцей лісты з уклонамі старому і малому, чымся пяць, тры, а то хоць-бы адзін рубель“ [3]).

У цеснай сувязі з гэтым кірункам знаходзіцца і чацьверты кірунак разгортаньня фону, кірунак псыхолёгічны: „А тыя асмолаўцы возяць, а возяць князёў сьпірт, болей а болей нялюдзеюць і хаваюцца самі ў сабе. Ат, ліха з ім, са сьветам, тлумным і незразумелым“. Таксама нечакана ўвязваецца з ім і пяты кірунак—кірунак таго-ж „патаёмнага“, які зьмяшчаецца ў невялічкім расказе пра выпадак з местачковым „прарокам“, пра які ўспамінаў яшчэ „Доктар“ у „Антоне“, у чым тут можна бачыць працягальнасьць з гэтым апошнім. Самая ўвязка зьмяшчаецца ў социяльным надзіўленьні містычных праяў: „Усё пільней кукобяць думку асмолаўцы аб нейкім дзіве—ці-то аб зямлі, ці-то аб волі. Вось нехта аб'явіцца і прынясе дзіва з сабою“ [4]). Адылі, і тут сказваецца аўтараў настрой: „Нехта бавіцца вякамі і ня прыходзіць“ [5]).

Нарэшце, шостым і апошнім кірункам разгортаньня фону зьяўляецца найбольш разгорнуты кірунак апісаньня фону сялянскага маленства, на якім непасярэдня выводзіцца і гэрой. Гэтаму апісаньню адводзіцца нават адмысловы разьдзел (II). Гэтае маленства падаецца, перш за ўсё, як пара творчасьці, найбольш бурнага выяўленьня яе якое пасьля жыцьцё ўводзіць у пэўныя асадкі ці зусім заглушае, прычым у гэтай падачы дужа характэрна ўвязка з тым-жа социяльным кірункам: „Жыцьцё, жыцьцё! Мы ўсе прыходзім на сьвет, хто песьняром, хто разьбяром, а хто і тым і сім патроху. Мы ўсе ў гады прачнаваньня нашага розуму—рэформатары нягоднага старога, будаўнікі лепшай социяльнасьці, славутыя настаўнікі ці добрыя разбойнікі,

---

[1]) Гл. „Ціхія песьні“, ст. 5.
[2]) Там-жа, ст. 6.
[3]) Там-жа, ст. 9.
[4]) Там-жа, ст. 10.
[5]) Там-жа, ст. 11.

але часта, часта жыцьцё нічагусенькі не пакідае нам і робіць жаласнымі старцамі без пары" [1]). І тут—яскравае выяўленьне настрою аўтара.

Падругое, маленства падаецца і зусім у процілежным асьвятленьні, як пара зараджэньня тэй фаталістычна-пэсымістычнай абыякавасьці, якая часам забівае і першыя праявы творчасьці, і якую мы часта сустракалі ў ранейшых пісьменьнікавых гэрояў: „Чыё замуравелае сэрца не кранецца гэтым безнадзейным восенным дажджом, гэтай адвечнай музыкай бязвыходнасьці, падобнай да сумнай чарады думак у чалавека, што папаліў усё-чыста ў душы сваёй і кажа ў роспачы: „Што ні здарыцца—няхай на маю галаву..." [2]) Ставячы далей гэтае пытаньне ўжо ў шырокім абхваце, як пытаньне пра пэўную нацыянальную рысу, наяўнасьць якое аўтар адчувае нават у беларускай прыродзе і быце, і якую ён характарызуе ў наступных словах: „Пакора бязвыходная і пачуваньне тых кардонаў, за якія ня выскакнуць ніколі а ніколі..." [3]), ён спрабуе ўстанавіць і пэўныя гістарычныя—нацыянальныя і соцыяльныя прычыны яе: „Ці не маскоўскія князі і баяры, падпіраючы з усходу; турэцкія султаны і пашы, скубучы з поўдня; ляхі-магнаты, хітрыкамі пнучыся з захаду; немцы-дваране, крыжам ды мечам, адылі асьветаю налягаючы з поўначы, з мора; а прыгон, і гандляры, і гарэлка, гнятучы ў пасяродку,—ці не яны выціснулі з народу майго тое гістарычнае румзаньне: што ні зробіцца, а няхай на нашыя галавы?"

І вось, урэшце, конкрэтызуючы ўвесь гэты фон у абстаноўку сялянскай хаты, аўтар паказвае нам і свайго гэроя: „Гэта—гэрой нашае гісторыі Хомка. Гэта—яго дзяцінная пара" [4]). Першая рыса, якою надзяляе аўтар свайго гэроя, гэта—алькогольная спадчыннасьць: „У родзе гэроя нашае гісторыі было колькі, ад бацькі-дзеда і далёка-далёка ўгару, слаўных выпівак; былі аж, на свой лад, знамянітасьці ў той справе, слаўныя на далёкую мужыцкую ваколіцу" [5]). Адылі, гэтая рыса зьяўляецца рысаю пераможнай гэроем: „Дык, мусіць, вырадкам на просты погляд, удаўся гэрой нашае гісторыі, бо на погляд людзей наўчоных такія прыпадкі бываюць. Ён душыцца, праўда, яшчэ малы ад гарэлачнага паху" [6]). Гэтая акалічнасьць дужа нагадвае нам другога гэроя яшчэ першага пэрыяду пісьменьнікавае творчасьці—Антона.

Другою рысаю гэроя, цесна зьвязанаю з папярэдняй, зьяўляецца некаторая паталёгічная спадчыннасьць, пра якую аўтар даволі падрабязна гаворыць на пачатку IV разьдзелу („Асаблівы чалавек яго бацька..." „Наогул, у іхным родзе ўсе нейкія дзівакі", ст. 39—40), якая таксама зьяўляецца да некаторай ступені пераможанаю, хоць і праяўляецца асабліва яскрава ў адным вядомым выпадку з „Біркаю" (разьдзел IV, ст. 53).

1) Гл. „Ціхія песьні", ст. 15.
2) Там-жа, ст. 18.
3) Там-жа, ст. 19.
4) Там жа, ст. 18.
5) Там-жа, ст. 20.
6) Там-жа, ст. 21.

Трэйцяю гэроеваю рысаю зьяўляецца некаторая ягоная потэнцыяльнасьць, што выяўляецца перш за ўсё ў некаторым нахіле да рэфлексыйнасьці, які асабліва выражаецца ў шматлічных апісаных аўтарам ягоных сьненьнях і снох: „Сьненьні, поўныя бясконцага змаганьня, надзей і перашкод, паглынулі ўсю ўвагу, скавалі розум“ [1]) і ў другім месцы: „І няма ніякае магі парваць хвараві́ты ланцуг сьненьняў— і трывожных, і тамуючых, і супакойных“ [2]). У гэтых-жа сьненьнях праяўляецца і нахіл да другой адзнакі потэнцыяльнасьці, як крышку павышаная супроць звычайнай дзіцячай, цікавасьць да „патаёмнага“: „Чаму яно так? Ну чаму? Няма адгадкі, чаму... І яшчэ гэты патаёмны хрупат адзаду... І вось яшчэ: чорныя сьцені скачуць па сьценах і кутох—як-бы й людзі, толькі нямыя, хоць і рухавыя—яму страшна, ён палохаецца, але ніхто не спагадаець яму“ [3]). Тут-жа праяўляецца і трэйці нахіл потэнцыяльнасьці—нахіл да навукі: „Ціхае сумаваньне ахапіла хлопчыка: чаму няможна падыйсьці і ўзяць у самыя рукі кніжку? У іх у хаце няма ніводнай кніжкі, а шматок газэціны, што прывязьлі з сольлю з Лугвенева, бацька разгладзіў, добранька злажыў і схаваў сабе курыць“. Адылі, гэты апошні нахіл у карэньні перасякаецца тэй зьяваю фону, у выглядзе нацыянальна чужой і забойчай ды пэдагогічна-пачварнай школы, праз якую даводзіцца праходзіць Хомку (разьдзел IV). Апрача таго, ня гледзячы на ўсе гэтыя нахілы, Хомка застаецца ў поўнай адпаведнасьці з сваім соцыяльным палажэньнем, са сваёй чыста-сялянскай існасьцю, якую аўтар дужа ўдала псыхолёгічна ўскрывае ў тых-жа сьненьнях („Ці ня дзіўна вам, што гэрой наш плача ўва сьне па скалечанай кабыле, а не па маці, жорстка зьняважанай бацькавым біцьцём?“ ст. 60).

Такім выглядае аўтараў гэрой на першай ступені свайго жыцьця, у маленсьцьве. Пераводзячы яго на другую ступень, у юнацтва, аўтар разам з тым ставіць яго й на першую ступень выхадзтва,—батрацтва, якое мы ўжо назвалі-былі ў сваім месцы „сялянскім выхадзтвам у сялянсьцьве“. Першаю рысаю гэроя на гэтай ступені зьяўляецца рыса некаторага як-бы протэсту проці закладзенай у ім з маленства вышэй згадванай фаталістычна-пэсымістычнай абыякавасьці, які праяўляецца ўсё-ткі яшчэ даволі цьмяна і таксама яшчэ ў сьненьні, выражаючыся ў безадказным пытаньні „За што?“ (разьдзел V, ст. 65). Другою рысаю тут выступае ўжо выразна-выхадзкая тэндэнцыя, якая праяўляецца ў зборах Хомкі на кірмаш: „Цяпер Хомка—дарослы і пойдзе на кірмаш, як мае быць. Боты, брыль, чорныя штаны і белая вышываная кашуля!“ [4]) і крышку далей: „Хто пазнаець у ім батрака? Сына заняпалага п‘яніцы Юркі? Ён, кажуць, хлопец як хлопец“ [5]). Назначаюцца і выразныя тэндэнцыі выхадца ў каханьні. „Дзеўкі лупаюць

[1]) Гл. „Ціхія песьні“, ст. 56.
[2]) Там-жа, ст. 58.
[3]) Там-жа, ст. 57.
[4]) Там-жа, ст. 71.
[5]) Там-жа, ст. 72.

вачыма на яго пушок хоць і пад кругленькім, дзяціным яшчэ носам. Калі няма ім большых хлопцаў, дык лезуць да яго, чапаюцца, жартуюць..." [1]) і ў другім месцы: „У Лугвеневе зьбярэцца многа харошых дзяўчат, вясёлых і хораша ўвабраных,—і Хомка будзе любавацца на іх, колькі яму захочацца" [2]). Само сабою, што форма выяўленьня гэтых тэндэнцый цалкам залежыць ад ступені Хомчынага выхадзтва. Чыста выхадзкі-ж характар іх адзначаецца і ўвыпукляецца тады, калі Хомка спрабуе зьдзейсьніць іх на кірмашы: „Хомка быў адзін спаміж мноства людзей, і няма ведама чаго—нейкі сум агарнуў яго. І грошы ё ў кішэні, можна купіць салодкае вады і прэжаных сланешнікаў і можна пакатацца на драўляным кані ў крузе пад музыку. Аднак, ён меўся ў адзіноце, у нясьмеласьці і яшчэ ў прыкрасьці ад ваганьня: патраціць на сябе гэтыя грошы, якія даў Пятрок, ці не патраціць?" [3]). Асабліва-ж праяўляецца ён пры няўдачы зьдзейсьненьня кахальных тэндэнцый, калі ён чуе, як абраная ім дзяўчына Ганутка сваім сьмехам далучаецца да абразьлівых для яго слоў, сказаных гарадчанскім хлопцам: „батрак... хварсіць у чужых ботах і ў гнілым брылі" [4]). Гэтая няўдача прычыняецца да прарыву ў Хомкі ягонае паталёгічнае спадчыннасьці: „Гостры гнеў хутка зацьміўся цяжкім прыгнётам, адчаем і злосьцю да ўсяго на сьвеце—так, як бывала і ў яго дзеда і ў бацькі, алькаголікаў" [5]). У далейшым гэтае пераходзіць нават у пачуваньне раздвоенасьці: „Яму цяпер было так, быццам ён—гэта ня ён. Нехта другі, а ня ён цешыўся з харошага жыцьця яшчэ сёньня ўраньні. Нехта другі, а ня ён, а калі ён, дык ня ўчора надвечар, а даўна-даўна, як у тумане, сядзеў на ральлі, скарадзіўшы пад жыта..." І нарэшце, праз пэсымізм, які даходзіць аж да думак пра самагубства, Хомка даходзіць і да асабліва яскравага выяўленьня закладзенай у ім пэсымістычна-фаталістычнай абыякавасьці: „Чаго цяпер жыць? Адно... памерці. Але і думка пра сьмерць праходзіць бязуважна... Усё на сьвеце нічога ня варта... А бадай-жа яно проклята было" [6]) і далей: „Хомцы было ўсё 'дна. Тупое і цяжкое нейкае адурэньне нашло на яго, прыціснула яго, згняло яго" [7]).

Гэткім Хомка ўзводзіцца на новую ступень — у вайну. Самая вайна, як і дачыненьне да яе сялянства, адразу падаецца ізноў-жа ў дусе фаталістычнае абыякавасьці: „Вайна засьпела раптам: каго ў полі, каго на сенажаці,—і адгукнуліся на страшную навіну неяк лёгкадумна і вясёла". Адылі, далей у паказаным успрыйманьні яе сялянствам пачынае адчувацца ўжо некаторая напружанасьць: „Людзей паменшала, дзеўкі пасмутнелі бяз хлопцаў і вясёлых кірмашоў, старыя-ж сталі раздражнёныя і цераз сілу ўзьдзержаныя, як слова перад

[1]) Гл. „Ціхія песьні", ст. 69.
[2]) Там-жа, ст. 78
[3]) Там-жа, ст. 73.
[4]) Там-жа, ст. 74.
[5]) Там-жа, ст. 77
[6]) Там-жа, ст. 78.
[7]) Там-жа, ст. 79.

споведзьдзю ў вялікі пост. Тужлівасьць і нуда запанавала ў хатах" [1]) і тая-ж пабожнасьць, якую мы заўважалі і ў запісках „На імпэрыялістычнай вайне", зусім адваротнага характару, чым характар пабожнасьці на вайне: „Не давала рады прысіленая пабожнасьць дзядоў і бабулек. У царкве было пуста на мужчынскай правай палавіне і засмучона на дзявочай левай".

І вось, дзякуючы фатальнай, ізноў-ткі, памылцы—няправільнаму запісу ў мэтрычных кнігак, Хомка трапляе на вайну. Гэтая фатальнасьць прымушае яго задумацца крыху над сабою, але ў выніку гэтага задумваньня атрымоўваецца тая-ж фаталістычная абыякавасьць: „Ён меўся абмеркаваць усё з усіх бакоў, усё ўцяміць, што і як... І сам ня ведаў: жаль яму, ці не?" [2]). Гэтая зьява працягваецца ў яго і на самай вайне і выражаецца аўтарам бадай у тых-жа самых словах („Хомка меўся абмеркаваць усё з усіх бакоў, усё ўцяміць, што і як, што і як... жаль яму, ці не?", ст. 85), яшчэ больш падкрэсьліваючыся збоку фаталістычнай абыякавасьці: „І нейкае „ўсё роўна" ахоплівае думку аб сваім хатнім, дарагім і любым, ды як падумаць—жалкім і ўбогім. „Усё роўна" зьвязана і з будучыняй—невядомай, страшнай, а цяпер неяк і мала ўжо цікаўнай" [3]).

Непасрэднае ўспрыйманьне вайны Хомкаю падаецца ў асноўным у дусе запісак „На імпэрыялістычнай вайне". Тут мы маем і тое-ж падвойнае дачыненьне,—адмоўнае, аснованае на агідзе да ваеншчыны („Казарма і муштра заглушылі тое выцьцё і тыя словы", ст. 83, „І думак не зьбярэш, калі навокала гыркаюць: ня так сеў, ня так крутнуўся, ня так адказаў", „Дні здаваліся тыднямі, тыдні—месяцамі", ст. 84) і дадатнае, як да ажыўляльнай зьявы („Хомка з таварышамі ўсьцешыўся, што паедуць на позыцыю—было цікава, хоць троху й страшнавата", ст. 84), і тыя-ж социяльныя моманты (выпадак з яўрэем, ст. 84, гаворка „чорнабародага туляка", ст. 87). Вайна-ж прымушае яго праглядзець і свой ранейшы жыцьцёвы шлях, прычым ніжэйшыя ступені яго здаюцца Хомку ўсё больш павабнымі; так, пры ўзяцьці на вайну ён параўноўвае сваё батрацкае жыцьцё з жыцьцём у бацькоў: „І толькі лезьлі ў галаву ўспаміны, як раней здалося-б радасьцю ня весьці ў такую хлюпу гаспадаровых коні на начлег у поле, а ляжаць пад страхою на сухім сянцы, акрыўшыся цёплым кажухом, і пад гоман дажджавых капак думаць, што наша доля яшчэ ня дужа дрэнная" [4]); а на самай вайне робіць падобнае-ж параўнаньне яе з батрацтвам: „І толькі лезьлі ў галаву ўспаміны, здавалася вялікім шчасьцем, як некалі ляжаў на начлезе пад густою елкаю, калі буйны дождж шамацеў у яе лапах" [5]) і ў другім месцы: „Тут-жа было ў сто рэдзь горай, чымся ў батракох" [6]).

[1]) Гл. „Ціхія песьні", ст. 80.
[2]) Там-жа, ст. 82.
[3]) Там-жа, ст. 83.
[4]) Там-жа, ст. 82.
[5]) Там-жа, ст. 85.
[6]) Там-жа, ст. 83.

Сярод гэтых думак і разважаньняў Хомку ізноў-жа чыста фатальна сустракае сьмерць. І тут, у вапошні раз, ён стараецца выказаць той-жа протэст супроць гэтае фатальнасьці, які выказваў і на пачатку свайго батрацтва: „За што?“ — трудна вымавіць языком, і са сьлязамі крыўды, глыбокай і крoючай душу, нячутна і самаму сабе пытаецца Хомка шэптам: „за што?“[1]) Адылі гэты протэст толькі падкрэсьлівае фатальнасьць зьявы, якая з усёю дужасьцю адчуваецца ў апошніх словах аповесьці: „У чорнай мгле блішчаць, яскрацца гострыя іголкі, тупеюць, зьнікаюць і зьліваюцца ў нішто...“ [2]).

Безадказнасьць гэтага апошняга „За што?“ якое падтрымлівае сам аўтар і якое раней нават было ў загалоўку аповесьці, зьвязвае разгляданы твор яшчэ аднэю ніткаю працягальнасьці з „Антонам“, дзе гэтае-ж пытаньне ставіцца „Беларускім аўтарам“. Раней-жа ўстаноўленыя намі ніткі гэтае працягальнасьці і потэнцыяльнасьць гэроя яшчэ больш узмацняюць гэтую сувязь, дзякуючы якой на Хомку можна глядзець, як на таго-ж Антона ў маленсьцьве, толькі паведзенага па крышку іншым шляху. Накіраванасьць-жа гэтага шляху да вайны адбівае сабою тэматычную накіраванасьць пэрыяду стварэньня „Ціхіх Песень“ у творчасьці Максіма Гарэцкага, і выкарыстоўваецца ім, як спосаб для найбольш моцнага падкрэсьленьня псыхолёгічнага ўплыву вайны шляхам наданьня ёй фаталістычнага надзіўленьня. Самое-ж гэтае надзіўленьне супадае з тым тэзісам, які падаецца ў апавяданьні „Генэрал“, што заканчвае сабою шэраг апавяданьняў з разгортаньнем тэмы вайны перад адцягненьнем ад яе

---

Аповесьць „Ціхія Песьні“ фактычна і закончвае сабою другі пэрыяд пісьменьнікавае творчасьці, які мы назвалі былі пераходным. Гэты пэрыяд, як мы бачылі, вызначаны з тэматычнага боку тэмаю вайны, пачынаецца з разгортаньня гэтай тэмы ў запісках „На імпэрыялістычнай вайне“, якое спачатку йдзе побач з разгортаньнем галоўнай тэмы творчасьці М. Гарэцкага, з разгортаньнем фігуры сялянскага выхадца, а пасьля ўжо ўступае ў змаганьне з гэтай тэмай. І ў гэтым—ужо першая адзнака пераходнасьці дадзенага пэрыяду. У далейшым гэтае змаганьне спачатку схіляецца як-бы на бок перавагі першай тэмы, што выражаецца ў тэндэнцыі адцягненьня ад другой тэмы, але першая тэма ня выходзіць і сама пераможніцаю, а прымушана таксама саступіць на некаторы час, што выражаецца ў тэндэнцыі адцягненьня і ад гэтай першай тэмы. У гэтых тэндэнцыях—другая характэрная адзнака пераходнасьці. Урэшце, апошняя тэндэнцыя ня вытрымоўвае і пачынае назначацца зварот да галоўнай тэмы, спачатку больш асьцярожна, толькі як назначэньне, а пасьля ўжо і больш паўней, як разгортаньне фігуры потэнцыяльнага гэроя. Апошняе выкарыстоўваецца ізноў-жа для звароту да першай тэмы для яе апошняга падкрэсьленьня. Усё

[1]) Гл. „Ціхія песьні“, ст. 87.
[2]) Там-жа, ст. 88.

гэтае і вызначае сабою завяршальную ролю кагадзе разгледжанай аповесьці, якая дужа нагадвае падобную-ж ролю аповесьці „Антон“ у першым пэрыядзе пісьменьнікавае творчасьці, дзе гэтаксама выводзіцца потэнцыяльны гэрой і гэтаксама падрэсьліваецца надзённая для першага пэрыяду тэма—„праклятыя“ пытаньні.

Так у васноўным выглядае пераходнасьць разгляданага пэрыяду пісьменьнікавае творчасьці. Яна ўзмацняецца яшчэ тым, што ў гэты пэрыяд аўтар распачынае цэлы шэраг твораў, якія закончвае толькі ў наступныя пэрыяды. Так, тут пачынаецца вядомы цыкль апавяданьняў з часоў прыгону, які дапісваецца значна пазьней і організоўваецца ў аблямованы зборнік новэль „Досьвіткі“ (першае апавяданьне з гэтага цыклю—„Прысяга“—напісана ў 1916 годзе); тут-жа пачынаецца і напісаньне раману „Крыж“, галоўнейшыя ўрыўкі з якога („У чым яго крыўда“, „Мэлянхолія“) пішуцца значна пазьней і які яшчэ дагэтуль ня скончаны сваёй організацыяй (першы ўрывак—„На гаі“—напісаны таксама ў 1916 г.); нарэшце, тут-жа пачынаецца і напісаньне вядомай аповесьці „Дзьве Душы“, першыя ўрыўкі з якое, якія пасьля хоць і не ўвайшлі ў яе, але непасярэдна зьвязаны з ёю настраёва і абстановачна („Зьнібее сэрца“, „Габрыелевы алеі“) пішуцца якраз у гэты час (1917 г.). Свае вытокі ўсе гэтыя творы маюць непасярэдня ў пераходных тэндэнцыях гэтага пэрыяду; так, „Досьвіткі“ выцякаюць з тэндэнцыі чыстага, поўнага адцягненьня ў часе, а першае апавяданьне іх—„Прысяга“ прадстаўляе сабою як-бы водгук на падобнае здарэньне з галоўным гэроем, апісанае ў запісках „На імпэрыялістычнай вайне“; „Крыж“ у сваім першым урыўку „На гаі“ супадае з тым пачуцьцём апрыкраньня гэроя, якое падае пачатак тэндэнцыі адцягненьня ад яго; тое-ж і эскізы „Дзьвюх Душ“.

З боку тэматычнага пераходнасьць гэтага пэрыяду характарызуецца яшчэ назначэньнем нацыянальных і соцыяльна-бытавых тэм, якія былі пастаўленымі яшчэ ў „Руні“, але засталіся неразгорнутымі ў першым пэрыядзе. Гэтую-ж характарыстыку дапаўняе і зварот да пэсымізму ў яго чыста-пераходнай псыхолёгічнай форме.

Адна толькі рыса, датычная агульнага кірунку творчасьці М. Гарэцкага, не зьяўляецца адзнакаю пераходнасьці ў гэтым пэрыядзе. Гэта—ягоны рэалізм, пераход да якога назначыўся яшчэ ў першым пэрыядзе, а адбыўся поўнасьцю толькі тут, дзякуючы непасярэдняму спагаднаму ўплыву галоўнай тэмы гэтага пэрыяду—вайны. Праўда, і тут можна бачыць некаторую адзнаку пераходнасьці, якая выражаецца ў тых скрайнасьцях, што прыймае пісьменьнікаў рэалізм у дадзены пэрыяд і якія праяўляюцца, з аднаго боку, у імкненьні да докумэнтальнасьці, протоколізму (дакладныя запісы ліку выпушчаных знарадаў у запісках „На імпэрыялістычнай вайне“), а з другога боку, у нахіле да натуралізму (лічныя апісаньні паразытнай пошасьці там-жа), якія ў далейшым згладжваюцца.

*(Канец будзе).*

# КУЛЬТУРА МОВЫ

**Кузьма Чорны.**

„Ꙃ"—чытаецца як „дз"
„Ꙉ"—чытаецца як „дж".

## Небеларуская мова ў беларускай літаратуры

Вялікая беларуская моўная стыхія ня толькі не загінула за час шматвяковага нацыянальнага падняволеньня Беларусі, ня толькі ня была праглынута моцнымі культурамі суседніх народаў, а захавала сваю чыстату, скрышталявалася ў надзвычайнае багацьцё орыгінальных формаў, служачы нават багатым матар'ялам для суседніх моўных культур. Беларуская мова—мова беларускіх казак і песень, фразэолёгія народнае гутаркі,—гэта найглыбейшая самабытнасьць і хараство.

Сіла самабытнасьці слова разбурае ўсе спробы іншых моўных культур залічыць якую-небудзь мову ў свае „наречия". Гэта давеꙃена якраз прыкладам з беларускаю моваю. А чым больш нацыянальных асаблівасьцяй мае гэтая культура, тым больш гэта ўзбагачае тыя нацыянальныя элемэнты, з якіх ствараецца агульная чалавечая культура.

Усё гэта даўно вядома. Але ўсё гэта давоꙃіцца прыгадваць з тае прычыны, што мы перажываем асаблівую пару ў разьвіцьці нашае культуры. З аднаго боку—яшчэ і цяпер ня зусім змоўклі галасы некаторых акадэмікаў і доцэнтаў пра „наречие". З другога боку—павінны быць створаны *беларускія* вышэйшыя формы беларускай культуры. І тут паўстае найвялікшае пытаньне мовы. Бо каб гэтыя „вышэйшыя формы культуры" былі і вышэйшымі і беларускімі, няйначай трэба, каб яны былі сапраўды ў беларускай мове.

Беларуская жывая літаратурная мова перажывае цяпер пару свайго фармаваньня. Дык, трэба каб усе ўсьвядомілі, якую вялікую гістарычную адказнасьць жыцьцё ўсклала на літаратараў, гэтых аꙃіных тварцоў жывога кніжнага слова. А тымчасам частка літаратараў, трэба думаць, не зразумела сваіх задач у моўным пытаньні, мусіць не адчувае на сабе гэтае адказнасьці. Бо траха ня ўсе нашы часопісі і газэты, а таксама творы некаторых пісьменьнікаў выхоꙃяць у сьвет у гэтакай мове, якую можна назваць сапраўды толькі „наречием". Фразэолёгія гэтае мовы зусім не беларуская. Гэта фразэолёгія тэй мовы, стыхія якое пануе ў аўтара, на якой у аўтара процэс думаньня. Гэтая зьява, якая ня толькі не слабее, а набывае памеры нястрыманай навалы, цяжкім каменем загароꙉвае дарогі разьвіцьця беларускае культуры.

У „Узвышшы" № 2 за 1927 г. Улаꙃімер Дубоўка ў сваім артыкуле „Пра нашу літаратурную мову" ўспамінаў аꙃін верш, які напісаны

нібы ў беларускай мове, але ў якім усяго некалькі беларускіх слоў. Верш з гэтакімі тэрмінамі, як „лунныя лапы“... Гэтыя „лунныя лапы“ ўсё больш і больш пускаюць карані, усё больш і больш імкнуцца запанаваць цалкам у нашай літаратурнай мове. Гэтая навала робіць справу змаганьня з беларускаю культураю і яе льга выкараніць толькі тагды, калі нашы літаратары стануць тут сьвядомымі і дейнымі, калі яны адчуюць усю сваю адказнасьць. Бо йначай, побач з крышталяваньнем нашае літаратурнае мовы, гэтая навала буде ўсё ўмацоўвацца і загароджваць дарогі літаратурнай культуры. Гэтае злачынства цалкам ляжа на сумленьне тых літаратараў, якія сталі на працу як-бы деля таго, каб патаптаць і зьнішчыць тое моўнае багацьцё, якое Беларусь зьбірала і ахоўвала ўсе доўгія вякі свае падвойнае няволі.

---

Возьмем з першае, якая апынулася пад рукамі, расійскае кнігі кавалак тэксту: „По утрам солнце светило мне сквозь двойные решетки. И от него, и от счастливо воркующих за окном голубей хотелось сьмеяться. Я тихо ходил от стены до стены и сквозь решетки видел весело синеющее небо“.

Беларускаю моваю гэта можна гэтак выказаць: „Раніцамі сонца сьвяціла мне праз падвойныя краты. І ад яго, і ад галубоў, якія шчасьліва буркавалі за вакном, хацелася сьмяяцца. Я ціха хадіў ад сьцяны да сьцяны і праз краты бачыў неба, што весела сінела“.

Гэта калі цьвёрда прытрымлівацца моўнага кірунку ў расійскім тэксьце. Ніхто не забараняе выказаць і гэтак:

„Па раніцах сонца сьвяціла мне праз двайныя рашоткі. І ад яго, і ад шчасьліва варкуючых за вакном галубоў, хацелася сьмяяцца. Я ціха хадіў ад сьцяны да сьцяны і скрозь рашоткі бачыў весела сінеючае неба“. Тут справа вельмі простая. Для таго чалавека, у якога моўнае думаньне не беларускае, а расійскае, гэтакім жаргонам куды лягчэй пісаць, чымся беларускаю моваю. Дык гэтак і пішуць. І лічаць, што гэта беларуская мова, і ніколі ім ня ўзбрыде нават на думку, што творы, якія напісаны гэтакаю моваю, ёсьць творы па форме расійскія, а не беларускія; але расійскія няпісьменныя, бо на расійскай мове, напрыклад, ня „сінеючых“, не „рашоткі“, не „варкуючых“, а „синеющих“, „решетки“, „воркующих“. У беларускай-жа мове гэтакіх формаў зусім няма. Дык расійцы маюць права лічыць гэта сваім „наречием“. Але ўсё-ж „наречия“ гэтакага расійская мова ня мае; абсолютна ня мае гэтакіх формаў і беларуская мова. Формы гэтыя ёсьць роўналежныя расійскім; такім чынам гэта ёсьць расійская мова зусім няпісьменных аўтараў. Інначай гэтую зьяву ні растлумачыць, ні апраўдаць нельга.

Але можа хто скажа, што нічога гэтакага ў нас няма? Дык вось бяру „Полымя“. Бяру № 5, за 1928 год—той паасобнік, які першы трапіў у рукі. Пачынаецца гэтая кніга перакладам з нямецкае мовы. Пераклад гэты ўспомнім пасьля, а раней глянем на арыгінальную

беларускую творчасьць. Адразу-ж першае слова—загаловак: „Над абрывам“. Аўтар думаў „над обрывом“ і напісаў „над абрывам“. Няведаючы, што ў беларускай мове „абрыў“ гэта значыць „парасюк лычам дрэва абрыў“. Якраз, як той аўтар „лунных лап“ думаў: „И такие смешные следы лунных лап по утесам легли“ і пісаў: „І такія сьмяшныя сьляды лунных лап па уцёсах ляглі“. А пасьля пачынаецца тэкст твору „Над абрывам“ і адразу-ж з першага сказу: „Вясна ў тым годе наступіла неяк рана“. А за гэтым і скрозь пачынаецца: „зьвярнуўся да свайго суседа па фурманцы“. „Ты занадта вялікае значэньне прыдаеш барацьбе з адзінкамі“. (33 бал.). „Мы пераможам, калі асабістае, прыватнае прынясём у ахвяру агульнаму, грамадзкаму“. (34 бал.). „Зграбная, хілкая постаць, абрысы якой адзначаліся з-пад лёгкай, адпаведнай часу вопраткі, прыдавала ёй выгляд вясеньняй жывасьці“. „Праворным махам рукі“. „Але большае ўражаньне выклікаў яе праніклівы погляд“. „А·мо‘ адабрэньне?“ „Пранікала ў душу“. „Карпіцкі таксама накіраваўся пагляддзець, як разьмяшчаюцца аддзелы“. „Памяшканьні для службы“. „Рэзка няпрыемна рыпалі цьвікі пры распакоўцы скрынак“. (35 бал.). „Густа пасеенымі, колеру ільнянога насеньня, плямкамі на твары“. (36 бал.). „Ды гэтаму-ж Баханская галаву закруціла-мусіць хоча выйсьці за яго замуж“. „У белай кофтачцы“. (37 бал.). „Адсюль адкрываўся прыгожы малюнак“. „Даклад датычыўся сама, вольных парубак лесу“. „На гэтых днёх зайшлі яны з Батурскім у парт‘-ком пагутарыць наконт водпуску дрэва“. (38 бал.) і г. д. і канца-краю няма гэтым „лунным лапам“, на кожнай балоне, да самага канца. Усіх іх я выпісваць ня буду, бо дзеля гэтага трэба перапісаць усю рэч, з пачатку да канца. Кожны сказ тут паказвае, што аўтар яго моўна думае парасійску. Сапраўды, што гэта „вясна наступіла“? Наступіць можна (думаючы ў беларускай мове) каму-небудзь на нагу, можна наступіць на жабу і растаптаць яе. Але аўтар думаў: „весна в этом году наступила как-то рано“. І пісаў гэта беларускай транскрыпцыяй. зьменьваючы, як умеў, некаторыя словы. Але характар, кірунак сказу застаўся цалкам расійскі. „Ты занадта вялікае значэньне прыдаеш барацьбе“... Гэта значыцца, парасійску дзіка-няпісьменна напісана, „...большое значение прыдаешь борьбе“... Трэба ведаць, што мала замест „слишком“ напісаць „занадта“ і замест „большое“ напісаць „вялікае“, Трэба ведаць, што ёсьць фразэолёгія, уласьцівы кожнай мове свой уласны кірунак сказаў. „Мы пераможам, калі асабістае, прыватнае прынясём у ахвяру“... Аўтар уяўляў сабе гэтак: „Мы победим, когда личное, частное принесем в жертву“...

Дзе аўтар чуў гэтакія характары сказаў? Калі ён чуў іх у канцылярыях, выдавецтвах, рэдакцыях, дык гэта не дазваляе яшчэ пісаць гэтак для друку. Бо зьбеларусізаваныя чыноўнікі, а часта і рэдактары, пазнаёміўшыся з „практычных слоўнікаў“ з „беларускаю моваю“, замест, напрыклад, „я не имею охоты идти“, гавораць: „я ня маю паляваньняісьці“, замест „половые отношения“ гавораць „падлогавыя адносіны“, замест „дай ключ открыть шкаф“—„дай крыніцу адчыніць шафу“...

„Лунныя лапы“ ўсялякіх „Над абрываў“ якраз створаны гэтакім-жа самым прынцыпам.

„Дык гэтаму-ж Баханская галаву закруціла, мусіць хоча выйсьці за яго замуж“. Аўтар добра ведае: „она ему вскружила голову... выйти замуж“, дык ён піша „галаву закруціла“. Беларуская мова ведае гэтакі зварот, ён ёй вельмі ўласьцівы, але ён ужываецца зусім іначай. Напрыклад, гэтак: „каб табе галаву на бок закруціла“. „На гэтых днёх зайшлі яны да Батурскага“. Ня піша ён „гэтымі днямі“, а „на гэтых днёх“. Як-жа ён можа напісаць гэтак, як гаворыць беларускі селянін або не зрусіфікаваны рабочы, калі ён сам прывык гаварыць „на этих днях“. Або „даклад датычыўся самавольных парубак“. Ці ня лепш-жа было напісаць „доклад касался самовольных порубок“? Гэта была-б жывая прыгожая расійская літаратурная мова. А то—пераносіць гэты, прыгожы ў расійскай мове, сказ у мову беларускую, не адчуваючы, што ў беларускай мове гэтакага кірунку няма. Уводзіць у беларускую мову „крыніцу, якою адчыняюць шафу“ і думае гэтым дубовым пілавіньнем забіць жывую прыгожасьць народнай мовы. Няўжо гэта цяжка напісаць: „у дакладзе гаварылася пра самавольныя парубкі“? Але дзеля гэтага трэба вывучыць мову, калі ўжо не давялося ведаць яе змалку.

Небеларуская фразэолёгія захавана цалкам. Усё гэта атулена вянком з тых словаў, якія створаны паводле расійскіх, і створаны людзьмі, якім трэба было як-небудзь беларусізавацца. Яны добра ведалі расійскую мову, але зусім ня ведалі беларускае. Дык замест таго, каб вывучыць беларускую мову, яны пачалі тварыць сваю, уласную. І, доўга не працуючы, можна сказаць, проста гуляючы, стварылі свой жаргон. І пішуць усялякія свае „сінеючыя, захаваўшыхся, падаючага, дадзеныя“... Трэба было яму ўжыць „безусловно“. Але як ты яго тутака ўжывеш, калі трэба беларусізавацца. Дык ён падумаў: „условие“—кажуць людзі, што пабеларуску будзе „умова“. Дык чаму не напісаць „бязумоўна“? Або замест „у нас есть данные“ не напісаць „у нас ёсьць дадзеныя“? Усё, як мае быць. Вось і пайшлі ўсе гэтыя „прыблізна, неабходна, адносна“ і г. д. У народзе гавораць „збольшага работа скончана“. Але кніжная мова трымаецца зусім іншых прынцыпаў. Вы думаеце, чалавек, які піша для друку, напіша гэтак? Ён напіша: „прыблізна работа скончана“. І спакойны душою, што ведае беларускую мову.

Але асобныя славечкі—ня гэтак яшчэ страшныя. Больш удалыя з іх прыжывуцца, няўдалыя могуць адсеяцца. Самая бяда гэта ў навязваньні беларускай мове зусім неўласьцівай ёй фразэолёгіі. Гэта вядзе да таго, што ў быце беларускае вёскі, напрыклад, мова будзе адна, з усім яе харастве і багацьцем орыгінальных формаў, а ў кнігах для гэтых-жа самых людзей мова будзе іншая. Якраз тое самае, што даўней казалі: „вучыся, сынку, чытай кнігі, можа табе як бог паможа выйсьці ў людзі. Дык ня будзеш ты тагды гаварыць гэтак проста, як мы, цёмныя людзі“. Гэта ня сьмех. Гэта горкая праўда. „Лунных лап“ народная мова ня ведае. Іх прыдумалі няпісьменныя пісакі.

Можа хто скажа, што я наўмысьля выбраў самы няпісьменны артыкул і выцягваю з яго патрэбныя мне прыклады? Дык-жа глянем у наступныя друкаваныя рэчы тае самае кнігі.

„Потым мой погляд паволі адхіляецца ўніз". (51 бал.). „Аднойчы атрымлівае ён прадмет сваіх некалькі гадовых лятуценьняў—ліст". (52 бал.). „Зразумела, ён атрымліваў вельмі добрую плату і вёў жыцьцё нейкага фэўдала". (53 бал.). „Маркел вандруе ў працягу цэлае ночы". (54 бал.) і г. д. Мы ўзялі з кожнае балоны па адным прыкладзе. Больш браць прыкладаў, гэта зн. перапісваць усё з пачатку да канца, ня буду. Расійскаю моваю можа быць гэтак: „взгляд медленно скользит (ці нешта падобнае да гэтага, можа „отклоняется") вниз". Дык чалавек з лёгкім сумленьнем піша: „погляд адхіляецца ўніз" і ня можа ніяк адчуць, што „погляд"—гэта ня тое, што „зірк", а гэта—„взгляд на вещи". А адхіліць можна якую-небудзь дошку, фіранку на вакне... Або „атрымлівае ён прадмет сваіх лятуценьняў—ліст"... Тут якраз „предлагается вам немедленно представить инвентарную опись на предмет учета данного имущества". У народных гушчах гавораць: „вандруе цэлую ноч", а ў кнігах для гэтых народных гушч пішуць „вандруе на працягу цэлае ночы". І ўсё затым, што „в продолжении ночи".

Або расійскаю моваю гэтак льга сказаць: „имеются два взгляда". Дык на 69 бал. тае-ж усё кнігі пішуць „маюцца два погляды". Калі згадзіцца, што гэта пабеларуску, ды калі сказаць гэта расійскаю моваю, дык яно будзе—„поживают два взгляда". Бо „маюцца"—гэта ня „имеются", а набліжаецца гэта да расійскага „поживают": „как они поживают"?—„Як яны маюцца?"—„А нічога, жывуць патроху". Або яшчэ адно адценьне расійскае мовы ў гэтым слове: „Не живем, а маемся" (пакутуем). Ну, чым-жа гэта не „падлогавыя адносіны"? Адным словам, можна сказаць, увесь тэкст складаўся аўтарамі або перакладчыкамі паводле таго, як гэта будзе парасійску.

Я бяру № 2 за 1928 г. таго самага выданьня. Разгортваю дзе прыдзецца і гляду, што трапіла на вочы. Чытаю на 22 бал.: „І не даацэніш, зразумела, і дней вольных—ліпнёвых, мёдам насычаных". „Дней насычаных!" Гэта якраз падобна да:

„Над магілаю чорных дней"...

Дык тут хоць дзеля рыфмы аўтар пастараўся, каб забыцца на беларускае „дзён" і пісаў расійскаю моваю „дней". А ў „дней насычаных" нават і рыфмы ніякае нідзе няма. Проста з ласкі на пацеху. Гэты-ж самы аўтар у тым-жа самым творы піша: „Захапляўся Язэп Леніным, яго жыцьцём, яго вялікай сілай у слове". Дык нават і сам аўтар ведае, прынамсі чуў (калі ўспамінае гэта) пра жывую вобразнасьць і сілу ленінскае мовы, асабліва ў яго „обличительных" артыкулах і прамовах. І ведаючы гэтакую сілу і хараство слова, якая грунтуецца на багатых адценьнях расійскае народнае мовы, аўтар сам застаецца неахайным да свайго ўласнага слова, не надае яму аніякай цаны.

На балоне 71—пасьля таго, як яны „накіраваліся ў салю“, адзін (аўтар гаворыць ад сябе) гаварыў: „калі-б вы мелі магчымасьць заглянуць да мяне“... Значыцца—„направились в зал“... „имели возможность заглянуть“... Дакладная расійская фразэолёгія, нават аўтар не паклапаціўся перакласьці на беларускую мову як належыць. На бал. 73—„воўк душу выматвае“. („Выматывает душу“).

„Рабочаму не павінны быць страшнымі перашкоды на шляху яго пасоўваньня наперад“ („продвижение вперед“)... „І сьлясарскае і, нават, сталярскае рамёствы яму ня чужы“ (яму ня „чужды“) „Сумею даць“ („сумею дать“). „Пастараюся ўскладзеныя на мяне надзеі апраўдаць,—заключыў Якаў Гузік“. („Заключил“). „Намякалі...“—Гэта ўсё на аднэй толькі 25-ай балоне нумара 1 таго самага выданьня за 1928 г. Або ў тым-жа самым творы славечкі і моўныя звароты: „недаўмяваў“, „цярэць“! Дык чаму ўжо зусім ня пісаць, напрыклад, гэтакаю моўнаю формаю: „жаладцельна зьдзелаць савяшчаньне і ісчарпаць эці вапросы, каб саздаць упечатленьне“? Гэтакі жаргон спрабуе ўкараніцца, як належыць, у нашым пісьменстве.

У нас не разумеюць, што пераклад літаратурнага твору з чужое мовы ёсьць тая-ж самая літаратурная творчасьць. Перакласьці твор дакладна—невялікая навука, але трэба перадаць яго літаратурнасьць, „душу“ гэтага твору. Дзеля гэтага трэба ўладаць словам, трэба адчуваць мову, адчуваць безьліч адценьняў у кожным слове. Пераклад літаратурнага твору гэта ня ёсьць мэханічная праца. Пераклад на беларускую мову раману І. Бэхэра „Адзіная справядлівая вайна“ найлепш даводзіць усё гэта. Ня можа быць, каб І. Бэхэр ужываў у сваім пісьменстве гэтакія тэрміны, як „усім тыканьнем нашага сэрца“. А „Полымя“ здолела гэтае „тыканьне сэрца“ надрукаваць у сваім чацьвертым нумары. „Чурбаны“, „тысячы нясуццаў“, „пералязалі праз парканы“, „пранік“... Усё гэта на аднэй 67 балоне. Там-жа і „зграі дзяцей моцна чапляліся за спадніцы матак...“ Гэта апісваюцца няшчасныя дзеці тады, калі горад спасьцігла вялікае гора і бяда. Няўжо пролетарскі пісьменьнік назваў натоўп дзяцей зграяй, ды яшчэ ў часе вялікіх соцыяльных бяднот? Зграя можа быць груганоў, шкоднікаў, драпежнікаў, а не дзяцей. І каб перакладчык адчуваў мову, ён не напісаў-бы гэтак.

„Хмурнае сычэньне і шыпеньне насіліся ў паветры, як грымоты, прыдушаны ураган... Бутлі, напоўненыя якойсь густой кляючай масай качаліся ўгары пад дахамі. Якісь смалісты састаў ліўся сам сабою з куба ў куб. Складаныя сумесі ўтвараліся пры дапамозе найдакладнейшых дзіўных апаратаў. Некалькі пляцформаў, якія былі пабудаваны паміж катлоў, рабілі на Макса ўражаньне готычных цэркваў...“

Што тут ёсьць беларускага ў гэтай „кляючай масе“ нейкага жаргону?

Якое-ж дзіва пасьля гэтага, што нашы газэты распаўсюджваюць страшэнную няпісьменнасьць і моўную някультурнасьць! Асабліва гэтым вызначылася „Чырвоная Зьмена“. Мова гэтае газэты — гэта ад пачатку і да канца ўсё „лунныя лапы“. Жывога слова там і заваду

няма. Калі хто з працаўнікоў гэтае рэдакцыі і ведаў калі-небудзь беларускую мову, дык гэтыя веды затанулі ў моры „лунных лап“. Я ня шукаў адмысловага паасобніку „Чырвонае Зьмены“, а ўзяў той, які ў мяне якраз ляжаў на стале. Гэта № 94 (621). „Лунных лап“ тут доўга шукаць ня трэба.

„Усё растучая ваенная небясьпека“. „Акажа дапамогу“. „Пагэтаму“— („поэтому“). „Будучых боек“. „Французская сэкцыя КІМ'у працягвала хаваць слаўныя традыцыі“. „Сумела ажыцьцёвіць“. „Раздаваліся гучныя словы“. „Дастойныя словы“. „У будучай перамозе“.

Гэта ўсяго з двух невялічкіх артыкульчыкаў; дый ня ўсё яшчэ гэта з іх выпісана. Або вялікімі літарамі загаловак „Падаючага — піхні“. Гэтак яно, мусіць, і робіцца. „Чырвоную Зьмену“ трэба, каб чытала моладзь. Чытае моладзь, якая зьнішчае сваю няпісьменнасьць. І, навучыўшыся чытаць, гэта моладзь вучыцца ў газэце няпісьменнасьці. Што-б гэта сказалі расійцы, каб хто на расійскай мове замест „на крыше растут мхи иные, чем в лесу“, напісаў—„на крышы растут мохи иные, чым в леси“. А ў нас беларускую мову падаюць у гэтакім выглядзе.

Вось яшчэ трохі жаргону з таго-ж паасобніка „Чырвонае Зьмены“:

„На самай справе“. „Мігам праскаўзьне міма“. „Пачалі перагортваць карты, пачалі глядзець, ці няма дзе-небудзь зорак, якія па меры перагортваньня аказаліся-б больш і больш разыходзячыміся, якія ўсё больш адлучаліся адна ад другой...“

Успамінаецца яшчэ адзін загаловак: „Дарагога таварыша ня стала“ Калі згадзіцца, што гэта напісана беларускаю моваю і калі выказаць гэта расійскаю моваю, дык яно будзе: „Дорогого товарища не серьёзно“. Бо „сталы“—гэта ў нашай мове „серьёзный“. А „стала“—„серьёзно“.

Або вось у дадатку да „Савецкае Беларусі“ надрукавана нататка пра Л. Талстога. Дык яна займае ўсяго якіх-небудзь 180—200 газэтных радкоў, а ў ёй „лунных лап“ не абабрацца: „Старец, паражэньняў, цянётах, фігуру, нанясеньня, верная мерка, выступаючай, адкрыўшы („открывший“), пажадаўшыя, існуючага, укладам эканамічных адносін ..“

У п'есе „Каля тэрасы“, якую ставіць Другі Беларускі Дзяржаўны тэатр, ёсьць гэтакая зьява. Бяжыць сялянка і крычыць: „У чым справа, у чым справа?“ Няўжо гэта крычыць сялянка? Не, гэта крычыць сам аўтар п'есы. Ен думаў: „в чем дело“ і пісаў „у чым справа“. Дзе гэта аўтар чуў, каб сялянка гаварыла гэтак? Таму і чуецца тут фальш, таму і траціцца вобраз ці тып сялянкі. І вінавата тутака моўнае думаньне аўтара, якое зусім чужое сялянцы-беларусцы.

Або ў гэтакім надзвычайна мастацкім тэатравым паказе, як „Сон у летнюю ноч“, сказ „Ужасу больш“?! Якія надзвычайныя хвіліны асалоды перажывае глядач, бачачы і чуючы ў тэатры выкананьне ролі кіраўніка грэцкіх бадзякаў-актораў! (Ролю гэтую выконвае, здаецца, артысты Сяргейчык). Якое надзвычайнае харастсво ў адценьнях тугаркі, якія суладаны з рухам цела гэтага чалавека! Надзвычайна высокае

мастацтва ў выкананьні гэтае ролі. Артысты здолеў перанесьці гэтага грэцкага тыпа ў нашу сучаснасьць—вібрацыяй голасу, хараством мовы, яе адценьнямі і ньюансамі слоў, надаўшы яму колёрыт беларускага селяніна. І як гэтую надзвычайную стыхійную прыгожасьць псуе адно толькі слова!

Вельмі праўдзіва сказаў адзін расійскі сучасны поэта: „слово—это полководец человечьей массы“. Мова—гэта матар'ял для мастацкага твору. І няўжо трэба, каб гэты матар'ял быў дрэнным? У тэатры слова мае вялікае значэньне. Як тэатральная тэхніка павінна быць удасканаленаю, як разьвіцьцё тэатральнага паказу павінна йсьці паводле пэўных законаў, гэтак і мова ў тэатры не павінна быць абы якою. Найвыдатнейшыя мастакі сцэны пра мову ў тэатры клапоцяцца ня менш, як пра ўсе іншыя галіны тэатральнага мастацтва.

Перапалоханая сялянка крычыць „у чым справа?“ Няхай-бы ўжо, нечага, яна, каб вытрымаць стыль аўтара гэтае п'есы, крычала: „У чым справа?! У мэтах рацыяналізацыі часу і адносна гэтага месца, бязумоўна не мэтазгодна паднімаць тут гэтакі вэрлах!“

Вядома, што аўтар тут выказаў тое, што хацеў выказаць. Непаразуменьне сялянкі паказана. Але выказана ў гэтакай мове, што тып сялянкі, які, скажам, раней ужо ўяўляцца пачаў гледачу, разьбіўся і прапаў ад аднаго слова. Сялянка пачула нейкую нязвычайную гаворку, нейкі крык, убачыла незнаёмых людзей, устрывожылася і замест „што гэта робіцца?“, або „што там гэта“, крычыць „у чым справа?“ Аўтар падаў гэта пасвойму, сказаў гэта ад сябе, а не ад таго чалавека, якога хацеў паказаць.

Або вось яшчэ з аднаго тэатральнага твору. „Я думаю аб нашых адносінах з табою“. „Пачалі адкрываць адзін аднаму свае таямніцы...“ „Зловіш якога злодзея, пачнеш допыт яму рабіць“ і г. д. і г. д. Тут усё дакладна выказана, што хацеў выказаць аўтар. Але гэтакі кірунак, гэтакі дух мовы ўжываюць людзі, якія ўсё жыцьцё свае працавалі дзенебудзь у канцылярыях на расійскай мове. І, нарэшце, давялося ім беларусізавацца. І гавораць яны моваю, як быццам і беларускаю (бо не расійская-ж гэта мова). Але мова гэтая цяжкая, сухая, няжывая.

Мова—жывая істота. Яна жыве, а ня існуе. Адным словам, можна вельмі шмат выказаць, або тым-жа самым словам нічога не сказаць. І гэта нават можа быць ад таго, як гэтае слова выгаварыць. Напрыклад, можна сказаць „ты ня ведаеш“. І можна сказаць: „вельмі ты ведаеш!“ Выказана тое самае, але другі раз—мацней, нават з адзнакамі кпін. Але нашым літаратарам гэтае моўнае багацьце не абыходзіць. Вывучэньне мовы—гэта, кажуць, задача лінгвістых, а пісьменьніку трэба ставіць проблемы, „адбіваць сучаснасьць“. Але мала хто думае, што для гэтага патрэбна нейкая, калі льга так сказаць, рачаіснасьць, нейкі матар'ял. Усякі-ж ведае, што з дрэннага матар'ялу нават кашаля не сплячеш, ні то што якога-небудзь твору.

Жонка Льва Талстога ў сваім дзеньніку пісала, што Л. Талстой ніколі не пакідаў, да канца жыцьця свайго, вучыцца расійскай народ-

най мове. „Считая свой язык русский далеко не хорошим, не полным, Л. Н. поставил целью своей. в это лето изучить язык в народе. Он беседовал с богомольцами, странниками, проезжими, и все записывал в книжечку народные слова, пословицы, мысли, выражения“. (Занатована 31 студзеня 1881 г.).

Дык натое гэта быў Л. Талстой! Але што значыць народная мова аўтару якога-небудзь „Над абрывам“?! Яго сумленьне чыстае. Ён ня можа і падумаць, што сваім пісаньнем разбурае наша моўнае багацьце і ўводзіць замест яго нейкі свой жаргон. Яму абы пісаць. Яму і не ў галаве, што якое-б там друкаванае слова ня было, яно ўсё-ж друкаванае слова. Яго чытаюць, чытаючы, вучацца і... псуюць сваго пісьменнасьць.

Я працую ў рэдакцыі „Беларускае Вёскі“ і мне даводзіцца чытаць вельмі шмат допісаў з вёскі і літаратурных твораў маладых вясковых аўтараў. Дык я на выразных прыкладах бачу, як друкаванае слова псуе пісьменнасьць моладзі, забівае ўсю яе прыродную чуласьць да мовы. Адін аўтар пісаў у рэдакцыю: „Паважаная рэдакцыя! Я прашу, каб вы надрукавалі маё гэгае апавяданьне ў „Чырвоным Сейбіце“. Можа яно й ня варт гэтага, дык я прашу, каб вы паправілі яго. А калі й гэта не паможа, тагды напішэце мне, чым маё апавяданьне нягоднае, каб я другі раз ведаў, як лепш пісаць. Гэтыя маркі я шлю вам на адказ“... і г. д. Відаць было, што піша чалавек пісьменны. Ліст гэты ён напісаў жывою моваю, бо гэта аўтар гаварыў з рэдакцыяй. Але тое, што ён пісаў для друкаваньня, ня мела і заваду жывое мовы. Гэта была самая сапраўдная кніжная выдуманая мова. Апавяданьне тое пачыналася гэтак: „Заходячае сонца чырвонымі праменьнямі аблівала захад. Вецер распаўсюдваў пах кветак. На цямнеючых балотах заціхалі птушкі і ў хуткім часе наступіў вечар“... І далей падобна да этага. Якраз выйходзіць, што для хатняе гутаркі, на абыходак у жыцьці—ёсьць адна мова, свая. Але для кніг павінна быць нейкая іншая мова. Бо калі дома чалавек гаворыць „я хадзіў па сена“, дык у кнігах ён чытае: „я хадзіў за сенам“. І вядома, што будзе вучыцца пісаць паводле таго, як ён чытае ў кнігах.

На вялікі жаль, усё гэта праўда. Калі ён піша ў рэдакцыю ліст, дык ліст гэты напісаны палюдку. А калі пачытаеш тое, пра што ён піша ў лісьце—яго літаратурны твор—дык у творы гэтым жаргонная плынь выпіхае жывую мову.

У літаратуры бывае гэтакая зьява, што часамі пісьменьніку трэба востра парушаць законы мовы. Гэта тагды, калі пісьменьнік выводзіць гэтакага тыпа, які або ад прыроды свае не выгаворвае, як належыць, слоў, або зьяўляецца чужаземцам і цяжка яму гаварыць тэй моваю, якою пішацца твор, або з якіх-небудзь іншых прычын проста ня ведае мовы. Дык тагды пісьменьнік паказвае гэтакага тыпа з яго жаргонам. Напрыклад, у Максіма Гарэцкага, у яго творы „Антоні“ ёсьць „Міхалка-масковец, які Масквы бачыў мала“. Дык ён строіцца гаварыць

расійскаю моваю і гаворыць жаргонам. У расійскай літаратуры, у романах Т. Дастаеўскага, часамі спатыкаюцца абруселыя немцы, у якіх расійская мова з нямецкім акцэнтам. У Л. Талстога, у „Войне и мире" ёсьць шапялявы афіцэр Дзянісаў, які слова „пришел" гаворыць „пг'ишел". Але з тае прычыны, што літаратура афармляе культуру мовы, ніводзін сапраўдны мастак слова не дазволіць, каб увесь твор быў у жаргоне гэтых тыпаў. Тагды нельга будзе залічыць гэтакі твор ні да беларускай, скажам, ні да украінскай, ні да нямецкай літаратуры. Гэта будзе жаргонны твор. І паказваюць гэтых тыпаў у сваіх творах некалькімі трапнымі рысамі, двума ці трыма іх жаргоннымі сказамі. Трэба знайсьці іншыя сродкі выявіць гэтакага тыпа, каб твор быў на мове, а не на жаргоне. Калі, скажам, Л. Талстой выводзіў расійскіх дваран, што жылі ў пачатку 19 стагодзьдзя, дык ня пісаў-жа ён сваіх твораў французскай моваю—тэй моваю, якою найчасьцей гаварылі гэтыя людзі. Французскага тэксту ў гэтых творах толькі дзе-ні-дзе ёсьць. А найбольш можам прачытаць гэтакія, напрыклад, мейсцы: „я не чувствую ничего этого,—сказал он на превосходном французском языке" І гэта тут справа з найбагацейшаю кніжнаю моўнаю культураю. Дык асабліва-ж з жаргонам трэба асьцерагацца, каб не „акаляць" ім літаратуру. А ў нас робіцца гэтак. Спаткаўшы якога-небудзь яскравага тыпа з комічным жаргонам, пісьменьнік, думаючы, мусіць (гэтак кідаецца ў вочы), што гэта цэнтральны гэрой нашае літаратуры, вядзе яго праз увесь свой твор з яго жаргонам. Замест таго, каб іншымі сродкамі мастацтва паказаць яго, ужыўшы яго жаргону гэтулькі, колькі не папсуе мастацтва ўсяго твору, літаратар увесь свой твор выпускае ў гэтым жаргоне. Гэтакія зьявы шкодзяць нашай беларускай літаратурнай культуры, бо наша літаратурная мова толькі цяпер пачынае крышталявацца. Вось чаму вельмі прыкра і шкодна, калі некаторыя творы, траха ня цалкам, падаюцца ў гэтакай мове: „Як я люблю эці вечары! Оне асьвяжаюць маю жысьць... Толькі і суцяшэньня... Нято-б—загразла ў гэтай... бросьні, у гэтай ціне... Нет! Пускай Павал прыезжае і я перад ім пастаўлю вапрос рубам: пасьледні раз, апошні раз"...

Гэты твор пісаўся для тэатру. І што было-б, каб гэтую мову чулі тысячы людзей з тэатравай сцэны? Ці не прысадзіў-бы ён дарэшты нашу пакутную культуру літаратурнае мовы? І ці сапраўды, гэтакія гэроі, з такою моваю, павінны займаць цэнтральнае месца? Увайшоўшы ў літаратуру з правам цэнтральных гэрояў, яны ўносяць у яе і свой жаргон. А сапраўдны цэнтральны гэрой нашае літаратуры — селянін і рабочы, якія захавалі і стварылі надзвычайную культуру свае мовы ў шмат якіх „вышэйшых формах культуры"—маўчаць. Або вось у адным творы апісваецца інтымная блізасьць мужчыны і жанчыны, цэнтральных гэрояў твору. Дык яна кусае яго і крычыць: „Бог мой, мучыцель мой!" А сапраўды—ці цэнтральныя-ж гэта гэроі нашае літаратуры?!

У расійскага пісьменьніка К. Федзіна, у романе „Города и годы" кватэрная гаспадыня, немка, гаворыць: „Я тафно тумаль, что он змешалься! О, это ушасни"! Што-б гэта было, каб К. Федзін зрабіў цэн-

гральным героем свайго твору гэтую немку і каб увесь роман, або хоць палавіна яго, была напісана ў гэтакай мове? А ў нас гэтак пішуць.

Самі аутары не клапоцяцца пра *беларускую* культуру беларускае мовы. А іх гэроі дарэшты глумяць гэтую культуру. „Лунныя лапы“ жывуць і ўкараняюцца.

І гэта ня выпадак з двума ці трыма літаратарамі. Гэта цэлая плынь у нашай літаратуры. Прадстаўнікі гэтае плыні даводзяць, што літаратар не павінен клапаціцца ні пра мову, ні пра стыль свайго твору. Ен можа абы як перадаць сюжэт. А стыль і мову яму зробяць і выправяць выдавецтвы і рэдакцыі.

...„Наагул, нашым сучасным выданьням бракуе пэўнай стылістычнай апрацоўкі — рэдакцыі. Тут ясна, што сам аўтар ня можа быць рэдактарам сваіх твораў. Думаецца, што пры налаѕанай стылістычнай рэдакцыі шмат якія творы, што цяпер выкідаюцца Дзяржаўным Выдавецтвам без абы якой рэдакцыі, мелі-б больш адшліфаваны, гожы выгляд“... („Полымя“ № 7 за 1927 г., бал. 254.).

Ѕе гэта ёсьць, каб культурны пісьменьнік дазволіў каму-небудзь правіць стыль і мову свайго твору? Стыль і мова—гэта-ж выяўленчыя мастацкія сродкі пісьменьніка. Ніякіх-жа стыляў тады ня буѕе, а буѕе „наогул“. І хоць шмат таго, што друкуецца ў некаторых нашых „гоўстых“ часопісах, пускаецца на ўзьвей вецер, усё-ж гэтая прапанова паказвае на ўзровень культурнасьці ў некаторых нашых інстытуцыях, што падручыліся фармаваць вялікую культуру гушчаў беларускіх сялян і рабочых. І як далёка яны асталіся ад гэтай культуры!

Пролетарскі зьмест і нацыянальная форма культуры! Мы думаем, што для нашае культуры гэта павінна быць: пролетарскі зьмест і беларуская форма. А гэтае беларускае формы і заваду няма. У літаратуры — кірункі мовы, фразэолёгія, а значыцца, і стылі цалкам пераймаюцца чужыя.

Літаратурная мова павінна быць моваю чыстаю, беларускую. Карэньні яе—у мове народнай. Літаратары павінны навучыцца моўна думаць пабеларуску. Яны павінны абуѕіць у сабе або пастарацца успрыняць (калі не давялося мець яе змалку) беларускую моўную стыхію. Бо калі гэтага ня буѕе, яны будуць, як і цяпер, шкоѕіць нацыянальнай форме культуры. Беларуская фразэолёгія ў беларускай літаратурнай мове буѕе спрыяць вырашэньню проблемы *беларускага* стылю нашае пасьлякастрычнікавае літаратуры.

Уладімер Дубоўка

# Беларускі згук „ꙅ“ і літара „Ѕело“

1

Беларуская мова надзвычайна багатая на гукі як галосныя, так і зычныя. Бадай усе гукі, пашыраныя ў эўропэйскіх мовах, ёсьць у мове беларускай, у яе гукавым альфабэце. Есьць у нас і згукі ꙅ і ɑ [1]). Шт датычыцца згуку ꙅ, дык мы маем яго ў падвойным выглядзе: цьвёрды (ꙅогаць, ꙅынкаць) і мяккі (ꙅёгаць, ꙅінькаць). Паўстае запытаньне, ці зьяўляецца гэты згук самабытна-беларускім, ці ен запазычаны ад суседніх народаў?

Гэтая асаблівасьць нашае мовы, поруч з мяккім *ц*, як зазначыў яшчэ І. Неꙅешоў, ні для украінскае, ні для расійскае мовы не ўласьціва. „Где оно встречается за пределами белорусского наречия, там следует предполагать белорусских выселенцев“ [2]).

Магчымасьць заходняга, г. зн. польскага ўплыву адмаўляе І. Неꙅешоў, Е. Ф. Карскі і інш., сьцьвярджаючы, што характар беларускага ꙅ розьніцца ад характару польскага *dz* [3]). Калі гэтая асаблівасьць зьявілася ў беларускай мове і як яна адзначалася на пісьме?

І. Неꙅешоў на першае пытаньне адказвае так: „несомненно, что дзеканье и цеканье в XVI в. существовало в белорусском наречии на что имеются свидетельства памятников“ (да гэтага і дадае ꙅьве балоны прыкладаў [4]). Прыблізна такжа кажуць і іншыя дасьледчыкі беларускае мовы [5]). Пра час да X—XII ст. ст. матар‘ялаў няма зусім Апрача іншых варункаў, да гэтага прычынілася і тое, што рукапісы і наогул помнікі старадаўнага беларускага пісьма, асабліва пісаныя глаголіцай, калі яны наогул захаваліся былі да XII ст., зьнішчыла царква.

Ці нельга знайсьці якія-небудзь матар‘ялы ў іншакраёвых пісьменьнікаў таго часу, у грэцкіх і арабскіх? Аджа беларусы гандлявалі са многімі народамі, бывалі і ў Бізантыі, дахоꙅілі аж да Багдаду.

[1]) Тэрмін „згук“ ужываецца мною замест „афрыкаты“. Ен-жа з далучэньнем слова „галосны“ ужываецца і для слова „дыфтонг“. Адносна гэтага гл. мой артыкул „Проэкт літар для згукаў „дз“ і „дж“, „Узвышша“, № 4 (10), 1928 г.. б. б. 164—165.

[2]) И. Недешов—„Исторический обзор важнейших звуков и морфологических особенностей белорусских говоров“, Р. Ф. В., 1884, № 3, т. XII, б. 28.

[3]) Там-жа, б. 27, а ў Карскага—ў „Беларусах“. напр. т. I, б. 168.

[4]) Там-жа, б. 28.

[5]) Гл. наконт гэтага ў акад. Е. Ф. Карскага „Беларусы“, т. I, б б. 166—168. Некаторыя, як, напр., акад. А. Сабалеўскі, зусім памылкова набліжалі гэты час, пераносячы яго на XVI ст. („приблизительно в XVI в. начался переход в западных говорах... мягкого *д* и *т* в ꙅ и *ц*“—вынятак даꙅены ў Карскага, б. 166).

У грэцкіх пісьменьнікаў мы ня можам знайсьці дакладнага адзначэньня гэтага згуку, бо для грэцкае мовы ён чужы. Z, якой надаецца некаторымі значэньне ȡ, выражае зусім іншы згук.

З гэтага боку для нас больш цікавы творы арабскія, бо ў арабскай мове ёсьць згук, аналёгічны нашаму цьвярдому ȡ, які перадаецца літараю ذ (ȡал).

Аȡін арабскі пісьменьнік пачатку X ст. Аль-Масуд‘і (Абуль Хасан ібн Хусэйн), гаворачы пра экспэдыцыю русаў на поўȡень у 913 г. зазначае, што „русы складаюцца з многіх народнасьцяй. Самае вялікае племя іх, кажа ён, завецца اللوذعانة („Эль люȡ(і/а)на“) — гандлюе з Гішпаніяй, Рымам, Константынопалем і Хазарамі“. Другі пісьменьнік пачатку X ст.—Ібн-Даста—дапамагае нам дакладна ўстанавіць абшары, на якіх жылі „русы.“—„Што датычыцца да Русі, дык знахоȡіцца яна на высьпе, абваколенай возерам. Акружнасьць гэтае высьпы, на якой жывуць яны, русы, раўняецца тром днём дарогі; скрозь на ёй лясы і балоты; нездаровая; а вільготная да таго, што даволі толькі наступіць на зямлю, а яна ўжо і трасецца з прычыны вялікага збытку ў ёй вады“. Што гаворыць нам гэтае апісаньне? Чытаючы яго, перад вачыма ў кожнага адразу-ж паўстане наша Палесьсе. Возера, пра якое пісаў Гэродот, таксама згадваецца нам пры гэтым апісаньні[6]). Цікава параўнаць сучасны матар‘ял.—„Оказывается, что в доисторические времена и отчасти может быть в исторические на месте Полесской низменности был огромный водный бассейн, что подтверждается как геологическими данными (береговыми озерными отложениями), так и различными находками вроде якорей и пр.[7]). Агульна-вядомы факт і наконт таго, што цераз Беларусь праходзілі галоўныя гандлёвыя шляхі, шлях „з вараг у грэкі“ і г. д. Такім чынам, ужо нават гэтыя кароткія тлумачэньні дазваляюць зрабіць вывад, што гутарка ішла пра сучасную беларускую этнографічную тэрыторыю, што найбольшая частка насельніцтва выразна называла сябе *люȡі*. Хто-ж такія гэтыя русы і гэтыя люȡі? Усе даныя гавораць за тое, што гэта былі беларусы[8]). Калі ȡ было ў назьве народу, дык тым больш было яно ў мове, наогул. Такім чынам, даўнасьць наяўнасьці ȡ у беларускай мове устаноўленай акад. Е. Ф. Карскім на XIII — XIV ст. ст., адсуваецца да IX—X ст. ст. Калі ȡ было ў беларускай мове ў IX—X ст. ст., было

---

[6]) Гаворачы пра краіну буȡінаў (ці не пра тых самых „люȡей“ павінна была ісьці гутарка?)—Гэродот у IV кнізе сваёй гісторыі кажа: „у іх краіне вельмі шмат самага рознастайнага лесу. У найвялікшым з лясоў знахоȡіцца вялікае возера, абваколенае балотам і трысьцём“. Больш падрабязна пра гэта ў акад. Е. Ф. Карскага, „Беларусы“ т. I, б. б. 35—40.

[7]) Верхнее Поднепровье и Белоруссия, Россия, т. IX, б. 9.

[8]) Расійскі комэнтатар, тлумачачы слова „эль люȡ(і/а)на“ каб датрымацца афіцыйнай тэорыі пахаджэньня расійскага царства, дайшоў да таго, што ператлумачыў яго ў „норманы“ (sic!). Не ўдалося яму толькі прыстасаваць апісаньне Палескіх балот да нарвэскіх ні якіх фіёрдаў... Дарма! Другі вучоны пачаў быў даводзіць, што ў арабаў апісваецца... Данія. Пра ўсё гэта я пастараюся даць падрабязны матар‘ял у адмысловым артыкуле.

ў XVI і ёсьць зараз, дык можна меркаваць, што было яно і заўсёды. Як-жа яно перадавалася на пісьме?—У глаголіцы быў адмысловы знак для дз (ӡ). Але паколькі рукапісы пісаныя пабеларуску глаголіцай да нас не дайшлі, мы нічога ня можам сказаць пра перадачу ў ёй ӡ. Малая колькасьць глаголічнага матар'ялу, якая захавалася да нашага часу, не дае падставы рабіць абагульненьні. Усё-ж, некаторыя зьвесткі мы маем [9]). Няма ӡ і ў рукапісах кірылічных. Словы, сказаныя акад. Я. Гротам адносна кірыліцы на расійскай глебе, цалкам датычаць і нас.— „То обстоятельство, что для нашего письма служит азбука, изобретенная для другой, хотя и близкой, однако-же во многих отношениях своеобразной фонетики, было причиною, что наше правописание приняло преобладающий исторический или этимологический характер“ [10]).

Ӡякуючы гэтаму, асаблівасьці беларускае мовы трапялі ў пісьмо толькі праз памылку перапішчыкаў, чым і тлумачыцца малая колькасьць слоў, напісаных цераз ӡ [11]). І. Неӡешоў дае такое тлумачэньне на гэтае пытаньне.—„Факты есть: дзеканье и цеканье встречаются в письменности XVI в., но я не решаюсь утверждать, что оно и явилось в XVI в. Оно могло жить в языке издавна, не будучи отмечаемо в письменности вследствие консервативного характера последней и того обстоятельства, что *з* и *с* в ӡ и *тс* (ц) не звучат с резкою определенностью“ [12]). Ня менш цікава, але больш выразна гаворыць наконт гэтага акад. Е. Ф. Карскі.—„Дзеканье и цвяканье несомненно было свойственно и старому западно-русскому наречию; только старинные писцы всячески избегали обозначать это особое произношение мягких *д* и *т*, стараясь употреблять историческое письмо, иногда, может быть, даже с целью отличить его от польского письма; по крайней мере в „Аристотелевых вратах“, памятнике особенно интересном для характеристики западно-русских особенностей в языке, в одном месте приводятся в русской транскрипции польские вирши: и здесь писец всячески старается избегнуть употребления ӡ, *ц* (и рж) иставит *д*, *т* (и р). Вследствие указанного обстоятельства примеров на данное явление вообще встречается немного, особенно, если исключить из них те, в которых можно видеть полонизмы“ [13]).

[9]) Глядзі, напр., В. Щепкин „Листки Ундольского“, Р. Ф. В., 1902, №№ 3 и 4, б. 257.

[10]) Акад. Я. К. Грот—„Спорные вопросы русского правописания“, 1876, б. 132.

[11]) Параўнуйце ў проф. Брандта—„Правильно понимаемая наука может только сочувствовать звуковому правописанию: как часто нам приходится жалеть, что такое письмо не господствовало во все времена и у всех народов! Сколько раз мы, читая рукописи или надписи, задаем себе неразрешаемый вопрос, каково было произношение их писцов, спрятанное под искусственной орфографией. Как рады мы, когда нам попадается писец безграмотный, проговорившийся этим произношением“ („О лженаучности нашего правописания“. Филолог. записки, 1901 г., б. 26).

[12]) Цытаваная ўжо праца, б. 30.

[13]) Е. Ф. Карскі—„К истории звуков и форм белорусской речи“. Варшава, 1893, б. б. 234—235.

Арабскі альфабэт, які мае ў сваім складзе ꙃ, ізноў прыхоꙃіць нам на дапамогу, каб пасьведчыць наяўнасьць ꙃ у беларускай мове XV—XVII ст. ст. Больш таго, заўважыўшы, што агульна-пашыранае ꙃ нашае мовы розьніцца ад арабскага ꙃ (ꙃал), татары, якія пісалі пабеларуску арабскімі літарамі, увялі былі адмысловы знак для нашага „ꙃ“ [14]).



У зьвязку з пашырэньнем і паглыбленьнем працы Беларускай Акадэміі Навук, на чаргу стане пытаньне адносна прынцыпаў транскрыбаваньня старых тэкстаў сучасным шрыфтам. Паколькі пры гэтым не перадаюцца ўсе знакі старога пісьма, павінен быць узяты спосаб перадачы беларускімі літарамі вядомых гукаў, як, напр., ꙃ.

II.

Нехта, можа нават для жарту, пусьціў пагалоску, што знак ѕ (зело), які знахоꙃіўся ў кірыліцы на становішчы „бяспрытульнага“, ужываўся на Беларусі для перадачы ꙃ. Пасьля мы пабачым, куды дакацілася гэтая пагалоска. Зараз-жа высьветлім значэньне і пахаꙃэньне ѕело.

Ѕело ўвайшло ў кірыліцу з грэцкага альфабэту (д'ігамма) у якасьці лічбы. Мелеці Сматрыскі ў сваёй граматыцы адносіць яе да катэгорыі „странных“, г. зн. чужых („са стараны“) пісьмен [15]). Толькі ꙃеля чысла,

[14]) Кароткая бібліографічная нататка наконт гэтага даꙃена ў згаданым ужо маім артыкуле „Проэкт літар для згукаў „дз“ і „дж“. Там-жа даꙃены і літары.

[15]) Грамматі́ки славенскиѧ правилное сѵнтаⷢма.... Мелетіѧ Смотрискогѡ, у Эўю. 1619 г.

адзначаючы „шэсьць“, прынята гэтая літара з грэцкага пісьма. „Слаке(н)ском8 азык8 излишное, долгх его з накершающ8“. Магчыма, што так разумелі ѕело толькі на Беларусі. У кожным разе, у скарапісі гэта было так,—„S в московской скорописи обычно и в качестве буквы, как это было и в младшем полууставе, в Литовской скорописи S встречается как цифра“ [16]). Трэба прыгадаць, што праз увесь час на Беларусі наша сучаснае *з* пісалася як грэцкае Z. Што датычыць напісаньня *з*, дык яно, паводле тлумачэньня Мелецiя Сматрыскага, ужывалася ў значэньні згуку *дс* [17]).

Гэты згук, ёсьць і цяпер у нашай мове, у склонавых канчатках, пры пераходзе *г* на *з* (параўнуйце народную вымову: на пароз*е*, на бераз*е* і да т. п.) [18]). У македонцаў гэты згук бадай што набліжаецца да поўнага ꙁ, не даючы тойсамасьці. Некаторыя дасьледчыкі і гатовы былі паставіць між імі знак роўнасьці. Так, А. Гільфэрдынг можа быць тыповым прадстаўнiком такой блытаніны: „из букв прибавочных, близкие по звуку к греческим поставлены подле их, *б* перед *в*, *ж* и ѕ (читалось первоначально как *дз*) перад *з*“ і г. д. У заўвазе да гэтага сказу ён крыху папраўляецца, але ня зусім.—„Замечу кстати, что буква ѕ имеет значение только для наречия македонских болгар: они доныне выговаривают не *з*, а *дз*, где в древнейших кириллoвских памятниках пишется ѕело, напр., дзвѣзда“... „Разумеется, это *дз*, которое изображалось древним ѕело, не имеет ничего общего с польским и белорусским смягченным *дз*, позднейшею формациею из звука *д*“ [19]).

Тут можна згадзіцца толькі з адным: македонскае *з* ня ёсьць беларускае ꙁ. Што датычыцца самога македонскага ѕ, дык яно вельмі набліжаецца да беларускага народнага ѕ, пра што ўжо было казана [20])

---

[16]) Е. Ф. Карскі—„Очерк славянской кирилловской палеографии“, Варшава. 1915 г. б. 105.

[17]) Далейшыя выказваньні на гэтым пытаньні концэнтруюцца ўжо ля літары ѕело Збор усіх такіх выказваньняў знаходзіцца ў працы акад. Ягіча „Рассуждения старины о церковно-славянском языке“ („Исследование по русскому языку“, т. I. б. б. 289—1023). Цікавыя заўвагі ў матар'лах праз усю працу, пар. і б. б. 727. 802.

[18]) У некаторых рукапісах у такіх выпадках ужывалася ѕело. „Между тем из древнейших глаголических памятников Зографское, Ассеманово, Мариинское евангелия, можно сказать, с последовательною точностью употребляют этот знак не только как числительное, но и в корнях некоторых слов, например ѕѣло, ѕвѣзда и в грамматических формах,— напр., боѕѣ, ноѕѣ, лоуѕѣ, мѫноѕи, дроуѕѣмъ, крѫѕи и проч. В тех-же приблизительно случаях ѕ употребляется и в кирилловских: Болонской псалтири, Погодинской, Охридском апостоле и др. (М. Козловский, „О языке Остромирова евангелия“. Иссл. по русск. языку, изд. Ак. Н., т. I. б. 8).

[19]) А. Гільфэрдынг. Собран. соч, т. I, б. 318.

[20]) Гэта сьцьверджаньне патрабуе праверкі. У кожным разе цікава прасачыць, ці няма тут сувязі з наступным фактам.—„Был... один зарегистрированный в истории случай, когда часть белорусского племени дреговичей оставила свою территорию, пробилась на Балканский полуостров и поселилась там возле греческого города Салоник. Греки называли их „другувитами“, а язык их „другувитским“ („Белорусская ССР“, выданьне СНК БССР, 1927 г., Менск, б. 22).

У кожным разе, калі ѕело і ўжывалася ў якасьці літары, яно мела адмысловае прызначэньне: перадаваць згук *дс*, які М. Сматрыскі радіў перадаваць літараю *з*.

Падобнае знаходзім у ранейшай граматыцы—у Лаўрына Зізаняга—дзе аб'ядналюцца абедзьве літары. Пасьля, як бачым, недакладнасьць гэтая была папраўлена М. Сматрыскім. Між іншым, у агульна-вядомай працы П. В. Ўладімірава „Доктор Франциск Скорина“ выказана было меркаваньне, што „быть может в этом об'яснении скрывается интересное указание на белорусское „дз“. Як бачым, гэта зусім ня так[21]).

Паколькі ня было патрэбы ў гэтай літары Ѕ, яна і ўжывалася ў якасьці чысла пераважна. Толькі ў некаторых рукапісах знаходім мы яе ў якасьці літары. У такім разе для чысла ўжываецца адваротны знак (накшталт рукапіснага г)[22]).

Пасьля, каб упарадкаваць напісаньне Ѕ, даць яму мейсца, старыя граматыкі зланжылі пэўныя правілы. Пра гэтыя ўсе правілы і пра ўзаемаадносіны літар Ѕ і З ёсьць багата літаратуры, частку якой я ўжо згадваў[23]).

Трэба зазначыць, што самыя правілы наконт словаў, у якіх трэ' было пісаць Ѕело, да XVIII ст. шмат разоў перайначваліся. Часам забаранялася пісаць з гэтаю літараю словы зьвязда і г. д.

---

[21]) Да чаго часам давоңяць і некрытычныя адносіны да матар'ялу, паказвае такі кур'ёзны выпадак.—

Менскі дасьледчык Воўк-Левановіч, пераніцоўваючы для свайго артыкулу „Мова выданьняў Францішка Скарыны“ (зборнік Інстытуту Беларускае Культуры—„Чатырохсотлецьце беларускага друку“, Менск, 1926 г.) адпаведныя разьдзелы з працы Ўладімірава, перапісаў і гэта мейсца спасылаючыся тым часам на першакрыніцы.— „У граматыцы Лаўрэнція Зізанія (а за ім і ў Сматрыцкага) ёсьць нават як-бы паказаньне на беларускі гук *дз* у тым месцы, дзе гаворыцца аб складаных зычных, якія пішуць „сугубымі пісьменамі“, да ліку якіх адносяцна побач ѯ (ксі), *щ* (шч) і ѱ (псі). таксама З, ѕ = „сд“, дзе *сд* зьяўляецца проста няўмелым напісаньнем гуку „*дз*“ (зборнік, б. 265). Якая самаўпэўненасьць і... няпісьменнасьць! Каб больш ясна давесьці гэта прыгадаю: 1) у М. Сматрыскага, як ён сябе зваў, а не Сматрыцкага, як яго кліча Воўк-Левановіч, ѕело знаходіцца толькі ў ліку т. зв. „странных“, а не сугубых пісьмён; 2) у М. Сматрыскага стаіць ужо *дс*, а не *сд*, як гэта здалося Воўк-Левановічу; 3) згук *дс* паводле М. Сматрыскага, перадаецца літараю З, а не ѕ, як гэта тлумачыць Воўк-Левановіч, мае вельмі мала агульнага з ꙅ. Такім парадкам сам сабой напрашваецца вывад што нашы выдатныя беларускія граматыстыя Зізані і Сматрыскі, у якіх вучыўся пісаць граматыку і расійскі Ламаносаў, вельмі добра ведалі сваю справу. „Няўмелымі напісаньнямі“ не компромэтавалі выданьняў Інстытуту Беларускае Культуры.

[22]) Е. Ф. Карскі.—„Особенности письма и языка рукописного сборн. XV в., именуемого летописью Авраамки“, Варшава, 1899, б. 4.- М. Казлоўскі—цытаваная ўжо праца наконт Остромірова Эвангельля, б. 6—7, а так-жа праца акад. Ягіча „Рассуждение старины о церковно-славянском языке“.

[23] Гл. яшчэ—„Разговор между чужестраннымъ человѣком і россійскімъ об ортографіі старінной і новой і о всемъ, что прінадлежітъ къ сей матеріі“, б. б. 54—55.

## III.

Пытаньні мовы, пытаньні наконт правільнай перадачы гукаў на пісьме з кожным днём усё больш будуць прыцягваць нашу ўвагу. На павестку дню пастаўлена ўжо адно пытаньне—пра літары для згукаў *дз* і *дж*.

Вельмі прываблівым для некоторых было-б вырашыць першае пытаньне шляхам уваскрошаньня псэўдо-ӡ—Ѕело — на беларускай глебе.

Ад падобных ляпсусаў не застрахавана нават такая паважная інстытуцыя, як Украінская Акадэмія Навук: пазалетась на украінскай акадэмічнай конфэрэнцыі Ѕ было прынята ў украінскі альфабэт якраз для ӡ і толькі пад напорам украінскае граматкасьці было пасьля скасавана.

Тым больш магчымы такія ляпсусы ў нас, пра што мною ўжо адзначана (с. 189, увага 21).

Якія-ж вывады трэба зрабіць з усяго сказанага ў гэтай нятатцы адносна ӡ і Ѕело?


ѻрѳографїѧ Д
Колико есть Простыхъ; к, и а. б в г д ж к л м н п р с т ф х ц ч ш ъ ь ѳ.
Чесоради простая нарицаются; Понеже ни ѿ коихъ иныхъ съставляются, но сами ѡ себѣ сутъ, и сего ради простая нарицаются. Яко, б в. и прочая.
Колико есть сугоубыхъ; пѧть. ѕ д, ѯ с, щ ч, ѱ с,
ѕ ѯ ӡ щ ѱ.
Чесоради сугоубая нарицаются; Понеже не сами ѡ себѣ, но ѿ иныхъ писменъ състоятся. Ибо ѕ. ѿ с, и д, съставися. и ѯ, ѿ с, и д, такожде. ӡ, ѿ к, и с, съставлено. щ, ѿ ш, и ч. ѱ, ѿ п, и с, съставися.
Колико есть Дїфѳонгѡвъ;

1. Згук ӡ у беларускай мове зьяўляецца згукам спрадвечным і самабытна-беларускім. У кожным разе, наяунасьць яго ў нас пасьведчана ад X ст. да гэтых дзён. У беларуска-арабскім пісьме ён перадаваўся цераз адмысловы знак. У старым беларускім пісьме, ӡякуючы недасканаласьці кірыліцы, згук гэты перадаваўся толькі цераз „д“. Часам праз памылку перапішчыка, траплялa напісаньне „дз“. Іншымі літарамі гэты згук не перадаваўся.

2. Літара Ѕ ніколі не выражала сучаснага беларускага згуку ӡ. Часам яна ўжывалася для перадачы беларускіх мясцовых адценьняў гуку *з*—згуку *дс*—у склонавых канчатках, пры пераходзе *г* на *з* (нага—

назе, дарога — дарозе і г. д.). У такім толькі выпадку яго і можна было-б ужываць у беларускай мове, калі-б мы захацелі мець аналітычны альфабэт.

3. Гутаркі наконт тойсамасьці зело і *дз*, як зусім беспадстаўныя, трэба пакінуць назаўсёды.

13 кастрычніка 1928 г.
г. Масква.

---

# Корэктывы да слова „маецца“.

Чытаючы розныя даклады і справаздачы ў газэтах, а таксама і кнігі, вельмі часта прыходзіцца спатыкацца з словам „*маецца*“ ў яго розных адменах і асабліва з формаю „*маецца*“. Трэба сказаць, што слова гэтае, само з сябе досыць прыгожае, ужываецца ў газэтна-літаратурнай мове няправільна, а часам і зусім недарэчы, чым псуе прыгожасьць беларускае мовы і надае фразе зусім іншы зьмест. Як прыклад гэтае недарэчнасьці, тут можна падаць гэткія ўзоры:—у нас *маецца* мажлівасьць пабудаваць..., *маецца* некалькі лішніх рублёў, *маецца* некалькі сьпісаў беларускай рэдакцыі гэтага твору і г. д. Усе гэтыя выразы, а такіх ёсьць шмат, паказваюць, як някрытычна прынятае слова з расійскае мовы ў беларускую блытае сэнс апошняе. Аўтары прамоў і артыкулаў, прывыкшы да расейскага „имеется“, перадаюць сэнс беларускага „ёсьць“ гэтым словам, і ўпэўнены, што гэта пабеларуску; між тым для выражэньня паняцьця „имеется“, уласьцівага расейскай мове і зусім не ўласьцівага беларускай, у народнай беларускай мове ўжываецца толькі тэрмін *ёсьць*. Селянін ніколі не скажа:—у мяне *маецца* конь ці карова, а скажа:—у мяне *ёсьць* конь ці карова. Слова „маецца“ (мецца) ёсьць у беларускім лексыконе, але яно выражае зусім іншае паняцьце, як расейскае „имеется“. Мецца—у якім стане знаходзіцца; у такім паняцьці гэтае слова шырока распаўсюджана па ўсім абшары беларускай зямлі і ў гэтакім значэньні яго трэба ўжываць і ў літаратурнай мове. Беларус-селянін, а таксама і інтэлігэнт, што ведае добра беларускую мову, спаткаўшыся з сваяком, прыяцелем ці проста добра знаёмым папытаецца: — „як *маешся?*“ Гэта азначае: як тваё здароўе, у якім стане? і наогул як ідзе тваё жыцьцё, справы.—Як жонка твая *маецца*, дзеткі?— „Дзякую жыву памалу, як ты сабе *маешся?*“ Ёсьць і іншы сэнс слова *маецца*. У контэксьце слоў: „Меўся (меў сабе) сёньня паехаць у лес, але малаціць трэба,—хлеб на сходзе“,—*меўся* выражае паняцьце *думаў*, *хацеў*, *меркаваў* паехаць у лес (але другая работа прысьпела). Тое самае паняцьце будзе і ў выразах:—„Меліся прадаць карову, але перадумалі,—меліся абгаварыць гэтае пытаньне на сходзе“. У фразе—„паеду на вакзал па брата,—маецца сёньня прыехаць“, гэтае слова ўжо паказвае на некаторую павіннасьць (маецца=павінен прыехаць, параўн. а пісар земскій маеть по руску пісаті—Літ. стат.).

Як бачым з гэтых прыкладаў слова *маецца* ў гутарцы народу ні ў якай меры не адпавядае расейскаму *имеется*, а значыць, у значэньні апошняга яго нельга дапускаць і ў літаратурнай мове. Ужываньне „*маецца*“ ў значэньні „*ёсьць*“ у беларускай мове робіць блытаніну паняцьцяў. Бо што азначае фраза: „у нас маецца мажлівасьць зрабіць“? Пабеларуску гэта будзе—у нас *у якім стане знаходзіцца* зрабіць“, або „у нас *як жыве, як яго здароўе* зрабіць“—сапраўдная бяссэнсіца Вось чаму і патрэбна выкінуць гэтае слова з ўжываньня ў нашай літаратурнай мове Літаратурная мова можа дапусьціць (і павінна) выразы: маецца выдаць (мае на ўвазе) кніжку; маецца выехаць (павінен, хоча), але ні ў якім выпадку ня можа дапускаць выразаў падобных да: маецца пяць руб., мажлівасьць, пэрспэктывы і г. д., бо гэта—чысьцюткая бяссэнсіца.

**Я. Бялькевіч.**

---

# Заўвага пра чужыя словы і звароты.

1. Слова „зараз“ у нашай літаратурнай мове ўжываецца няправільна, ня гэтак як у народнай. Выраз „Мы зараз маем пастанову Саўнаркому БССР“...—бяссэнсіца паводле жывой мовы народу (беларускага, вядома). І толькі тады льга будзе яго зразумець калі „зараз“ (у гэтым выпадку) замяніць словам „цяпер“. Можна сказаць або „Мы *зараз будзем мець* пастанову“... альбо „Мы *цяпер маем* пастанову“... У нашай літаратурнай мове ўжо ўвайшло ў традыцыю ляпіць гэта слова ўсюды, дзе толькі льга-б было сказаць па расійску „сейчас“. А на вёсках (як у нашым раёне, так і ў другіх: ад сялян Магілеўшчыны, Віцебшчыны, Случчыны, з каторымі мне даводзілася

сустракацца, я ні разу ні чуў слова „зараз“ у цяперашнім часе (гэта слова ўжываецца толькі ў будучым часе).

Калі сур'ёзныя беларускія часопісі глухі на адно вуха да жывой мовы народу (тая фраза ўзята з „Полымя“ № 2 за 28 г.), дык пра газэты і казаць няма чаго. Там гэта, дзе ні глянь. Селяніну, каб зразумець „нядбайству й цеганіне зараз ня месца“(„Беларуская Вёска“ - лепшая сялянская газэта!), дык „тлумача трэба мець“.

2. Гэтак сама перакладаюць і расійскі выраз „обратить внимание“. І выходзіць „па беларуску“—зьвярнуць увагу. Ня ведаю як дзе, а ў нас кажуць (калі трэба ўжыць гэта слова, а не пералажыць) „узяць увагу“ на што ці на каго, або „мець увагу“ на каго. Апошні выраз ёсьць і ў Я. Коласа „А бацька браў блінцом спавагу, бо на Антося меў увагу“. (Новая Зямля, раз. III). Здэцца, што гэтак і прыгажэй і больш зразумела.

3. Акрамя таго, чым рабіць пераклады, лепш было-б унесьці ў літаратуру самабытныя звароты мовы, якімі гавораць сяляне розных куткоў Беларусі. Вось прыклады гэтага, фразы ўзятыя з вуснаў народу: „Касцом саўхоз *даў* за работу дзесянціну санажаці *ў грашах*“ (г. зн., што не даплаціў грашыма, затое санажаці даў) ці: „*Аб адным хлебе* жыў будзеш, а папробуй пажыць *аб капусьце*“.

Іх нельга падпісаць пад адпаведнымі расійскімі выразамі, каб прыходзілася слова ў слова і, нават, парадку не зьмяніць, але-ж затое яны — нашы нацыянальныя звароты мовы.

**К. Вашына.**

(Вёска Скварцы каля Койданава, на Меншчыне).

# Кнігапіс.

**Васіль Стефаник**. *Твори Державне Видавництво України.*

Лёс Украіны апошнія стагодзьдзі быў падобен да лёсу Беларусі. Аднолькавая падвойная няволя была ў гэтых краінах—соцыяльная і нацыянальная. Заходняя Украіна гэтак сама, як і Заходняя Беларусь, аднолькова перажываюць і цяпер гэтую няволю.

Васіль Стафанік—поэта Заходняе Украіны. Гэта поэта замучанага вякамі сялянства. Таго сялянства, якое вечна церпіць голад, вечна працуе на пана і чыноўніка.

Свае зямлі ў беднага сялянства Заходняе Украіны мала. Яе прыбіраюць да сваіх рук—паны, духавенства і заможнікі. Сялянская гаспадарка драбнее і зьнішчаецца. І самі „гаспадары"—робяцца, парабіліся жабракамі.

Калі чытаеш гэтую кнігу Васіля Стафаніка (збор навэль і апавяданьняў). дык забываеш, што гэта кніга, а не само жыцьце. Як жывыя праходзяць перад табою страшныя малюнкі чалавечых пакут, змучаная душа гэтых пакутнікаў. Поэта падымае заслону перад чалавечаю душою і паказвае—якія вялікі і глыбокі сьвет там, у чалавеку. У гэрояў Васіля Стафаніка няма „звычайнага" стану ў іх настроях, характарах. Яны ўсе знаходзяцца ў стане тэй духоўнай напружанасьці, якая бывае толькі ў якія-небудзь нязвычайныя моманты жыцьця. Бо й сапраўды, само жыцьцё гэтых гэрояў ёсьць тая нязвычайнасьць, тая ненармальнасьць, якая хоць і зьяўляецца спадарожнікам чалавеку з пялёнак і да труны бесьперарыўна, але ніколі ня можа стаць звычайнасьцю. Голад, напрыклад, заўсёды будзе ненармальнасьцю, колькі-б чалавек не галадаў.

Васіль Стафанік—ня пісьменьнік быту. Хутчэй яго льга назваць тварцом псыхолёгічнае новэлі. Ён не расказвае пра бытаваньне сваіх гэрояў, ён бярэ які-небудзь адзін момант, заўсёды характэрны і тыповы, і яго гэроі дзейнічаюць, гаворачь. І гэткім спосабам яны паказваюць самі чым, і як яны жывуць.

Страшныя малюнкі хворае напружанасьці чалавечае душы праходзяць перад чытачом. Напружанасьць, якая хоць і не дае чалавеку спакою ўсё жыцьцё, усё-ж ня можа стаць абыклаю.

**Апавяданьне „Кленові листки".**

У чалавека нарадзіўся сын. Але чалавек гэты—адвечны нявольнік. Гэта селянін. які працуе больш усяго на панскай зямлі, бо свае мае столькі, колькі хапае для таго. каб цяжка і шмат рабіць на ей і ніколі ня мець свайго хлеба. Дык і нараджэньне сына для гэтага чалавека ня радасьць, а няшчасьце. Ён гэта й гаворыць суседзям, якія сабраліся на радзіны. Ён недзе дастаў гарэлкі і хлеба. частуе суседзяў і бядуе, што вялікае няшчасьце спасьцігла яго. Бо якую долю ен дасьць свайму дзіцяці? Бо няўжо гэта бацьку радасьць, што дзіця яго неўзабаве або зойдзецца з голаду і бяз догляду, або будзе ўзрастаць на пацеху багатым—з малых год парабкам, нявольнікам? Ён сумуе, бядуе бо ў хаце ямчэ й бяз гэтага сядзяць галодныя дзеці і ляжыць ледзь жывая пасьля радоў маці гэтых дзяцей. Ён. страшэнна любячы сваіх гэтых бедакоў-дзяцей, хварэючы душою і сэрцам над імі, над тым, што з першых дзён жыцьця свайго спаткалі яны пакуту, гаворыць: „Та чому не летите з моэі голови? Я вам розчиню й вікна і двері. гай!

Діти засунулися на піч так, що іх не було вже видно.

— От сарана, ліш хліба та й хліба, та й хліба! А відки-ж я тобі таго хліба наберу?!!"

І яшчэ гаворыць пра сябе:

— ... А ў вечар, лиш пакажешся до хати такий, як віхоть, а вони тобі водин голос... і жінка і діти: „нема хліба!" Та й ти не не йдеш, бідний чоловіче, спати, але ти цягнеш ціп та й молотиш напотемки...

І там работа зваліць яго на ток, гэтак ен перабудзе ноч, а раніцаю ўстае зноў рабіць „тахий чорний, що сонца перед тобою меркне".

А дзіця тое!

„... Я не чекаю, щоб воно убралося в силу... щоб воно коло мене нажилося. Коби лиш богач або пан раззявів пащеку, то я його туды кидаю. щоб лише збутися! А потім воно бігаэ коло худоби, ноги одна рана, роса ість. стерня коле, а воно скаче та й плаче, ти-б йому завернув худобу, поцілував-б його в ноги, бо ти його сплодив та й сумління тебе п'э, але минаэш, ще й ховаэшся від нього, щоб його не чути".

„Аж пачервонів, аж задихаўся".

А яно расьце, ад голаду часамі ўкрадзе якую драбязу, а за гэта зьяўляецца ўлада і зноў няшчасьце над галавою гэтага бедака.

Гэтая споведзь чалавека адбываецца перад людзьмі, якіх пазваў ён на радзіны.

А праз тры дні, калі ён касіў, жонка яго, маці малых дзяцей, умірала ў хаце. І ўміраючы паказвала старэйшаму Сымонку, як саліць гуркі, каб было што ім „есьці з хлебам хоць першыя дні, пасьля яе сьмерці".

Ёй муж дастаў булку. І Сымонка гаворыць маці:

— Тата казаў даваць вам сьцюдзенай вады і булку есьці. Марыля (меншая дзяўчынка) тую булку ўхапіла і ўкусіла ўжо раз. Але я набіў яе і адабраў. Будзеце есьці?

— Не хачу.

— Тата ссукалі яшчэ сьвечку і казалі, што як будзе ўміраць, каб даць у рукі й запаліць. Але я ня ведаю, калі даваць.

Маці паглядзела вялікімі, бліскучымі вачыма на сына. Бяздоньне смутку, увесь жаль і бясьсільны страх сыйшліся разам у вачох і разам спладзілі дзьве белыя сьлязінкі.

— Тата рана на пападворку таксама плакалі, так галавой аб вушак біліся. Заплаканы ўзялі касу ды й пашлі...

— Сымонка, прасі татку, што мама наказвала, каб вас любіў...

— Ежце булку...

— Сьпявай дзіцяці, хай ня плача...

Сымонка ўзяў дзіцяне, але сьпяваць ня ўмеў. Маці абцерла далоняю сухія губы й засьпявала.

Гэта яна ўмірала.

„В слабім, урваним голосі виливалася її душа й потихеньку спадала між дітей і цілувала їх по головах. Слова тихі, невыразьні, говорилі, що кленові листочки розвіялися по пустім полю і ніхто їх позбирати не може, і ніколи вони не зазеленіють...“

Апавяданьне „Злодій“.

Гэты злодзей пайшоў красьці з голаду. І пайшоў красьці да таго, каму хоць самому выбірайся з хаты дзеля гэтае-ж справы. Гаспадар злодзея злавіў і пазваў суседзяў, каб памаглі біць яго. Тыя прыйшлі, бо *„злачынства-ж павінна быць пакарана“*. Біў яго гаспадар паленам, таптаў нагамі, скрывавіў. Злодзей не падаваўся без супраціўленьня, сам быў даў гаспадару. Пасьля быў перапынак у гэтай нечалавечай рабоце, у часе якога зьявілася адвечная спадарожніца бедакоў—гарэлка. Пілі і папрасілі ледзь жывога злодзея піць з імі. Папрасілі, а не загадалі. „Пі—сказалі—бо будзем цябе біць, дык каб быў мацнейшым цярпець“. І той пачаў піць, седзячы з імі поплеч за сталом, скрываўлены, змучаны. П'ючы, гаварылі бяз злосьці, а сапраўды як у часе перапынку ў якой-небудзь рабоце.

Чалавек выправіў сына на заработкі і ён там памёр. Бацька прыехаў убіраць яго на сьмерць і галасіў над ім.

Чалавек—які выбіраецца на заработкі, кідаючы дома галодную сям'ю і дашчэнту разбураную гаспадарку—і што гаворыць і перажывае гэты чалавек!

Дзеці—гэтыя кветкі, гэтыя „кленові листки“ яны, як пыл на дарозе, сапраўды як тыя „кленові листки“, што апалі на дарогу—топчуцца жыцьцём у гразь!

Уся гэтая кніга—вялікае замілаваньне найвыдатнейшага поэты Васіля Стафаніка да людзей-бедакоў, скарга; пакутная поэзія бядняцкага неўрадлівага поля. Васіль Стафанік—поэта заходня - украінскага беднага селяніна. У гэтую кнігу ўвайшлі яго ранейшыя творы. Яны нам зразумелыя і блізкія, бо ў іх мы можам угледзець сваю Беларусь—і пад царскай Расіяй і цяперашнюю Заходнюю пад Польшчай. Гэта ўсё нам знаёма—і селяніну бедняку, і гарадзкому пролетару, і парабку і нарэшце тэй частцы нашай працоўнай інтэлігэнцыі, якая сапраўды ведае беларускае мужычае жыцьцё, бо сама выйшла з гэтых мужыкоў, парабкоў, гарадзкіх пролетараў, з таго жыцьця, у якім сапраўды руйнуюцца межы дазволенага і недазволенага. Кніга Васіля Стафаніка—поўная мастацкае праўды—ёсьць вялікі протэст супроць соцыяльнае няроўнасьці, супроць панаваньня адных і нявольніцтва другіх. Гэта протэст своеасаблівы. Ен схаваны па за ціхімі, чулымі словамі твору, але ў гэтым і ёсьць сіла мастацтва. Гэта тыя „кленові листки“, якіх няміласэрна топчуць у зямлю, і якія, самым фактам гэтага, абуджаюць нястрыманае жаданьне протэставаць. Гэтая кніга належыць да тых кніг, якія, пасьля прачытаньня, ніколі не забываюцца. Па сіле мастацкае глыбіні і праўды гэта найвыдатнейшы твор найвыдатнейшага мастака.

**Кузьма Чорны.**

**С. М. Некрашэвіч і М. Я. Байкоў. Члены слоўнікавай камісіі Інстытуту Беларускай Культуры. Расійска-Беларускі Слоўнік.** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, Менск, 1928 г. Тыраж 7000, бал. 728. Цана 4 р. 50 к.*

У прадмове да гэтага слоўніку аўтары гавораць: „Хуткі поступ беларускага культурнага жыцьця яшчэ ў пачатку 1922 г. высунуў пытаньне аб складаньні больш-менш поўнага расійска-беларускага слоўніка, які зьяўляўся патрэбным, асабліва ў сувязі з беларусізацыяй для самых шырокіх колаў беларускага грамадзтва. Заснаваны ў тым-жа годзе Інстытут Беларускай Культуры абмеркаваў гэтае пытаньне і даручыў складаньне расійска-беларускага слоўніка С. М. Некрашэвічу і М. Я. Байкову, вызначыўшы разьмер слоўніка прыблізна каля 30.000 расійскіх слоў. Аднак, у процэсе працы выявілася, што паказаным разьмерам слоўніка абмежавацца ня можа,—і пры заканчэньні працы вызначаны раней лік слоў павялічыўся больш, чымся ў два разы (звыш 60 000 расійскіх слоў)“.

Калі ўзяць на ўвагу, што балоны слоўніка зьмяшчаюць 59, 67, 69, 70 і 75 слоў, то вядома, што далека няпраўда, нібы ў слоўніку „лік слоў павялічыўся больш, чымся ў два разы“ проці вызначанага. Ен нават і да двох раз не дапяў. Але справа ня ў гэтым. Чым больш слоў, тым лепей. У нас і так даволі „каротких“, „куртатых“ і да т. п. слоўнікаў. Нас цікавіць пытаньне, коштам-жа чаго такое павялічэньне слоўніку здарылася. Тым больш, што слоўнік вельмі і вельмі дарагі. Якраз недаступны „самым шырокім колам беларускага грамадзтва“.

Чытаем яго. Восьб бягуць словы: „аборт“ (патрэбнае слова), а за ім „абортировать“ (хай будзе і яно); ад „аванса“—тры вытворных перакладзена; „авантюра“ — нарадзіла

чатыры словы, тое самае і „агент“; „адрэс“, дык той раскідаўся аж шасьцярма; „аканье“, праўда, раскідалася трыма, але затое „азарт“ пайшоў на чатыры, а яму не дае ходу „акушер“—ён абагнаў на адно вытворнае.

Побач з „Анной“ бачым „Аннушка“. Навошта яно?..

Але каму патрэбен здадзены ў архіў „архангел“. і народжаны ад яго аўтарамі „архангельскі“?..

У літары „а“ адчуваецца нейкая павага да такіх слоў як „Августейший“, „Адмиральский“, „Аллах“, „Алтарный“ „алтар“. „альбом“, „алькоў“! Автокефалія“ (?!) Праўда, слова „августейший“ зарэгістравана ў слоўніку Уманьця і Сьпілкі („Словарь російсько-український), на які спасылаюцца ў прадмове аўтары. але-ж гэты слоўнік друкаваўся ў 1893 годзе, калі „Августейшия“ былі, а цяпер на ліха гэта слова ў слоўніку. А рэшты паказаных вышэй „найясьнейшых“ слоў для вельможных асоб нават і ў гэтым, так добра ўспомненым у „Правде“ Д. Заслаўскім, старым украінскім слоўніку няма.

Такое слова як „крест“ разьехалася на цэлых шаснаццаць слоў: тут і „крестик“ і „крестильница“ (купеля), і „крестильный“ (купельны), і „крестины“, і „креститель“ і „крещальный“ і „крещённый“... А потым „купель“, „кулич“, „кропило“, „кропление“. От як захапіў нейкі ўкладчык крапідла, дык і пашоў крапіць і направа і налева. Раз царкоўшчына, дык як-жа абыйсьціся бяз „ктитора“ і таксама, каб часам не пакрыўдзілася літара „К“ на літару „А“ навошта абмінаць „Кронпринца“. Або яшчэ, калі ёсьць крапідла то нельга-ж абмінаць слоў „кадило“, „кадильница“, „кадильный“. „кадить“ і „кождение“.

А гэтыя „бог“, „боже“ „бог на помощь“, „бог вам судья“, „чем бог послал“, „бога благодаря“, „боже сохрани“, „слава богу“ „ей богу“, „богобоязненно“, „боговдохновенный“ „богоматерь“, „богородица“, „божеский“, „божественность“, „божество“ і „божница“ і г. д.— няўжо гэта патрэбна для посьпеху беларусізацыі, ці для беларускай культуры?

А каму гэта патрэбна, каб „кабак“ выкінуў з „сябе“ сем слоў аж да „кабачок“. Шынкі-ж бяз п'яніц не абыходзяцца, таму, відаць, мы бачым тут нейкі культ слова піць: „пьющий“, „пьянёхонек“, „пьянеть“, „пьяница“, „пьянство“, „пьянствовать“, „пьянчуга“, „пьяны“ і „пьянеющий“.

А думаеце тут не абышлося без такіх рэчаў, як „паникадило“ „паперть“, „пастырь“ (з двума вытворнымі), „патрыаршество“, „первесвященник“ „перезвон“ песнопение“ „плащаница“, подрызник“, подрясник“, „покровец“ потир“. Ну за ім ужо зусім лёгічна ідуць „причастие“ (сакрамэнт і прычасьце“) „причастник“ „причаститься“, „причащать“, „причастить“, „причащаться“, „причаститься“ „причащение“. Цэлая энцыклёпэдыя царкоўная ды й годзі!

Пра такія словы як „причт“, „псалмопение“ ды іншым старым рызьзі гаварыць ня варта. Не абышлося, вядома, без „подполковников“ і „подпоручиков“ ды іншага аджылага, чаму месца можа быць з вялікай патугай дадзена толькі ў акадэмічным слоўніку, а ня ў слоўніку для „шырокіх колаў“.

Мы прагледзілі словы на літары „А“, „К“, „П“. Розьніцы і ў словах на іншыя літары асаблівай няма. Вось вам „эпитрахиль,“ „эпитимия“, „эполеты“, „юнкер“ і г. д.

Усё гэта пададзена не для таго, каб „пакрыўдзіць“ аўтараў. Аўтары зрабілі вялікую працу. Мы разумеем, што справа ўкладаньня слоўніка—цяжкая справа. І аўтары паклалі, відаць, шмат часу. Але часамі зусім дарма. Навошта ў гэтым слоўніку пададзена царкоўная тэрміналёгія з яе „літургиями“, „литиями“, „лжепапами“. „лжепророками“. адным словам, навошта пададзена бадай усё патрэбнае для папоўшчыны аж да „Аделаиды“ і „Агипита“ і непатрэбнае для грамады? Ці не падарожаў ад гэтага слоўнік, на якога рубля, які мог-бы пайсьці „ў коле грамадзтва“, на іншую кніжку, газэту...

І на якое ліха Дзяржаўнаму Выдавецтву выдаваць, хоць і не асобна, царкоўную тэрмінолёгію? Папы ўсё такі—ня члены нашае грамады.

Навошта ў гэтым слоўніку „Августейшия“ „адміралы“. Ці не ўдалося-б і коштам іх зрабіць слоўнік больш танным на нейкую капейку?

А каб зьменшыць усе гэтыя вытворныя словы ад карчмы, п'яніцы, крыжа ды шмат іншых слоў, ці не зрабілі-б яны цану слоўніка значна меншай, што так важна для мэт беларусізацыі? Урэшце хай-бы лепш коштам іх павялічылася фразэолёгія.

Далей карыстальніка слоўніка проста задзіўляе чыста байкоўскі пераклад шмат якіх слоў?

Вось напрыклад:

*Анахорет—вылюдак*, а „исчадие ада“ перакладзена—*пякельнік*. Вядома, што вылюдак больш адпавядае „исчадию ада“, чым „анахорету“.

*Балагурить—зюзюкаць*; у Чарота-ж мы чытаем „зюзюкаюць бабы паціху“ ў значэньні зусім іншым і правільным.

*Балдахин—полаг*. У народных-жа песьнях (радзінных) і ў жыцьці слова полаг значыць пэрыяд родаў,

*Баловень—патворшчык*. „Баловень“ той, кого „балуюць“, а „патворшчык“ той, хто сам „балуе“ другога.

***Бандероль—перавязка***. Што будзе, калі паводле гэтага рэцэпту перакласьць на белмову „почтовая бандероль“?

*Бант—кукарда* і *кокарда—кукарда*. Для *кокарда* ёсьць *цэшка*, а слова *кукарда* ні ў якім разе *ня значыць бант*.

Баран—баран. Добра! А *самец—маркач*. Выходзіць, што маркач пасьля таго, як яго выпакладалі, баран зрабіўся *саміцай*.

*Баронесса—баранова*. А чаму не маркачова?

*Бега* (*конские*)—*бегавішча* і *арена—бегавішча*. Вось як!

*Бичевание—траляваньне*. Тралююць дрэва на руль, а людзей катуюць.

***Блудить—блудзіць, блукаць, бахураваць***. Апошняе слова значыць „развратничать“ і адносін да „блуждания“ ніякіх ня мае.

Такіх ляпсусаў можна набраць шмат. Ды што за сэнс? Цяпер іх не паправіш. А шкада за гэту неахайнасьць да мовы ўкладчыкаў слоўніка. Яна і надалей будзе прычынай выразаў падобных да „закажэце крыніцу да дзьвярэй мае лябараторыі“ „Я маю паляваньне зьесьці пэндзаль вінаграду“, ды прычынай грубых перакладаў і дасьць шмат матар'ялу для людзей, якія і цяпер яшчэ смакуюць і пераконваюць што стул пабеларуску будзе гэтак, што брыдка й выгаварыць. А „понос“ будзе ў літаратурнай мове гэтак, як ракамандаваў калісьці Байкоў.

Прыходзіцца ў зьвязку з гэтым спыніцца яшчэ на адным баку слоўніка. На тым, што ў ім шмат пахабнага. Так:

*Павівальная бабка—пупарэзіца. бабнік—бабздыр.*

*Блудник—бахур, курвель* (бахур як і байструк, банкрат, внебрачный, яны і зьяўляюцца словамі нелітаратурнымі, абразьлівымі.

*Блудодей—курвель* і далей на ўсе лады скланяецца гэтае курва, курвельства. Няўжо гэта для компромэнтацыі беларускае кнігі гэта зроблена аўтарамі (народ-жа ў вочы, хай сабе тую-ж пупарэзіцу не назаве пупарэзіцай, бо гэта лаянка, а будзе зваць бабкай, бабуняй). Што так гаворыць народ—гэта толькі плод фантазіі дасьціпных аўтараў, таксама як і гэтыя „бабздыр“ ды іншыя словы. Гэтыя словы некаторыя людзі ўжываюць толькі ў часе вялікай лаянкі або ў пахабных анэкдотах.

Значыцца. ім ня можа быць месца ў практычным слоўніку, як і перакладу слова „клітор“ „с...“—187 бал. таго-ж слоўніка.

Далейшы разгляд слоўніка—справа мовазнаўцы-спэцыялістага.

Нарэшце трэба сказаць, што справа ўкладаньня слоўніка—справа ня двух людзей,—што слоўнік нельга сьпячы за год, што Інбелкульту трэ' было паклапаціцца прагледзець слоўнік перад тым, як здаваць яго ў друк.

Пара ведаць, што беларуская мова—[
тая мова, якую народ стварыў і захоўваў
лыя вякі свае няволі не для таго, каб
ёю ўчыніць зьдзекі, прыпісваючы ў яе ку
туру тыя словы, якія на шмат якіх сусед
мовах вядомы, як словы пахабныя, словы
янкі, тыя словы, якія мы цяпер выкараня
праводзячы культурную рэволюцыю. Як
тары, напрыклад, перакладаюць словы бл
нік або слова клітор? Яны яго перакладаю
так як можа пачуць у часе лаянкі п'ян
Дый то ў народзе, калі чалавек вымуш
сказаць гэтае брыдкае слова, дык ён ра
скажа—„шануючы вас“. А ў слоўніку гэт
словы выдаюцца за літаратурныя беларуск
Якім гэта чынам ня трапілі яшчэ ў гэты с
нік усе адменьнікі лаянкі мяцюкамі. У сл
ніку павялічыўся-б лік слоў, а беларус
мова ўсё вытрывае!

Або як аўтары тлумачаць слова „бядня
Яны пішуць, што „бядняк“—гэта будзе—зл
дзень“ (ёсьць гэтакі адменьнік у тлумачэн
слова „бядняк“). Што гэта такое! Злыдзен
гэта значыць нячысьцік, злы дух. Няўжо
беднякі-сяляне—гэта „злыя духі“?

На гэты слоўнік затрачана шмат грош
а ён будзе адыгрываць ролю—распаўсюджа
ня някультурнасьці сярод тых людзей, я
вывучаюць цяпер беларускую мову, а т
людзі, якія ненавідзяць беларускую культу
будуць з радасьцю гаварыць: „ці не казалі м
што ваша мова някультурная, пахабная“.

Беларуская мова—мова культурнага н
роду.

А гэтакія словы, як (шануючы вас. вы
чайце, дарагія чытачы) „курвель“. „сікел
„курвельства“ і ім падобныя, ёсьць някул
турнасьць. Ува ўсіх мовах ёсьць падобн
словы, з імі змагаецца, іх выкараняе культу
А ў нас слоўнікі распаўсюджваюць гэт
някультурнасьць.

**К. З—ны.**

*Рэдагуе:* **Рэдколегія.** *Выдае:* **„Узвышша“.**

